


падпісныя індэксы
індывідуальны - 74957
ведамасны - 749572
льготны - 00731
льготны
для настаўнікаў - 00592

ISSN 0131 2308
03/2017




Маладосць 03/2017

Таму, хто думае

у нумары:

Пяць стагоддзяў беларускага кнігадрукавання за адзін «маладосцеўскі» год

У кожным нумары 2017-га

Хрэстаматыйнае і малавядомае

Ад Скарыны да...

Спецыяльны праект

# «Варштат»



варштат

Змест



**Кацярына Захарэвіч**

# Кубачак

Кацярынка вельмі любіць вялікія прыгожыя кубкі. Купляе іх нячаста, інакш якая гэта радасць, калі атрымаць яе можна ў любы час?

Дзень Новага Кубка павінен быць асаблівым. Тады кожная рэч выклікае адметныя адчуванні. Чорна-белы Кася купіла, калі закахалася (потым раскахалася і аднесла яго на працу). Жоўты знайшла пасля наступлення Новага года-2013: святы тады скончыліся, а цуда так і не адбылося — неабходны быў кубак. Ружовы ў бобачкі з'явіўся, калі суровы кіраўнік практыкі ўпершыню сказаў добрае слова пра Касін тэкст… Так можна працягваць да бясконцасці, але трэба хутчэй ісці па новы кубак. Яго, дарэчы, Кацярынка вырашыла купіць, скончыўшы пісаць апавяданне (што здараецца нашмат радзей, чым цуды, закаханасці і добрыя словы).

З крамы Кася не ішла, а ляцела. Вось ён — высокі, тонкі, ідэальна празрысты — належыць зараз ёй! Хацелася стварыць атмасферу: ноўтбук, новае апавяданне і найсмачнейшая гарбата.

Паліто скінута на фатэль, заплечнік застаўся на падлозе, а Кася — з выглядам пераможцы паўмарафону (толькі замест крышталёвага кубка пераможцы — шкляны) — уварвалася ў кухню. Пераможанымі супернікамі засталіся ляжаць на яе шляху рэчы.

Не даўшы добра ўскіпець імбрыку, хутка апаласнуўшы кубак, заліла гарбату. Нават не сеўшы, зрабіла першы паспешлівы глыток. Ай, горача! — адгукнуліся паднябенне і язык. Адставіла кубак, села. Узяла печыва, купленае спецыяльна да падзеі, і стала чакаць. Без напою ласунак быў занадта салодкі. Адчуваючы, як расце незадаволенасць жыццём, з'ела ўвесь пачак.

Калі нарэшце гарбата астыла, Кацярынка асцярожна зрабіла першы глыток. Замест смаку лімона адчувалася паколванне апечанай скуры. Кася паспрабавала засяродзіцца на асалодзе.

Погляд зачапіўся за гармідар у вітальні. Нельга ўсё пакідаць так. «Дап'ю і прыбяру», — вырашыла Кася і зноў зрабіла намаганне сканцэнтравацца на смаку гарбаты і адчуванні шчасця.

А вочы ўпарта пераходзілі з ботаў — на заплечнік, з заплечніка — на паліто, з паліто — на непамыты посуд. Усё гэта патрабавала ўвагі. «Спачатку атрымаю асалоду ад гарбаты», — упарта змагалася Кася, не зважаючы на жаданне таго, каб вадкасць хутчэй скончылася. Але напой ніяк не хацеў заканчвацца, а асалода — прыходзіць.

Што спачатку: патрэбнае ці прыемнае? Гэта пытанне хвалявала Касю ўсё жыццё. Спачатку з'есці суп ці цукеркі? Зрабіць урокі ці паглядзець мульцікі? Прыбраць у пакоі ці пагуляць з Барсікам? Супрацьстаянне было настолькі сур'ёзнае, што даводзілася выклікаць дапамогу. За першы варыянт заўсёды выступаў разумны сівы дзядуля ў акулярах — Здаровы Сэнс і мама. На баку цукерак, мульцікаў і Барсіка заўсёды былі гарэзлівая дзяўчынка Нецярплівасць і сама Касечка.

Кася сумленна спрабавала выкарыстоўваць не толькі свой і Нецярплівасці варыянт, але таксама мамін і Здаровасэнсавы. Хібы былі і там, і там. Задавальненне ад цукерак, мульцікаў і гульняў з катом азмрочвалася думкамі пра суп, урокі і ўборку. А гэтыя тры справы, у сваю чаргу, ніколі не даводзіліся да канца з-за слодычы, мульцікаў і Барсіка. Вось так і вагалася Касечка-Кацярынка. То Нецярплівасць перамагала, то Здаровы Сэнс.

Дапіўшы, нарэшце, бясконцую гарбату, Кацярынка паднялася і пайшла прыбіраць свае рэчы. Вырашыла, што пасля сходзіць у краму па яшчэ адзін кубак. Каб гэтым разам усё было дасканала.




**Канстанцін Касяк**

# Мінск, я люблю цябе!

Кажуць, што адзін нямецкі пісьменнік вынес прысуд беларускай сталіцы: «Мінск — адзін з самых нудных гарадоў у свеце». Так лічаць і некаторыя ягоныя цяперашнія жыхары. Памылкова. А што яны ведаюць пра гэты горад?

Па праўдзе кажучы, мне і самому калісьці не надта падабаўся аднастайны, шэры, сумны і бязлюдны горад. Такім ён мне падаваўся гадоў дваццаць таму, калі я быў малым. Я добра памятаю, як святкавалі 930-годдзе першай згадкі пра Мінск — бітвы на Нямізе, якая адбылася 3 сакавіка 1067 года. Іншага чакаць было і нярварта: раён, дзе я вырас, ніколі асабліва не вылучаўся. Як і ўсе гарадскія ўскрайкі, ён, забудаваны шэрымі і аднатыпнымі дамамі, меў не лепшую славу. У Польшчы такія дамы называюць блокамі, а мясцовых адпаведна блокерсамі. І там гэта цэлая гарадская культура.

Калі я вучыўся ў школе, мне падавалася, што ў такіх месцах наогул рэдка нешта змяняецца, жыццё нібыта цячэ ў спыненым часе. Але гэта мне тады так толькі здавалася. Цяпер, з вышыні пражытых гадоў, як бы гэта пафасна ні гучала, мінулае выглядае зусім іначай. Заўсёды ёсць што згадаць і распавесці, значыць, жыццё прайшло недарэмна.

Нягледзячы на дурную славу, наш раёнчык больш нагадваў утульнае мястэчка, чым адно з

Нягледзячы на дурную славу, наш раёнчык больш нагадваў утульнае мястэчка, чым адно з самых крымінальных месцаў сталіцы. Жыхары дамоў ведалі адзін аднаго, многія, сустрэўшыся на вуліцы, віталіся. Усё, як у вёсцы, адкуль большасць і прыехала

самых крымінальных месцаў сталіцы. Жыхары дамоў ведалі адзін аднаго, многія, сустрэўшыся на вуліцы, віталіся. Усё, як у вёсцы, адкуль большасць і прыехала пакараць сталіцу. Па сутнасці, гэта і была вялікая вёска, толькі са шкла і бетону. Раніцай вялікія натоўпы людзей цягнуліся да сваіх рабочых месцаў на заводах, якіх у ваколіцах была процьма.

Дом, дзе я жыў, стаяў на самым ускрайку, далей быў толькі школьны стадыён, лес і кальцавая дарога. У тым лесе мы гулялі пасля заняткаў, а летам збіралі грыбы і ягады, якія прадавалі каля бліжэйшага ўніверсама.

За кальцавой дарогай шмат цікавых мясцін: акопы часоў вайны, закінуты танкавы палігон, аэрадром і вузкакалейка. Менавіта па ёй ішоў цягнік, на якім ехалі героі «Шабаноў» Альгерда Бахарэвіча. Гадзінамі, замест урокаў, мы сядзелі каля гэтай закінутай чыгункі і чакалі, калі ж нарэшце з'явіцца цягнік. Здавалася, што мы нават чулі яго і вось-вось ён павінен з'явіцца. Нехта з маіх сяброў нават сцвярджаў, што бачыў на ўласныя вочы праязджаючы цягнік. Але дзень праходзіў, трэба было вяртацца дамоў, а ён так і не з'яўляўся. Як ён выглядае, я даведаўся праз шмат гадоў, прачытаўшы раман вядомага пісьменніка.

У той час Беларусь, як малое дзіця, рабіла хісткія крокі ў напрамку самастойнага развіцця. У жыццё нашых бацькоў імкліва ўварваліся талоны, новыя грошы з жывёламі, бясконцыя чэргі за ўсім неабходным і некалькі новых модных слоў — «дэфіцыт», «прыватызацыя», «капіталізм»,

Цяпер я разумею: каб палюбіць Мінск, у ім трэба проста жыць…

«шокавая тэрапія». І тым не менш я заўсёды быў удзячны сваім бацькам за тое, што яны нарадзілі мяне на «захадзе» Савецкага Саюза. З'яўленне на свет ў час істотных перамен адкрывае перад чалавекам шырокія перспектывы і магчымасці пражыць жыццё цікава, хоць і нялёгка.

Вядома, што вялікія алхімікі Сярэднявечча спрабавалі ператварыць галубіны гной у золата. Але ж насамрэч золата ў алхіміі фігуруе найперш як метафара, сакральны сімвал царскай улады. Каб ператварыць гной у золата, трэба спачатку самому ўдасканаліцца да пэўнай ступені. Беларуская культура, літаратура ў прыватнасці, — гэткая алхімія ў чыстым выглядзе. Пасля прачытання многіх кніг, адкрыцця невядомых, схаваных фактаў, усведамлення некаторых падзей ужо ніколі не будзеш ранейшым. Літаратура і гісторыя матывуюць, цягнуць, даюць арыентыры. *Per aspera ad astra*, як казалі рымляне.

Чым больш я чытаў пра Мінск, тым больш пачынаў любіць свой горад. Гісторыя — не вучыць, але дае духоўнае апірышча. Я рос, змяняўся сам, змянялася і маё стаўленне да горада, жыццё якога таксама не стаяла на месцы. Цяпер я разумею: каб палюбіць Мінск, у ім трэба проста жыць…

Беларуская сталіца — гэта *terra incognita* і для саміх беларусаў. У тым ліку і для тых, хто нешта стварае. Некаторыя нашыя літаратары часцяком не заўважаюць рэчаіснасці, жывучы ў сваіх творах ці то ў вёсцы, спрабуючы абагнаць па майстэрстве пісьма Мележа або Коласа, ці то ў цёмным свеце паталогій, дзе за прыгнечанасцю, занядбанасцю і дэпрэсіяй не знаходзіцца месца цвярозаму погляду на жыццё.

А між тым яно ідзе, не заўважаючы плакальшчыкаў і нудотнікаў. Мінск пакрысе ператвараецца ў еўрапейскі горад. Я яшчэ памятаю яго без Каменнай горкі ды іншых агромністых спальнікаў. Агні вялікага горада прывабліваюць матылькоў, якія злятаюцца на святло з усіх куточкаў краіны. З'яўляюцца новыя клубы, рэстарацыі, гіпермаркеты, дзе цяжка сустрэць слабых і разгубленых беларусаў. Бары і забягалаўкі нашай сталіцы не пусцеюць нават у крызісныя дні.

Атрымліваецца, што мы толькі-толькі пачынаем раскрывацца свету, і ў гэтым ёсць свая прыгажосць. Можна не толькі сузіраць, але і прыкласці да гэтага працэсу руку

Нікога цяпер, пэўна, не здзівіш фільмамі-альманахамі пра вялікія і не вельмі гарады, кшталту: «Парыж, я люблю цябе!», «Нью-Ёрк, я люблю цябе!», «Гавана, я люблю цябе!». Хоць апошні і завецца ў арыгінале «Сем дзён у Гаване»

Мяне ўвесь час не пакідае думка, што Мінск насамрэч горад вельмі кінематаграфічны. Нікога цяпер, пэўна, не здзівіш фільмамі-альманахамі пра вялікія і не вельмі гарады, кшталту: «Парыж, я люблю цябе!», «Нью-Ёрк, я люблю цябе!», «Гавана, я люблю цябе!». Хоць апошні і завецца ў арыгінале «Сем дзён у Гаване». Кожная з такіх стужак складаецца з калейдаскопа невялікіх чалавечых гісторый. Часам вельмі нават трагічных. Але сэнс тут такі: аўтары паказваюць горад праз прызму ўласных уяўленняў. Было б вельмі цікава пабачыць такі фільм і пра наш горад. І не проста нарэзку любоўных гісторый, але звязаныя адно з адным сюжэты, якія б раскрывалі не толькі характары галоўных герояў, але і паказвалі перспектыву развіцця горада і жыцця ў ім.

Мне падаецца, што такога ў мастацтве якраз і не хапае Мінску і краіне ў цэлым. Атрымліваецца, што мы толькі-толькі пачынаем раскрывацца свету, і ў гэтым ёсць свая прыгажосць. Можна не толькі сузіраць, але і прыкласці да гэтага працэсу руку.

Нездарма ж суседзі здымаюць у Мінску так шмат фільмаў ды серыялаў. Але ў іх горад выглядае маўклівым статыстам, нашчадкам савецкай эпохі, які беражліва захаваў архітэктуру той пары. Безумоўна, прыемна ўбачыць у кадры знаёмыя мясціны, але не болей. Яны ж у тых фільмах рэдка фігуруюць пад сваім сапраўдным імем. А гораду ёсць што распавесці пра сябе і сваіх жыхароў…



**Яна Мусвідас**

# Евангелле ад Казіміра

*І вось ўваскрослы Лазар ходзіць па бетоне,*
*асфальце, задзірае галаву на правады,*
*здзіўляецца аўтамабілям,*
*просіцца зноў у труну.*
...
*Смешны і нікчэмны ўваскрослы Лазар*
*у сваёй мантыі — сярод шалёнай*
*хуткасці нашых электрамашын.*

К. Малевіч

Не так даўно выкладчыца філасофіі мастацтва задала напісаць нашай групе эсэ па праблематыцы «Чорнага квадрата» Малевіча. І я зразумела, што гэтая тэма не дае спакою кожнаму, хто мае дачыненне да гуманітарных навук, на працягу ўсяго яго адукацыйнага жыцця. Але ці актуальная яна? Пытанне без аксіёмы ў адказе.

Маё першае знаёмства з тэарэтычнымі ідэямі Казіміра Малевіча адбылося ў 10 класе ліцэя БДУ. Настаўніца намалявала на дошцы круг і спытала: «Што гэта?». Клас у здзіўленні, усе маўчаць. Яна паўтарыла, ужо з усмешкай: «Што я адлюстравала на дошцы?». Не надта голасна мы агучылі версію: «Круг». Але Ірына Уладзіміраўна не прыняла адказ. Яна выпусціла крэйду з пальцаў, павярнулася да класа і аб’явіла: «Гэта квадрат!»

Вядома ж, настаўніца не пакінула сваіх слухачоў у здзіўленні, а патлумачыла, што «раскручаны» квадрат выглядае, як круг, але ад гэтага ён не перастае быць квадратам.

З 1915 года спрэчкі вакол карціны не сціхаюць. Мастак лічыў свой твор «жывым царскім немаўляткам, дзіцёнкам чацвёртага вымярэння і паўсталым Хрыстом». Не ведаю, ці думаў Казімір Севярынавіч, прамаўляючы гэтыя словы на лекцыі, пра тое, што яны ў нейкай ступені стануць прароцкімі.

Парадаксальна: ідэя «чацвёртага вымярэння», якая знайшла сваё адлюстраванне ў простым палатне мастака пачатку XX стагоддзя, рэалізуе сябе праз «цуды» тэхнічнага прагрэсу ў XXI стагоддзі. Чорныя квадраты сёння паўсюль, і ніхто не адважваецца адмаўляць іх значнасць, акрамя, мабыць, змагароў за экалогію і чысціню планеты.

Нягледзячы на тое, што я выступаю ў абарону «Чорнага квадрата», я лічу, што пра гэтую карціну больш спрачацца не трэба. Палатну ўжо за сотню гадоў, і яно не павінна адцягваць на сябе ўвагу маладых «розумаў». Кажучы гэта, я кіруюся не ўласнымі перакананнямі, а перакананнямі Казіміра Севярынавіча. Ён заўсёды быў за дынамічнасць мастацтва і ніколі не патрабаваў ад майстроў прытрымлівацца традыцый. Наадварот, Малевіч лічыў, што ўсякі архаізм затрымлівае час. Таму мне здаецца, што з-за павагі да творцы нам варта пакінуць весці разлютаваныя дыскусіі на тэму яго карцін, а маладым мастакам варта больш не спрабаваць паўтарыць поспех Малевіча. Прыйшоў час больш не азірацца назад: новая эпоха патрабуе новых форм, і толькі сучасная форма будзе гарманічна выглядаць у сучасным грамадстве.

Казімір Малевіч ваяўніча патрабаваў знішчэння старых форм, я ж не хачу аддаваць «Чорны квадрат» агню, я хачу, каб ён заняў сваё годнае месца ў нішы для класікі і перастаў бударажыць розумы крытыкаў. «Целы іх лётаюць на аэраплане, а мастацтва і жыццё затуляюць старымі халатамі Нерона і Тыцыяна. Таму не могуць заўважыць новую прыгажосць у нашым сучасным жыцці. Бо жывуць прыгажосцю мінулых стагоддзяў», — напісаў Малевіч у адным са сваіх трактатаў. Я ж хачу жыць прыгажосцю XXI стагоддзя.



**Дзмітрый Шулюк**

# Б’е толькі сэрца

«Lorsque j’avais six ans j’ai vu, une fois, une magnifique image, dans un livre sur la Forêt Vierge qui s’appelait «Histoires Vécues». Ca représentait un serpent boa qui avalait un fauve». Так пачынаецца адна з самых добрых казак. Адна з самых сапраўдных кніг. «Маленькі прынц». Дзіцячы твор, напісаны дарослым для дарослага. Твор, які нечым цёплым разліваецца ў табе і застаецца назаўсёды. Цытатамі і малюнкамі. Удавамі і ружамі. Лётчыкамі і прынцамі.

Каля паўгода таму мы з каханай паглядзелі новы французскі мульцік. Працяг гісторыі Антуана дэ Сэнт-Экзюперы. Яна сказала, што было б добра, калі б усе «дарослыя» свету гэта паглядзелі. А я адказаў, што нічога б не змянілася, бо яны такія «дарослыя». Бо яны жывуць у іншай рэальнасці. У той, дзе лісы не могуць сябраваць з маленькімі хлопчыкамі. У той, дзе ружы прыгожыя, толькі калі іх *зарэзаць* і паставіць у шклянку. У той, дзе б’е — значыць, любіць.

Я думаю, у краіне *дарослых* не знайшлося б месца і гурту Sigur Rós. Гурту з далёкай Ісландыі, якая здаецца часам такой казачнай, як Нарнія. Казачнай, як эльфы, гномы, драконы. Казачнай, як Хогварц і хатка на курыных ножках. Немагчыма казачнай. Як музыка Sigur Rós. Як голас Йоўна Тоура Біргісана.

Мы з каханай паглядзелі новы французскі мульцік. Працяг гісторыі Антуана дэ Сэнт-Экзюперы. Яна сказала, што было б добра, калі б усе «дарослыя» свету гэта паглядзелі. А я адказаў, што нічога б не змянілася, бо яны такія «дарослыя»

Гісторыя беларускай літаратуры. Мележ. Палеская хроніка. Стасункі Яўхіма і Ганны.

— Б’е — значыць, любіць, — кажа выкладчыца. Усе ківаюць. Працуюць далей. Аналізуюць. Складаюць характарыстыкі. А я гляджу ў вочы аднагрупніцы Таццяны і лаўлю там такую ж роспач, якая захапіла пасля гэтых слоў мяне. Хочацца перапытаць, ці правільна я пачуў. Але ж упэўнены, што правільна. Што жанчына сарака гадоў растлумачвае гвалт над жонкай як акт любові. Проста бярэ і кажа, што сінякі, крывапацёкі, зламаныя рэбры і страх — гэта часткі кахання. Каханне — гэта бясконцы ціск, пастаянная небяспека. Вось зараз. Ён жа кахае. Зараз ён падыме над галавой сякеру ці малаток, ці зэдлік, ці проста кулак, і яго духоўная платанічная любоў атрымае фізічную рэальнасць. Гэта вялікае каханне зробіць меншай колькасць зубоў.

Не магу. Не хачу гэта пісаць. Хачу ў казку. На маленькую планету. Сесці і глядзець на захад сонца, а не на заняпад сонца. Слухаць. Хвалі музычных цел, неіснуючых і такіх істотных, запаўняюць мяне, а я зноў і зноў гляджу на захад, бо мая планета такая маленькая. І так не хочацца сыходзіць з яе. Туды. Дзе магчыма пачуць такія размовы.

— Як ты яго церпіш, ён жа цябе б’е? — пытае адна студэнтка.

— Але ж ён мне купляе дарагія рэчы, — адказвае сяброўка. — Ды і не моцна ён б’е, і не часта. Я лепш пацярплю, але ж атрымаю што-небудзь.

Не моцна і не часта, то і нічога. Пасля шлюбу, магчыма, будзе больш і часцей, але ж гэта ўжо пасля шлюбу. Калі ён нікуды не дзенецца, калі ўжо будзе навечна побач. На адлегласці выцягнутай рукі. На адлегласці кулака.

«Les grandes personnes aiment les chiffres. Quand vous leur parlez d’un nouvel ami, elles ne vous questionnent jamais sur l’essentiel. Elles ne

vous disent jamais: «Quel est le son de sa voix? Quels sont les jeux qu'il préfère? Est-ce qu'il collectionne les papillons?» Elles vous demandent: «Quel âge a-t-il? Combien a-t-il de frères? Combien pèse-t-il? Combien gagne son père?» Alors seulement elles croient le connaître».

Можа, і мне, як даросламу, а я, згодна з узростам, дарослы, зацікавіцца лічбамі, разлікамі, формуламі? З якой сілай трэба біць, калі любіш? Колькі разоў на дзень? Па якіх частках цела? Колькі алкаголю перад гэтым выпіць? Ці наадварот трымаць сябе ў цвярозасці, каб быць больш шчырым? Ці лічыцца здрадай біць чужую жанчыну, ці чужога мужчыну, ці дзіця?

Перастаўляю зэдлік. Гляджу на захад сонца. Не заняпад. Захад. Яно кладзецца спаць. Яму патрэбна адпачыць. Яно такое стомленае.

Сонца — гэта пастаянны выбух. Сонца — гэта сімвал вашай любові. А я слухаю Sigur Rós, каб забыць вас і не ўспамінаць. Каб выкінуць з галавы гэтыя роздумы, бо хто я такі. Якое я маю права вучыць каго-небудзь, што ёсць праяўленне любові, а што — не. Тым больш зусім нядаўна ў адной еўрапейскай краіне прынялі папраўкі ў Крымінальны кодэкс. Папраўкі прынятыя з мэтай зрабіць сем'і больш моцнымі. Абмежаваць умяшанне дзяржавы ў жыццё сям'і. Ну, напэўна, асобы, якія прымалі тыя папраўкі, больш адукаваныя, чым я. Іх духоўны свет больш развіты, чым мой. Стрававальная сістэма працуе лепш. Іх не цягне ванітаваць, калі яны чытаюць словы: **Депутаты во втором чтении проголосовали за поправки о декриминализации побоев в семье. Документ исключает тюремное наказание за побои близких родственников, «причинившие физическую боль, но не повлекшие последствий».**

Перастаўляю зэдлік. Гляджу на захад сонца. Перастаўляю зэдлік. Гляджу на захад сонца. А дрэвы-паразіты разрываюць каранямі маю планету. Беражыся баабабаў. Хацелася б уберагчыся. Толькі нават самыя чароўныя казкі і самая чарадзейная музыка не могуць заплюшчыць мае вочы, закрыць мае вушы.

Перастаўляю зэдлік. Гляджу на захад сонца. Перастаўляю зэдлік. Гляджу на захад сонца. А дрэвы-паразіты разрываюць каранямі маю планету. Беражыся баабабаў. Хацелася б уберагчыся

Жонка сябра скардзілася, што ён яе ўдарыў. Я быў здзіўлены. Як такое магчыма? Ён і камара не заб'е. Калі толькі выпадкова ў прыступе шалёнай радасці. А тут ударыў. Чаму? Што гэта выклікала? Можа, яе паводзіны? Можа, яго пачуцці? А можа, іх не існуе, гэтых пачуццяў? Можа, людзі, якія заключаюць шлюб, — проста заключаюць шлюб. Гэта ж патрэбна. Грамадству, бацькам, ненароджаным дзецям. Патрэбна, каб чалавек заключыў шлюб з чалавекам. А пачуцці? Пачуцці прыкладуцца. Далонню ў вуха. Кулаком у сківіцу. Нагой у жывот.

«C'est une question de discipline, me disait plus tard le petit prince. Quand on a terminé sa toilette du matin, il faut faire soigneusement la toilette de la planète. Il faut s'astreindre réguliérement à arracher les baobabs dès qu'on les distingue d'avec les rosiers auxquels ils se rassemblent beaucoup quand ils sont très jeunes. C'est un travail très ennuyeux, mais très facile».

Я спрабую кожную раніцу прыбіраць сваю маленькую планету. Прыбіраць яе кожны вечар. Часам гэта калонка здаецца сметніцай, якую я штомесячна выношу з дому. Пад уважлівымі позіркамі чужых людзей. А што ён там нясе? Бяду-гора? Не. Любоў нясу. Каханне выношу. Выношу тыя ўдары, якія не магу вынесці. Адзін за адным.

Перастаўляю зэдлік. Гляджу на *занялад* сонца. Гляджу на *занялад* сонца. Ці маю я права каго-небудзь вучыць, што такое каханне. Усе ведаюць гэта і так. Ведаюць, але саромеюцца сказаць. Саромеюцца прыняць. Каханне — гэта калі яна дапамагае табе пераставіць зэдлік, калі яна ўмее бачыць захад сонца тваімі вачыма. Каханне — гэта калі б'е толькі сэрца. Яе сэрца б'е цябе ў рэбры, а тваё — яе.

«Et aucune grande personne ne comprendra jamais que ça a tellement d'importance!»

*Sigur Rós (з ісл. ружа перамогі) — ісландскі пост-рок-гурт, а згодна з аматарамі — «ісландскі цуд». Замест тлумачэнняў прапаную два радкі з адной старажытнай сагі. Гэтыя радкі нашмат лепш, чым дзясяткі слоў, адлюстроўваюць сутнасць дадзенай з'явы.*

*Аднойчы я ішоў праз лес;*
*Ля вогнішча грэўся цуд.*



**Анхела Эспіноса Руіз**

# Коўдра праўды

Праўда, праўда... Што гэта за звер? Няцямлівая істота ці дакладна акрэсленае паняцце? Буда гаварыў, што сонца, месяц і праўда не могуць хавацца доўга; аднак я бачу на небе зоркі і планеты, а праўду шукаю ці не ўсё жыццё. Нядаўна ажно два калегі з *Маладосці* пахвалілі мяне такімі словамі: *Анхела, я люблю твае калонкі, бо ты пішаш праўду!* Нават асобна адзін ад аднаго, а казалі тое самае. А ці пішу я праўду? Я пішу аб тым, што насамрэч здарылася, так, як я мяркую. Напэўна, можна сказаць, што я шчыры чалавек (паколькі мае пачуцці не хлусяць). А сёння, хоць і цяжка, паспрабую напісаць пра яе — пра праўду.

У маёй памяці ёсць прабел. Пэўныя гады згадваюцца ўрыўкамі. Затое запомнілася цытата з фільма *Таварыства мёртвых паэтаў*, які вельмі ўразіў мяне ў падлеткавыя гады (тыя, якія месцамі дрэнна памятаеш). Я глядзела яго ў арыгінале (як дагэтуль раблю, калі моўныя веды даюць такую магчымасць), сутнасць такая: праўда — гэта коўдра, заўжды

Буда гаварыў, што сонца, месяц і праўда не могуць хавацца доўга; аднак я бачу на небе зоркі і планеты, а праўду шукаю ці не ўсё жыццё

Я помню, шэсць гадоў таму я пачала цягаць белую і пульхную коўдру праўды. Туды-сюды. Ніколі не забуду. І ногі змерзлі, і рукі ў крыві — так моцна цягала, імкнулася прыкрыць твар, а мурашкі бегалі па жываце

занадта кароткая, якая пакідае цябе з халоднымі нагамі. Так казаў школьнік, якога дзіўнаваты настаўнік літаратуры прымушаў пісаць вершы... Спынімся тут, бо я, як большасць чытачоў і гледачоў, адмоўна (і жарстна!) стаўлюся да спойлераў.

Сапраўды, жудаснае адчуванне, калі коўдры не хапае, і то рука халодная, то нага, то грудзі змерзлі. У халодныя дні коўдра дорыць чалавеку камфорт і спакой, цяпло і суцяшэнне. А ці памятаеце вы момант, калі перараслі ўлюбёную коўдрачку вашага дзяцінства? Не, нелітаральна, вядома. Я помню, шэсць гадоў таму я пачала цягаць белую і пульхную коўдру праўды. Туды-сюды. Ніколі не забуду. І ногі змерзлі, і рукі ў крыві — так моцна цягала, імкнулася прыкрыць твар, а мурашкі бегалі па жываце. Падумала тады, што вар'яцею, альбо тэмпература высокая, і паглядзела на сябе не сябе ў люстэрка, у якім я першы раз і ўбачыла ўласную эпітафію. Вось гэта была праўда. Напрыканцы сямнаццатага года жыцця я ўпершыню паглядзела на сапраўднае аблічча чалавецтва. Дзіця з прагаю ведаў атрымала іх усе адразу: падавіся, сонца!

А ці памятаеце вы момант, калі зразумелі, наколькі самотна на Зямлі? У маёй памяці ёсць прабелы, але на васямнаццатым годзе жыцця я ведала, што я самотная. І ўсё таму, што я больш ніколі не магла па-ранейшаму глядзець другому чалавеку ў вочы. Усё таму, што я ўбачыла, як венецыянскія куртызанкі здымалі маскі пасля балю і паказвалі агідныя твары, з'едзеныя воспай і чыстай зласлівасцю. Таму я і ўцякла з Венецыі: хацелася верыць, што ёсць сэнс у пошуках сабе падобных пасля таго моманту, калі леў аказаўся трусом, а ягня — ваўком. *Я не воўк*, паўтарала я сабе, калі ехала з адной краіны ў другую, з адной кампаніі — у новую, з адной мовы — у чарговую, у якой паэты крыху больш красамоўныя, а празаікі трохі менш крытычныя. Ці ўцякала я ад той самай праўды? Цешуся, у любым выпадку, сваёй тагачас-

най наіўнасцю: уцякае ў прасторы чалавек, які не разумее, што яго прыналежнасць знаходзіцца за чацвёртым вымярэннем. Спяваў калісьці Вольскі: *і тут ты чужы, і там ты чужы*. Ты чужы, бо несвоечасова нарадзіўся і жывеш. А такіх безліч. Ці бралі пад увагу такую магчымасць?

Дужа цікава было б ведаць, які адсотак чытачоў часопіса *Маладосць* цікавіцца квантавай фізікай. Не глядзіце на мяне так, я зараз патлумачу, навошта. Чулі такое слоўка, як «мультысусвет»? У навуцы гэта гіпатэтычнае мноства ўсіх магчымых рэальна існых паралельных сусветаў (уключаючы той, у якім мы знаходзімся). Паводле філосафа Дэвіда Льюіса, любы магчымы свет рэалізуецца, паколькі магчымасць і рэчаіснасць — дзве дадатковыя ўласцівасці аднаго і таго ж свету. Адпаведна, што з'яўляецца магчымасцю, а што — рэчаіснасцю, залежыць ад свету, у якім знаходзіцца назіральнік. Можна знайсці шмат інфармацыі пра гэта самастойна, таму я не буду далей вас мучыць, а прывяду прыклад з уласнага жыцця:

Жыла-была маладая дзяўчына (гэта я), якая паехала на радзіму, да бацькоў, святкаваць Каляды. Яна была магістранткай галоўнага ўніверсітэта сталіцы адной усходнееўрапейскай краіны, а яе сям'я жыла ў немалым марскім горадзе на захадзе кантынента. У свеце, дзе жыла наша гераіня, абставіны склаліся вельмі забаўна: яна яшчэ пісала вершы і калонкі на мове трэцяй краіны, якая знаходзілася далей на ўсходзе. На малапапулярнай мове, таксама ў выніку пэўных абставін дадзенага свету. Быў апошні дзень зімовых вакацый, а магістрантка мусіла ў наступны дзень паехаць у аэрапорт і вярнуцца самалётам у горад, дзе вучылася, але ў яе раптоўна забалеў жывот. Маці патлумачыла, што прычынай болю мог быць стрэс, абед ці нават прастуда, якая бывае ва ўсіх у гэтую пару года, дала ёй лекі на ноч і паклала спаць. Ранкам наступнага дня дзяўчына прачнулася з пэўнымі лакалізаванымі рэшткамі болю, але ёй было ўжо значна лепш. Бацькі задалі ёй наступнае пытанне: *табе яшчэ баліць жывот? Калі баліць, едзем у лякарню, каб паглядзелі. Калі не баліць, дык у аэрапорт.* Рэчы былі сабраныя, валізкі каля дзвярэй, а магістрантка вельмі хвалявалася за сесію, якая хутка пачнецца, таму вагалася перад адказам на закрытае пытанне (так ці не).

Калі верыць тэорыі мультысусвету, у момант перад адказам узніклі два альтэрнатыўныя светы (адпаведна кожнай магчымасці адказу). У свеце, дзе жыве ваша пакорная слуга, дачка адказала бацькам: *так, яшчэ баліць*, яе адвезлі ў лякарню, знайшлі апендыцыт і адразу зрабілі хірургічную аперацыю. Затое з'явіўся другі свет, дзе дзяўчына палічыла боль нязначным, адказала адмоўна і села ў самалёт, дзе, праз змены ціску ў атмасферы апендыкс сарваўся, пачаўся перытаніт падчас чатырохгадзіннага палёту і, мякка кажучы, няма больш калонкі *Прысутны позірк*. Зайздросціце?

Я няўпэўненая, што мультысусвет існуе. А калі існуе, я няўпэўненая, колькі ёсць светаў з гэтай калонкай, а колькі — без яе: ёсць мільёны светаў, дзе вынік майго зачацця — зусім іншы чалавек. Павінен існаваць свет, дзе я памерла і ў тры гады, і ў пяць, і хто ведае, у якім яшчэ ўзросце. Пэўна, ёсць некалькі дзясяткаў светаў, дзе я не зацікавілася беларускай мовай, а зацікавілася якой іншай, альбо нават матэматыкай ці фізікай, і дзе я ўвогуле не паліглот. І гэта калі ўлічыць толькі тыя версіі гісторыі, у якіх абсалютна ўсе мае продкі нарадзіліся, пазнаёміліся, пакахалі адзін аднаго і ніхто не памёр заўчасна...

А ўсё ж мне цікава, як выглядае свет, дзе я ніколі не цягала коўдру праўды. Дзе я, як шмат хто прывыкла да халодных ног і не паглядзела ў люстэрка. Дзе я навучылася хадзіць у масцы і гаварыць тое, што трэба. Дзе я захапляюся прыгажосцю Венецыі, а не гляджу людзям у вочы нават мімалётна. Таму мяне цікавіць квантавая фізіка ў гэтым свеце. І гэта праўда.

Дужа цікава было б ведаць, які адсотак чытачоў часопіса «Маладосць» цікавіцца квантавай фізікай

Павінен існаваць свет, дзе я памерла і ў тры гады, і ў пяць, і хто ведае, у якім яшчэ ўзросце. Пэўна, ёсць некалькі дзесяткаў светаў, дзе я не зацікавілася беларускай мовай, а зацікавілася якой іншай, альбо нават матэматыкай ці фізікай...

Я над натоўпам. Не таму, што я лётаю, а таму, што натоўп пад нагамі. Так нізка пад нагамі, што нават мне агідна глядзець. Кажан!



# Свята годнасці

Вітаю цябе, мой двухногі сябар, прыбіты да зямлі сілай цяжару свайго гонару. Мінулы раз мы размаўлялі пра цырк, і я выпадкова пакрыўдзіў цябе рознымі сваімі параўнаннямі. Асабліва пакрыўджаным ты застаўся, калі быў адным з герояў апісанай мной сцэны. Увогуле, крыўдзіцца табе я шчыра не раю. Навошта? На пакрыўджаных шаржы малююць. Ваўкі палююць. Галубы плююць. І журналісты іх таксама бокам не абыходзяць. Крыўда заўжды вылезе бокам і пойдзе з прыскокам танцаваць, бы кот з коткай, бы малады з малодкай, прастуда з насаглоткай. Крыўда — гэта вечны элемент вашага цырка. Мне падабаецца цырк. Я яшчэ табе не ўсё пра яго расказаў.

Цырк — гэта натоўп, які сунецца начнымі вуліцамі ад плошчы да плошчы. Усе апранутыя ў святочную форму з пэўнымі колерамі і эмблемай свайго кентаўра. Крычаць незразумелыя словы. Але крычаць упэўнена, хорам, гучна, каб усе, хто ўжо лёг спаць, іх пачулі. Каб прачнуліся. Каб выскачылі праз вокны ў сваёй бялізне патрэбных колераў і з патрэбнай эмблемай. Каб распляскаліся, як праснак аб цвёрды чорны мокры асфальт. Каб асфальт стаў не цвёрдым чорным мокрым. Каб ён пакрыўся мяккімі белымі цяламі, поўнымі крыві і ўласнай годнасці.

Годнасць — гэта не прыдатнасць, гэта штосьці іншае. Часцей за ўсё гэта прычына для экстрэмізму і самаахвяравання неіснуючым багам. Годнасць — гэта ісці ў натоўпе і крычаць на ўсю вуліцу свае малітвы, пакуль іншыя моляцца ў храмах, мочацца ў ложках.

Цырк — гэта натоўп вакол натоўпу. Гэта гледачы. Яны дзівяцца з выступоўцаў, з іх вопраткі, з тканіны, якой тыя матляюць над галовамі, з кентаўраў. Дзівяцца, і, як кожнае дзіва, фіксуюць на свае тэлефоны. Каб пасля выкласці ў сацыяльныя сеткі. Сацыяльныя сеткі — гэта адзінае месца, дзе можна быць самім сабой, уступаць у стасункі, суполкі, партыі, заводзіць сяброў, жонак, мужоў, дзяцей, братоў, сясцёр, унукаў. Дзе можна жыць і жыць вечна.

Я над натоўпам. І над тым, і над гэтым. Калі ты ў натоўпе, то ты менш, чым ты. Бо ты кавалачак бяздумнага бяздушнага рою. Ты стаіш за сваім тэлефонам, смартфонам, айфонам і кідаеш яго, быццам камень, у гэты статак насупраць. А статак галосіць гучна. Яму патрэбныя гэтыя істоты вакол, каб лічыць іх статкам.

Я над натоўпам. Над натоўпам натоўпаў. Над статкам, складзеным са статкаў. З астаткаў, адбіткаў, шматкоў. У якім кожная двухногая жывёліна заўважае ў прадстаўніках супрацьлеглага лагера толькі карову. Статак кароў вакол статка кароў. Каб пасля расказваць унукам пра гэту чароўную ноч. Як той натоўп, што ўкрыжаваў вашага Бога. Садзілі малых на калені і кічыліся. «Быў тут у нас адзін выскачка. Мы яго таго. І я там быў. Я сама голасна крычаў. Бо гэта ж жартачкі. Гэта ж жартачкі».

Я над натоўпам. Я не скажу пра сябе. Не скажу пра свае ідэі, мэты, праўду. Не скажу пра сваю праўду. Годнасць — гэта калі няма тэрміну прыдатнасці. Годнасці не патрэбныя святы ў гонар годнасці. Годнасці не патрэбныя доказы.

Я над натоўпам. Не таму, што я лётаю, а таму, што натоўп пад нагамі. Так нізка пад нагамі, што нават мне агідна глядзець. Кажан! Кажан праляцеў! Агідна глядзець, бачыць, слухаць, чуць, ведаць. Тэлефоны, смартфоны, айфоны, кентаўры — усё пад нагамі. Ніхто не заўважыў кажана. Усе глядзяць толькі пад ногі сабе і ў рот іншым.




**Ігар Палынскі, журналіст, лідар рок-гурту «Sumarok»**

# гісторыя аднаго кахання

## мы сядзелі адно насупраць аднаго. я глядзеў на яе, яна на мяне — не

гэта быў адзін са шматлікіх акустычных кватэрнікаў. тады, у 2012-м, мы з сябрамі здымалі трохпакаёўку на першым паверсе і нярэдка ладзілі такія музычныя вечарыны. 29 верасня выступаў наш сябар, украінскі музыка Вальдэмар Леон. на імпрэзу прыйшло нечакана шмат незнаёмых — стартаваў навучальны год, і першакурснікі вырашылі даследаваць Полаччыну культурную. Даша была сярод іх.

...мы так і не перамовіліся, яна ні разу не сустрэла мой позірк, а я на ўсю моц ужо аналізаваў, што адбываецца ўнутры. хвала сацсеткам — яна далучылася да сяброў вечарам таго ж дня. падзякавала за музыку...

так мы пазнаёміліся.

пауступаць на гістфак Дашы параілі ў Школе маладога журналіста. маўляў, журналістам з любой гуманітарнай адукацыяй працаваць можна, а гістфак, ды яшчэ ў Полацку, — месца культавае. прыехала Даша з Маладзечаншчыны з цвёрдым намерам прысвяціць час вучобе і самаадукацыі...

а тут раз — я такі.

цягам месяца мы бачыліся час ад часу, я распавядаў Дашы пра Полацк, знаёміў з цікавымі людзьмі. з кожным днём усё больш пераконваўся, што яна — ідэальна мой чалавек. але нават думкі не было ў гэтым прызнацца, бо яна абалдзенная, а я феерычны раздзяўбай... але ў пэўны момант зразумеў, што трываць больш не магу.

аказалася, мы ўвесь час так шчабяталі, і абодва не маглі сказаць адно аднаму галоўнае.

і ўрэшце — сказалі.

...быў слязлівы лістападаўскі вечар. мы толькі вярнуліся з вандроўкі па мястэчках Параф'янава і Сітцы, што ля Докшыц. хаваліся пад парасонам у чаканні аўтобуса, прыдумлялі, куды паедзем у наступны раз...

— давай пажэнімся, — я і сам не зразумеў, як гэта вырвалася. так па-будзённаму... і ад таго бясконца шчыра.

відаць, таму Даша і згадзілася. адразу.

***

— будзеш сведкам, Кастусь? — назіраць за рэакцыяй нашага тагачаснага басіста на наступны дзень было даволі эпічна. што праўда, ён хутка авалодаў сабой, вярнуў акуляры на месца, вядома, пагадзіўся. клавішніцы Юлі рабіць тую ж прапанову прыйшлося па тэлефоне, таму яе твару бачыць я не мог, але здалося, што яна ўпусціла тэлефон.

— мам, я жанюся, — недзе праз тыдзень вырашыў папярэдзіць-такі сваякоў. дакладнага адказу не памятаю, але сутнасць — меметычнае з нядаўняга часу лебедзеўскае «хаха, лол». яшчэ праз тыдзень мама схапілася за галаву, калі зразумела, што мы сур'ёзна. таму распісацца ў джынсах не атрымалася :)

30 лістапада падалі заяву, і я паехаў знаёміцца з Дашынымі бацькамі, малодшым братам і старэйшай сястрой. пра вяселле яны не ведалі, і галоўнае мелася сказаць менавіта мне.

— мы запрашаем вас праз тыдзень, 8 снежня, у Полацк. ёсць нагода...

тата схапіўся за галаву, маці хітравата ўсміхнулася...

па шчырасці, само вяселле згадваю ўрыўкамі, больш па фота. бо быў такі незвычайны стан... хіба пасля зразумеў, што менавіта ў такім напаўтрансе здзяйсняецца ўсё самае важнае ў жыцці.

...прайшло крыху больш за чатыры гады. нядаўняя, здавалася б, першакурсніца Даша ўжо заканчвае ўнівер. я пішу калонку, а яна побач, сядзіць у фатэлі з ноўтбукам на каленях і працуе над дыпломам. да вяселля мы былі знаёмыя два месяцы — і тое, як складваецца наша жыццё, лішні раз пацвердзіла, што спантанныя ўчынкі — самыя вартыя і слушныя ў доўгатэрміновай перспектыве.

я гэтай «гісторыяй майго жыцця» (дарэчы, вельмі рады за Naviband!) што хачу сказаць. ёсць перад вачыма шэраг прыкладаў: вось сустракаюцца людзі гадамі, жэняцца... а праз якія пару месяцаў — усё. а ёсць і такія, як мы: убачылі нешта ў вачах, адчулі, і ўсё здорава. здаровым сэнсам, вядома, трэба кіравацца. але часам ён, гэты здаровы сэнс, пачынае параноіць і выступае неслабым такім тормазам уласнага шчасця.

таму — слухайце сваё сэрца, сябры.



**Віктар Дудкевіч:**

# «Кажуць, я лепшы цацачнік у Беларусі»

**Віктар Дудкевіч — майстар, вядомы найперш сваімі вырабамі з дрэва. А яшчэ — мастак і дызайнер, які займаецца рэканструкцыяй прадметаў побыту X—XII стагоддзяў і захапляецца гісторыяй дзіцячых цацак. І ўсё гэта — у горадзе Глыбокае, дзе з ім сустрэлася Кацярына Захарэвіч.**

«Я не знакамітасць, — амаль адразу кажа майстар. — Мала хто чуў, што я мастак». Магу анансаваць: потым Віктар сам і абвяргае словы аб сваёй невядомасці. І не без гонару паказвае часопіс «Дыялог» са сваімі працамі на вокладцы і польскі «Czasopis» з фота і інтэрв'ю.

Падчас размовы нашу кампанію падтрымлівае прыгожы пухнаты кот, які жыве пры Доме рамёстваў. Прадстаўляючы яго, Віктар незаўважна пачынае размову «пад запіс» нават без пытанняў.

— Гэта Кузьма, але я называю яго Казюкас. Ёсць такое свята ў гонар святога Казіміра, і ў Вільні з гэтай нагоды адбываецца кірмаш майстроў. З Глыбокага туды часта раней ездзілі, вось і я хачу дабрацца — адрадзіць традыцыю. Увогуле, як ёсць магчымасць ездзіць на фестывалі, выставы, кірмашы, то езджу. Калі не выпраўляемся з раёна цэнтралізавана, то сам. «Меч Брачыслава», «Жураўлі і журавіны», "Яблычны спас» — калі ёсць за што даехаць, я заўсёды там. Пастаянна на фэстах знаходзяцца людзі, ад якіх нешта



возьмеш і з якімі падзелішся тым, што маеш сам. Так я пазнаёміўся з мастаком Міхаілам Шамякіным, сябрам Высоцкага. Часу было няшмат, мы паразмаўлялі толькі пару хвілін, але я паспеў запытацца пра ўсё, што трэба. Напрыклад, пра Уладзіміра Сямёнавіча: хацеў яго намаляваць. Я бачыў шмат партрэтаў, дзе ён паказаны звычайным чалавекам, а ў мяне было ўражанне, што ў ім жыла душа народа, і Міхаіл Шамякін пацвердзіў маю думку. Ён нават падарыў мне свой здымак з Высоцкім, з аўтографам.

У Дом рамёстваў я прыйшоў выпадкова. Вырашыў: тут папрацую, пакуль буду думаць, куды далей пайсці, — і так адзінаццаць гадоў ужо. Калі азіраешся на сваё жыццё, разумееш, што ёсць нейкі вышэйшы розум. Працаваў там-там-там — гэта ён мяне вадзіў па розных месцах, каб я атрымліваў неабходныя веды, досвед, каб прыйсці ў выніку сюды і адчуць, што гэта маё месца. З тым вопытам, што я маю, нашмат лягчэй працаваць.





**— Наколькі рэальна зарабляць тут сваім майстэрствам?**

— Вялікіх грошай, можа, і не атрымаеш, але попыт ёсць. Мае працы замаўляюць крамы, музеі, галерэі. Было, што я ў краму толькі прыйшоў, пачаў вырабы даставаць, — і адразу ж іх узялі. Прапанаваў на продаж некалькі драўляных конікаў. Мяне ўпікнулі, што яны непафарбаваныя. Паставім, кажуць, паглядзім. А потым сказалі, што на наступны ж дзень конікі «разышліся». Натуральна, я не ствару канкурэнцыю 3D-прынтэрам і іншым машынам. Але знаёмы, які замаўляў драўляны меч для свайго сына, потым казаў: «Цацак зараз розных шмат, дзеці пагулялі-пагулялі ды кінулі. А з тваімі драўлянымі гуляюць увесь час». Яшчэ адна жанчына набыла майго коніка, пасля знайшла мяне і заказала вырабы для Музея народнай архітэктуры і побыту. Кажуць, ад іх ідзе нейкая энергетыка, а я — лепшы цацачнік у Беларусі. Для гэтага музея трэба ўсе вырабы ствараць у двух-трох экзэмплярах, каб яны адначасова і знаходзіліся там, і вывозіліся на выставы.



Час ад часу штосьці прадаецца на фэстах. Напрыклад, на фестывалі «Меч Брачыслава» пайшлі нарасхват мячы. Часам стаіш і ніхто нічога не бярэ, а часам — раскупліваюць усё, што прывязеш. Дарослыя пачынаюць гуляць, як дзеці. Самыя запатрабаваныя — простыя цацкі — лялькі-абярэгі.



Каб культура захоўвалася, трэба быць чалавекам крыху «вальтанутым», апантаным. Каб на працу прыходзіць з нейкай мэтай, а не проста адсядзець вызначаны час. Дасягаеш адной мэты — ставіш другую, увесь час сябе развіваеш, узвышаеш

**— Але ж, напэўна, хочацца чагосьці большага?**

— Так. Мне хочацца паездзіць па замежных фэстах. Польшча, Літва... Тут стала крыху цеснавата. Была задума стварыць музей дзіцячай цацкі, але не далі памяшканне, на якое мы прэтэндавалі, сказалі, што яно вельмі патрэбнае. Тут усё можна зрабіць, абы не перашкаджалі, а мне адразу: а хто будзе ўсім займацца? Гэта ўжо мае пытанні, неабходны толькі дазвол. Але яшчэ ўсё атрымаецца, прыйдзе час. Месца павінна быць кудысьці «па дарозе», каб наведвальнікам было зручна. Хацелася б не толькі паказваць, як што рабілася, але каб можна было самому штосьці паспрабаваць. Паказаць не толькі цацкі, але і гульні. Сюды ўжо прыязджаюць экскурсіі і з Мінску, і з Полацку. Пытаюцца, ці можна паглядзець бліжэй, узяць у рукі. Для іх гэта дзіва, каштоўнасць.

*Ужо шмат гадоў Віктар вывучае арнамент. Паказвае сурвэткі з узорамі:*

— Мужчынскі знак пладавітасці. Часам у мяне пытаюцца, ці працуе ён. Ну, кажу, калі раней дзяцей было па 10—12 у хаце, то працуе. Увогуле, для кожнай сітуацыі быў свой узор. І зараз яшчэ некаторыя звяртаюцца да іх за вырашэннем праблем.

*Пабачыўшы, што на сучасным адзенні сталі папулярнымі арнаменты, мастак стварыў уласны дызайн вышымайкі: з літарай «Ў», дзе мужчынскі і жаночы знакі імкнуцца адзін да аднаго і сыходзяцца ў сімвале ачышчальнага нябеснага агню, а ў дыякрытычным знаку зашыфраваныя ініцыялы аўтара. Кажа, што такія саколкі ў яго ўжо замаўлялі жыхары Глыбокага. Ёсць ідэя стварыць яшчэ вопратку з літарамі «Дз», «Дж», «Ё»:*

— На адным са свят у Мінску прысутнічалі замежныя дэлегацыі, і жанчыны з іх падыходзілі, цікавіліся вырабамі і нават фатаграфаваліся са мной. Я даваў ім штамп з фарбай, і яны самі ставілі ўзор на цішоткі, цэлы канвеер зладзіўся. Яны самі размеркаваліся, вызначыліся і пачалі дзейнічаць. Нашым жа тлумачыш, а яны баяцца.

**— Ствараецца ўражанне, што культура трымаецца на мясцовых адзінках-энтузіястах...**

— Ігнат Буйніцкі быў адзін. Язэп Драздовіч адзін вандраваў па вёсках, распісваў дываны. І зараз у розных мясцовасцях таксама па аднаму-два чалавекі.

Іх шмат і не трэба. Такі быў Хрыстос і яго дванаццаць вучняў. І іх хапіла, каб хрысціянства разышлося па зямлі. Каб культура захоўвалася, трэба быць чалавекам крыху «вальтанутым», апантаным. Каб на працу прыходзіць з нейкай мэтай, а не проста адсядзець вызначаны час. Дасягаеш адной мэты — ставіш другую, увесь час сябе развіваеш, узвышаеш. Калі ёсць людзі, з якімі супадаеш думкамі, значыць, камусьці, акрамя цябе, патрэбна тое, што ты робіш. Калі ты адзін, калі навокал людзі, якія нічога не хочуць, цяжка. У суседніх раёнах ёсць таксама апантаныя рамеснікі. У Глыбоччыне ёсць я. Апантанасць каштуе грошай. Аднавіць старажытны строй, зброю — складаная праца, з якой адзін і без грошай не справішся. Таму гэтым у нас займацца не хочуць. Мы звыклыя казаць «Дай усё адразу», а не рабіць самім. Але ў мяне пакрыху ўсё збіраецца.

*Да Віктара часта завітваюць дзеці, каб паглядзець на цацкі, пагуляць, паслухаць іх гісторыю. Акрамя таго, майстар вядзе гурток разьбы па дрэве, кажа, дзяцей прыходзіць — аж няма куды пасадзіць. І групы штогод «маладзеюць». Не магла не запытацца, як Віктар глядзіць на песімістычныя развагі пра новае, «камп'ютарнае» пакаленне.*

— Змяніліся тэхналогіі, а дзіцёнак як быў, так і застаўся дзіцёнкам. Чую часта, што ўсе праблемы з-за камп'ютара. У маім дзяцінстве камп'ютара не было — быў магнітафон. Займаліся не заўсёды дабравольна. Дзецям не сядзіцца на месцы, хочацца ўсё паспрабаваць. У іх больш інфармацыі, чым у нас, але яны не валодаюць тым, чым валодаем мы. Мы, напрыклад, ведалі, як працуе машына, маглі адрамантаваць ровар. Але нельга казаць, што яны нічым не цікавяцца. Цікавяцца, захапляюцца, хочуць ведаць. Ім важна ўмець і ведаць тое, чаго не ўмеюць і не ведаюць іх сябры. Адпіліў кавалак дошкі — і ўжо задаволены, што нешта новае атрымліваецца. Трэба даць яму свабоду зрабіць тое, што ён хоча, але і адначасова накіраваць у патрэбным нам напрамку — да ведання гісторыі, спадчыны. Я дзецям кажу, што калі мы займаемся адраджэннем рамёстваў нашых продкаў, то і размаўляць мы будзем, як і тагачасныя майстры, па-беларуску. Тыя, хто прыходзіць да мяне не ўпершыню, ужо вітаюцца «Добры дзень», а развітваюцца «Да пабачэння». І аказваецца, мова ў іх ёсць, проста не ведаюць, дзе ёю карыстацца. Я ім сказаў, што наступным разам, хто больш слоў скажа па-беларуску, атрымае прыз. Буду вучыць іх таксама трохі гісторыі.

**— А навошта ім быць беларусамі?**

— Чалавек, як і дрэва, мае свае карані, ад іх і расце. Межы размываюцца, але ў любой краіне, каго ні запытай, чалавек ведае, хто ён і адкуль. Гэта праяўляецца ў генах, мове, вымаўленні, светапоглядзе — ва ўсім.

**— Чым вы можаце ганарыцца?**

— Прыемна, калі мяне пазнаюць не толькі ў Глыбокім, але і ў іншых гарадах. Калі рэчы, што я выраблю, выкарыстоўваюцца, напрыклад, у тым жа Музеі народнай архітэктуры і побыту. Калі дзеці размаўляюць па-беларуску. Быў выпадак, калі ішоў на працу, а насустрач мне — дзеці ў школу. Адзін з хлопчыкаў са мной вітаецца, а другі ў яго пытае: «Хто гэта?». А той адказвае: «Ты што, не ведаеш? Гэта дзядзька, які робіць самалёцікі!». Для яго я — амаль як зорка эстрады!










# Каму слова — жывое?

**Літаратурны студэнцкі тэатр БДПУ імя М. Танка — з'ява ўнікальная. Нягледзячы на юбілей — паўстагоддзя, адзначаныя ў мінулым годзе, — студэнцкая гарэзлівасць у прыярытэце.**

**Кацярына Захарэвіч сустрэлася з кіраўнікамі тэатра Алесяй Сівохінай і Алесем Мойскім, якія расказалі, навошта студэнтам тэатр, а тэатру — студэнты.**

**— Як вы пазнаёміліся з тэатрам?**

**Алеся Сівохіна:** Гэта было ў 2001 годзе. Тут займалася мая сяброўка, і аднойчы яна мне сказала: «Што ты марнуеш час? Ты ж так спяваць хочаш». Я вучылася тады на першым курсе і вырашыла сапраўды паспрабаваць. Вось так мяне і зацягнула.

Спачатку думак, што я буду тут кіраўніком, у мяне не было. Проста так склаўся лёс. Як я зараз разумею, з тэатрам можна працаваць да пэўнай ступені развіцця. Далей развіваешся ці ў іншы бок, ці ў той бок на новай ступені. І так склалася, што я са ступені акцёра студэнцкага тэатра пачала развівацца як рэжысёр і потым — як кіраўнік.

**Алесь Мойскі:** Я ў 2007-м паступіў на факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ і з самага пачатку цікавіўся ўсімі праявамі студэнцкага жыцця. Хлопцаў на нашым курсе філфака было мала, але мы былі лідарамі студактыву, прафсаюзу, выпускалі газету «Студэнт(-ка)», якая аднойчы заняла 2-е месца на рэспубліканскім конкурсе «Зімовая школа студэнцкай журналістыкі». Я быў галоўным рэдактарам, і мы часта пісалі пра «Жывое слова», а ідэю стварaць мужчынскую газету на жаночым факуль-

тэце падкінуў мой аднагрупнік Леанід Падукоў, які першым прыйшоў і ў літаратурны тэатр. Яму доўга клікаць мяне не давялося, і на наступную рэпетыцыю мы прыйшлі разам, калі адбываўся традыцыйны штогадовы набор першакурснікаў у «Жывое слова».

**— Што ўваходзіць у абавязкі кіраўніка тэатра?**

**Алеся Сівохіна:** З 2012 года абавязкі кіраўніка дзялю з Алесем Мойскім. Мы робім усё: пачынаючы ад набору акцёраў і да саміх пастановак. Першапачатковая ініцыятыва, канцэпцыя таго ці іншага спектакля сыходзіць ад нас. Дэкарацыі, музыка — самі ці з дапамогай студэнтаў.

Жанчыне адной цяжка кіраваць. Тэатр — сям'я, а калі жанчына кіруе тэатрам без мужчыны, гэта няпоўная сям'я. Мы з Алесем адно аднаго дапаўняем не толькі ў кіраванні, у падыходзе да калектыву, але і ў творчасці: ён здольны прыдумаць рэчы, якія я ўвогуле не магу ўявіць. Часам, наадварот, я кажу яму, што прыдумала, а ён гаворыць: «Я разумею, пра што ты, але не ведаю, як гэта ўвасобіць». Вось так мы дапаўняем адно аднаго.

**Алесь Мойскі:** Мы разумеем вялікую адказнасць за тых, каго прыручылі. Удасканальваем свае веды, праводзім трэнінгі і майстар-класы. Не запаўняем пазавучэбны працэс, а вучым і вучымся самі. Галоўнае: мы любім тое, чым займаемся, у нас гараць вочы, і са студэнтамі мы абменьваемся гэтым полымем. А калі ёсць ўзаемазапаленчы працэс, то не даводзіцца шмат часу аддаваць дысцыпліне. Студэнты самі раяцца з намі пра тое, што іх хвалюе, дзеляцца праблемамі, якія складана патлумачыць бацькам ці звычайным выкладчыкам. Мы сапраўды адна сям'я, і на рэпетыцыях разам займаемся не толькі любімай справай, але і святкуем дні народзін удзельнікаў тэатра, Каляды, Новы год, Дні роднай мовы і абаронцаў Айчыны, вясновае свята жанчын і іншыя.

**— Якія лёсавызначальныя падзеі ў гісторыі тэатра вы маглі б вылучыць?**

**Алеся Сівохіна:** Самая першая лёсавызначальная падзея — гэта сустрэча Андрэя Андрэевіча Каляды і Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Янкоўскі прапанаваў Калядзе, які на той момант быў акцёрам Купалаўскага тэатра, стварыць гурток выразнага чытання. Магчыма, я зараз крыху фантазірую, бо любая гісторыя — у нейкай ступені наша фантазія. Напачатку гэта быў тэатр выразнага чытання для будучых педагогаў, каб яны навучыліся валодаць словам, каб слова ў іх вуснах было жывое, каб яны абуджалі і запальвалі агонь энтузіязму ў сваіх вучнях. Гэтая ідэя не страчвае актуальнасці ніколі. Яна развілася і перайшла ў тэатр — культурна ўнікальную беларускамоўную з'яву.

**Алесь Мойскі:** Лёсавызначальных падзей было шмат за 50-гадовую гісторыю тэатра. Вось хоць бы 1977 год, калі тэатр чытальнікаў «Жывое слова» атрымаў званне Народнага. Унікальнай была з'ява харавога чытання, прыўнесеная на сцэну студэнцкага тэатра Андрэем Калядай.

Калі ёсць ўзаемазапаленчы працэс, то не даводзіцца шмат часу аддаваць дысцыпліне





Мяняліся падыходы і формы працы, спектаклі і дэкарацыі, але сутнасць заставалася — мы заўжды скіраваныя на развіццё асобы ў рэчышчы беларускай культуры, захавання традыцый і мовы. Мы імкнемся быць актуальнымі, нам уласцівы эксперымент і наватарства, але гэта адбываецца пад дэвізам, добра акрэсленым аднойчы Рыгорам Барадуліным: «Жыць словам!»

Важнай была кожная вандроўка тэатра па ўсім Савецкім Саюзе, а пасля — з'яўленне «Жывога слова» на тэлебачанні ў праграме «Беларуская літаратура ў школе». Лёсавызначальнымі былі змены на пасадзе кіраўнікоў тэатра: Андрэй Андрэевіч перадаў эстафету сваім вучням Юрасю і Алене Чарэнкам, а яны — Наталлі Кухаравай…

Для мяне лёсавызначальным быў 46-ы тэатральны сезон, калі, здавалася, цікавасць да тэатра знікае, у калектыве заставалася 6 чалавек, мяне самога чакаў наперадзе выпуск з універсітэта і, я меркаваў, з тэатра. Але прэм'еру нашага спектакля «Афарызм», знітаванага з твораў Уладзіміра Караткевіча, давялося паказваць двойчы запар. Уваход быў вольны, і глядзельная зала не змясціла ўсіх жадаючых пачуць жывое слова, і мы папрасілі палову гледачоў вярнуцца праз гадзіну. Сцерлі з ілба пот, набралі паветра і паказалі спектакль другі раз. Такім чынам, я адчуў запатрабаванасць таго, што мы робім, колькі б нас ні было, і застаўся ў тэатры падчас навучання ў магістратуры, аспірантуры і зараз сумяшчаю любімае хобі з асноўным месцам працы ў Белтэлерадыёкампаніі.

**— Куды, на вашу думку, рухаецца тэатр увесь той час, што вы кіруеце?**

**Алеся Сівохіна:** Тэатр у дынаміцы ад самага пачатку. Канешне, кожны кіраўнік прыносіць новае ўяўленне, новую карцінку, якім павінен быць тэатр. Без канцэпцыі і свайго разумення вельмі складана нешта зрабіць. У нас гэтая карцінка адбудавалася. Мы прыйшлі да таго, што канцэртныя выступленні і спектаклі для нас — не мэта, а сродак удасканальвання для нашых студэнтаў. Яны прыходзяць абсалютна розныя, са сваімі думкамі. Яны не акцёры і хочуць кожны рознага. Тое, што мы разам рыхтуемся да спектакляў, выступаем — гэта і ёсць сродак. З дапамогай гэтага сродку мы робімся лепшымі — кожны ва ўласным разуменні.

**Алесь Мойскі:** Сакрэт даўгалецця тэатра ў тым, што «Жывое слова» не змяняе сваім прынцыпам — рухаецца ў кірунку, закладзеным яшчэ Андрэем Каладой. Мяняліся падыходы і формы працы, спектаклі і дэкарацыі, але сутнасць заставалася — мы заўжды скіраваныя на развіццё асобы ў рэчышчы беларускай культуры, захавання традыцый і мовы. Мы імкнемся быць актуальнымі, нам уласцівы эксперымент і наватарства, але гэта адбываецца пад дэвізам, добра акрэсленым аднойчы Рыгорам Барадуліным: «Жыць словам!»

**— Як трапіць да вас у тэатр?**

**Алеся Сівохіна:** Напачатку ў нас ёсць прагляд. Мы просім расказаць пра сябе, патлумачыць, чым зацікавіў тэатр, а яшчэ — прачытаць, праспяваць ці станчыць, каб мы пачулі голас, маўленчыя асаблівасці, зразумелі, як далей праца-

ваць. Кастынгу ў нас няма: мы нікому не кажам: «Ты нам не патрэбны», а з радасцю працуем з тымі, хто хоча працаваць.

Калі пачынала я, то «першагодак» было шмат, каля пятнаццаці чалавек, а выпускаліся мы з тэатра ўчацвярых. Некаторыя прыходзяць на больш позніх курсах, але выпускаем мы іх усё адно на апошнім, таму што з працай пачынаецца іншае жыццё. Звычайна выпускаюцца 2-4 чалавекі, але ў гэтым годзе выпускнога ўвогуле не будзе, бо наш калектыў зараз — студэнты 1-3 курсаў.

**Алесь Мойскі:** Зараз даведацца пра тэатр можна не толькі праз перыядычны друк, радыёстанцыі, гасцямі якіх мы часта з'яўляемся, але і праз інтэрнэт-прастору. Нашы суполкі «Жывое Слова» & кампанія» ёсць у сацыяльных сетках, дзе ўвесь час абнаўляецца інфармацыя пра набор у тэатр і ўсе нашы выступленні.

Раскажу таксама пра ўласны вопыт, як на першым курсе да прагляду я падрыхтаваў уласныя вершы. Да таго часу ўжо адбыўся мой паэтычны дэбют у часопісе «Бярозка», і вершы, надрукаваныя ў ім у школьныя гады (2005—2006), я прачытаў упершыню са сцэны тэатра, распавёў колькі слоў пра сябе, хоць мне гэта не проста далося, бо беларускую мову я ведаў з дзясятка прачытаных кніг, а мае бацькі, аднакласнікі і сябры заўсёды размаўлялі па-руску. Аднак тагачасныя кіраўнікі «Жывога слова» Наталля Кухарава і Уладзімір Трапянок, відаць, заўважылі маё жаданне авалодаць мовай і ўзялі ў тэатр, хоць, прызнаюся, не раз па-юнацку крыўдаваў, калі яны мяне неаднаразова папраўлялі і дакаралі памылкамі ў маўленні. А зараз мы з Алесяй робім тое самае, і, можа, студэнты крыўдуюць, але пераканаsuccessfulныя, што гэта ідзе ім толькі на карысць.

**— Удзельнікамі тэатра могуць быць толькі студэнты?**

**Алеся Сівохіна:** Былі прыклады, калі ў тэатры займаліся і школьнікі, і навучэнцы каледжаў, і выпускнікі ўніверсітэтаў. Але тэатр — жывы арганізм, які трансфармуе асяроддзе і разуменне, саманастройваецца: людзі, якія прыходзілі сюды, ужо працуючы, на маёй памяці, доўга не заставаліся. З розных прычын. Тэатр фільтруе людзей, каб падтрымліваць студэнцкую атмасферу: калі чалавек не ўпісваецца ў яе, то ён адчувае гэта. Не ўсе вытрымліваюць рытм размінак і рэпетыцый два разы на тыдзень. Выступленні таксама вымагаюць адрывацца ад любых спраў, што вельмі няпроста зрабіць, калі ты працуеш. А калі не ездзіш на выступленні з тэатрам, выбіваешся з рытму калектыву.

**Алесь Мойскі:** Калі ў асобе яшчэ жыве студэнт, то яна лёгка ўпішацца ў нашу атмасферу, але мы не тэатральная трупа ў класічным яе азначэнні, а хутчэй калектыў аднадумцаў, сям'я, дзе на першым плане ўзаемаразуменне і давер. Студэнт заўсёды ў пошуку, а сталы чалавек са сфарміраванымі поглядамі на жыццё ці школьнік са сваімі інтарэсамі хутчэй за ўсё адчуе сябе чужынцам у такім калектыве.



Ты глядзіш на звычайныя рэчы, якія бачыў шмат разоў, чуеш тое, што чуў раней, і дакладна ведаеш, што нічога незвычайнага ў іх няма, і раптам нешта шчоўкае, і ты разумееш, што гэта кавалак з новага спектакля

**— Што вы шукаеце ў сваіх вучнях?**

**Алеся Сівохіна:** Калі вы назвалі іх вучнямі, то мы, напэўна, настаўнікі. Кожны настаўнік шукае ў вучнях сябе, глядзіць на іх, як на сябе, і хоча, каб яны былі лепшымі, больш дасканалымі і дасягнулі ў самаразвіцці таго, чаго не змог дасягнуць настаўнік. Прынамсі, мне б так хацелася.

Ёсць людзі, якія займаліся тэатрам у школе, яны больш падрыхтаваныя для таго, каб выйсці на сцэну і нешта зрабіць. Ёсць людзі, якія баяцца гледачоў. Не магу сказаць, што з імі даводзіцца больш працаваць, бо працаваць даводзіцца ім. Я не магу навязаць ім сваё разуменне, уставіць свае думкі ў іх галаву. Ім даводзіцца праходзіць самім праз гэта выпрабаванне, выкарыстоўваючы ці адмаўляючы мае парады. Калі не выкарыстоўваць — працэс пойдзе даўжэй, але ўсё адно яны даходзяць да

гэтага самі. Не бывае такога, што я магу зрабіць, каб чалавек раптам пачаў камфортна сябе адчуваць.

**Алесь Мойскі:** А часам даводзіцца штучна ствараць дыскамфортную сітуацыю, каб наўмысна выклікаць у студэнтаў пачуцці, якіх па-іншаму не дабіцца ў звычайным жыцці, бо на рэпетыцыі кожны прыходзіць са сваімі думкамі, праблемамі… Тэатр прымушае забыцца на ўсё і атрымліваць задавальненне ад творчага працэсу.

Мы чакаем ад студэнтаў, у першую чаргу, водгук. Шчыры водгук на тое, што прапануем. Нават калі яны не згодныя з матэрыялам, над якім мы працуем, падыходамі, што абіраюцца намі, хочацца, каб вучань шчыра выказаўся і патлумачыў сваю пазіцыю. Бо нашы вучні — гэта дарослыя людзі са сваімі ідэямі, поглядамі. Самае страшнае — гэта абыякавасць да таго, што ты робіш. Вось яе мы дакладна не шукаем!

**— Як праходзяць вашы заняткі?**

**Алеся Сівохіна:** Прыходзяць студэнты, пераапранаюцца і ідуць на размінку. Размінка складваецца з фізічнага трэнінгу — практыкаванняў, каб разагрэць свае мышцы, і трэнінгу моўнагаласавога, дзе развіваецца дыханне і голас. Размінка можа быць даволі працяглай — ад гадзіны да двух, калі мы ўключаем акцёрскія і псіхалагічныя трэнінгі. Пасля гэтага ідзём рэпеціраваць тое, што актуальна.

**Алесь Мойскі:** Актуальнай можа быць літаратурна-музычная кампазіцыя па творах якога-небудзь паэта-юбіляра, як у мінулым годзе мы рыхтаваліся да 120-годдзя Кандрата Крапівы і 125-годдзя Максіма Багдановіча. Гэта можа быць канцэртная праграма, складзеная з глыбокадумных вершаў, лірычных песень і сатырычных мініяцюр, якую мы рыхтуем для школ, бібліятэк, музеяў, куды нас вельмі часта запрашаюць. Зараз мы працягваем працаваць над спектаклем «Дудар», прэм'ера якога адбылася 1 лістапада 2016 года. Гэта дакументальная фантазія, заснаваная на гістарычных фактах з культурнага жыцця беларусаў пачатку XX стагоддзя, на эпісталярнай спадчыне, успамінах, публіцыстыцы і мастацкіх творах Сяргея Палуяна, алюзіях і рэмінісцэнцыях на творы Вацлава Ластоўскага, Франца Кафкі, Хорхе Луіса Борхеса.

**— Наколькі акцёры ўплываюць на рэпертуар?**

**Алеся Сівохіна:** Калі ставім спектакль, то цікавімся меркаваннямі акцёраў, але ад пачатку гэта наша з Алесем праца. З іншага боку, у іх ёсць магчымасць паказаць, што яны назапасілі самі за год, чаму навучыліся. Яны арганізуюць вечарыну ўласнай творчасці «Атрасіны» напрыканцы восені. Як дрэва атрасае лісце, так яны атрасаюць свае думкі, ідэі, прыносяць, што яны хацелі паказаць: ладзяць ці канцэрт, ці вечарыну, ці спектакль. З гэтых нумароў папаўняецца канцэртная праграма, ці вырастае нават спектакль.

Калі спектакль падыходзіць да самастойнага жыцця — калі мы адчуваем, што ён ужо не наш, а пераходзіць да акцёраў, яны дадаюць нюансы, і ён жыве на сцэне, а мы ўплываем толькі на нейкія тэхнічныя дэталі, у такія моманты ў мяне пачынаюць нараджацца думкі пра новую працу — такія, якія не даюць спакойна спаць, турбуюць, сняцца начамі. Тады пачынае вымалёўвацца новая ідэя — ты глядзіш на звычайныя рэчы, якія бачыў шмат разоў, чуеш тое, што чуў раней, і дакладна ведаеш, што нічога незвычайнага ў іх няма, і раптам нешта шчоўкае, і ты разумееш, што гэта кавалак з новага спектакля. Самае цікавае, што ў нас з Алесем гэта адбываецца на падобныя рэчы: напрыклад, я прыношу нейкі запіс, распавядаю, якія ў мяне ідэі, і ён кажа, што ў яго ўзнікалі падобныя думкі.

**Алесь Мойскі:** Напрыклад, наш новы спектакль «Дудар» аб'яднаў такія агульныя думкі і ідэі, першапачаткова меў мноства неразвітых тэм і адгалінаванняў ад іх. Прыадкрыю творчую майстэрню, але мы выкарысталі творы вышэйназваных аўтараў для сюжэтнай лініі, якую стварылі самі. Для гэтага нам з Алесяй давялося адмовіцца ад некаторых другасных тэм і пакінуць асноўныя. Калі студэнты пачалі працаваць над спектаклем, то ў некаторых месцах яны па-свойму расставілі акцэнты, і на першы план выйшлі новыя праблемы, як, напрыклад, існаванне мастацтва за грошы для матэрыяльнага забеспячэння ці дзеля таго, каб пакінуць годную спадчыну дзецям і ўнукам.

**— Ці ёсць у вас прыклад для працы на сцэне?**

**Алеся Сівохіна:** У акцёраў, напэўна, ёсць свае прыклады. Я вельмі асцярожна стаўлюся да прыкладаў і параўнанняў. Калі ты параўноўваеш сябе з кімсьці, ты заўсёды ў мінусе, бо ніколі не будзеш іншым чалавекам, будзеш толькі сабой. Самае аптымальнае — шукаць крыніцы развіцця ў сабе і параўноўваць сябе з сабой: якім я быў, наколькі вырас і стаў лепшым, па сваіх крытэрыях.

**Алесь Мойскі:** Як казаў дзядзька Шэкспір, усе людзі — акцёры. Таму лепшыя прыклады для працы на сцэне я параіў бы шукаць у жыцці. Быць больш назіральным і ўважлівым, бо часам сыграць так, як могуць цётачкі ў крамах і транспарце пры безбілетным праездзе, не зможа ніводны прафесійны акцёр. Усё жыццё не будзеш капіраваць куміраў тэатра і кіно — трэба шукаць сябе. Нам, як кіраўнікам, таксама варта памятаць, што мы можам стаць прыкладам для студэнтаў, таму і ў жыцці, і на сцэне я спрабую трымаць сябе годна і не ісці ў разрэз са сваімі поглядамі і маральнымі прынцыпамі. Я паважаю сваіх вучняў, хвалю за поспехі і буду дакараць за правіны. У гэтым плане для мяне прыкладам служаць мае настаўнікі і бацькі, якія не маюць нічога агульнага з прафесіяй акцёра.

Часам сыграць так, як могуць цётачкі ў крамах і транспарце пры безбілетным праездзе, не зможа ніводны прафесійны акцёр



Марыя Бадзей



**нарадзілася 10 красавіка 1997 года ў Ваўкавыску. Скончыла Ліцэй БДУ, студэнтка філфака БДУ. Пераможца конкурсу «Брама-Мар» (2015), выпускніца Школы маладога пісьменніка (2016). Умее рабіць яблычнае віно і любіць вандроўкі — але не дзеля пунктаў прыбыцця, а дзеля дарогі да іх.**

## Пад скураю — ціш

***

Мора любові выкінула мяне на бераг,
я ляжу на ім, думаю, я — не я,
адкусваю ад паветра па каліву,
глыбей закапваюся ў пясок,
не магу зразумець, хто я на гэты раз:
зацвярдзелае дрэва? Кіт? Ракушка? Бурштын? —
аскепак разбуранага палаца і сляза —
Зуб акулы? Костка пірата?
Я гляджу.
У высокім небе Хосэ д'Анкоста малюе ветахі
кітайскімі іерогліфамі.
Неба не падае, а акуратна спускаецца
па канатах, вяровачных лесвіцах,
правальваецца у дзіркі закінутых сходаў у ноч —
звычайная справа —
я бачу ў ім знаёмыя абрысы
і не пазнаю іх.
Але стамлёныя яго хвалі, крыклівыя хвалі яго
перашліфуюць тое,
што запомніў пясок.

***

Вусцішны вусны дотык да гарачай шчакі
робіцца нечым большым, чым усё, што мы маем,
большым, чым я, большым, чым ты
ёсць,
і, напэўна, будзем,
пад забытым трамваем —
слухай казку! —
ляжаць дзіцячыя цацкі:
усё, што мы калісь згубілі,
спяць каты, п'юць шляхі з зорных каўшоў,
я хацеў быў аднойчы прачнуцца і выйсці знянацку,
мяўкнуць сціпла: маю май. мяняю на малако. залажу ў мяхі.
я аднойчы паспрабаваў, але, ведаеш, азірнуўся, прыйшоў —
у цябе з вачэй пырскалі і каціліся znічкі,
паміраючай мовай пад тваімі рукамі спявалі імхі.
А я сядзеў і ўслухоўваўся
ў душы невядомых паэтаў,
галасы дрэў,
цішу.

***

Мора кідае на бераг хвалі прагорклай пяшчоты,
хвалі таго, што яднае паветра з табой.
Я пішу ўслых, я не трапляю ў ноты
зычных шыпячых, якія шапоча прыбой.

Ведаеш, гэта каменне, што дыхае на ўзбярэжжы,
створана з часу і з памяці — там, дзе сігналяць агні,
створана з рэчаў, якія, зрэшты, не маюць межаў,
створана з рэчаў, якія бяруць у палон камяні.

Бачыш, на гэтым — крывавіць колераў захаду змова,
чуеш, на тым — расплятаюць маланкі праклён
замку падводнаму, разбітаму словам, адным толькі словам.
На, трымай аскялепак з яго, мой сонечны сон.

Бераг вятроў, і так горача-горача ступням,
ад успамінаў пячэ, ад прыгажосці — маўчыш,
толькі валоссе глытае кроплі і гукі,
толькі пальцы — каменне ў ваду,
а пад скураю — ціш.

***

Пасля кавалка горада ў роце суха і гэта напэўна
адзінае што ты можаш сказаць рыбам бегучы пад дажджом
калі на вейках тваіх павісаюць гукі
вусны-абрысы
маланкі выбіваюць новыя стужкі на старых мапах лёсаў
якія ты парвеш па швах пойдзеш іншай дарогай
напраcткі па брудзе па лужынах снезе
дзікі птах перабежчык-звярына
бо калі не хочаш біцца — то варта сыходзіць
часам, праўда, за гэты сыход давядзецца кусацца.

***

Познім летам захад паліць траву,
палымнеюць кастры,
кругавід спапяляюць, сплываюць у дымнае неба,
у якім на зямлю расхінаюцца рэдкія вокны,
і тамтэйшыя гаспадыні льюць за шыю табе вятры,
і тамтэйшыя жабракі не шкадуюць уласнага срэбра,
толькі стой ты пад ім, ад ягоных дотыкаў
мокні.

***

Гэта ўсё мова я вар'яцею бо я па-за межамі мовы
я ў віне перад мовай я глытаю яе і знову
вырастаюць на сталі знакі з-пад падлогі сачацца зномы
мой пакой затопіць я не выпаўзу
з вокан
пальецца вада і раскінецца вокам шырока
толькі дому ўсё гэта выльецца бокам выблісне скокам
у прасторы дзе сонца далёка а дно за паўкрока
мова сыдзе і толькі фанетыка — песні і гукі
акуратна пастукаюць у скроні — пра іх не даложаць
я іх буду лавіць за хвасты і браць сабе ў рукі
я іх буду хапаць за дзюбы, цягнуць сабе ў ложак
стукай цемра ў мяне тры чацвёртыя дня разлівайся ў бутэлькі
тагабочныя голыя дрэвы бывайце здаровы
калі зможаце так
вам — трываць да вясны здагадацца.
слізкі вецер — у цябе сёння такая крывая хада.
а на небе — сляды як свярбячыя раны ад словаў
на мяне з іх ліецца чужое вар'яцтва чужое вар'яцтва
з неба падае ў вочы вада ў вочы вада



Таццяна Садоха

**нарадзілася 26 снежня 1989 года ў горадзе Ліда. З 2007 года жыве ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Захапляецца сучасным мастацтвам, гісторыяй, плаваннем і кветкамі. Любіць вандраваць па Беларусі і па вуліцах Мінска.**



## Безнадзейна адзінокі твор

Ілбом грукаю ў сцены — замест дыялогу з ценем.

Боль, як выявілася, мае свой колер, свае адценні, свой густ і смак. Боль фізічны і боль маральны: дзе тая мера, што пераводзіць адно ў другое?

*Ведаеш, мы ўсё здолеем, пакуль мы разам.*
*Сапраўды?*
*Дакладна!*

Калі чалавек сыходзіць, застаюцца ўсялякія дробязі, якія кожны момант напамінаюць пра страчанае. Застаюцца ўспаміны, імгненні, фотаздымкі, на якіх ты такі шчаслівы, рэчы, якія ўжо сталі часткай вашага агульнага жыцця.

Дождж. Прынцыпова ўсё роўна, скончыцца ён ці не, — тлумачу лбом сцяне, бо нікога няма навокал. Так, у гэтай самоце, іду варыць каву. У галаве зноўку пракручваю гэтыя моманты, што не даюць спакою.

Дзе, як і чаму мы памыліліся?

*Пачакайце, калі ласка, калі ласка, хвілінку ўвагі!*
*Вы да мяне?*
*Так. Ведаеце, са мной упершыню такое. Верыце ў каханне з першага позірку? Верыце? Не можаце не верыць.*

«Не, не веру», — думаю, падносячы да вуснаў кубак з кавай. «Зараз не веру нікому і ні ў што». А ў той вясновы дзень нібыта ўсё сышлося.

Трэба было бегчы ва ўніверсітэт. На той час адзінота моцна надакучыла. Хацелася, каб побач быў чалавек. Такі свой, такі ўтульны, такі ласкавы. З гэтымі думкамі ехала ў метро, чытала кнігу, не звяртаючы ўвагі ні на кога. І тут раптам нібыта адчула, што нехта на мяне глядзіць. Падняўшы вочы, сустрэлася поглядам з прыгожым брунетам сярэдняга ўзросту. Ён усміхнуўся, а я прынцыпова схавала вочы ў любімы раман.

Мая станцыя. Я выйшла з метро. Можа, праехала сваё шчасце? Шчасце — на тое і шчасце, каб не ведаць, дзе і калі яго сустрэнеш.

Абарочваюся. Ён у некалькіх кроках ад мяне.

Можа, і паспрабаваць?

*Усё гэта — наша, разумееш? І вясна, і маладосць, і каханне — усё.*

*Разумею.*

*Увесь свет! Кожны дзень побач, рука аб руку! Абяцай, што дзе б ты ні была, што б з намі не здарылася, ты заўсёды будзеш памятаць гэты момант!*

*Абяцаю. Назаўжды!*

Бяру ў рукі тэлефон, на які ўжо некалькі дзён ніхто не званіў. Заходжу на сваю старонку ў сацыяльным сеціве, затым — на ягоную. Ён шчаслівы з той дзяўчынай, што побач. І яна шчаслівая.

І я таксама. Была.

Хаджу па пакоі. Цямнее. Здаецца, боль скаваў мае рукі і ногі. У галаве адна толькі думка: «Чаму так адбылося?».

І кава нібыта становіцца гарчэйшай, і кубак не падабаецца, як, у прынцыпе, і колер шпалер, і дыван, і гадзіннік, што цікае не на тым месцы. Хаджу па пакоі. Затым дастаю цыгарэту.

Сёмую за сённяшні дзень.

*Сёння памёр мой сябар. Час ідзе, усё рухаецца, а яго — няма. Яго проста няма. Ты ведаеш, балюча страціць чалавека назаўсёды. Яшчэ ўчора трымаў яго за руку, смяяўся з яго жартаў, планаваў летні адпачынак. А сёння яго проста няма.*

*Я разумею. Гэта балюча.*

*Не пакідай мяне ніколі.*

*Я не пакіну цябе ніколі.*

Я не пакіну цябе ніколі. Ніколі, і нават зараз, калі ты сышоў. Калі ў цябе новае жыццё, дзе ёсць месца кожнай дробязі: кнігам, машынам, кавярням, станкам для галення.

Няма толькі месца для мяне.

*Гэта ўсяго на некалькі хвілін. На гадзінку максімум. Ёй зараз кепска. Ведаеш, яна так і не навучылася жыць без яго. Проста мы пагутарым. Можа, ёй стане лепей.*

*Едзь, канечне.*

*Я буду праз гадзіну. Толькі ты чакай мяне.*

*Буду чакаць.*

*Будзеш.*

*Буду. Заўсёды.*

Я чакаю і зараз. А ў той дзень ён не прыехаў ні праз гадзіну, ні праз дзве. І увогуле змяніўся. Стаў замкнуты. Яму нехта званіў, ён некуды ехаў, затым вяртаўся, апускаў вочы. Навошта вяртаўся? Ізноў падношу да вуснаў кубак з кавай. Кава — халодная, і мне не падабаецца гэта. Кідаю кубак у сцяну. Нібыта ён і вінаваты ва ўсім, што здарылася.

*Я паехаў.*

*Ты вернешся?*

*Так.*

*Дакладна?*

***Маўчанне***

Ты не вернешся. Не вяртайся. Ніколі! Чуеш? Я не магу так больш!

*Чаму ты сыходзіш? Пабудзь са мной. Што ты знайшоў у ёй? Чаму яна вось так вось узяла і забрала цябе?*
*Не прыходзь больш сюды ніколі!!!*

Дзверы за ім даўно зачыніліся, а я ўсё яшчэ працягвала крычаць. Як гэта пачынаецца? Нібы нешта іншароднае з'яўляецца ў сэрцы. А потым яно ж разліваецца па ўсім целе, аддае ў вісок, да горла падкатвае ком, дыханне блакуецца, спрабуеш дыхаць — не атрымоўваецца, праз імгненне коцяцца слёзы. Разумееш, што так смуткуе твая душа…
Ён не вярнуўся.

Ведаеш, так бывае. Праблема не ў табе. Проста…кахання больш няма. Дзякуй табе за ўсё.

*Ты так проста возьмеш і сыдзеш?*
*Я кахаю яе і прашу цябе больш нам не тэлефанаваць, не надакучваць, вазьмі сябе ў рукі, ты яшчэ станеш шчаслівай. Дакладна.*
*Я ўсё разумею. Пасля таго, як ваш агульны сябар пайшоў з жыцця, вы знайшлі сэнс жыцця адзін у адным. Сэнс майго жыцця быў у табе. Я не здраджвала табе, я чакала цябе кожны дзень, я імкнулася зрабіць тваё жыццё разнастайным, я прабачала. Вярніся?.. Калі ласка.*
*Проста на некалькі імгненняў.*
*Я ўсё сказаў. Я паставіў кропку ўжо даўно. Пастаў яе і ты. Бывай.*

Разбіты кубак ужо не склеіць.
Успамінаю. Шмат было добрага. А скончылася — кепска.
Так — бывае. Амаль заўсёды.
Каханне не вяртаецца, не вяртаюцца і каханыя.
Яму ўсё роўна.
Тады навошта нам гэтыя ўспаміны, што не даюць рухацца наперад?
А рухацца — трэба.

…прымушаю сябе падняцца і адысці ад сцяны.

Дзяніс ШПІРОНАК

**нарадзіўся 25 мая 1993 года ў пасёлку Гудагай Астравецкага раёна. Лічыць, што лепш памерці, чым пражыць дзень хаця б без аднаго кубачка кавы. Акрамя вершаў, не ўяўляе жыцця без музыкі, яшчэ і нядрэнна спявае, таму, калі сустрэнеце яго дзесьці ў караоке, замоўце для сябе песню, вам павінна спадабацца.**



# У моры эмоцый

## Перараджэнне

Ты — воск,
Ты гарачы расплаўлены воск,
Што павольна сцякае ўніз,
А затым застывае.
Мароз,
Працінае ўсе жылы мароз,
Непаўторнасць адноўленых рыс
Тваё сэрца кранае.

Руда,
Ты пакуль што не больш, чым руда:
Спачываеш у нетрах Зямлі,
Свайго часу чакаеш,
Брыда,
Непатрэбная звонку брыда.
Толькі чысціць цябе пачалі —
І ты зноў ажываеш.

Ты плынь,
Сталі ўпартай няспынная плынь.
Ад цябе стала постаць прамой,
Разгарнуліся плечы.
Пакінь,
Моцны стрыжань у целе пакінь,
Каб юнак стаў урэшце сабой,
Дай характар хлапечы!
Дзіцём,
Ты калісьці быў проста дзіцём,
Што плыло паслухмяна
Па моры глыбокіх эмоцый.
Жыццё,
Быццам молат з кавадлам, жыццё —
Гнула, біла, хацела зламаць… —
І напоўніла моцай!

***

Я збягу,
Дзе асфальт пахне чыстым вясновым дажджом,
Дзе вільготная свежасць дарue ад спёкі свабоду,
Дзе бягуць ручаі, і хлапчук са сваім караблём,
Цалкам мокры, у ботах праз лужы — у пошуках броду.
Я збягу,
Дзе разліта чырвонае мора суніц,
Дзе ад водара ты не ідзеш — ты ляціш над зямлёю.
Там у звоне пчаліным губляецца сэнс таямніц,
А ўсе кветкі цалуюцца з сонцам вячэрняй парою.
Я збягу,
Дзе не будзе ніколі крывавай вайны,
Дзе са «скрыні» паганай не чутна суседскага гора.
Дзе магутныя выбухі не разарвуць цішыні,
Дзе і ў цішы самой — задушэўная песня сабора.

Я збягу.
Толькі дзе я знайду гэты прывідны край?
Так і знікну навек і да скону не скончу вандроўку.
А пакуль я іду — буду сонца прасіць: не знікай,
Хай напоўняць цяплом прамяні маёй мары скарбонку.

***

Пакіньце ў запасе
Хаця б жменю пораху,
Трымайце яго сухім —
Пры моцнай абразе
Становіцца ворагам
Сябра — зацятым і злым.

Ды, з іншага боку,
Працуе з сяброўкай
Закон гэты наадварот —
Былая сяброўка
Стане каханкай.
Як вам такі паварот?

Ёсць людзі з імкненнем
Пакінуць краіну,
Маўляў, «я тут не гаспадар…»
Яны з разуменнем,
Што страцяць Радзіму,
Прыдбаюць душэўны цяжар.

А людзям, якія
Блізкіх і родных
Па Стыксу праводзяць у шлях, —
Журба і ўспаміны,
Ім крыж гэты годна
Цягнуць на сваіх плячах…

Галоўнае ж — мары,
Вось іх бы не страціць,
Каб сэнс захаваць у жыцці,
З упэўненым тварам,
З запалам дзіцяці
У будучыню ісці.

## Словы на вецер

Сарвалася з вуснаў і збегла, зляцела
Ужо непатрэбнае, вольнае слова.
Ні сэнсу, ні сілы яно не займела,
Не стала прызнаннем, бліскучай высновай…

Дарэмна адпушчана птушкай міжвольна —
І раны не гоіць, і зоркай не свеціць,
І мэты не мае: адно, на што здольна, —
Дык з хуткасцю ветру імчацца па свеце.

Пасля, разагнаўшыся, можа ударыць
Таго, хто ўдара зусім не чакае,
Хто ў думках лунае, пра лепшае марыць,
Хто слоў абароны ў запасе не мае.

А мы ўсё выкідваем словы на вецер,
Нам гэту загану б ірваць з каранямі!..
Са словам гуляем, нібыта са смеццем,
А лепш бы — трымалі язык за зубамі.

***

Усім кажу, што я не веру ў Бога.
Але, калі здараюцца няшчасці,
Укленчыўшы, ілбом б'ю ў падлогу,
Ратуй, крычу, не дай у бядзе прапасці.

Усім кажу: не веру я ў прыкметы,
Але, як чорны кот хвастом віляе
Ці праз дарогу з вёдрамі кабета —
То праз гароды петлямі ўцякаю.

Усім кажу, што веру ў чалавека,
Ды веры той ніхто са мной не дзеліць.
А я ўпарты — мне ад крыўдаў, здзекаў
Любові зерне хочацца пасеяць.



Маргарыта Латышкевіч

**нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў Брэсце. Закончыла філфак, магістратуру і аспірантуру БДУ. Паэтэса, празаік, літаратуразнаўца, фалькларыст. У 2012 годзе выдала кніжку вершаў «Пульс навальніц» (якую можна знайсці ў гарадскіх бібліятэках), у 2016 — кніжку апавяданняў «Яблыкі». Любіць чытаць і перачытваць добрыя кнігі, пячы пірагі для сяброў, часаць знаёмых катоў і малявацьдумкі, якія не змяшчаюцца ў галаве.**



# Па лесвіцы з месяцовых промняў

***

Хочаш,
я раскажу табе
казку?
Там будуць князёўны,
там будуць героі,
і абымшэлыя вежы палацаў,
і цяжкія ўздыхі
бліскучай зброі.

Хочаш?
Там будуць агні над багнай,
і навальніцы над курганамі,
і покліч рагоў паляўнічых прагны,
пад покрывам Пушчы —
алень загнаны.

Ты бачыш?
Вакол нас віруюць цені
і шэпчуць спакусліва і салодка
пра запаветныя сцежкі сненняў,
што зводзяць прэч
ад любых турботаў.
Ты іх не слухай:
нам — далей крочыць
па лесвіцы з месяцовых промняў
пад сінім покрывам
вечнай ночы,
што пакідае іней
на скронях.

Казка
расказваецца — але і,
з крывёю змяшаная,
у жылах б’ецца.
Бо створанае толькі тады ацалее,
калі ў ім трапеча
драбочак
сэрца.

Я, можа быць,
досыць часта хлушу,
ды хлусіць табе не змагу — ніколі.
Нераспавядзёныя казкі
душаць,
пакуль яны ўнутры
зняволеныя.

Яны прыходзяць
загнаным аленем,
агнямі плывуць
над дарогаю гразкай.

Пакладзі ж галаву да мяне на калені.
…хочаш,
я раскажу табе
казку?

***

*«…жили книжные дети, не знавшие битв…»*
*Ул. Высоцкі*

Я паходжу са сціплага племені
«кніжных дзяцей»,
што раслі на асфальце, далёкія ад грымот.
Кніжны пыл працінаў нас,
уядаючыся да касцей,
калі нас зацягвала вірам чужых прыгод.

У жылах нашых цячэ
з чарнілам змяшаная кроў,
І на свет мы глядзім праз старонкі пажоўклыя кніг;
сэрцы нашыя
б’юцца ў рытме
адвечных радкоў,
быццам рэхам гукаючыся на іх.

Гэта «кніжныя дзеці» ўрастаюць хрыбтамі ў сталь
Хвосткіх рыфмаў, як зерне ўрастае ў раллю,
Гэта «кніжныя дзеці» ўзводзяць на п’едэстал
Тых, хто піша,
І тых, хто калісь пісаў
Пра адну,
Адзіную
Вечную
Нашу зямлю.

І мне цяжка думаць, што, можа быць, прыйдзе час,
калі згубіцца гэтакі лад у жыцці.
І калі, згадаўшы ў жывой размове пра нас,
прыпячатаюць «кніжных» —
маўляў, рэлікт.

Нам забыцца на Слова —
горш, чым пазбыцца жыцця:
я паходжу са сціплага племені «кніжных дзяцей».
І, узняўшы да неба свой папяровы сцяг,
я шукаю вачыма дарогі былой працяг,
я працягваю рукі да тых,
хто за мной ідзе.

***

А гэтыя двое
з нейкай прычыны
жылі — разам.
Ён у душы любіў спяваць
Барытанальным басам.
Ён па хаце раскідваў словы,
быццам шкарпэткі,
і любіў размаўляць пра надвор’е
з бабулькай-суседкай.
А яна падбірала за ім
рознакалёрныя словы,
мыла ў пральнай машынцы,
каб выкарыстоўваць нанова.
Патыхала карыцай
і яшчэ — лімоннаю цэдрай,
вечарамі вяжучы
свае нескончоныя швэдры.
А калі ліхтары на праспектах
пужліва гаслі,
яе белыя пальцы ў ягоных
бездапаможна вязлі,
а ён упэўніваўся,
што тонкасць яе ключыцаў
аддае на смак
салодка-гаркавай карыцай.
Так яны жылі —
разам з нейкае дзіўнай прычыны.
Бо іначай жыць
для іх было немагчыма:
паасобку абодвум
чамусь не хапала
дыхання.
Разам з імі —
трэцім нялішнім —
жыло каханне.

## Балада пра мінус пятнаццаць

Сястра мне расказвае
па-над кубачкам з чорнай кавай
(без малака і без цукру,
арыстакратычна),
што справы — дрэнь,
і ўвогуле, што за справы,
і лыжачкай дзынкае
механічна.

Сястра мне расказвае:
некуды збегла котка,
а тут маразы якраз ударылі ноччу.
Сястра шукала,
прастыла,
ушчэнт падрала калготкі
і, апрача таго, выплакала ўсе вочы.

Сястра мне расказвае:
трэба сыходзіць з працы,
бо ставак няма,
і нешта там круціць загадчык.
Зрэшты, яна і сама
даўно хацела звальняцца —
сілы няма болей гэтыя твары бачыць.

Сястра мне расказвае:
мусіць, з Паўлам нічога не будзе,
бо тры гады пра вяселле не разявае зяпы.
І ўвогуле,
Хіба ж нармальныя людзі
Бавяць увесь вечар з чыпсамі на канапе?

Сястра сціхае: горла перахапіла.
Крылом галубіным мільгае ў руцэ насоўка.
А я ліхаманкава згадваю ўсіх,
каго калісьці любіла,
каб прыклады гадаўцаў сумнай сястры падсоўваць.
— Нічога,— кажу. — Не плач. А хочаш, замовім віна?
Ці, можа, паедзем у клуб з джазам і танцамі?
Сястра падымаецца:
— Не. Разумееш, Машка там недзе — адна,
а сёння ізноў да мінус пятнаццаці.



Малюнак
Маргарыты Латышкевіч

## Сонечны зайчык

Ты складаўся
з сарака чатырох
кепскіх звычак,
з рэзкіх пахаў
табакі і скуры,
сузор'я радзімак на бледным абліччы
і да смешнага
недагледжанай
шавялюры.

Не пазбаўлены
сутаргаватасці жэстаў,
мерыў крокамі
цесны пакойчык,
гаварыў зашмат
і сядаў на месца
для таго толькі,
каб ізноў падскочыць.

Разважаў так лагічна і звышразумна
пра ўсе
вусціішна
важныя рэчы
і сурова
трос чубам
карыкатурным,
распраўляючы мужна
плечы.

Ты натхняўся яшчэ і яшчэ,
а таму не быў здольны
ўбачыць,
як слізнуў па тваёй шчацэ,
у сэрца ўдарыў,
заззяў ярчэй
залацісты
сонечны
зайчык.

А ты крыўдзіўся:
— Я ж сур'ёзна, ну?
Што за ўсмешка
ад вуха да вуха?

…зайчык пальцы мае крануў.
— Проста я
так люблю цябе
слухаць.

***

*М. Б.*

Ён, напэўна, дужа кахаў яе.
Ён з кахання і з вершаў сплятаў вянкі —
Дзеля дотыку тонкай белай рукі.
Ці яна кахала?
Напэўна, не.

Ён, напэўна, дужа кахаў яе
І слупом саляным ля яе стаяў,
Калі песцілі белыя рукі раяль.
Ці яна заўважала?
Напэўна, не.

Ён, напэўна, дужа кахаў яе.
І, *пад зоркай Венерай* імя несучы,
Каля сіняга мора знайшоў спачын.
А астатняе…
Гэта — не важна.
Не.



Вадзім Крук



**нарадзіўся 15 снежня 1987 года ў Кохтла-Ярве. Па адукацыі інжэнер. Любіць гісторыю і рок-музыку. Апошнім часам знаходзіцца пад моцным уражаннем ад адкрытага для сябе разнастайнага свету эстонскай літаратуры. Упэўнены, што «загляне сонца і ў наша аконца» – не толькі назва выдавецкай суполкі, але і прароцтва.**

# Край бусліных дынастый

У шэсць гадзін раніцы, як толькі першыя промні красавіцкага сонца назаўжды загінулі ў сціплым пакойчыку завадскога інтэрната, ад грукату ў дзверы прачнуўся адзіны тутэйшы жыхар. Хлопец з цяжкасцю разлупіў вочы, пацягнуўся і паставіў ногі на аблезлы лінолеум — сеў. Пры гэтым ён зачапіў пустую бутэльку з-пад піва, і тая гучна, паныла, быццам спрасонку, пакацілася пад ложак. Хлопец нават не звярнуў на гэта ўвагу, прыслухаўся. У дзверы грукнулі яшчэ раз, таму смела можна было адчыняць — не памроілася праз сон. Ён крыкнуў, каб пачакалі, павольна апрануўся і пайшоў да дзвярэй, па дарозе зачапіўшы нагой яшчэ адну пустую бутэльку.

На парозе малады чалавек убачыў дваіх: загадчыцу інтэрната — поўную жанчыну з кароткай прычоскай і густым яркім макіяжам — і бусла. Звычайны белы бусел з доўгай чырвонай дзюбай, тонкімі нагамі і чорным азадкам. Ён уважліва глянуў на хлопца адным вокам, затым павярнуўся і акуратна, як па балоце ці лузе, пайшоў па доўгім калідоры на выхад.

— Чаго так доўга не адчыняеш, Максім?

Хлопец адарваў заварожаны позірк ад птушкі:

— І вам прывітанне, Ганна Стэфанаўна. Ну, можа, таму, што толькі шэсць гадзін раніцы, выхадны дзень, і я яшчэ сплю.

— Які сон, Максімка? Сёння суботнік! У сем — збор, у восем — пачатак. А пакуль будзеш збірацца, вырашым яшчэ некалькі пытанняў.

З гэтымі словамі яна, не дачакаўшыся запрашэння, упіхнула хлопца ў пакой і зайшла сама. Максім, інжынер, які амаль два гады таму меў гонар размеркавацца ў мястэчка Кудравічы на электралямпавы заводзік, падпарадкаваўся жаночаму націску.

— Суботнік суботнікам, толькі я туды ісці не збіраўся.

— Я-я-к? — вочы кабеты сталі вялікія, што задні колы трактара. — А што скажуць на рабоце? Глядзі ты, калі ласка, а што, а што будзе…

Відавочна, што адмова ад суботніка выклікала эфект сходу лавіны, якая прыціснула, завваліла Ганну Стэфанаўну. Але тая хутка знайшлася:

— Усе вы, размеркаваныя, — няўдзячныя шлёндры. Вам і пакой лепшы, і ўмовы. А вы на другі год пачынаеце хвастом круціць ды нос моршчыць: гэта вам не так, тое вам не гэтак. А потым і ўвогуле «фьюць» — толькі падэшвы ўбачыш.

Максім яшчэ не паспеў адказаць на такі вадаспад папрокаў, як загадчыца зразумела, што праз сварку не даб’ешся таго, за чым прыйшла, і змяніла гнеў на шкадаванне:

— Затое, як прыязджаеце, то вас хоць да раны прыкладай: ветлівыя, рахманыя. Рупішся тут, думаеш, што хоць хто-небудзь застанецца. А вам толькі і трэба, каб усё атрымлівалася хуценька. За два гады хочаце ў кіраўнікі выпхнуцца, э-э-х…

На імгненне ў Максімавым пакоі ўсталявалася цішыня, але хлопец наважыўся яе парушыць:

— То гэта… Вы ж не з-за суботніка прыйшлі.

— А, так, — Ганна Стэфанаўна ажно ўстрапянулася, — не з-за яго. У мяне іншая справа. Па-першае, трэба здаць грошы, а па-другое —паўдзельнічаць у абласной першамайскай дэманстрацыі ад нашага завода.

— І таму вы хочаце, каб я… — Максім хітра прыжмурыў вочы і ўсміхнуўся, бо здагадаўся, што ад яго трэба.

— І таму я хачу, каб ты здаў грошыкі на аздабленне першамайскай калоны сцягамі і транспарантамі, бо старыя знасіліся, і паехаў у Брэст на Першае мая.

Ганна Стэфанаўна прадбачыла адказ хлопца і таму адразу перайшла да ўгаворванняў:

— Ну, хтосьці ж павінен паехаць, Максік. А ты хлопец надзейны. Ды і чым дрэнна: пару гадзін на дэманстрацыю, а там і па святочным горадзе пафланіруеш, у кавярню сходзіш, у парк які. Крэпасць ізноў жа. Ну, згаджайся.

Яшчэ студэнтам Максім вырашыў, што пасля сканчэння ўніверсітэта будзе гаспадаром свайго жыцця. Што ніколі нічога не будзе рабіць пад прымусам ці са страху, напрыклад, страціць працу або пазбавіцца якой прэміі. Бо чаго баяцца яму, маладому, разумнаму, з перспектыўнай прафесіяй чалавеку, які можа перакуліць свет за год ці два. Ды толькі за досыць кароткі час у Кудравічах Максімаў імпэт згас. Не адразу, канечне. І не таму, што хлопец аказаўся баязліўцам, а хутчэй таму, што не вельмі ўтульна чалавеку заўсёды быць у адзіноце. Тым больш, калі змагаешся з дробяззю накшталт выпіскі непатрэбнай газеты, удзелу ў афіцыйным мерапрыемстве ці паходу на заімшэлы нафталінавы канцэрт у гонар яднання пралетарыяў усялякіх краін. Так, крок за крокам, кампраміс за кампрамісам, Максім зліваўся з супрацоўнікамі завода, жыхарамі Кудравіч, сваімі бацькамі і тым, што называецца соцыумам. І толькі раз-пораз ён яшчэ быў здольны на супраціў. Але на гэты месяц супраціву хапіла на суботнік, таму наконт Першамая і грошай спрачацца а шостай раніцы не было ніякага жадання.

— Добра, паеду. Пішыце мяне.

— А грошы? — Ганна Стэфанаўна не верыла свайму шчасцю.

— А грошы — з авансу.

Ганна Стэфанаўна ажно паружавела, задаволеная лёгкай перамогай, чым стала нагадваць квітнеючую клумбу каля дома культуры. Пажадала хлопцу здароўя і вясёлая пабегла ўслед за буслам.

Максім зразумеў, што пасля такога брутальнага наскоку спаць ён не хоча, і вырашыў папіць кавы. Ён сядзеў у камфортным кампутарным крэсле — адзіным прадмеце інтэр’ера, які набываў сам, — і глядзеў у акно. Вясна ў гэтым годзе прыйшла позна, аднак узялася за справы рашуча — за тыдзень-два напрыканцы сакавіка дабіла стомленую, састарэлую зіму і хуценька ўбрала наваколле ў маладую, празрыстую яшчэ зелень. Хлопец сёрбаў каву і думаў пра прыгажосць і дэпрэсіўнасць тутэйшай прыроды ў розныя поры года, пра тое, што надыходзіць час сканчэння адпрацоўкі і яму трэба на нешта рашыцца, што ягоныя сябры, якія засталіся ў сталіцы, мяркуючы па сацыяльных сетках, аб’ехалі палову свету, а ён за гэты час пабываў толькі ў Залессі, Падлессі і Міжлессі.

Пасля размеркавання Максім не заганяўся тым, што яму наканавана на два гады з’ехаць са сталіцы ў глыбінку. Наадварот, ён знаходзіў у гэтым штосьці рамантычнае. Яго захапляла магчымасць пабачыць аўтэнтычны, сапраўдны дух краіны, спазнаць беларускі космас, магію, якую не знайсці сёння ў буйных гарадах. Уяўляліся ганарлівыя старажытныя касцёлы ці магутныя аба-

рончыя цэрквы, якія добра памяталі звон рыцарскіх шпор на сваіх падлогах, шляхецкія сядзібы, якія хаця і былі занядбанымі праз адсутнасць гаспадароў, але ўсё яшчэ фанабэрыста паглядалі на сялянскія хаты. А людзі? Хлопцу здавалася, што з-пад сучаснай вопраткі не-не, ды і прагляне сармацкі кунтуш.

А напраўду выйшла інакш. Касцёл і царква ў Кудравічах былі не магутнымі сівымі старцамі, а стомленымі ад доўгага выканання ролі калгасных складоў небаракамі, адзіны панскі палац згарэў падчас апошняй вайны, а старасвецкія жупаны аказаліся савецкімі гімнасцёркамі.

Тым часам да Максіма ізноў нехта ўваліўся. Без грукату, дазволу і цырымоній. Хлопец прыслухаўся да дыялогу ў калідорчыку.

— Ідзі далей, чаго стаіш у праходзе! — гучна казаў першы, дакладна хлопец.

— Ён яшчэ можа спаць, — адказаў нехта шэптам на прэтэнзію.

— Не спіць. Каб спаў — было б замкнёна, — падсумаваў трэці.

— Ды праходзьце нарэшце! — не вытрымаў Макс.

У пакой уваліліся тры хлопцы, з якімі Максім пасябраваў на заводзе: Генадзь, Раман ды Лёша. Усе як адзін высокія, шыракаплечыя, жылістыя. Толькі Лёша вылучаўся яшчэ і ўпэўненым, разумным, з хітрыкай, позіркам, ды цалкам больш інтэлігентным выглядам у супрацьлегласць сваім сябрам.

— А хто табе вока падправіў? — Максім заўважыў на Раманавым твары вялікі сіняк.

Раман толькі пачырванеў, за яго адказаў Генадзь:

— Участковы ўчора разам са школьным вартаўнікам, калі гэты баран школьнае дрэўца драў, хацеў з сабой знесці.

— А на халеру табе тое дрэўца? — працягваў, ледзь не рагочучы, допыт Максім.

— А яму яно і не трэба, — ізноў азваўся Генадзь. — Гэта было патрэбна гарэлцы, якая была вось тут і, відаць, тут.

Генадзь тыцкаў пальцам у Роміны жывот і галаву.

— Я і сам не ведаю, як яно атрымалася, — развёў рукамі Рома. — Ну, мы дамовіліся з участковым, што я ўсё высаджу ці грошы школе здам.

Тут размову ў іншае рэчышча перавёў Аляксей, які дагэтуль стаяў моўчкі:

— Ты збіраешся, ці мы дарэмна прыйшлі? — звярнуўся ён да гаспадара.

— Куды? — не адразу зразумеў Максім, які і забыўся на сённяшняе мерапрыемства.

— Куды яшчэ можна збірацца суботнім ранкам увесну? — адбіўся пытаннем ад пытання Аляксей.

— Я ж табе казаў яшчэ ўчора, што не пайду.

— Толькі я так і не зразумеў, чаму?

— Бо я вольны чалавек, і ў мяне ёсць права рабіць тое, што я хачу. Свабода, разумееш? Я і так вунь сёння на дэманстрацыю першамайскую пагадзіўся.

— Ты вольны чалавек, — пачаў разважаць Аляксей, — гэта так. І таму ты гожай веснавой раніцай вольна вырашыў сядзець у гэтай цеснай вязніцы ў адзіноце, замест таго, каб правесці яе ў кампаніі такіх вясёлых і бойкіх сяброў. У той час, калі нават я, не супрацоўнік завода, не захацеў тырчаць у сваёй майстэрні. У цябе цікавы погляд на канцэпцыю свабоды.

Максім не ведаў, што і адказаць на такія разважанні. Сядзець тут дакладна будзе сумна, сну — быццам і не было, планаў на дзень — нуль. Ён не першы раз здзівіўся Аляксею. Гэта быў самы незвычайны з ягоных кудравічскіх знаёмых. Адразу пасля сканчэння вучылішча Аляксей вырашыў жыць сваім розумам і працай, з’ехаў ад бацькоў у бабуліну хату і адкрыў там кузню. Усе родныя былі супраць, казалі, што ён толькі змарнуе час, аднак Аляксей не зважаў на гэтыя словы і за некалькі гадоў стаў вядомым на ўсю вобласць кавалём. Цвёрды характар, упэўненасць і здоль-

ныя рукі зрабілі яго чалавекам адметным. Ён, канечне, з тутэйшага цеста, ды толькі спечаны трохі па-іншаму.

Таму не дзіва, што Лёшын удзел быў лепшым аргументам.

— Добра! — вырашыўся праз імгненне Максім. — Ты умееш знайсці патрэбныя словы.

Праз дзесяць хвілін хлопцы шыбавалі ў накірунку завода.

На пляцоўцы каля будынка адміністрацыі людзей было шмат. Мужчыны і жанчыны ў рабочай адзежы стаялі купкамі, курылі, штосьці жвава абмяркоўвалі, смяяліся. Максім заўважыў, што вакол некаторых кампаній важна праходжваліся, быццам вартавалі сваіх гаспадароў, буслы. Яшчэ некалькі птушак кружыліся над сходам у небе.

Бусліная гісторыя тутэйшых мясцін зацікавіла Максіма ў той жа дзень, калі ён з'явіўся ў Кудравічах. Тады стомлены пераездам хлопец ладзіў невялікі шпацыр па мястэчку. Каля крамы ён заўважыў цікавую карціну: сагнёная бабуля адарвала кавалачак ад набытага толькі што хлеба і кінула яго буслу, які стаяў на прыступках. Пасля бабця пайшла па сваіх справах, а падсілкаваная птушка не паляцела па сваіх, а заспяшалася, западскоквала, расстаўляючы крылы, наўздагон за старой. Новаспечаны местачковец здзівіўся, але вырашыў, што гэта яе птушка. Некалі, напрыклад, выратаваная. Аднак на гэтым гісторыя не скончылася. Маладзён бачыў, як буслы хадзілі за мясцовымі жыхарамі замест сабак ці котак, як яны, перш чым сесці ў гнёзды, што заўсёды месціліся на прыватных кудравіцкіх падворках, вячэралі разам з гаспадарскімі курамі. Максім вытрымаў тыдзень і ўрэшце спытаўся ў аднаго з новых знаёмых — майстра Мікалая Тадэвушавіча — пра гэткае чалавеча-птушынае сяброўства.

— А-а-а, гэта, — пачаў той. — Дык жывуць яны разам з намі, колькі мы сябе тут памятаем.

— Атрымліваецца, яны прыручаныя?

— Чаму прыручаныя? Звычайныя птушкі: вясной — дахаты, на зіму — у вырай.

— Трохі не разумею.

Хлопец падазраваў, што яму нешта не дагаворваюць, а майстар не разумеў, што можа быць цікавага і незразумелага ў звычайным цягам стагоддзяў мясцовым парадку. Але ўздыхнуў, пачаў цярпліва тлумачыць:

— Разумееш, — даводзіў Мікалай Тадэвушавіч, — так павялося здаўна. Зладзілі некалі буслы свае гнёзды на прыватных падворках. Чаму ім захацелася так блізка да людзей жыць, і калі гэта здарылася, ніхто табе не адкажа. Аднак ты заўваж, што тут у нас або дрэвы высокія каля хат, або адмысловыя вешкі зробленыя, каб птушкам было зручней будавацца. І так, колькі я сябе памятаю, і колькі сябе памяталі мае дзяды і прадзеды, вядуцца птушыныя сем'і побач з чалавечымі. Ліпы ды бярозы абрастаюць гнёздамі, а дзе няма дрэў, людзі ставяць новыя вешкі, каб маладым птушкам было куды вяртацца. Так вядуцца чалавечыя дынастыі побач з дынастыямі буслінымі. А сяброўства? То як тут не пасябруеш, калі столькі гадоў побач?

— І ў вас ёсць свая бусліная сям'я?

— Не разумееш, — уздыхнуў мужчына.

Устаў, пачаў хадзіць вакол хлопца.

— Сваіх бусло́ў тут няма. Ні ў мяне, ні ў каго. Яны нам не належаць. Яны — суседзі, сябры, а не прыватная ўласнасць. А што да мяне, то я сваіх дзюбатых таварышаў страціў. Пасля таго, як нам набудавалі пяток хрушчовак, мясцовыя пачалі кідаць свае хаты і пераязджаць у кватэры. А там, дзе хата пустая, буслы не вядуцца. Нават, калі пад лецішча яе прыстасуеш. Таму калі бачыш чалавека з буслом, ведай: жыве ён не ў кватэры, а там, дзе бацькі ці дзяды ягоныя жылі.

— Шкада, — уздыхнуў Максім.

— Няма чаго шкадаваць. Існую зато па-людску. Цывілізавана!

Максім яшчэ доўга распытваў пра ўсялякія акалічнасці накшталт таго, ці завядуцца буслы, калі гаспадары збудуюць новы прыватны дом у іншым месцы, ці насамрэч прылятаюць адны і тыя ж птушыныя сем'і, ці дынастыі — гэта толькі гучныя словы. Але акрамя «а хто яго ведае», «ну, дык і трэба спытацца ў тых, хто будаваўся» і «да мяне прылятаЛі птушкі аднаго роду, а пра іншых я і не думаў» хлопец нічога не дабіўся.

Мерапрыемствам кіравала некалькі асоб: галоўны інжынер завода, пара майстроў і нейкі чалавек з сельскага савета. Людзей падзялілі на прыкладна роўныя каманды, у кожнай абралі капітана, выдалі інвентар: каму — фарбы з пэндзлямі, каму — малаткі з шуфлямі, і пад пільным наглядам накіравалі ў кудравічскія ваколіцы.

Максім з сябрамі атрымалі за галоўнага ўсё таго ж Мікалая Тадэвушавіча: мужчыну за пяцьдзесят, з буйной галавой, пузатага, сівавусага і з кулакамі, як дзве гіры. Яны загрузіліся ў прычэп стомленага хрыпатага трактара, дзе ляжаў сякі-такі рыштунак, і паехалі, затрэсліся за межы мястэчка да гаспадарчага двара тутэйшага калгаса. Ехалі моўчкі. Хтосьці курыў. Максім азіраў з цікавасцю наваколле, усміхаўся, задаволены тым, што не застаўся дома, а за трактарам невысока ляцеў белы бусел. Аляксей доўга сачыў за птушкай, а потым плюнуў, гыркнуў раззлавана:

— І чаго, халера, ежу шукаць не ляціць? Ізноў будзе вечарам дзюбай па шыферы грукацець, прасіць, каб пакармілі.

Трактар спыніўся метраў за пяцьсот ад фермы.

— Выгружайцеся, хлопчыкі, — Мікалай Тадэвушавіч зухавата саскочыў з прычэпа. — Вось ён, наш кліент. Калі хто не ведае, гэта стары панскі млын. Тут будзе ворнае поле, таму яго трэба знесці.

Хлопцы ўтаропіліся ў ахвяру навацый.

Млын выглядаў асірацелым, пакінутым. Аднак будынак мужна змагаўся з узростам: быў яшчэ моцным высокі падмурак з абчасанага каменя і збольшага трывалым мур з чырвонай цэглы, на месцы стаялі і абодва франтоны з круглымі вокнамі. Толькі дах не вытрымаў навалы гадоў, спарахнеў і ўваліўся ўнутр пабудовы. І такі, трохі пашарпаны, закінуты чалавекам, з бруднымі надпісамі на сценах, ён усё яшчэ высакародным панам выбіваўся на балі нягеглых калгасных кароўнікаў.

— Кувалдамі і ламамі? — нарэшце абурыўся Раман, ацаніўшы свае інструменты.

Яго падтрымаў Генадзь:

— Мы тут і за тыдзень не ўправімся.

Але Мікалай Тадэвушавіч захоўваў спакой.

— Упраўляцца будзе пагрузчык, які прыедзе гадзіны праз дзве, а, можа, і раней. Таму кувалдамі і ламамі, як ты кажаш, мы будзем усяго толькі біць вялікія кавалкі сцен на малыя, каб было прасцей смецце грузіць і вывозіць. Зразумела?

Хлопцы сінхронна кіўнулі галовамі.

— А пакуль чакаем, — працягваў майстар. — Можаце пазмагацца з мурамі ўручную, паказаць сваю маладзецкасць.

Раман з Генадзем адразу схапілі кувалды, неяк па-дурному нагатнулі і скіраваліся да млына, калі іх спыніла Максімава рэзкае «стойце!». Усе аслупянелі ад нечаканасці, і толькі Аляксей, які прысеў каля прычэпа, усміхнуўся і палез у кішэню па цыгарэты. А Максім хутка падышоў да млына і асцярожна дакрануўся да чырвонай сцяны, мякка правёў далонню па шурпатым камяням фундамента.

— Што такое, хлопчык? — Мікалай Тадэвушавіч глядзеў на гэтую сцэну круглымі ад здзіўлення вачыма.

— Як што? — павярнуўся да яго Максім. — Гэта ж помнік! Куды яго руйнаваць? Для поля так патрэбны гэты лапік зямлі?

— А-а-а, вось яно што, — выдыхнуў майстар з палёгкай. — Ну, па-першае, не нам вырашаць, што бурыць, а што — не. План суботніка ўзгоднены. А па-другое, які гэта помнік? Ён лічыцца на балансе калгаса, калгас вырашыў знесці сваю маёмасць. Якія тут могуць быць пытанні?

— Ну, гэта ж няправільна. Гістарычны будынак. Тым больш прыгожы, моцны яшчэ і … — нязломна працягваў Максім.

— Паслухай, *гродскі*, — не вытрымаў, раздражніўся, перарваў хлопца мужчына, і ягоныя вусы ганарыста захадзілі пад носам. — Чаму ты такі нястомны? Кажу табе, што рашэнне прынята. І тым больш на помніках, наколькі я ведаю, маюцца спецыяльныя шыльды. Ты бачыш тут шыльду?

— І што цяпер? — уставіў хлопец. — Шыльда мусіць галаву на плячах замяніць? Няма вачэй ўбачыць, што гэта помнік?

— Ды які помнік! — стары тубылец трохі супакоіўся, засмяяўся. — Панскі млын, гаспадарчая пабудова. Што тут ад помніка? Тут паны-сквалыгі з нашых мужыкоў тры шкуры дралі за смол, а ён выгароджвае. По-о-омнік! Хіба што помнік прыгнёту. Таму давай, канчай мітынг, бо ты не ў сталіцы.

Максім, засмучаны непазбежным, больш спрачацца не стаў, адышоў. Цяжкае, пагардлівае «*гродскі*» астудзіла запал. Хлопец задумаўся пра тое, што можна маленькім каменьчыкам трапіць у тутэйшую дрыгву, праляжаць у ёй стагоддзі, ды так назаўсёды і застацца для мясцовых «гродскім». Прыкладна, як і бядак-млын.

У гэты час гучнае «дзон» стукнула Максіму па вушах. То Раман пацэліў кувалдай па падмурку. Не прымусіў сябе доўга чакаць і Генадзь: глухім «гуп» адазвалася чырвоная цэгла на ягоны ўдар. Млын нібы ўстрапянуўся, задрыжэў і прачнуўся. Маленькія каменьчыкі, як слёзы, пасыпаліся, пакаціліся зверху, ад сцен крывавымі пырскамі паляцелі чырвоныя цагляныя аскепкі.

Рэха неслася па наваколлі, быццам хтосьці выбіваў каменны дыван. І раптам з пылам, смеццем і будаўнічым растворам з млына вытрэслі прывід. Шэра-празрысты хударлявы мужык з доўгімі вусамі, астрыжаны пад гаршчок, у шырокіх нагавіцах, кашулі навыпуск і апранутай паверх яе скуранай камізэльцы вываліўся праз чорную пашчу дзвярэй. Млынар. Ён разгублена азірнуўся, падбег да хлопцаў і паспрабаваў перахапіць іх удары. Не здолеў. Не схапіць фантомнымі, нежывымі рукамі моцныя працоўныя рукі жывых. Млынар штосьці даводзіў Мікалаю Тадэвушавічу, падбягаў да Аляксея і, відаць, заклікаў спыніць сяброў, паказваў на іх вузлаватымі пальцамі. Ды ўсё марна: людзі глядзелі скрозь здань. І тут прывід адчуў на сабе позірк. Ён азірнуўся і сустрэўся вачыма з Максімам. Хлопец без здзіўлення і з жалем глядзеў на небараку. Млынар усё зразумеў: ягоны дом, апошні прытулак, было не ўратаваць. Гвалтоўна выселены прывід падышоў да Максіма, тужліва глянуў у вочы, і, знайшоўшы ў іх спачуванне, маркотна пацёгся ў накірунку мястэчка.

— Н-у-у, гэта дакладна не пан, — казаў сам сабе Максім. — А тым больш не сквалыга. Звычайны местачковец. І як за стары млын хваляваўся! Ну што за людзі? Разбуральнікі! Як? Як можна ламаць прыгажосць толькі за тое, што на ёй няма шыльды? Але гэта без мяне, сябры, без мяне…

Хлопец глянуў на млын — развітаўся і пашыбаваў да фермы, дзе працавалі іншыя.

— Ты гэта куды? — пачуў ён уладны голас Мікалая Тадэвушавіча.

Азірнуўся і рэзка кінуў у адказ:

— Кароўнікі фарбаваць. Сёння я буду ствараць, а не разбураць.

— Чакай! — усхапіўся Аляксей. — Разам пойдзем.

І пабег за Максімам на вачах у здзіўленых дзецюкоў.

Дзень набліжаўся да сярэдзіны. Сонца агромністай жоўтай плямінай сядзела на суцэльна блакітным, без адзінага воблачка, небасхіле, пагрузчык спяшаўся на дапамогу тым, хто хацеў руйнаваць, а Аляксееў сусед, нарэшце, прыняўся шукаць сняданак на лузе. Увечары, відаць, не будзе дзяўбці па страсе.



Бажэна Мацюк



**нарадзілася 8 чэрвеня 1991 года ў Вілейцы. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, зараз — вядучы рэдактар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, галоўны спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У кожным вершы шукае магчымасць стаць лепшай праз імкненне да святла і чысціні.**

## Змяніць сусвет

***

*Навукоўцы даказалі, што любы псіхічны боль цягнецца 12 хвілін, усе астатнія перажыванні мы абуджаем самі.*

Адбаліць. Праз дванаццаць хвілін. Пачакай.
І не будзе ні слёз, ні адчаю ніколі.
Зноў заб'ецца зламанае сэрца паволі,
Растрывожана сонца кране небакрай.

Адзінаццаць. Сляза — быццам здань — на шчацэ
Высыхае і больш не прыносіць маркоту.
Я кахала цябе… Абдыму адзіноту
І адчую палёгку ад ветру ў руцэ.

Чуеш — дзесяць — застылі не тут, а ўбаку
Успаміны, міргнулі і зніклі раптоўна…
Запісаўшы на аркушы — дзевяць — даслоўна,
Патаплю горыч кавы і дня ў малаку.

Аджывалі і — восем — лічылі дарма,
Што не здолеем — сем — ні
за што мы ўхапіцца —
Шэсць — павінны былі да канца памыліцца —
Пяць, чатыры — спыніліся — тры — дзе мы? — два…

Адбалела. Адзін. Не вярнуцца туды.
Пасівелыя скроні. Пабітыя рукі.
Смак твой, водар. І дотыкі… Чуюцца гукі…
Не, дванаццаць — так мала… Павер. Сапраўды.

***

Пад тонкім алоўкам — хвіліны сустрэчы,
І ціха знікае расквечаны дым…
Мы моцна кахаем — але недарэчы…
І крочым кудысьці адзін за адным…

Ты думаеш, нехта пачуцці не цэніць?
Павер, я ад іх не змагла б уцячы:
Мяне неадступная памяць не зменіць,
Бо час неадчэпны не здольны лячыць.

Чарніла слязьмі размываецца лёгка,
А тонкі аловак не сцерці за раз…
Што прыйдзе за гэтым: цяжар ці палёгка?
Што будзе? Ніхто не адкажа за нас…

## Ад вайны 40-х да вайны сучаснай

Вайна глядзела ў вочы чалавецтву,
Знішчала край працягнутай рукой,
Гасцінна расчыняла дзверы бедству
І заклікала ў пекла за сабой.

Ішлі салдаты на салдат варожых:
За куляй — выбух, побач з ранай — смерць.
Вайна вітала ўсіх на раздарожжы
І забірала ў вечнасць душаў чвэрць.

Глядзелі маці на дзяцей забітых,
Сыны бацькоў хавалі са слязьмі,
Крышыліся ад жаху маналіты —
Вайна гуляла гульма між людзьмі.

Мінулі дні забойстваў і калецтваў —
Вайна пайшла. Пайшла, але куды?
Яна цябе не кіне, чалавецтва, —
Суседні край знайшоў яе сляды…

***

Мінулае крочыць за мною —
Няспынна распальвае мрою,
Знішчае няўпэўненасць-зброю,
Няўмольна вярэдзіць душу.
У прыпавесць словы кладуцца,
Што трэба нарэшце ўсміхнуцца,
У шчасце сваё апрануцца,
Гасцінцам закрэсліць шашу.

Нанова заззяюць усходы,
Па закліках зменлівай моды
Пачуюцца гімны і оды,
І сонца прачнецца прамень.
Вось толькі паэткі не стане:
Балючае з ёю расстанне,
Смяротнае — наша яднанне,
А выбар — мінулага цень…

***

Пра што пісаць?
Здаецца, быццам восень
Стамілася, — ужо сталець не просіць
І белым павуціннем просінь
Накрылася — чысцінь нябёсаў досыць,
Чакайце да вясны!
Пустыя бачу сны,
І больш не плача сэрца,
Душа ад болю на шматкі не рвецца —
Мне мала музыкі нястомнай кілагерцаў…
Знікалі думкі — слова не імкнецца
Цябе пісаць…

***

Змяніць Сусвет — кахаць да забыцця!
І кожны дзень збіраць усмешак кошык —
На ўсім вакол пакінуць тонкі почырк
Твайго-майго кахання і жыцця...

Пяшчотны гук імёнаў дарагіх
Схаваць ад сноў у скрыні нашых сэрцаў —
У іх пяшчоты хопіць, мне здаецца,
Табе і мне — адной душы дваіх.

І крочыць зноў туды, дзе пачуццё
Сустрэне нас за вэлюмам гасцінна, —
Там крылы зноў разгорнуцца за спінай,
Дзе мы з табой — сапраўднае зліццё.

## Развітальнае

Якая ёсць… А што шукаеш ты
Сярод блазноты, пыхі і вар'яцтва
У краі, дзе на клей змянілі ткацтва,
А на татэм — крыж веры залаты?

Не прыніжай! І твой спрадвечны шлях
Змяніўся ўпотай брукам бездакорным
Да хаты, дзе мацнейшы — Богу роўны,
Пяшчоты рух зрываўся на замах.

Адчай пакінь — пакінь і не вяртай.
І не вяртайся, страціўшы надзею, —
Мне самасць будзе лепшай прывілеяй,
Пакуль шукаць ты будзеш вечны рай.



Аляксандра Хамянок



**нарадзілася 20 чэрвеня 1984 года ў Мсціслаўлі ў сям'і медыкаў. Жыве ў Мінску. Юрыст па адукацыі, мае ступень магістра права. Піша апавяданні для дарослых і казкі для дзяцей на рускай, беларускай і англійскай мовах. Цікавіцца медыцынскім правам, займаецца плаваннем, лепіць падсвечнікі з гіпсу. Замужам, маці дзвюх дачушак.**

# Сябар

З падзякай Валерыю Новікаву.
*Аўтар*

*Буду завжди, ти так і знай,*
*Другом твоїм, ну і нехай,*
*Буду завжди, ти так і знай,*
*Другом твоїм...*

*О.Е.*

З Ромкам мяне пазнаёміў выпадак. Бацькі былі суседзямі па дачы ў «Палявым», і мы, яшчэ дзецьмі, хадзілі адзін да аднаго ў госці і незадаволена хмыкалі. І ненавідзелі гэтыя паходы. У пачатку нулявых, калі я паступіла ва ўніверсітэт, тата вырашыў, што дом у дачным пасёлку нам больш непатрэбны. Ромава маці, Лайма Аляксандраўна (для мяне проста цётка Лайма), угаворвала яго пачакаць — так ёй не хацелася новых суседзяў прыручаць. Але дарма.

— Хто за домам зімой глядзець будзе? — пытаўся (не без падстаў) тата. — Яго ж тапіць трэба, а ў мяне, сама разумееш, узрост. Я, можа, у горад да цябе перабяруся. А дом — гэта нібыта якар. У мяне даўно пытаюцца, ці не збіраюся я яго прадаваць.

І сабраўся. І прадаў. На дзень нараджэння я атрымала стары «Ровер», тата — згрызоты сумлення. Новыя гаспадары, масквічы, абнеслі яго высокім металічным плотам і рэтыраваліся. Дом пуставаў і павольна гніў. Першы час я ўсё ірвалася ў «Палявы», марыла прыціснуцца да плота, пацалаваць прызбу, удыхнуць дзяцінства.

— Лепш ты запомні яго такім, якім ён быў раней. Цяпер яго толькі пашкадаваць можна, — падбадзёрваў мяне тата і дадаваў: — Пратраціў я крышачку, пратраціў.

На некалькі гадоў «Палявы» знік з майго жыцця, як знікае ў нетрах гарышча дакучлівая дзіцячая цацка. Знаёмы паварот нудна ныў «павярні-і», але я затрымлівала дыханне і ціснула на газ. Калі тата пераехаў у горад, сувязь з пасёлкам канчаткова абарвалася. Затое адужала з Ромам. Ён паспеў паступіць у каледж сувязі, кінуць яго і спазнаваў гарадское жыццё праз экран камп'ютара, самастойна асвойваючы тэхнічныя дысцыпліны.

— З табою нават пагаварыць можна! — любіў паўтараць ён на трэцяй гадзіне нашых начных вячорак. Іншага вольнага часу ў Ромы не было.

Я ганарылася, што мне ёсць чым здзівіць яго інжынерны розум, і прырастала да невядомага мне дагэтуль Ромы-не-суседа-па-дачы. Са мной такое было ўпершыню — хацелася несупынна балбатаць і, развесіўшы вушы, слухаць. Я магла сарвацца да яго позна вечарам і не пазнавала сябе ў гэтых парывах. Я толкам ні з кім не сябравала і не ведала, як распазнаць гэтую «хваробу». Мы маглі выпадкова сустрэцца ў парку або гаспадарчым аддзеле цэнтральнага

ўнівермага, і ніхто з нас не здзіўляўся гэтаму. Бывала, мы да позняй ночы сядзелі ў яго казённых пакоях-блізнятах, якія змянялі адзін аднаго, і разважалі пра космас, тэхналагічны прагрэс і чорт ведае яшчэ пра якія матэрыі. Зімой мы ўсё больш віртуалізаваліся: чыталі сачыненні, пісалі прыкра салодкую ерась з нагоды і без у чаце і спамілі скрыні летнімі малюначкамі. Вясна дзяжурна прыносіла палёгку і доўгія прагулкі а-ля «бывай, апошняя пара» і «хэлоў, вымова за прагул». Мы цягалі адзін аднаму правіянт (я яму — арэхі і аўсянку, ён мне — спецыі і гарбату), абменьваліся абавязкамі, шапкамі і маралямі. Мы пасябравалі — як Губка Боб і Патрык, як Боні і Клайд, як Джобс і... (з кім ён там сябраваў?). Але пры староннiх сябрамі сябе не называлі праз забабоны. І, як аказалася, недарма.

Ромка настаяў, каб пасля першай летняй практыкі я прыехала да іх на дачу, маўляў, мама сумуе, і маліна саспела. Я, вядома, прыехала. І засталася да канца лета. З таго часу ўсе студэнцкія вакацыі я праводзіла ў «Палявым», пазней — увесь адпачынак. «Наш» дом абжывалі трэцiя гаспадары, але да таго часу мяне мала хваляваў яго лёс. Перахварэла, відаць.

Цётка Лайма часта гасцявала ў сваёй сястры ў горадзе, таму мы з Ромкам амаль увесь час былі прадастаўлены адзін аднаму: глядзелі індыйскія фільмы, слухалі аўдыёкніжкі, спявалі пад гітару (а потым чамусь спалілі яе на вогнішчы разам з бухгалтарскімі часопісамі і іншымі «Лізамі»), ляпілі гліняных Буд, пілі гарбату і спусташалі градкі з ягадамі за размовамі, якія перацякалі ў сон. Так Рома стаў маім лепшым сябрам.

— А давай песню запішам! — прапанаваў ён неяк у чэрвені і пасвяціў ліхтарыкам на падрапаную электрагітару.

Так у нас з’явілася свая песня. Гэтакі гімн. Перадаючы мікрафон, мы па чарзе паказвалі Лагуценку, стагналі паміж куплетамі, а потым рагаталі, слухаючы атрыманую недарэчную пародыю. Так праходзілі летнія месяцы, і мы раз’язджаліся, задаволеныя, у свае здымныя гарадскія светы, у поўнай упэўненасці, што такога лета больш не будзе. І кожны раз памыляліся. Год за годам наша гісторыя абрастала вогнішчамі, познімі вячэрамі, кававымі раніцамі, рачнымі традыцыямі, смешнымі рытуаламі і яшчэ чымсьці светлым з пахам чабару, мяты і сліў. Так мы пісалі агульную гісторыю аб нашым сяброўстве.

Калі я прыехала ў «Палявы» мінулым летам, безнадзейна пузатая, Рому было не пазнаць (так, ён умеў уражваць) — ён нагадваў скамечаны ліст паперы, блытаўся ў словах і недарэчна каламбурыў. Ён быў пастрыжаны «пад нуль» і «за пазухай» меў дзяўчыну, якую называў не інакш як «мая нявеста». Убачыўшы мяне ў дзвярах, ён змяніўся ў твары, які за секунду як бы споўз уніз, пацямнеў. Рома толькі мацней прыціснуў да сябе кучаравае стварэнне, аб якім я не ведала нічога, апроч імя. Маё «та-да-амм» прыйшлося не да месца, а яго сухое «прывітанне» нагадала храбусценне кукурузных палачак. Ідавочнае кальнула ў грудзі. Паміж намі вырасла кучаравая Бярлінская сцяна. Ці мой жывот.

Кучараўка ўпарта цясніла разважлівасць з Ромавай галавы, мяне — з Ромавага жыцця. Ён ўсё радзей глядзеў у мой бок. Часам мы сутыкаліся з ім у яблыневым садзе за домам: тады Рома складваў рукі на грудзях і жадаў мне чагосьці на хіндзі, а потым выдаляўся ў другі канец саду і падоўгу чытаў, а часам і спяваў мантры (і як добра гэта ў яго атрымлівалася!). Мае спробы пазнаёміцца з «нявестай» бліжэй ён рэзка перарываў — на мае пытанні адказваў коратка «потым» і «мы занятыя». Дзверы ў іх пакой былі ўвесь час зачынены — адтуль цягнула травянымі пахамі і гаспадарчым мылам. І я перастала настойваць.

«Новага» Рому хапіла на тыдзень. Падставы не трэба было даваць. «Нагода» сама знайшла Рому паўгода таму праз сацыяльныя сеткі і цяпер насіла яго вопратку і карміла пад яблынямі вегетарыянскімі абедамі. Той дзень абяцаў быць пагодлівым і ніяк не апошнім. Але гелій у Ромавай галаве ўскіпеў, і ён проста выставіў мяне за дзверы.

— Ты агідная, хлуслівая і бессаромная! — крычаў ён мне, нібы сонечная ўспышка выбіла з яго ўсё святое і выпаліла памяць. — Калі б не тваё становішча, урэзаў бы табе. Збірай свае рэчы і... валі адсюль!

Кучараўка павольна памешвала гародніну ў патэльні.

Цётка Лайма прыбегла на крык і стала каля мяне, але не рызыкнула аспрэчыць словы сына. Рэчы, распакаваныя напалову, віхурай паляцелі ў сумку.

— Застанься, — прасіла цётка Лайма, — ён астыне. Даруй яму.

Я сарвала машыну з месца — дружбе прыйшоў гамон. Рома быў маім адзіным сябрам. Маім вернісажам. Правальным і павучальным.

Бо выбраў, на жаль, — ах, не мяне.

— Здраднік! — сказала я люстэрку задняга віду.

***

Гэтым летам паварот усё ж спакусіў мяне, і я павярнула на прасёлкавую дарогу, якая вядзе да знаёмага яблыневага саду. Сустрэча з мінулым была выпадковай. І непазбежнай. Я спынілася каля рэчкі, і знаёмы водар скошанай травы ўрэзаўся ў нос. Штурхаючы перад сабой каляску, я ішла ўздоўж берага — так хацелася паказаць сыну месцы-дэкарацыі майго дзяцінства. Луг упіваўся сваёй адзінотай, і толькі дзве постаці ўдалечыні выдавалі блізкую прысутнасць чалавека. Я адразу пазнала іх: высокі лысы хлопец, голы да пояса, з палатнянай торбай цераз плячо, і дзяўчына ў (ягонай, несумненна) расцягнутай кофце, з капой кучараў на галаве. Я памахала першая — ён адказаў. Малы закруціўся ў калясцы, маё сэрца зрабіла тое ж самае, нібы ў грудзях яму стала цесна. Быў такі ж сонцапёк, як год таму. Быццам і не было гэтых чатырох сезонаў, нібы яшчэ ўчора я чула Ромаў голас у далёкім куце саду і, не прывітаўшыся, сышла загараць. Час-паплечнік зрабіў мяне маладзейшай і звузіўся да драпіны на душы.

— Прывітанне! — я абняла Рому і ў думках далічыла да дзесяці, каб не заплакаць. Не дапамагло.

— Прабач, — адказаў ён тут жа. — Ты ж ведаеш, якім нясцерпным я магу быць.

Але я не ведала.

Кучараўка, маўклівая і ручная, прысела побач з каляскай і стала паказваць майму сыну кветачкі чабару.

— Ты не нясцерпны, — адказала я і не змагла расціснуць рукі. Ромка гладзіў мяне па спіне і, відаць, лічыў да ста.

Так мы ўпісалі апошні сказ у гісторыю, якой наканавана згарэць на вогнішчы разам са старымі жаночымі часопісамі.

…а сына я Ромам назвала. Таму, што даравала.

## Падаконне

У дзесяць гадоў ты ведаеш пра смерць столькі ж, колькі пра жыццё. Гэта значыць — ні-чо-га. І калі табе пашанцавала, ты бачыла мёртвымі суседскага ката, хамяка свайго аднакласніка ці сваю бабулю. Да апошняй цябе падвялі толькі на хвіліну, так бы мовіць, каб традыцыю падтрымаць. І нават не прымушалі брацы яе за руку ці цалаваць у паўпразрыстую шчаку. Увогуле, гэта не лічыцца. Калі не пашанцавала, віншую, ты — Каця, гэта значыць, я.

**Зіма.** Адразу пасля зімовых канікул я раптам еду ў лагер. І яшчэ больш нечакана вяртаюся адтуль у сярэдзіне змены. За мной прыязджае дзядзька Жэня, кіроўца з мамінай працы, і так па-даросламу кажа аб вострай неабходнасці, шчырай спагадзе і што «усё да лепшага». На ўездзе ў горад прытармажваем ля кветкавага кіёска. Не заглушаючы рухавік, ён бяжыць да зззяючага акенцамі вагончыка і праз хвіліну вяртаецца з букетам чырвоных руж.

— Якія прыгожыя! А для каго гэта? — пытаюся я.

— Гэта для тваёй мамы, — адказвае дзядзька Жэня, нацягваючы ўсмешку, і кладзе іх на пасажырскае сядзенне.

— А-а-а, — працягваю цямлівая, дакладна ведаючы, што дзень нараджэння ў яе толькі праз тры з паловай месяцы.

На ўсялякі выпадак звяраюся з каляндарыкам і нікольні не здзіўляюся сваёй праваце. Пералічваю бутоны — сорак... Змяншаюся да памеру тэніснага мяча і праводжу рэшту дарогі, закапаўшыся тварам у далоні.

Шосты паверх. Ідзём пешшу. На пятым сустракаем жанчыну з чорнай павязкай на галаве. Яна кідае на мяне стомлены погляд і, прыкрываючы рот рукой, паскорвае крок. Я яшчэ не палю, але на апошніх прыступках ужо задыхаюся. Дзверы ў кватэру адчыненыя. Трое мужчын выпіваюць на пляцоўцы. Людзі, якіх я не ведаю, глядзяць на мяне з жалем. «Не таго шкадуеце, паважаныя. Лепш бы абутак знялі». Кветкі займаюць адведзенае ім месца ля мамчыных ног, я — на табурэтцы ля яе галавы. Усё. Скурчваюся да памеру дзірачак у яе вушах. А ў іх такія сціплыя завушніцы...

**Вясна.** Калі падлога вымытая, а люстэрка працёрта, здаецца, што вакол нічога не змянілася. Венік, тэпцікі, чарпак, рондалі, гузікі, бігудзі, запалкі, дыяпраектар — усё, уяўляеш, усё на сваіх месцах. У кватэры, аказваецца, так прасторна, а я ўсё роўна губляюся ў цеснаце пакояў. Сцены ціснуць. Столь падпірае верхавіну. Адна аддушына — акно ў маім пакоі. Бачны лясок, дзе цяпер мама, і шэры будынак выканкама, дзе вісела на дошцы гонару яе фатаграфія, колькі я сябе памятаю. Але акно, як знарок, закупорана. У зазорах паміж рамай

і створкамі — мае старыя шкарпэткі, дзіравыя капронавыя калготкі, падраныя на кавалкі прасціны. І ўсё гэта замуравана пад двума пластамі папяровага скотча. Паветру не пакінулі шанца.

**Лета.** Я — пад наглядам цёткі Светы і яе другога мужа. Дзяцей у іх няма. Са мной ім, напэўна, пашанцавала. Я клапатліва паліваю кактусы і фіялкі, якія мама перасадзіла ў мінулым годзе. Мне падабаецца мацаць шурпатыя лісты, насаджваць на іголкі пальцы, адрываць і выдзіраць іх. Я адзначаю ў нататніку, калі і што квітнее і адцвітае, высыхае і гніе. Фіялка з фіялетавымі кветкамі — мая любімая. Яе я заліваю да краёў. Усё падаконне застаўлена гэтымі лакіраванымі зялёнымі вазонамі — такія ёсць амаль ва ўсіх маіх сяброў. Дакладней, былі. Дакладней, былых сяброў. Цяпер у класе і ў двары я персона нон грата, таму што — сірата. І кветкі — таксама сіроты, бо я не гаспадыня ім, а так, апякун.

**Восень.** Напісала ліст да Бога. Распавяла пра сябе, спытала пра вечнае, паскардзілася на побытавае, папрасіла неабходнае. Праз месяц, да першага снегу, знайшла адказ у крыштальнай салатніцы ў серванце.

*«Дарагая Кацечка! Вельмі рады, што ты напісала. Пажаданні твае мне зразумелыя, па меры магчымасці выканаю іх. Ты малайчына, што стараешся добра вучыцца. У шэрагу выпадкаў гэта можа спатрэбіцца. Праўда, не заўсёды. Галоўнае, гэта навучыцца быць здаровай. Ты пішаш, што ў цябе баліць спіна. Можа, проста носіш цяжкі ранец ўсё больш на адным плячы? А як ты сядзіш за партай? А пішаш як? Сачы за выправай, не чытай лежачы. Часам спіна баліць, калі наплыве хандра або роспач. Трымайся больш бадзёра, ты ж добры чалавек. Выкінь з галавы непакой. Цябе ўсе любяць».*

І подпіс *«Дзед Мароз»*.

Прыгожанькая сублімацыя атрымалася. Ён, аказваецца, існуе.

**Зіма.** Падаконне пустое. Вольнае ад жывога. Фарба дзе-нідзе ператварылася ў завіткі, дзе-нідзе абадралася зусім і агаліла драўлянае нутро. Цяпер яно — прыстанак для слядоў і сведкаў майго існавання: старых гумак, высахлых казюрак, плям ад разлітай гарбаты, максімалісцкіх лозунгаў і засечак, якія адлічваюць дні «да». Акно больш не залепліваюць — хай свішча з усіх дзірак. Хто там вырашыў, што смерць — гэта неабходная ўмова духоўнага абнаўлення? Я, мабыць, пад гэтым падпішуся, а табе не раю. Хоць дарадчык я, як і кветкавод, нікуды няварты. Рабі, як хочаш. Толькі меру ў словах і паліве ведай.

**Вясна. Лета. Восень. Зіма.** Часам адчыню акно насцеж і прагна дыхаю: марозам, дымам, нянавісцю. Захлынаюся крыўдамі. Схіліўшы ўніз галаву, плюю і плачу. Губляю валасы і надзеі. У меру калечу сябе, упрыгожваю рукі парэзамі, абнуляю бровы, дзіраўлю вушы пад наркозам з «адвёрткі» і ніяк, ну, ніяк не магу змірыцца. І зноў лезу ў фортку, як на плаху, дыхаю часта і хрыпла.

**Вясна. Лета. Восень. Зіма.** Дайшла да дзверцаў. Да дзверцаў драўлянай цэркаўкі на пагорку паміж шматпавярхоўкамі. Дарожка да яе клапатліва расчышчаная ад снегу. Вышэйшая справядлівасць у дзеянні. Пытаюся ў прыхаджанкі пра сэнс смерці. Яна на ўзрост мой з дакорам ківае, з пакорай — на досвед Госпада. Кажа мякка, як мама, і безапеляцыйна, як вядучы навін. Гармон веры ў крыві. Пераліванне не па рэлігіі. Але ці мае значэнне, што гэта — хлусня, калі камусьці ад таго лягчэй? Прыступ кашлю валачэ мяне да выхаду. З'язджаю з горачкі на кавалку забытага кімсьці кардону — хочацца хутчэй скончыць з ныццём у лёгкіх. Хутчэй у гурбу. І чорт з ёй, са стэрыльна чыстай дарожкай! Чорт з ёй, чуеш?

**Вясна. Лета. Восень.** Акно вымыта і адчынена. На стале парадак. Стаю на падаконні, трымаюся за карніз. Апранулася як мага больш прыстойна: ваўняныя ласіны, танцавальная спадніца, паласаты швэдар з чужога пляча. Босая. Ногі стынуць, рукі млеюць, мамы няма, Бога таксама. Адзін крок — і я сярод здохлых фіялак. У мокрай, прыцярушанай попелам зямлі.

...Секунда — і чорнае крыло штурхае мяне ў азяблы пакой. Яшчэ адна — і я падаю ніц на прамерзлую падлогу. Хвіліна — што ёсць сіл чапляюся за ложак, радыятар, падаконнік. Гляджу ўніз. Чорнае крыло распласталася на асфальце, нібы нехта вывернуў туды бочку з гудронам. Яно ляжыць нерухома паміж дваровым кветнікам і бетоннай сцяной дома. Я не бачу дэталяў: слёзы паліваюць, заліваюць, захліствають.

Я тану і разрастаюся да памераў сябе самой.

І малюся аб надзённым і вечным.

**Зіма**...

**Вясна. Лета. Восень. І зноў зіма.** Няварта апладысментаў — усяго толькі пералом рабра. Цяпер я ў школу толькі ручку і сшыткі ў папачцы нашу — берагу спіну. Ды і віншаваць няма з чым — пра жыццё я па-ранейшаму нічога не ведаю. Зрэшты, шанцуе мне цяпер значна часцей, і на падаконніку — зноў кветкі. Ну і добра, што самыя непатрабавальныя і не квітнеюць. І не важна, што ў танных пластыкавых вазонах. Затое жывыя. І я разам з імі на падаконніку жыцця, мабыць, затрымаюся.



Анатоль Зэкаў

**нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Паэт, рэдактар, аўтар шматлікіх кніг паэзіі і прозы. Працуе ў розных жанрах, апошнім часам актыўна выходзяць яго дзіцячыя кніжкі. Даволі часта сустракаецца з чытачамі. Для кожнай узроставай аўдыторыі знаходзіць свой ключык: з дзецьмі праводзіць гульнявыя ўрокі, дарослых весяліць пародыямі, а ўвагу моладзі ўтрымлівае інтымнай лірыкай.**



## Што нас заўтра чакае…

***

Неўтаймаваны мой характар —
яго наўрад ці зацугляць,
калі я сам, нібыта трактар,
гатовы ўсё наўсцяж араць,

калі жыць не магу спакойна,
як бы хаваючыся ў цень,
бо й пачуваюся я вольна,
калі ў турботах кожны дзень.

***

Згадваць з сумам былое
я нікому не раю.
Лепей думаць пра тое,
што нас заўтра чакае.

А былое ўсё ззаду,
бы за часу смугою,
і наўрад ці ўжо варта
згадваць сёння пра тое.

Штосьзрабіў,
штось не здолеў,
штось ледзь-ледзь абазначыў.
Ды нічога ўжо болей
табе не перайначыць.

Са шкадобай і сумам
ты былое не згадвай.
Лепш пра тое падумай,
як жыць сёння і заўтра.

***

Нешта здарыцца павінна,
бо патрэбна ўсведамляць,
што за ўсе свае правіны
буду я адказ трымаць.

Позна, можа,
можа, рана —
ведаць не магу таго —
перад Богам я паўстану,
каб, прыйшоўшы да Яго,

у грахах сваіх прызнацца
і раскаяцца ў душы.
Мне няма чаго баяцца,
хоць і шмат у чым грашыў,

бо жыццё яно такое:
ёсць дабро ў ім, ёсць і зло.
Мне няма чаго утойваць,
што было, то ўжо было.

Што зрабіў, з таго нічога
не змагу перарабіць…
Я з мальбой гляджу на Бога.
А смала… Смала кіпіць.

***

Сваім каханнем апаліўшы,
мяне адразу паланіла, бы
у адначассе стаў я іншы,
якім, цябе не ведаўшы, не быў.

І я маліцца ўжо гатовы
на вобраз твой святы, як на абраз,
уранку, удзень і ў вечаровы,
найбольш прыдатны для малітвы час.

Глядзець гатовы на цябе я
і, пэўна, не нагледжуся, бо ты —
мая апошняя надзея
у ціхай адзіноце дзён пустых.

***

Не ведаю, кім ты спаткана
была, калі йшла да мяне,
ды твой пагляд зацалаваны
раптоўна вусны адштурхне,

і да тваіх ужо прыпасці
ім не захочацца зусім —
як быццам свет увесь засціў
той пацалунак твой з другім.

Як ад заразнай, адхіснуся
з суровым гневам уваччу
і да цябе не дакрануся,
хоць дакрануцца і хачу.

Пайду, адрынуўшы каханне,
не азірнуўшыся ў журбе,
каб не вярнулася жаданне
назад вярнуцца да цябе.

***

Сябе мне падманваць наўрад ці
патрэбна, чакаючы час,
калі мы адчуем, што шчасце
быць разам прыйшло і да нас.

Бо покуль чакаеш той час ты,
які яшчэ недзе ў смузе,
дык час на шляхах пакручастых
пачуцці твае растрасе,

душу тваю так расцярэбіць
і нервы зматае ў сувой,
што будзеш сабе не патрэбен,
тым болей – каханай сваёй.

***

Як настрой мой паддасца журбе,
што не хочацца нават і жыць,
забываю я ўсіх, а цябе
не магу, дарагая, забыць,

бо вяртае твой позірк мяне
у той час, дзе не знаўся з журбой,
дзе наяве штодня, як і ў сне,
я, каханая, зноўку з табой.

***

Імкнецца звеку ўгору колас,
каб ветру вольнага ўдыхнуць.
А я на твой знаёмы голас
лячу, каб зноў яго пачуць.

Пачуць, нібыта той званочак,
што абуджае моц і дух.
Я рады ўдзень яму, і ўночы
і хоць куды за ім пайду.

Калі хто й скажа:
«Там край свету», —
гатовы я пайсці й на край
і прамаўляць адно пры гэтым:
«О любы голас, не знікай!»



Валерый Гапееў

# Мая мілая ведзьма

Школьны раман

*(працяг, пачатак ў № 2, 2017)*

Дзверы аўтобуса нарэшце мякка паехалі ўбок, адчыніліся, наш фізік, як апантаны, выскачыў і пайшоў хуткай хадою да могілак. Зразумела, мы пайшлі следам, хоць і не ўсе. Цікава ж. Класуха паспрабавала нас запыніць, але слаба, і яе не паслухаліся. Неяк так атрымалася, я нават здзівіўся, што першым за фізікам ішоў Алег. Мяне дагнала і кранулася рукі Ядвіся. Нечакана быццам статычны зарад электрычнасці казытнуў маю далонь, такі самы, як і тады, у кавярні, ды куды мацнейшы. Я крадком зірнуў на Ядвісю — а ну, раптам насамрэч быў удар токам? Але яна маўчала, глядзела наперад, і я міжволі напяўся — яе вусны былі падцятыя, нават прыкусаныя. Чаго яна так занервавалася разам з фізікам?

Да могілак праз лужок было метраў сто. Пакуль мы дайшлі, нас ужо чакалі — пэўна, усім гэтым вяскоўцам было цікава: во, ехаў аўтобус, спыніўся раптам, бягуць з яго людзі. Мо дапамагаць?

Антось Сямёнавіч пазнаў адну з жанчын, што моўчкі сустракалі нас зацікаўленымі позіркамі, звярнуўся да яе:

— Цётка Адар'я, што ж вы робіце?

Столькі болю было ў яго пытанні, што мне падалося: ён грае на сцэне нейкі спектакль.

— Дык жа во... — разгубілася ад пачутага болю жанчына, — дрэвы старыя прыбралі. Во, начальства раённае кажа: упадуць — помнікі паломяць, ато ж грошы цяперака, як парамантаваць? А ты чаго прыехаў, Антосік, мо дапамагчы?

— Якія старыя? Якія старыя? — амаль застагнаў настаўнік. — Бацька памёр, мы з маці бярозку ля яго магілы пасадзілі — так маці папрасіла, каб пад той бярозкай разам ляжаць! Што я маці сваёй скажу? Той бярозцы — пятнаццаць гадоў, якая яна старая? Што ж вы самі сябе нішчыце?

Не ведаю, як хто, а я здрыгануўся — адчай у словах фізіка быў зусім непадроблены. Ён стаяў паперадзе нас, за ім мы: я, Уладзя, Ядвіся, Юрась, нечакана — Алег, Стась, падыходзілі яшчэ. Калі я азірнуўся — спяшалася і Зіначка.

З натоўпу жанчын, які незаўважна сабраўся перад намі, раптамываліўся, бы той мех, мужчына гадоў пяцідзесяці, з такім вялізным пузам, што я здзівіўся, нечакана падумаўшы пра тое, як ён шкарпэткі нацягвае, хіба такі пагорак не перашкаджае?

— Мужчына, што вы тут дэзарганізуеце наша грамадства? — выдаў гэты таўстун і пасунуўся пузам наперад на настаўніка. Трэба аддаць належнае Антосю Сямёнавічу — ён кроку не ступіў назад.

— Я хачу ведаць, што адбываецца на могілках, дзе пахаваны мой бацька і дзе будзе пахавана мая маці! — нервуючыся, спытаў ён, хацеў нешта яшчэ сказаць, аднак гэты таўстун з узмакрэлым чырвоным тварам перапыніў:

— Хто ты такі, каб мы табе давалі справаздачы? Але, няхай, я скажу: людзі сабралі грошы, нанялі работнікаў, каб яны ліквідавалі на могілках аварыйныя дрэвы. Ёсць пытанні?

— Што? — фізік амаль збялеў, зірнуў за спіну таўстуна на купку жанчын. — Людзі, вы што? Вы самі сабралі грошы, каб цалкам зруйнаваць свае могілкі? Што вы нарабілі? Цётка Адар'я! Вы памраце, вам будзе добра, калі вас пахаваюць на санцапёку?

— Ат, Антосік, якая мне ўжо розніца... — адгукнулася гэтым разам з вінаватасцю ў голасе цётка.

— Дык вам не будзе розніцы, а дзецям? — падхапіў яе словы фізік. — Бацька прасіў перад смерцю: пасадзіце бярозку, вырасце — будзе зацішна вам, цянёчак, больш пасядзіце ля магілкі. Нам што зараз — на пустку прыходзіць?

— Ат, Антосік, мы ж людзі маленькія... От, улада кажа — дрэвы падаюць, помнікі ломяць... лісця ўвосень шмат... — пачала апраўдвацца цётка, і многія з жанок, што стаялі побач, дапытліва нас вывучалі, пачалі ўзірацца сабе ў ногі.

Змену ў настроі жанчын-працаўніц адчуў і пузаты, няйнакш, кіраўнік нейкага мясцовага ўзроўню, бо раз'юшыўся не на жарт, накінуўся на настаўніка:

— Што ты тут дэмагогію разводзіш? Бач, бацька тут пахаваны! Дык прыехаў бы во, дапамог парадак наводзіць! А то, бач, сядзяць сабе ў гарадах, прыязджаюць і давай крытыкаваць мясцовую ўладу: нічога не робіць, гармідар на могілках. Прыбіраем дрэвы, каб людзям меней клопату было, — гэтулькі лісця ляціць! Двойчы на год даводзіцца тут суботнікі арганізоўваць. А на гэты час вас не знайсці! Вось, бач, старыя адно і могуць. Не перашкаджай працаваць, ідзі адгэтуль, разумнік такі. А то міліцыю зараз выклічу, хутка рады дадуць, знайшоўся бэнээфавец!

— Які я вам бэнээфавец? — разгублена прамармытаў Антось Сямёнавіч, збіты з панталыку абсурдным абвінавачваннем. — Вы хоць разумееце насамрэч, што робіце? Вы ж не дрэвы нішчыце, вы падсякаеце пад корань адну з галоўных беларускіх традыцый! — роспачна спрабаваў ён давесці нешта сваё пузатаму.

— А такі, усё ведаю! — пузан хацеў прыўзняць свае грудзі вышэй за жывот, ды ні халеры не атрымалася. — Кірылаўна, хто гэта такі, зараз я патэлефаную, куды варта, — павярнуўся ён да той самай цёткі Адар'і, ігнаруючы Антося Сямёнавіча і нас, што стаялі ў кроку ззаду. Ён дастаў вялікі чорны тэлефон, стаў тыцкаць кароткімі тоўстымі пальцамі ў экран. Відаць, гэты дэвайс яму на днях падагналі ўнукі ці дзеці, бо трымаў ён яго досыць няўпэўнена.

І тут два крокі наперад зрабіў Алег Харужы. І апынуўся далей, чым фізік, амаль перад самым пузам гэтага мясцовага бажка. Той з няўцямнасцю пазіраў на дужага дзецюка перад ім (я ж казаў: Алег — высокі і дужы), тармазнуўся ў сваіх рухах.

Алег цыркнуў слінай між зубоў сабе пад ногі, як умеў рабіць у класе толькі ён, амаль на брудныя туфлі пузана, і спытаў, бы пра нешта нейкае — ну, пра колер аблокаў, напрыклад:

— Ты, хрэн пузаты, за базар адказваеш?

Твар пузана перасмыкнуўся. Было зразумела: ён сцяміў адразу лексіку Алега, у якой хіба дурань не змог бы пачуць крымінальныя ноткі. «За базар адказваеш» — адтуль, з-за крат пайшло, і ў гэтых словах не проста пытанне, а самае жорсткае папярэджанне, якое і цывільным знаёмае, за якім і на смерць пойдуць.

— Ты... ты будзеш палохаць? — паспрабаваў ён сабраць разам рэшткі сваёй смеласці, бо мы ўсе пабачылі — ён затросся. — Ды я цябе зараз...

— Цябе папярэджваюць, а не запалохваюць, чмо! — нечакана ступіў і стаў побач з Алегам Стась, і гэты таўстун знерухомеў. Перад ім, відавочна ж, ніколі раней не паўставалі вось так, наяве, супраць.

— Ды я зараз міліцыю выклічу! — нечакана піскрява крыкнуў ён.

— Ай нашто тая міліцыя Цімафеевіч то ж наш чалавек яго бацька тут пахаваны і маці тут яго жыла і тут яе ён пахавае а сам жа ён настаўнік то ж з вучнямі ён сваімі ўжо даруй ты ім, — раптам адным бясконцым сказам без усялякіх прыпынкаў загаласіла тая самая цётка Адар'я, рыхтык сапраўды хавалі нябожчыка.

Ажно вусцішна стала. Працяла думка, што калі не стану зараз побач з Алегам і Стасем, ніколі сабе не дарую. І я зрабіў два крокі наперад і пабачыў, як гэтыя ж два крокі робіць Юрась, Уладзя і... Ядвіся.

У гэтага таўстуна акругліліся вочы, але… там загарэліся агеньчыкі перамогі — ён пачуў, асэнсаваў нешта значнае для сябе.

— Ага, дык ты настаўнік? От я зараз даведаюся з якой школы, бач, як выхоўвае вучняў сваіх, хай там разбіраюцца, — упэўнена выказаў свае думкі ўголас гэты таўстун, і мы раптам усе — і Алег, які хвіліну таму быў круты і непахісны, і я, упэўнены ў сабе, як Бог у стварэнні сусвету, згубілі галоўнае — перавагу ў сваёй сіле. Гэтая цётка сваім галашэннем зрабіла з нас — смелых і дужых — усяго толькі вучняў. А вучняў ён, пузан, не баяўся. Нам трэба, трэба было нешта яшчэ, апрача нашай рашучасці, але што і адкуль было ўзяць, калі з такім таўстуном, нейкай там мясцовай уладай,— мы сустрэліся ўпершыню. Якія тут словы шукаць? І мы зразумелі ўсе ў тую хвіліну, што калі не выйграем, — наш настаўнік пацерпіць, будзе яму вялікая непрыемнасць. А не выйграць мы не маглі — то быў наш настаўнік, хай мы яго не вельмі любім, але ён нам куды бліжэйшы, чым гэты таўстун і яго каманда бабулек-пенсіянерак. Мы пакуль стаялі — не кідацца ж з кулакамі на яго…

— Ён настаўнік, — раптам загаварыла Ядвіся, якая апынулася крышачку наперадзе ўсіх, незвычайна голасна, урачыста нават.

Пузан зірнуў на Ядвісю напачатку са здзіўленнем, змерыў яе вачыма, бы якое шалудзівае кацяня пад нагамі, але… нешта ў твары дзяўчыны, мабыць, здзівіла яго, бо ён, зіркнуўшы, адвёў было вочы, але зноў паглядзеў на дзяўчыну, цяпер ужо ўтаропіўся, не мог адвесці позірк і нечакана для ўсіх плаксіва амаль залямантаваў, быццам пабачыў перад сабой невытлумачальна страшнае:

— Я зараз пазваню, я пазваню!..

— Нікуды ты не патэлефануеш... — гучна, пераканаўчым голасам пачала казаць Ядвіся, і наступіла поўная цішыня — нават дыханне сваё ўсе вакол утаймавалі. — Перш чым у грамадстве парадак наводзіць, зірні на свой дом і сваю сям'ю: дзе зараз твая жонка... патэлефануй... А потым — правер...

Таўстун пачаў хапаць паветра шырока разяўленым ротам.

— Гэта… не твая… не ваша справа, — віскліва, ажно агідна было пачуць такі віск ад мажнага мужчыны, выціснуў ён з сябе, апусціў руку з тэлефонам долу, заглытнуў адзін і другі раз паветра і закашляўся.

— Хадзем, — Ядвіся павярнулася, мы падпарадкаваліся яе слову, і нават сам настаўнік фізікі паслухмяна пайшоў за намі, угнуўшы галаву. Ля яго прыпынілася расчырванелая Зінаіда Мартынаўна. Мы не хацелі, але пачулі:

— Што там такое, Антосік? Што здарылася?

Усе паскорылі крок, каб не чуць размовы настаўнікаў.

За нашымі спінамі на могілках таўстун усё кашляў, ніяк не мог супыніцца. Стаяла жанчын з дзесяць побач з ім і за ім, але ніхто не кратаўся з месца — яны глядзелі ўслед нам.

Ля аўтобуса мы сталі, чакалі, пакуль яны падыдуць — класуха і фізік. Зінаіда Мартынаўна пайшла ў салон, моўчкі, нібы не яе то была справа — аддаць нам загад заняць свае месцы.

Антось Сямёнавіч без ценю ніякаватасці, але з просьбай у голасе, запытаў:

— Хто курыць?

Алег з падкрэсленай увагай дастаў пачак цыгарэт з унутранай кішэні курткі, падаў фізіку, яшчэ працягнуў запальнічку. Антось Сямёнавіч прыпаліў цыгарэту, вярнуў запальнічку і мякка загадаў нам:

— Сядайце ў аўтобус… я хутка.

Нечакана я пашкадаваў, што не куру.

Да самага Нясвіжа ў аўтобусе было ціха. Трохі развеяліся ў замку — усё ж было цікава. А калі накуплялі рознай колы і булак, настрой палепшыўся ва ўсіх. Хоць ранішняй бестурботнасці не было. І фізіка, і Зінačку як падмянілі — яны не прыкрыквалі на нас, звярталіся калі да каго — па імёнах, з такой… павагай нават ці што. Здавалася, мы ўсе нечакана падраслі гадоў на дзесяць. Ды і мы ўсе, ну, няхай большасць, адчулі нязвыклае для сябе. Я думаў над тым, што фізік з простага настаўніка стаў для нас раптоўна чалавекам, мужчынам. Вось як сусед на пляцоўцы ці нечы бацька…

Я ўсё вышукваў момант, каб сам-насам пабыць з Ядвісяй, мне карцела спытаць, але ж Юрась літаральна прыліп да яе. І тады я бесцырымонна гукнуў Ядвісю. Яна падышла, а Юрась узнагародзіў мяне калючым позіркам.

— Хачу кранууцца яшчэ раз тваёй рукі, — патлумачыў я Ядвісі.

— Кранай, — усміхнулася яна і працягнула мне далонь.

— Не ўдарыць токам?

— Цяпер — не, — усміхнулася Ядвіся вуснамі, а яе вочы глядзелі сур'ёзна і з лёгкім здзіўленнем. — Прабач, я не думала, што ты можаш такое адчуць і напужацца.

— Ды я не напужаўся… Тады не напужаўся. Мне за таго пузана страшна стала. А калі ён не адкашляецца?

— Усё з ім будзе нармальна, — па-змоўніцку шапнула Ядвіся і спытала жартам: — Ты хочаш пра гэта паразмаўляць?

— Не, я ўсё пачуў, — не пакрыўдзіўся я.

Фізік выйшаў з аўтобуса, як толькі мы ўехалі ў горад. Нам таксама няблага было б выйсці — так зручней дадому, але ж мы ведаем правілы: Зінačка ў адказе за тое, каб усе разам даехалі да школы. А потым

ужо — па хатах, і яна будзе абзвоньваць усіх. Тут яна ці непразмерна адказная, але што ўжо зробіш. Гэтым разам, сёння, калі казаць папраўдзе, па-іншаму ўспрымаўся гэты клопат.

Мы не спяшаліся разыходзіцца ад школы, неяк запаволена выгружаліся, не было звычайнага вэрхалу. Няспешна ішлі дадому, як заўсёды, учацвярых. Маўчалі. Не хацелася гаварыць пра нешта значнае, а базарыць дзеля базару — навошта?

— А я грошы не растраціў, — паведаміў Уладзя, калі мы параўняліся з нашай кавярняй. — Хацеў сувенір адзін набыць, а потым забіў — і так іх няма куды ставіць.

— І сувенір такі быў вялікі, як піца? — падтрымаў я Уладзю і дадаў: — У мяне таксама драбяза засталася.

— Тады палічым усё, што маем, — прапанаваў і Юрась.

Палічылі. На маленькую піцу ставала. Есці нам не хацелася, ніхто галодны не быў, але не было ніякага жадання апынуцца ў кватэрнай самоце. Мне падалося, усе чакалі, калі нехта пачне гаварыць пра фізіка і таго пузана. Але пра могілкі пакуль маўчалі.

У кавярні панаваў звычайны паўзмрок, наведвальнікаў трохі было — нам дастаўся крайні ад увахода столік. Наш улюбёны кут быў заняты. Мы даядалі піцу, так і не распачаўшы гаворкі. Урэшце Уладзя старанна выцер вусны, адпіў соку і ціха прамовіў:

— Я вось разумею, што тыя дрэвы на могілках нечым вельмі значныя для фізіка. Але не разумею — чым? Не разумею, чаму яму так балюча стала…

— Запытайма заўтра? — на поўным сур’ёзе прапанаваў я.

— Я упэўнены, звычайны бзік, пасадзіў дрэва — вось і перажывае, — з асуджэннем выказаўся Юрась. — Якая розніца мёртвым, дзе яны ляжаць? Вунь у Амерыцы, бачылі ў фільмах: раўнюткія рады, аднолькавыя магілкі, невялічкія помнікі. Парадак, сістэма. А ў нас — хто на што здатны. Не памяць пра мёртвых шануюць, а адзін перад адным выхваляюцца: хто круцейшы, даражэйшы помнік паставіць, каб усіх здзівіць…

— Не без гэтага, — згадзілася з ім Ядвіся. — Але фізіку стала балюча не проста так…

Да нашага стала падышла афіцыянтка забраць брудны посуд, ля іншага стала тое самае рабіла яшчэ адна дзяўчына. «Нашая» павярнулася да тае і ўголас сказала:

— Я выклікаю міліцыю, што яшчэ рабіць? Ён п’яны зусім, нічога не цяміць, мычыць нешта. А гаспадар папярэдзіў… Ён заўтра мяне выкіне, калі нехта паскардзіцца.

Мы міжволі крадком агледзелі залу. Спінай да нас у дальнім куце, уткнуўшыся ілбом у складзеныя кулакі, сядзеў мужчына.

— Фізік!

Так, у куце быў наш Антось Сямёнавіч — Ядвіся не памылілася.

— І што рабіць? — спалохана спытаў Уладзя.

— Ну, не кідаць жа яго тут, — з асуджэннем, быццам мы ўжо менавіта так і рашылі — кінуць і пайсці, рэзка прамовіла Ядвіся.

— Як усё дастала, — уздыхнуў Юрась і ўзняўся з-за стала.

Антось Сямёнавіч сапраўды амаль нічога не цяміў. І калі ён так паспеў напіцца? Ён павёў асалавелым позіркам — і пазнаў нас нібыта. Пачаў мармытаць нешта невыразнае, кшталту: вось, мае вучні…

— Выведзем яго пакуль на вуліцу, там лаўка ёсць, можа, на свежым паветры трохі ачомаецца, — распарадзілася Ядвіся.

— Каб яшчэ ногі змог перастаўляць, — выказаў спадзяванне Юрась і загадаў мне: — Бярыся з таго боку, як я!

Што ж, досвед у Юрася быў…

На вуліцы прыкметна пашарэла.

— І што далей рабіць? — нервова спытаў у нас Юрась, калі мы даволі лёгка вывелі фізіка на вуліцу і пасадзілі на лаўку. — Дзе ён жыве? Дый грошай на таксоўку няма… тут кінем — яго аббяруць так, што босы прачнецца.

— Грошы ў яго самога можна паглядзець, — нясмела прапанаваў Уладзя. — І тэлефон зірнуць…

Я зразумеў, што мая чарга нешта рабіць, — і палез па кішэнях фізіка. Дастаў партманет і працягнуў Ядвісі. Тэлефон быў не заблакаваны паролем. — Што глядзець?

— Глядзі апошнія выклікі… Мо там маці ёсць… — падказаў Уладзя.

— Адно раніцай адзін званок быў — «Каханая». Тэліць?

— Тэлефануй!

Яшчэ ішоў выклік, а недзе ў падсвядомасці прагучалі словы, якія я чуў сёння, многія чулі, якія мусілі мне падказаць…

— Алё!

Як жа не пазнаць гэты нервовы, узбуджаны голас! Але ж не адключацца…

— Зінаіда Мартынаўна, выбачайце, калі ласка, гэта Кір… Вяргейчык гэта.

— Што здарылася?

Тут я зразумеў, колькі трывогі і болю можна ўкласці ў адно пытанне з двух слоў.

— Нічога не здарылася, — як мог, хутка адказаў я. — Вы не ведаеце адрас Антося Сямёнавіча? Ён… трошкі перапіў, мы не ведаем, дзе ён жыве, каб адвезці…

— Дзе вы, Кірыла?

Я назваў кавярню.

— Я хутка буду, пачакайце, калі ласка. Не кідайце яго!

Я адключыўся. Уладзя, Юрась, Ядвіся маўчалі і глядзелі так, быццам я толькі што гаварыў з прэзідэнтам ЗША.

— Можна было здагадацца яшчэ там, — пасля маўчання пацепнуў плячыма Юрась.

Мінула хвілін дзесяць у поўным маўчанні. Імкліва пад'ехала таксоўка, мы пабачылі там нашу Зіначку. Мы з Юрасём падхапілі пад рукі фізіка. Ён не ачуняў ніколькі — разабрала яшчэ горш, мы літаральна цягнулі яго да машыны. З Зіначкай намагаліся не сустракацца позіркамі.

— Дзякуй вам, — ціха сказала яна, калі мы пасадзілі фізіка на задняе сядзенне.

— Вам хто дапаможа яго дадому давесці? Там ёсць каму? — дзелавіта пацікавіўся Юрась.

— Не… Не ведаю, — разгубілася Зінаіда Мартынаўна.

— Тады мы праедземся, сядай, Кір, — Юрась плюхнуўся ў таксоўку.

— Вас таксоўка назад прывязе, хлопчыкі, — вінавата заспяшалася Зіначка.

— Тады пачакайце мо нас, — кінуў я Уладзю і Ядвісі.

Мы ўправіліся хутка, хвілін за дваццаць. Фізік жыў недалёка, на другім паверсе. Як выявілася — адзін. Ключы былі ў кішэні. Паклалі яго на канапу ў вялікім пакоі, амаль пустым, з мэблі адно і было, што гэтая канапа ды часопісны столік з вялікім старым тэлевізарам. Зіначка выйшла з намі, яшчэ раз падзякавала, разлічылася з таксістам.

Уладзя і Ядвіся чакалі нас.

— Усё норм, — далаў Юрась. — Цела дастаўлена па адрасе і знаходзіцца ў спрыяльным для яго гарызантальным становішчы на мяккай канапе. Зіначка, думаю, паклапоціцца, каб ноч мінула спакойна. Спадзяюся, на гэтым наша місія дакладна завершаная? Калі шчыра, я стаміўся ад сённяшніх… адкрыццяў.

— Усе стаміліся, Юр, — уздыхнула Ядвіся.

Мы пайшлі, і перад тым, як развітацца з Ядвісяй, Уладзя запытаўся больш у яе, вядома, чым у нас усіх:

— Вось не разумею… Ён для яе — Антосік, вырвалася. Ды і бачна ж… Яна для яго — каханая. Па ўзросце падыходзяць. Абое самотныя. Што людзям яшчэ чакаць? Можа, праз гэтыя адносіны наша Зіначка такая?

— Не, не з-за іх, — задумалася Ядвіся. — У нашай Зіначкі нейкі іншы боль, мы пра яго не ведаем. Ды і навошта нам ведаць?

— Ага, менш ведаеш — лепш спіш, — пагадзіўся я.

— «Хто множыць веды, той множыць скруху», — не змог утрымацца Уладзя, каб не сказаць разумнае слоўца.

— Нават вялікія могуць памыляцца, — усміхнулася Ядвіся і нечакана выдала: — Сёння быў цудоўны дзень. Дзякуй вам і да панядзелка!

Заснуць я не мог доўга. Усё круцілася і круцілася ў галаве, думкі скакалі з аднаго эпізоду дня на другі і трэці, а я ўсё перабіраў, перабіраў падзеі, бо нешта выслізгвала са свядомасці, не давала за сябе ўчапіцца. А было яно важным, істотным… Пайшоў на кухню папіць вады. Каб курыў, дык бы сеў ля расчыненага акна… І тут ланцужок, звяно за звяном: фізік закурвае, Алег дастае яму цыгарэты… Алег! Вось яно! Не раздумваючы, схадзіў па тэлефон і набраў Ядвісю. Не стаў выбачацца, што час позні. Мы ж сябры, зразумее…

— Яся, слухай сюды. Вось Алег, якога ніхто ніколі не змог бы западозрыць у сімпатыі да настаўнікаў, раптам першы стаў на абарону фізіка. Хай неяк па-свойму, ён імкнуўся запужаць таго пузана, але ж ён не стаў чакаць падтрымкі, рушыў адзін… Дзіўна… Хто яму фізік? Ды ніхто ж… Настаўнік. Вораг амаль. І двоек Алег нямала адхапіў ад яго. Дык чаму — Алег?

Ядвіся маўчала. Уздыхнула.

— Кір, чаму ты думаеш, што я магу ведаць адказы на твае пытанні?

— А ў каго мне яшчэ спытаць? — сказаў я. — Уладзя не адкажа.

— Чаму ты так думаеш?

— Ну… думаю. Ва Уладзі — гатовыя веды, факты, даты, цытаты… Юрась усё праз сістэмы ды лічбы з мноствамі. А я — проста тупы.

— Ты на камплімент напрошваешся? — пацвеліла Ядвіся. — Не тупы, калі сам сабе такія пытанні задаеш. А я… я ж не ведаю, ці правільна думаю.

— Для мяне ты правільна думаеш, — упэўніў я яе.

— Ну, слухай тады… З іншага боку, Алег зрабіў тое, што і павінен быў зрабіць кожны… каб, да прыкладу, мы былі не вучні, а проста сябры.

— Але мы былі вучні, а Сямёнавіч — настаўнік.

— Тады… Тады я думаю, што бываюць такія моманты, калі не важна хто ёсць хто. І вось быў такі момант. Тут няма розніцы, вучань ты, ці ён настаўнік. Галоўнае — які ты чалавек.

— Крута! — гукнуў я. — Значыць, Алег не такі ўжо і благі.

— А хто яго ў благія запісаў? Ён табе зрабіў нешта дрэннае? — з заўважным асуджэннем запыталася Ядвіся.

— Ды… дзікі, на ўліку ў інспекцыі, яго баяцца.

— Ага, ваўкоў таксама ў лесе баяцца, і ўсе яны ўлічаныя інспекцыяй спецыяльнай, праўда ж?

— Праўда, — прымусова згадзіўся я. — Ты разумная, Яся! Дабранач!

Я ляжаў у ложку і думаў пра тое, што сказала Ядвіся пры развітанні: дзень быў добры. Факт, не самы благі.

## 6

Мяркую, ніводнага ўрока раней усе ў класе так не чакалі, як фізіку ў аўторак. Ну, наконт усіх я, можа, і загнуў, ды разумелі: фізік павінен нешта патлумачыць, значыць, калі каму і нецікава, можна сачкануць на халяву.

Ён і разумеў наша чаканне, таму не стаў гуляць у строгага настаўніка і тупых вучняў. Паклаў журнал на стол, падышоў да акна. Надвор'е было самае восеньскае — крапаў дробны дождж. Мокрыя шыбы, шэры двор, далей — шэры горад. Павярнуўся да нас, нечакана амаль весела ўсміхнуўся:

— Уяўляеце, некалі людзі і уявіць сабе не маглі існаванне электрычнага поля. Дарэчы, хто яго вынайшаў і калі? — ён хутка разгарнуў журнал, зірнуў у яго. — Не бачу лес рук… Вяргейчык, у цябе нешта слаба зусім, ну?

— Фарадэй, у дзевятнаццатым стагоддзі, — упэўнена паўтарыў я шэпт Уладзі ззаду. — Увёў тэрміны электрычнага і магнітнага палёў.

— Так, выдатна… Залічана… Людзі не здагадваліся пра існаванне гравітацыі. А існаванне гравітацыйных хваляў зусім нядаўна даказалі эксперыментальна. Хто даў свету формулу гравітацыі, і як яна запісваецца?

Вось так і пачаўся ўрок — Антось Сямёнавіч расказваў, задаваў пытанні, адначасова ставячы кропкі супраць прозвішчаў тых, хто даваў слушныя адказы (ну, дзве кропкі напрыканцы ўрока — добрая адзнака), і некуды вёў нас — мы адчувалі. Мы назвалі даты стварэння тэлефона і тэлебачання, успомнілі радыё і рэзананс…

— Значыць, электрамагнітная хваля распаўсюджваецца ў прасторы з хуткасцю святла… паводле якога закона?

— Паводле экспаненты, — прагучаў адказ з месца.

— Выдатна, Вільчакаў, а што тое азначае на простай мове?

— Ну… экспанента імкнецца да нуля, але ніколі яго не кранаецца.

— Вось бачыце… — фізік паставіў кропку супраць прозвішча вучня, працягнуў: — А нашы думкі — электрычныя імпульсы. Яны кволыя, але яны ёсць. Яны знікаюць у прасторы з хуткасцю святла… Але ж не знікаюць урэшце. І вось калі недзе за мільёны светавых гадоў адсюль ёсць такі прыёмнік, які можа прыняць такія імпульсы — усе і адразу, расшыфраваць іх — уяўляеце? Мы навучыліся расшыфроўваць гук і выяву, а іншае? Вось я прамаўляю перад вамі, мае думкі, мае эмоцыі і адчуванні цяпер — таксама імпульсы, вось я крануўся стала — пальцы адчулі дошку — паляцелі імпульсы… Хіба гэта не значыць, што ўся, абсалютна ўся інфармацыя пра кожнага з нас штосекундна разлятаецца ва ўсе бакі сусвету? А імпульсы не знікаюць — закон экспаненты. Дык недзе там, на Таў Кіта ёсць такі прыёмнік, на выхадзе якога хіба не мы ўсе? Цалкам жывыя, але ў іншай форме — хвалявай?

— Фантастыка, — упэўнена выказаўся Юрась.

— Ага, фантастыка, — лёгка пагадзіўся фізік. — Хто ў пятнаццатым стагоддзі паверыў бы ў тэлебачанне? Сённяшні смартфон на пачатку дваццатага стагоддзя быў не меншай фантастыкай, хіба не?

— І што з таго? — не адступаў Юрась.

— З таго? Ды тое, дарагі Юрась. Чалавек не знікае наогул. Сённяшняя, уяві, сённяшняя элементарная фізіка гэта даводзіць. А сённяшняя квантавая фізіка даводзіць тваю тэорыю матэматычнага прадказання будучыні, бо ў свеце элементарных часцінак выяўлены факты, калі будучыня ўплывае на сапраўднасць. Але, сябры мае, я вам не пра пекла хачу давесці, дзе на патэльнях будуць смажыць прагульшчыкаў урокаў фізікі. Я пра тое, што ў сусвеце мінулае звязана з сённяшнім, а сённяшняе — з будучыняй…

Фізік зноў адышоў да акна, памаўчаў, потым павярнуўся да нас — і твар яго быў ужо засяроджаны, сумны нават.

— Што робіць чалавека чалавекам? Чаму ёсць немцы, англічане, французы? Пра немца мы кажам — педант, пра англічаніна — пыхлівы, пра француза — рамантык… Чаму немец — немец, а паляк — паляк? — ён задаваў пытанні больш сам сабе, крышку памаўчаў і адказаў: — Бо існуе культура. Яна робіць з чалавека і немца, і француза, і беларуса. А культура — тыя самыя матэрыяльныя і нематэрыяльныя здабыткі, якія належаць аднаму народу, адной краіне. Мова найперш. Традыцыі. Традыцыі будаўніцтва і гуляння вяселляў. Традыцыя сустрэчы гасцей і заляцанняў да дзяўчат. Традыцыі дзяржаўных свят і пахаванняў… Ведаеце, беларусы — адна з тых нацый, якія з асаблівым трапятаннем ставяцца да сваіх продкаў. У нашым народным календары ажно некалькі дзён ушанавання памерлых. У нас найбольш багатыя звычаі, якія не змаглі вынішчыць і семдзесят гадоў савецкага ўладарання. Дык вось нашы могілкі — бы тыя гаёчкі, зялёныя выспы сярод палёў, зацішныя месцы — яны такімі затуляліся нашымі продкамі. Пытанне да нашага Уладзіслава: дзе знаходзяцца ў Беларусі самыя старыя дрэвы, некаторыя з якіх з'яўляюцца помнікамі прыроды?

— На могілках, зразумела ж, — з месца пацінуў плячыма Уладзя.

— А цяпер уявіце: іх там не будзе… Не, я не супраць парадку, і мне даспадобы амерыканскія могілкі — усё пад лінейку, усё аднолькава. Але ж гэта не проста іншая сістэма — гэта іншая культура. Не варожая нам, але цалкам чужая. Радуніцы ў тых самых амерыканцаў не існуе…

— Але навошта зразаюць усе дрэвы? — прагучала мо першае пытанне па тэме.

— У тым і рэч, — уздыхнуў фізік, каторы раз падышоў да акна, і цяпер ён маўчаў куды даўжэй, мабыць, думаў: казаць нам праўду ці не. — Наколькі мне вядома, па ўсёй краіне такая вось… праца ідзе. Могілкі перадаюць на баланс камунальнікаў. Кажуць, калі будзе адзін гаспадар, тады і будзе парадак. Канечне,

чакаецца і плата за пахаванне. У бліжэйшай будучыні. Папаўненне бюджэту. А камунальнікі вырашылі прыбраць усе дрэвы. Ім так сапраўды прасцей, а заадно — дровы будуць, у нас жа, ведаеце, кірунак на выкарыстанне мясцовых відаў паліва, ад газу адмаўляемся, кацельні, як пасля вайны — на дровах...

— Гэта няправільна, — пачуўся голас Ромкі Макара. Фізік зірнуў на яго запытальна, падахвочваючы, і Ромка працягнуў: — Мой дзядзька ў гэтай сістэме працуе. Кажа, адна гігакалорыя цяпла з дроў у паўтара разы даражэй, калі б з газу атрымлівалі. А дроў бракуе, рэжуць, дзе могуць, усцяж дарог усё прыбралі, у гарадах сякуць…

— І то не ўся бяда, — ціха загаварыў фізік. — Кажуць, камунальнікі будуць парадак наводзіць. Значыць, знікне ў чалавека абавязак прыбіраць магілы сваіх родных. Вось у чым галоўная праблема: у чалавека забіраюць яго спрадвечны клопат пра магілы блізкіх. Гэта пачатак разбурэння адной з найгалоўнейшых беларускіх традыцый. А колькі падобных традыцый ужо падсечана пад корань? І кім жа мы станем без нашай культуры? Вось так, сябры. Такая фізіка… Вы не крыўдуйце на мяне, я разумею, што для вас сёння цяжка ўсвядоміць гэтую праблему, гэты боль… так, розумам вы, пэўна ж, усё зразумелі, але тут трошкі іншае патрэбна. Нейкі досвед… душэўны і жыццёвы… Можа, і досвед першай смерці блізкага чалавека, першых важных і балючых для вас хаўтур… А цяпер я шчыра дзякую ўсім вам за той дзень, прыношу вам прабачэнні за сваю нястрыманасць. Некаторым з вас — мая асаблівая ўдзячнасць і мае асаблівыя прабачэнні. Бярэмся за новую тэму!

— А пытанне можна адно?

Гэта Віктар Марыноўскі спытаў. З усмешкай.

— Канечне.

— Дык якая тады сувязь між вашай тэорыяй існавання хвалявага жыцця і косткамі ў глебе? Патлумачце.

Ён усміхаўся паблажліва, зусім не як вучань настаўніку, а як дасведчаны чалавек доўбню. Тое, што Віктар можа быць кампетэнтны ў многіх пытаннях, не навіна. Я ўжо казаў, бацькі яго — чыноўнікі ў выканкаме, то сёе-тое ён ведае добра…

— Не, Віктар, тут нічога звязваць у адзін вузел не буду, — адмовіўся ад тлумачэння фізік. — Ёсць рэчы, над якімі варта падумаць самім.

— Дык я і падумаў, — не збіраўся здавацца Віктар. — Калі існуе жыццё па-за гэтым жыццём, няма ніякага сэнсу ні ў якой культуры, ні, пагатоў, у нейкіх там магілах. Там — усяго толькі косткі. «Хай мерцвякі хаваюць мерцвякоў», — так, здаецца, было сказана?

Віктар адчуваў сябе пераможцам, ён не сумняваўся, што загнаў Антося Сямёнавіча ў лагічны тупік.

— Не, трошкі не так было ў Евангеллі ад Мацвея, — ніколькі не засмуціўся фізік. — Карыстацца Бібліяй варта асцярожна, фразы нельга вырываць з кантэксту, тым больш вольна іх інтэрпрэтаваць. «Ідзі за мной і дай мёртвым хаваць сваіх мерцвякоў…» — так гучыць у Мацвея, а Лука яшчэ дадае: «І прапаведуй Царства Божае». Адно з самых складаных месцаў у Евангеллі… Будзе час — можам паразмаўляць. Пакуль жа скажу, што ў нас, у беларусаў, колькі хрысціянскага, гэтулькі ж і паганскага, свайго, радавога… І што больш робіць нас людзьмі? Па мне — аднолькава абодва фактары. Але — да новай тэмы! Згодны, Віктар?

— Няхай так, — з усмешкай адказаў Віктар, але было бачна, што яго напышлівая перавага знікла, мабыць, ніяк не чакаў, што фізік не менш за яго ведае Біблію.

Мы не каментавалі на перапынку гэты ўрок фізікі, адно ў сталоўцы Юрась, калупнуўшы катлету, пачаў:

— Вось гэтая катлета і макарона — таксама традыцыйныя! Не чакаў…

— Чаго не чакаў? — насцярожыўся я, бо ў голасе Юрася гучаў насмешлівы халадок.

— Ды наш фізік — апазіцыянер.

— І што, не чалавек ужо? — натапырыўся я.

— Не кіпі, нічога я такога не казаў. Ну, насамрэч жа ніяк я асабіста не чакаў, — падаўся назад Юрась.

— Якая розніца, — як малых надакучлівых дзяцей суцішвала, загаварыла Ядвіся. — Не чорт жа лысы, чалавек. І яму баліць!

— А як мне не баліць, дык я не чалавек? — нечакана ціха спытаў Юрась з прыхаваным выклікам у голасе.

— Я такога не гаварыла. Фізік праўду мовіў: для таго, каб усвядоміць, трэба нейкі досвед мець…

— А ў цябе ён ёсць? — уставіў я свае пяць капеек.

— Ёсць, — без ценю крыўды ўздыхнула Ядвіся. — У вёсцы, дзе я нарадзілася, жыла мая бабуля. Я яе вельмі любіла, яна мяне ўзгадавала. Калі яе пахавалі, я колькі дзён з могілак не сыходзіла. Прыйду раніцай — і сяджу да вечара. Там… асаблівае месца. І калі тыя могілкі пачысцяць вось так, усё пад корань, для мяне гэта будзе… будзе балюча.

Памаўчалі. Тут да нас падышоў Ромка Макар.

— Шаноўнае спадарства, бачу, вы ўжо дапіваеце свой кампот, ці магу я выканаць за некага з вас ролю дзяжурнага і аднесці посуд на кухню і чысцютка выцерці ваш стол?

— Мала прагінаешся, ніжэй паспрабуй, ніжэй, — млява заўважыў Юрась і адкінуўся на спінку крэсла. — Прасі!

— Што такое? — Ядвіся запытальна ўзняла вочы.

— Не пужайся. Усё норм, — усміхнуўся я, заспакойваючы яе. — У нашага Ромкі нейкія траблы няпростыя, вось ён і вырашыў памаліцца ля нашага стала.

— Дапамагае? — акідваючы позіркам постаць Ромкі зверху ўніз, папрасіла ўдакладніць Ядвіся.

На Ромку варта паглядзець: чорны гарнітур і чорныя бліскучыя чаравікі, кашуля і гальштук заўжды ў тон. Год таму па яго просьбе, якая пачалася амаль гэтаксама, мы чысцілі двор нейкай бабулькі ад снегу. Ну, быццам БРСМ там праводзіць акцыю: «Ніводнай бабулькі — без чыстага надворку», ці яшчэ як. Дык вось, Ромка нас папрасіў — мы пашыбавалі. Я яго і пытаўся: на халеру табе? Гэты актыў школьны, БРСМ, гэтыя мерапрыемствы ліпавыя (бо ні я, ні Уладзя, які тады кідаў са мной снег, сябрамі БРСМ не былі). Дык вось, Ромка мне тады такое выдаў, што я яго запаважаў. Ён сказаў так:

— Чуеш… Я хачу кіраваць. Вось так. А чаму хачу? Бо хачу нешта змяніць. Мяне так бацька выхаваў: не плач, калі не так робяць, не так кіруюць — бяры і рабі сам, кіруй сам.

— Крута! — без смешачак згадзіўся я. — У прэзідэнты пойдзеш?

— Не гарантую, але буду імкнуцца.

Карацей, нехта мо і пасмяяўся б, а я дык Ромку ўспрыняў сур'ёзна. Мне ён падабаецца — да свайго ідзе настойліва, але ж не па галовах. Вось трэба яму нешта ад нас — ён і посуд гатовы занесці, і стол выцерці, пры гэтым годнасць сваю ніколечкі не губляе. І ведаю: шмат не папросіць. Таму кіўнуў яму ветла:

— Сядай, актывіст. Самі посуд занясём, тут тры кавалеры за адной дамай…

— У любым выпадку, з мяне — пачастунак… — Ромка змяніў тон, прыхапіў вольнае крэсла ад суседняга стала, сеў. — За гэтым сталом — адны з самых разумных галоў класа. То я да вас.

— Можна і да іншых разумных, — буркнуў Юрась, і я падумаў мо ўпершыню, што ён набівае сабе цану.

— А я і не спрачаюся, — лёгка згадзіўся Ромка. — Ды там розум паасобку, а вы — амаль каманда. Вы мне адно можаце дапамагчы.

— А трэба? — спытаў я.

— Трэба, Кір… — нечакана занурыўся Ромка. — Ведаеце, надакучыла даваць нейкія дзяжурныя справаздачы і аднастайныя водпісы. Хачу зрабіць хоць нешта, каб… ну, каб было сапраўднае! А яшчэ, вось прыкінуў, у нас жа столькі талентаў, такое можам замуціць!

— Давай прадметна, — паморшчыўся Юрась. — Званок неўзабаве.

— Прадметна казаць доўга… Застанемся на паўгадзіны пасля заняткаў у класе, а? Я ключы ў Зіначкі вазьму, яна ведае, дазволіць.

Мы пагадзіліся.

Пасля заняткаў у пустым класе Ромка выглядаў куды больш усхваляваным, чым у сталоўцы.

— Вось я калі падышоў да вас, далі вы згоду пагутарыць, і я падумаў: калі гэтулькі нас возьмецца, ну чаму мы будзем абы-што выдаваць, можна ж нешта рэальнае зрабіць, скрэатывіць, каб усім цікава было!

— Блін, ты надакучыў, — не ўтрымаўся Юрась, і я яму падтакнуў:

— Канкрэтызуй, а то пойдзем дахаты!

— Выбірай беларускае! — гаркнуў адчайна Ромка.

Наступіла цішыня, ўрэшце Уладзя, нешта для сябе вылічыўшы, падаў голас:

— Плакат?

— Песня. Ці прыпеўка. Ці відэафільм. Пяць хвілін. Ці дзесяць. Ці тры.

Я ўсё зразумеў і засмяяўся:

— Пайшоў ты, Макар, летась зняў нашу Віялету ў вясёлым строі, як яна так махае рукой — і завод пабудаваўся, яшчэ махае — Лядовы палац. Ну, якога хрэна тут крэатывіць — бяры Віялету і паўтары. Што там у нас пабудавалі? Во, новы гандлёвы комплекс! Дадай поле хлебнае, лінію завадскую…

Не, я ні кропелькі не здзекаваўся, я прапаноўваў выйсце. Чаго дарэмна тлуміць галаву? Напрацаваны сцэнар, кадраў добрых дарабіць — от і маеш відэафільм.

Я заўважыў, што і Юрась, і Уладзя падтрымліваюць мяне: зараз мы ўтрох уперыліся ў Ромку: якога ражна яму яшчэ?

— Ідзіце самі да д'ябла… — стомлена адказаў ён. — Гэта ж апошні год, у наступным — выпускаемся, ніхто грузіць не будзе. Ну… я вас прашу: прыдумаем нешта, а? Вось каб было… ну, не ідэолагам нашым, а ўсім хлопцам і дзяўчатам паглядзець… Хоць нешта сапраўднае пасля сябе і сабе пакінуць… Да Новага года здаць неабходна.

— Тады не пяцёра чалавек трэба задзейнічаць, а ці не ўвесь клас, — увайшоў урэшце ў прапанаваную ролю суаўтара Уладзя. — У кожным разе, чым большая ступень ахопленасці праектам такога кшталту, тым большы поспех.

— Так… — раздумваючы, працягнуў Юрась. — Карацей, зварганіць ролік на пяць хвілін на тэму, як нам добра жывецца?

— Не, не як добра жывецца, — цярпліва выправіў яго Ромка. — Тое ў мінулым годзе было. Цяпер тэма іншая: абіраем беларускае.

— Значыць — абіраем сваё, так? — нечакана гарэзліва, з агеньчыкам у вачах, загаварыла Ядвіся.

— Ну, можна і так сказаць — абіраем сваё, мы ж у сваёй краіне.

— Ну і выдатна! — прыжмурылася Ядвіся і выдала: — Хлопец шукае дзяўчыну і выбірае сваю!

— У вышыванцы! — імгненная думка пранеслася ў маёй галаве, рыхтык Ядвіся перадала яе мне.

— Крута! — падхапіўся з месца Уладзя: — Самая наша тэма!

— Лухта, скажуць, што мы звялі важную ідэалагічную тэму да ўзроўню дзіцячых заляцанняў, — паморшчыўся Юрась.

— Тады — нейкае падарожжа і вяртанне… Адпачынак!

— Відэарад розных пустэльняў і — у процівагу — нашыя лясы…

— Ага, у нас такі сэрвіс — пасмяяцца…

Мы прыдумвалі і абмяркоўвалі ідэю роліка з чвэрць гадзіны. Спрачаліся і крычалі так, што ў клас зазірнула спалоханая прыбіральшчыца, а потым зайшла і завуч Наталля Іванаўна.

— Што тут у вас?

— Ды вось… ідэю фільма абмяркоўваем, Наталля Іванаўна, — патлумачыў без боязі Макар. — На конкурс. Мы спыталі дазволу.

— А ўзровень шуму не абмяркоўвалі пры дамове?

Прыгожая ўсё ж жанчына нашая завуч. Цікава, я неяк раней параўнаў яе і сваю маці. І раптам прыйшла нечаканая думка, што Наталля Іванаўна… ну, яна жыве ў школе. Існуе ў школе. Яна, падалося мне тады, не можа быць маці, гаспадыняй. Хіба можна ўявіць яе, вось усю такую бездакорную знешне, ля пліты? Хіба яна, як мая маці, апранае дома трошкі лінялы халат, павязвае на сябе не самы новы фартух, пераступаючы (бо стамляюцца ногі), абрэзвае бульбу? Варыць суп, смажыць аладкі з ячэйняй? І вось ужо гады два мінула з таго майго параўнання, здаецца, я паразумнеў, а ўсё адно ніяк не магу уявіць сабе Наталлю Іванаўну ў нейкай іншай ролі, апрача ролі завуча. Дарэчы, класную, Зіначку, гэтаксама ўявіць цяжка, але ж

Наталлю Іванаўну — удвая цяжэй. Мо ў яе нейкі асаблівы дом? Асаблівы муж і асаблівыя дзеці? Дарэчы, мы ведаем, што сын і дачка нашага завуча вучацца ў суседняй школе. Дзіўна трошкі…

— А падкажыце нам, Наталля Іванаўна… — раптам вырвалася ў мяне.

Сам не ведаю, чаму я спытаў. І пра што пытацца? Чаму яна мусіць разумець нашы праблемы? Яна ж — завуч…

— Якую ты дапамогу чакаеш, Кірыла? — Наталля Іванаўна запыталася хутка, але з відавочнай разгубленасцю.

— Вось скажыце… Скажыце, у ваш час… — я ліхаманкава шукаў словы, каб не даць згубіцца той думцы, якая прамільгнула, заіскрылася, пачала знікаць, але, якая радасць! — успыхнула з новай сілай, і я выдыхнуў з палёгкай: цяпер не забуду. — Вось вы — дарослы чалавек, а калі былі такой, як мы, вы ж таксама выбіралі… ну, рознае выбіралі… Дык сёння, з вышыні свайго ўзросту, што б вы параілі самой сябе, той, шаснаццацігадовай: што выбраць? Не, не так трошкі, я блытаюся, выбачайце… абіраць многа даводзіцца… Дык вось… Які выбар самы галоўны? Самы-самы важкі? Які, як памылішся, за ўсё даражэй каштуе?

Чамусьці мне было трошкі няёмка глядзець у вочы сябрам. Я ж не пытаўся ў іх дазволу — мы самі павінны былі прыдумаць, а я тут палез па дапамогу да дарослага чалавека ды яшчэ завуча.

Усе сцішыліся. Наталля Іванаўна выцягнула крэсла ў праход, прысела і неяк стомлена ўздыхнула.

Я ўзняў на яе вочы. Яна па чарзе абводзіла нас позіркам — не сур'ёзным, не, а такім вось… клапатлівым ці што. Сумнаватым. Са светлымі агеньчыкамі, можа, — ад успамінаў?

— Дык вы пра гэта і спрачаецеся? — усміхнулася яна мякка і лагодна.

А ў душы нешта спявала і грала: я адчыніў скарбонку, а там — музыка і святло!

— Пра гэта, — уздыхнуў Ромка.

— Калі пра гэта… і так спрачаецеся, значыць, буду казаць вам праўду, — завяла гутарку з усмешкай у вачах Наталля Іванаўна. — Як педагогу, як завучу школы, мне б лепш было расказаць вам пра значнасць таго, што трэба добра здаць экзамены, пра далейшае абранне шляху, пошукі свайго месца ў жыцці, выбар прафесіі, ўрэшце… Але скажу, раз просіце, як жанчына і маці. Я правільна зразумела?

— Правільна…

— Так…

— Тады вось… Бывае цяжка, калі памылішся з выбарам прафесіі, працоўным месцам. Але гэта можна выправіць, і не бывае надта балюча. І ў кожны час мажліва зрабіць. А вось калі памылішся… калі абярэш не таго, з кім па жыцці ісці, — тады бывае надта балюча і вельмі цяжка. Яшчэ тое важна, што не адно табе баліць, а праз цябе — іншаму чалавеку, ды каб аднаму, бывае, у кругаверць уцягваецца шмат людзей, бывае — пакутуюць і дзеці… Вось так, сябры мае…

— Ага, а я вам казала! — выгукнула Ядвіся і зусім па-дзіцячы паказала нам язык. — Дзякуй вам, Наталля Іванаўна!

— Няма за што, — завуч устала, пайшла да дзвярэй, нямоцна стукаючы абцасамі туфелькаў. Азірнулася: — Калі падказала — буду ўсцешаная і разлічваю на першы прагляд. Дамовіліся, Макар?

— Няма праблем, Наталля Іванаўна! — згадзіўся на ўмову Ромка. — Атрымаецца — запросім на першы сумесны!

Завуч выйшла. Нейкі час мы маўчалі.

— Значыцца, хлопец шукае дзяўчыну і знаходзіць сваю... — пачаў Ромка.

— Беларусачку, — падхапіў я.

— Ён яе сустракае недзе ў натоўпе, выпадкова, запамінае твар… — стаў развіваць думку Уладзя.

— На поле жыта жне?

— Банальна! Хай ужо бялізну мые ля ракі…

— У супермаркеце выбірае каўбасу…

— У бібліятэцы!

— Зноў банальна.

— Чытае ў аўтобусе!!! А што — чытанне кнігі сёння — дзівосы!

— А як зняць?

— Пасля… Прыдумаем, намалюем… Добра, сустракае, губляе… шукае як?

— Ходзіць па горадзе… у твары зазірае…

— Ага, мо лепш па лесе?

— Па горадзе! Вось! Усю субкультуруываліць! Ну, ідзе — тут скіны, там антыфа, тут гопнікі, там мажоры…

— Тут панкі, там — лесбіянкі…

Мы захапіліся, мы стваралі сваю гісторыю. Не ведаю, як так атрымалася, але напрыканцы, калі цалкам склаўся сюжэт, Ядвіся з захапленнем паглядзела на мяне і сказала:

— Кір! Ды ў цябе фантазія, бы ў пісьменніка! Усё так прыдумаў!

— Ды разам жа мы прыдумалі, — стаў аднекваца я, але чаго хітрыць перад сабой — мне было прыемна, што Ядвіся заўважыла: вузлавыя моманты сюжэта прапанаваў насамрэч я.

— Эротыкі каб трошкі… — уставіў Уладзя.

Мы ўсе разам пераглянуліся.

— Ну, чаго вы вылупіліся? Ці я першакласнік і не павінен разумець, што пэўная эратычнасць вабіць? Вунь дзяўчынкі ў кароткіх спаднічках на сцэне… ці ў доўгіх, а як крутнецца, — спадніца ўздымаецца, ногі там… Гэта не эратычны момант хіба?

— А справу кажаш, — нечакана падтрымаў Ромка. — Эратычнасць можна ў той момант, дзе ён шукае, уставіць… Скажам, нейкая парачка цалуецца…

— Не, галоўная гераіня будзе мець такую рызіначку… Маленькую, пяшчотную і цнатлівую… Наш герой сустракае групу дзяўчат… на беразе ракі. Яны — у купальніках! — агучыў я сваю ідэю.

— Чакай, мы ж дамовіліся, што сустракаюцца ў аўтобусе, яна кнігу чытае, такі момант знакавы нельга пляжыць! — заўпарціўся Ромка.

— Норм будзе, мы гэты момант — яна чытае кнігу — адносім у канец! Фінал: дзяўчына ў вышыванцы чытае кнігу ў аўтобусе, і яе знаходзіць герой.

— Супер! — выгукнуў Ромка. — Заўтра Марго зробіць фотасесію і скажа, хто падыходзіць на якую ролю, ролю галоўнай гераіні. Але… Ядвіся, будзь ты, га? — нечакана папрасіў ён.

— Ромка, цябе Віялета запіша ў ворагі пад нумарам адзін, — сур'ёзна папярэдзіў я.

— Да д'ябла! — нечакана зазлаваў Ромка. — У яе твар бы ў лялькі, усмешка — штучная, захапленне — напускное, не твар… маска! Мне леташняга роліка да гэтай пары сорамна… Ядвіся!!!

— А Марго мяне забракуе, — усміхнулася дзяўчына.

— Не веру! Ты на відэа яшчэ прыгажэйшая будзеш, упэўнены.

— А каго мне ў героі? Хто мяне шукаць будзе?

Цяпер у словах Ядвісі прабілася дзявочая гуллівасць і сарамлівасць. Мне нават было прыемна заўважыць іх. Што ні кажы, а падабаецца дзяўчатам, калі іх называюць прыгожымі.

Ромка сур'ёзна задумаўся.

— Я хачу, каб то быў чалавек, на якога я магу пакласціся. А пакуль магу толькі вось на трох вас… Яшчэ на Юзіка, але з яго артыст не атрымаецца… Стась? Яму тэкст пісаць… Карацей, Кір! Ты прыдумаў, ты і герой.

— Я згодная, — адразу сказала Ядвіся, не даючы нікому запярэчыць, не чакаючы і маёй згоды. — Кір, хіба адмовішся? — і ўсміхнулася мне так, як не ўсміхалася ніколі. Самая звычайная ўсмешка, здаецца, а ў вачах… было нешта такое, ад чаго ў мяне раптоўна сціснулася горла, і я ўсяго кіўнуў, а потым па-блазенску пакланіўся.

Позна ўвечары я глядзеў першыя серыі новага сезона «Менталіста», а бачыў на экране толькі ўсмешку Ядвісі. Што яшчэ мне зрабіць такое, каб яна ўсміхнулася гэтак жа яшчэ хоць раз?

Назаўтра на першым жа перапынку Ромка не даў нікому выйсці з класа сваёй гучнай заявай:

— Увага! Будзем здымаць кіно! Запрашаем усіх ахвотных!

Загулі, закідалі пытаннямі.

Ромка счакаў хвіліну, даў хвалі апасці і пачаў дзелавіта і па тэме:

— Гэты відэафільм трэба прадставіць на конкурс. Асноўная і галоўная тэма: «Выбіраем беларускае»… Спакойна, не крывіцца, я не скончыў. Сюжэт цалкам прадуманы. Ён такі: наш герой, такі хлопец у кашулі-вышыванцы, з паяском…

— У лапцях!

— Босы!

— З касой…

Ромка ўсміхнууўся ў адказ гэтым прапановам:

— У чым быць героям — усё прадумана ў сцэнары, хопіць крэатыву. Мне патрэбныя зараз толькі тэатральныя здольнасці. Я расказваю сюжэт, кожны можа абраць сваю ролю… Значыцца, наш герой ідзе берагам ракі ці возера і сустракае групу дзяўчат, у купальніках, зразумела. Такі момант эротыкі. У гэтую групу запрашаю ўсіх дзяўчат. Для сціпласці і ўтрымання ў рамках маралі дзяўчаты будуць паказаныя адно да пояса, далей — кусцікі там, ногі знізу да каленяў… Значыць, наш герой натыкаецца на дзяўчат, яны там вішчаць, кідаюцца ў яго…

— Гранатай!

— Усё, досыць! — строга загадаў Ромка ў адрас дасціпніка. — Кідаюцца ў яго там… розным. Наш герой бачыць усіх, але сустракае вочы адной… Успышка! Далей дзяўчаты разбягаюцца, пачынаюцца пошукі героем той самай дзяўчыны. Ён ходзіць вуліцамі, сустракае самыя розныя групы, тут запрашаю ўсіх паспрабаваць сябе ў розных ролях: хіпі, металісты-анархісты, гопнікі, карацей, уся субкультура, увесь трэш. Дазволена курыць, піць піва….

— Піва сапраўднае? Чыё?

— Сапраўднае, я пастаўляю… Але не больш як на тры дублі… Вельмі пажадана, каб яшчэ хто згадзіўся на ролю… э-э-э… прадстаўнікоў нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі, але тут разумею, таму як ужо атрымаецца. Значыць, наш герой ходзіць, зазірае ў вочы…

— Атрымлівае ў лыч…

— Так, і атрымлівае… Але недзе яго і запрашаюць, цягнуць да сябе… Урэшце знаходзіць гераіню, тую сваю дзяўчыну — яна ў аўтобусе чытае кнігу. Апранутая ў вышыванку, беларусачка як мае быць. Фініта ля камедыя. Ну?

І ўсталявалася цішыня.

Мабыць, гэтага Ромка не чакаў, таму і сам з хвіліну разгублена маўчаў. Нерашуча працягнуў:

— Здымаць будзе наша Марго. Тэкст піша Стась. Музыка — яго ж. Ну… за ўдзел у фільме ганарар не прадугледжаны, але ж здымачныя вечары нечым буду разнастайваць, фінішная вечарынка за мой лік…

— На маім лецішчы, — дадаў нечакана ўпэўнена Уладзя, хоць мы пра тое не дамаўляліся. — З шашлыкамі!

— Круць! Запішыце нас ў гопнікі! Тры дублі!

— А дзе здымаць?

— Прадумваем.

— І каго на ролю галоўных герояў?

Пытанне было зададзена з насмешлівым тонам, але з прыхаваным глыбокім сэнсам. Пыталася Таіса Гаравая, дзяўчына з атачэння Віялеты.

Ромка чакаў гэтага пытання.

— Сёння Марго зробіць фотасесію, папрацуе ўвечары — што каму пасуе найбольш. Але табе, Віялеце і іншым з вашага кола я хацеў прапанаваць ролю мажораў. Па сюжэце герой на вас натыкаецца, вы яго адганяеце, дэманструючы максімум эмоцый.

— Ромачка, ты мне прапануеш нейкую другарадную ролю? — падкрэслена-плаксіва працягнула Віялета. У класе захіхікалі і заціхлі.

Віялета сапраўды паводзіла сябе ў класе так, быццам у яе галава — ад лялькі-Барбі. Але за апошнія гады мы дакладна даведаліся, што гэта звычайная маска, насамрэч яна была дзяўчынай разумнай і хітрай. І бязлітаснай. Прынамсі, крыўдзіць Віялету ніхто не адважваўся. Міхал Вакульчык летась неяк

абазваў яе пустадомкай, то назаўтра прыйшоў з сіняком пад вокам. Казаў, ля пад'езда чакалі трое. А каму і на каго паскардзішся? У Віялеты — грошы. А за грошы можна купіць усё.

Ромка зараз ішоў, бы той Матросаў, на амбразуру дота грудзьмі. Віялета колькі ўжо гадоў — прызнаная прыгажуня школы. Нават здымалася ў нейкім рэкламным роліку, праўда, не ведаем, хто каму плаціў — бацькі Віялеты рэжысёрам, ці ганарар атрымала Віялета. Напрыканцы мінулага года да нас прыязджаў нейкі надта важны чыноўнік, дык яму хлеб-соль на парог школы выносіла Віялета. Тут ніхто і не спрачаўся. Шчыра, дык Віялета тады ў доўгай сукенцы пад народны строй, з саламянай каронай на галаве выглядала вельмі эфектна. Хоць Ромка праўду кажа: усмешка ў Віялеты — бы грымаса, мёртвая, у вачах — стома і абыякавасць, а вусны расцягнутыя, далібог, пластычную аперацыю зрабілі. Усе адзначылі раней: калі Уладзя перасеў ад Віялеты да Юрася і на гэтым скончыў сваю ролю закаханага паўдурка, Віялета атрымала поўху. Хай сабе і не моцную, але ж пры ўсіх. Ды яшчэ тая сутычка яе з Ядвісяй… І вось цяпер…

— Роля галоўнай гераіні прапанаваная папярэдне мне, — нечакана ўзнялася са свайго месца Ядвіся, павяла плячыма, быццам на сцэне паказвалася. — Ты хочаш таксама паспрабаваць? Добра, тут і цяпер!

— Што? — на нейкі момант разгубілася Вілета. — А, разумею, Ромка адчуў зямлю пад нагамі… Глядзі, то ўсяго можа быць зэдлік, а ты сам пакуль з вяроўкай на шыі…

— Ты Ромку не чапай, — настырліва працягнула Ядвіся. — Табе зайшло ў вушы: першая сцэна — дзяўчыны ў купальніках. Памераемся зараз!

— З табой? — насмешліва працягнула Віялета і раптам рассмяялася, хоць і з'едліва, але і шчыра. — Ты сябе збоку бачыла, задрыпанка?

— А-а-а! Даеш стрыптыз! — залямантаваў Міхал Вакульчук, яго падтрымалі агагуканнем, і нават нехта свіснуў. А ён тым часам выцягнуў сваё крэсла, падштурхнуў свайго сябра, з якім разам сядзіць, Сержука Мігно: — Рассеўся! Уставай, дзеўкам п'едэсталы трэба!

Паперлі разам два крэслы да дошкі (ну, каб настаўніцкае не чапаць), паставілі, Міхал паляпаў, нібыта пыл выбіваючы:

— Прашу прыгажунек!

Ядвіся выйшла наперад без хвалявання, усміхнулася і падзякавала Міхалу з Сяргеем:

— Дзякуй, хлопчыкі! Яшчэ б газеціну пад ногі якую, бо падлога не блішчыць, панчошак шкада беленькіх… — Павярнулася да Віялеты, паглядзела амаль што са здекам: — Ну што, прыгажуня запісная, слабо? Чула, першая сцэна — у купальніках, як у трусах і станіках. Паехалі…

І раптам стала зразумела, што гэта — будзе! Будзе нешта надзвычайнае, чаго раней не было, чаго не мог ніхто ўявіць і ў думках. Пасля якога нешта зменіцца… у класе зменіцца, у жыцці некага…

— Гэй, на шухер хто да дзвярэй! У нас яшчэ пяць хвілін ёсць, ну? — дадала Ядвіся, і гэтым не ставіла кропку, а адчыняла шлюз, за якім — магутны напор вады, і тую плыню ўжо нічым нельга было стрымаць.

Да дзвярэй кінуўся Ромка, адчыніў, вызірнуў, прычыніў. Ён быў збялелы. Цалкам згублены кантроль над сітуацыяй яго палохаў. І адначасова вочы яго ззялі ліхаманкавым бляскам: нешта важнае для яго зараз магло вырашыцца.

— Вы звар'яцелі, дзяўчаты, — выдыхнуў ён, але не столькі спыняючы гэтым выдыхам дзею, а больш захоплена яе ўхвальваючы.

Унутры мяне ўсё сціснулася. Віялета была ў заўсёдных светлых джынсах у абцяжку, кофтачка, гэтаксама ў абліпку, падкрэслівала яе акруглыя плечы, акуратныя, для яе росту і камплекцыі, грудзі, адкрывала тонкую шыю. Бялявыя валасы — да плячэй. Міжволі параўноўваў яе з Ядвісяй: чорныя джынсы, шэры балахон, які хаваў пад сабой формы цела. Не, нічога прывабнага ў Ядвісі не бачылася, сваім някідкім тварам у абрамаванні цёмных валасоў яна не вылучалася. Толькі зараз я здзівіўся: навошта яна пагадзілася на ролю галоўнай гераіні, калі… калі такая нязграбная?

Віялета ўспыхнула. Крылы яе тонкага носіка затрымцелі — яна дыхала хутка і часта. Адступіць годна яна зараз не магла — ёй быў кінуты выклік, эшафот падрыхтаваны: два крэслы стаялі побач, Сяржук сцягнуў газеты, каб стаць разутым. Амаль два дзясяткі пар вачэй неадрыўна сачылі за кожным яе рухам, за мімікай твару. З другога боку, Віялета нічога не губляла, бо вартасць яе выгляду ніколі нікім не

ставілася пад сумнеў. Хіба што… Я ўспомніў ацэнку Юрася: непрапарцыянальныя ногі і трохі пляскаты азадак. Але ж хіба яны распрануцца? З глузду з'ехалі?

— Не баішся сваёй бялізнай спалохаць нашых хлопчыкаў? — са з'едлівым клопатам запыталася Віялета ў Ядвісі, а тая, усміхнуўшыся ў адказ з неменшай ядавітасцю, адпарыравала:

— Ты бойся напужаць іх сваім задам!

І раптоўна сбэрснула красоўкі, хутка расшпіліла і пацягнула долу джынсы.

Цнатлівай беллю засвяціліся ногі Ядвісі. Балахон быў доўгі, Ядвіся была бы ў кароценькай сукеначцы.

Усе стаялі, як паралюшам скутыя, выцягнуўшы галовы. Ні гуку.

Віялета нервова, з застылай усмешкай, што падціснула яе вусны, гэтаксама скінула красоўкі і пачала сцягваць джынсы.

Пачуўся нейкі рух у класе, адразу ж узняўся Алег, зірнуў у тым кірункку і сказаў пагрозліва:

— У каго ў руках тэлефон заўважу, выдзяру з рукамі і выкіну за акно. Без папярэджвання! — і застаўся стаяць тварам да ўсіх астатніх, не зважаючы на дзяўчат, здавалася, яго аднаго ніколечкі не цікавіла тое, што адбывалася за яго спінай — там распраналіся дзве аднакласніцы! У класе распраналіся, да трусоў!

Тым часам Віялета, авалодаўшы сабой, пераможна пазіраючы ў клас, стоячы ў трусах, марудна, па адной, расшпільвала гузікі кофтачкі. Яна зараз, было добра відаць, адчула сваю хвалю: яна была ў звычным для сябе цэнтры ўвагі. А што распрануцца… дык, калі падумаць, яе фоткі ў сеціве ў купальніках яшчэ якія вольныя… Віялета скінула кофтачку адным рухам, бы запраўская стрыптызёрка. Адначасова, чакаючы гэтага моманту, праз галаву скінула балахон разам з саколкай Ядвіся. І яны амаль разам ступілі на крэслы, ну, рыхтык усё рэпетавалі зараней.

— А-а-а-у-у-у! — урэшце прарвала цішыню шматгалосае захапленне.

А Ядвіся і Віялета ўдавана нехаця, з рэўнасцю ў вачах, сузіралі адна адну. Амаль аднолькавыя ростам, Божа, якія яны былі прыгожыя! Ніхто не здзівіўся фігуры Віялеты, бачылі ж фоткі, але ж Ядвіся… Яна выйгравала. Трошачкі даўжэйшыя ногі, трошкі акуратнейшыя сцёгны (у Віялеты яны былі пашыраныя з бакоў, як самі дзяўчаты кажуць, — галіфэ). Балахон адкрыў тое, што раней прыхоўваў: акрэсленую вузкую талію, ружовыя роўныя плечы, нейкую стромкасць усяго стану ўгару. Яна проста стаяла, не цягнулася ўверх, а выдавала на тое, што прыўзнялася і хоча ўзляцець.

Бялізна абедзвюх дзяўчат рэзала неміласэрна вочы беллю і блакітам, сузіранне яе падавалася страшным грахом. Камяк пад горлам стаў цвёрдым і шурпатым, ніяк не каўтаўся. Раптам засвярбелі вочы, я міргаў, цярпеў, мне было сорамна. Так, пякучы сорам заглушыў усё. Хоць што там было такога — стаялі дзве дзяўчыны у трусах і станіках, ну, хіба на пляжы ў купальніках яны б выглядалі іначай? Але ж… то купальнікі, а тут — бялізна, там возера, а тут клас. А бялізна — інтымнае, такое… І хай тая Віялета, але ж Ядвіся… Мне было нечага крыўдна і прыкра, што вось увесь клас бачыць яе… такую.

— Паварот! — раптам ахрыпла гукнуў нехта, і дзяўчаты падпарадкаваліся, павярнуліся.

І ў гэты момант мне ў вочы як пырснуў «зайчык» электразваркі.

У класе адышлі ад першага пераляку, і цяпер сапраўды ацэньвалі станы дзяўчат. Я пачуў, як захоплена загуў клас, як пачуліся прыглушаныя крыкі: «Ядзя форэва!». Недзе ў падсвядомасці яшчэ адзначыў, што нездарма: ззаду Віялета прайграе Ядвісі — Юрась меў рацыю, калі казаў пра азадак і караткаватыя ногі. Постаць Ядвісі выглядала куды больш зграбнейшай. Але ўсё — на заднім плане.

Таму што на першым плане быў матылёк.

Цёмна-ружовы, як намаляваны, на лапатцы Ядвісі, прыціснуты тонкай белай паскай станіка. Такая вялікая радзімка, якую можна было прыняць і за татуху, калі б не відавочная неахайнасць мастака: пара крылцаў была вострай, а другая — закругленай.

Я сеў.

Мяне ўжо не цікавіла, што там адбывалася далей. Вэрхал сціх са званком, Ядвіся села побач, усхваляваная, расчырванелая.

— Я табе не спадабалася? — паспрабавала яна пад'южыць, зірнула какетліва і нешта прачытала на маім твары, бо яе гуллівасць знікла. Запыталася занепакоена:

— Нешта здарылася?

— Матылёк прыляцеў, — ціха адказаў я.

Ядвіся глядзела мне ў вочы, а я не змог разабраць позірку — ці то клопат, ці то радасць, ці то недавер.

— Ты памятаеш?

— Ён сніцца мне ад таго самага дня. Часта. Я даганяю яго, але ён узлятае, і я падаю, падаю, падаю ў бяздонны роў, дзе цячэ неглыбокі ручай, і прачынаюся, калі бачу на дне кожны каменьчык асобна, і тварам кранаюся вады…

— Мы… пагаворым пра яго, добра? — папрасіла-паабяцала Ядвіся.

— Добра…

## 7

Падавалася, што наша задумка з фільмам разгорнецца, як і ўсе іншыя: напачатку бязладныя сходкі-зборы са спрэчкамі і крыкам, смешачкі-хіхіканне дзяўчат пад жартачкі хлопцаў на мяжы фолу… Ну, як і ранейшыя нашы прыгатаванні да нейкіх там абавязковых аглядаў ці штосьці падобнае. Ды выйшла ўсё іначай: Ромка Макар разгарнуў сапраўдную дзейнасць, пры гэтым без аніякіх агульных зборышчаў. За тыдзень ён разам з Марго абышлі кожнага, хто пагадзіўся быць акцёрам. Перамовіліся, Ромка уручыў колькі аркушаў з тэкстам. І мне такі дастаўся, ды не адзін — пяць! Ну, я ж галоўны герой. Сцэнар. Першы раз я такі бачыў: тут быў распісаны літаральна кожны мой крок, тое, як я павінен выглядаць у пэўныя моманты: дзе здзіўляцца, дзе абурацца, дзе засмучацца. Вось жа, умее Ромка, што ні кажы. Сапраўдны рэжысёр, вунь як да справы паставіўся. А я так умею? Ды і паводле сцэнару я — нехлямяжы хлопец, трошкі тупаваты, гэткі памяркоўны беларус…

Мне нечага не ставала ў гэтыя дні, я раптам пачаў адчуваць крыўду на самога сябе: што я рабіў дзесяць гадоў у школе? Чаго дасягнуў, чаму навучыўся? І чаму хачу навучыцца? Хай сабе Юрась уголас кажа, што не выбіраў, куды пойдзе і чым будзе займацца, ды яны ж з маці даўно ўсё абмеркавалі, тут і сумнявацца не будзеш. І Уладзя вунь вырашыў удзельнічаць у алімпіядзе па геаграфіі — як хвіліна вольная, ён у тэлефоне, вывучае розныя даведнікі. Нават у танчыкі я гуляць не люблю, а двое з нашых удзельнічалі летась ў гарадскіх спаборніцтвах па контр-страйку. За іх увесь клас перажываў. Не ўмею граць-спяваць-танчыць, не гуляю добра ў футбол-валейбол, не малюю, не пішу рэп, не фатаграфую. Не, не, не… Пра вучобу і казаць няма чаго. Каму я магу быць цікавы — такі вось шэры і ніякі, зусім ніякі?

Ядвіся, верагодна, заўважыла мой настрой, бо выдала проста, у лоб:

— З табой усё добра? Нейкі ты бы мехам прыплюснуты ходзіш. Мо сніцца нешта зноў?

Ранкам, пасля той сустрэчы ў мяне, Ядвіся спытала толькі, ці сніўся матылёк. Мы сядзелі адны за сталом, Юрася і Уладзі не было, і мяне за язык нехта пацягнуў сказаць дурніцу:

— Сніўся! Сказаў, каб я пацалаваў яго па-сапраўднаму…

Ядвіся зірнула так, што я пачырванеў, — насамрэч стала сорамна.

— Даруй…

— Не трэба болей брыду казаць ніколі, бо гэта — не тваё, — прымірэнча паўшчувала Ядвіся. — І цалавацца ты хіба ўмееш? — і ўсміхнулася задзірліва, па-сяброўску.

— Не умею, канечне, — спакойна прызнаўся я. — А ты ўмееш?

— Не ведаю, — нечакана пацепнула плячыма Ядвіся. — Ніхто не паспеў навучыць. І ты вось не ўмееш, а то б папрасіла па-сяброўску дапамагчы. Здолеў бы?

— Вядома, каб жа ўмеў! Мо мне на курсы якія запісацца, не ведаеш, ёсць у нас?

— А ты пагуглі — майстрыху на дом выкліч.

— Ідзі да д'ябла… Сама майстра выклікай…

Так скончылася адзіная размова, у якой мы ўспомнілі нашу гісторыю з той капальняй і матыльком. І больш не краналіся яе, бо яна… магла забрудзіцца ці змяніцца, раструшчыцца ўвогуле, калі яе кранаццa лішні раз без дай прычыны.

Адказаць Ядвісі я не паспеў, падляцеў Ромка. Зрэшты, я быў удзячны яму, бо выварочваць сябе перад дзяўчынай у класе, сярод вэрхалу, ніякага жадання не было. Ромка сунуў мне ў рукі чарговы аркуш.

— Дружа, у цябе будзе яшчэ адна сцэна — з зэкам. Ён цябе будзе спакушаць, пакажа, як лёгка жывецца, калі ты па-над законам і людзьмі. Ты нібыта згаджаешся, потым кеміш што да чаго і адмаўляешся. Пры гэтым ён цябе спрабуе выхоўваць, застрашвае, але ты, хоць і пераляканы, вырываешся… Зразумеў?

— Зразумеў… чуеш, Ром, дзе ты навучыўся? Ну, такія вось сцэнары пісаць?

— А-а-а… Сакрэт фірмы! — замяўся крыху Ромка, але мы з Ядвісяй не адпускалі яго патрабавальнымі позіркамі, і ён няёмка прызнаўся: — Маці параіла падысці да аднаго рэжысёра ў ДК чыгуначнікаў. Тры вечары пасядзелі, тры бутэлькі дзядзька выжлукціў… Такі разумны! Думаю, ён бы мог зняць класны фільм! Ну, сапраўдны… Вось дараблю сцэнар дарэшты, панясу яму на канчатковую чытку.

Я мільгам глянуў у аркуш і залыпаў вачыма — ролю зэка выконваў Алег Харужы!

— Ого! — не утрымаў я свайго здзіўлення. — Алег вырашыў стаць артыстам? Як ты яго ўгаварыў?

Ромка маўчаў, пакусваючы вусны, потым ціха прамовіў:

— Я вам скажу, толькі каб ніякіх там далей… І папрашу… ну, каб самі былі адэкватныя з Алегам і іншых там прытрымалі, калі раптам што… Дарэчы, Ядзя, мы сцэнар крышку змянілі, як ты бачыла, калі паспела паглядзець, — табе гэтаксама давядзецца ісці па ўсіх групоўках. Ну, каб не адзін герой праходзіў праз выпрабаванні, але і ты… То і ў цябе ёсць сцэна з зэкам… І там пацалунак нахабны…

— Вытрымаем нахабны пацалунак, — заспакоіла Ромку Ядвіся, а мяне непрыемна кальнула недарэчнае пачуццё крыўды: вось жа, навучышся цалавацца цяпер… з іншым!

— Дык вось… — працягнуў Ромка, — Алег сам папрасіўся ўдзельнічаць, і ролю прапанаваў. І файна. Ён — каларытны, татух на руцэ намалюем… Спытаў невялікі ганарар. Але — ша, вельмі прашу.

Ша дык ша, няцяжка зразумець. Яшчэ адно муляла, і я запытаўся:

— Ромка… Гарэлка рэжысёру, ганарар Алегу… А дэкарацыі ж нейкія яшчэ… Грошы дзе бярэш?

Той зірнуў пільна, сумна ўсміхнуўся:

— Кір, навошта такія пытанні? Мая ідэя — мой клопат. Канечне, без грошай ніяк, але іх адшукаць не так цяжка… Вось з месцам здымак траблы. Пасля заняткаў збярэмся? Я яшчэ колькі чалавек папрашу застацца. Ёсць што абмазгаваць.

— Ідзі, Ромачка, збярэмся, — адпусціла яго Ядвіся, а мне кінула: — Мог бы і не пытацца пра грошы. Ці ты думаеш, яму іх БРСМ выпісвае?

Я прамаўчаў у адказ, каўтаючы пачуццё прыкрасці.

У некага ёсць ідэя. І ён ахвяруе гэтай ідэі свой час, свае нервы, выпрошвае на яе ў бацькоў грошы… Робіць справу. Чаму мяне нічога не цікавіць вось так?

У класе пасля заняткаў засталіся Ромка, Ядвіся, Марго, Стась, Сяржук, Юрась, Уладзя і я. Як і казаў нам Ромка, вялікія траблы былі з памяшканнем для здымак. Папярэдне Марго прапанавала здымацца ў якім-небудзь пакоі, каб адну сцяну цалкам выкарыстоўваць замест дэкарацый: скажам, тут мажоры тусуюцца — хуценька намалявалі (тое павінен Сяржук рабіць) кавярню ці хату, стол, прысмакі…

— У маёй бабулі меліся рабіць рамонт у кватэры… У вялікім пакоі сцяна паклееная шпалерамі, то мы б без праблем малявалі і замалёўвалі ўсё. І мэблі там няшмат, вынесі лішняе — і здымай. Ды бабуля захварэла, маці штовечар там, крапельніцы стаўляе, — са скрухай апавядаў Ромка.

— А чаму б не паспрабаваць зняць іначай? — нечакана важка пачаў Юрась. — Вы бачылі кліп адзін? Там у школе здымкі зробленыя, на падлозе. Выдатна глядзіцца, цікава і арыгінальна.

— Той кліп — процьма работы, — жорстка перапыніла яго Марго. — Там не кіно, а пакадравая здымка, далей ўсе кадры зводзяцца разам. Мы думалі пра такое — занадта доўга і рэквізітаў амаль нуль там, значыць, шмат маляваць у рэдактары… З мяне — невялікі мастак, Стась таксама не любіць корпацца. Мы вырашылі па-іншаму: звычайная здымка, але пры мантажы вырэзваем кадры — атрымаецца нешта ў стылі фільмаў Чапліна… будзе цікава…

— А калі на маім лецішчы? — прапанаваў Уладзя.

— За горадам… Калі б яшчэ аўто было, а так губляем шмат часу, — адмоўна пакруціў галавой Ромка. — Давайце, мазгавы штурм…

Аднак штурму не атрымалася, што мы маглі прапанаваць, кожны паасобку, бо ж бачылі: трэба памяшканне, вольнае па вечарах, наша, каб мы там былі гаспадарамі. У арэнду зняць нейкае? А грошы? Там у еўра за квадрат лічаць, дзе іх наеўрыць?

У клас зайшла Зіначка, спынілася на парозе, агледзела нас па чарзе.

— Я не перашкодзіла?

— Ды не, Зінаіда Мартынаўна, — пачціва адгукнуўся Ромка. — Няма тут чаму перашкаджаць…

— А чаму так сумна, ці можна даведацца?

— Нам бы памяшканне…

— Так… І на колькі?

— Ну… штовечар, тыдні на два.

— Ого… Гэта, я так зразумела, для здымак фільма?

— Правільна зразумелі, Зінаіда Мартынаўна, — уздыхнуў Ромка. — А, можа, мы наш класны пакой скарыстаем? Праўда, нам каб маляваць на сцяне можна было… Ну, і вэрхал жа будзе…

— Наўрад ці дазволяць… Але ж пачакайце, удакладнім, — Зіначка прайшла да стала, села. — Значыць, вам патрэбны адзін пакой, дзе будзе вольная для малюнкаў сцяна. Звычайны пакой у кватэры вас не задаволіць?

— Ды якраз і задаволіць! — горача запярэчыў Ромка, адчуўшы нейкую надзею для сябе і ўсіх нас.

Зіначка пасядзела з хвіліну засяроджаная, думаючы пра нешта, узважваючы — бо пакусвала непрыкметна вусны, а мы глядзелі на яе, як на чараўніцу, якая вось зараз можа ўстаць і сказаць: «У вас ёсць памяшканне». Класная не сказала гэтага, хоць узнялася з крэсла, але папрасіла пачакаць хвілінку і выйшла. Мы сядзелі ў поўнай цішыні хвілін дзесяць — пра што было размаўляць? Чакалі. Нарэшце на калідоры пачуліся крокі — ішлі двое. Ля нашых дзвярэй спыніліся. І ў клас першым зайшоў наш фізік, Антось Сямёнавіч.

Мы літаральна елі яго позіркамі, а ён, стрымана ўсміхаючыся, павітаўся з намі, акінуў усіх позіркам.

— Так, сябры мае… Тут Зінаіда Мартынаўна апісала мне вашу праблему. Так атрымалася, я меркаваў праз месяц пачаць рамонт кватэры, вялікі пакой цяпер амаль пусты. Як я разумею, вам патрабуецца час пасля заняткаў. Падыходзіць. Скажам, да шостай гадзіны вечара, ну, можаце і пазней затрымацца, калі мая прысутнасць вам не будзе перашкаджаць.

— Не будзе, не будзе, Антось Сямёнавіч! — радасць выперла ў Ромкі ягоны крык: — Ура! Будзе кіно!

І праз гадзіну мы былі ўжо на кватэры Антося Сямёнавіча. Ён дазволіў нам карыстацца кухняй (кава, гарбата), рыхтаваць вялікі пакой («агледзьцеся там самі»). Мы і агледзеліся — перасунулі часопісны столік да канапы, тэлевізар паставілі на падлогу — і адна вялікая сцяна, паклееная старымі шпалерамі, нявыцвілыя лапікі якіх нагадвалі пра колішнюю тут мэблю-сценку, была перад намі. Потым адны ездзілі з Марго да яе бацькі — бралі асвятляльныя прыборы, іншыя — у крамы — набылі колькі трубак розных шпалер: блакітных найперш, каб з іх зрабіць хвалі возера, у якім будуць купацца дзяўчаты, і зялёных — для кустоў. Сяржук ездзіў па фарбы, а Ядвіся прыбіралася ў пакоі.

Карацей, адбыўся нечаканы зрух: усё закруцілася, пачало нешта адбывацца. Дзіўна было назіраць, як кожны займаўся справай, рабіў сваё, нікому не перашкаджаў, а рухалася цалкам усё. Я зайздросціў Ромку: вось атрымалася ў яго, усё атрымалася, і далей будзе, як задумаў. Адзінае, што выклікала няўцямнасць, — Юрась не быў у ліку артыстаў. Здаецца, Ромка з Марго яму нічога і не прапаноўвалі. І нейкіх даручэнняў асабістых ён не меў, дапамагаў іншым. Але ж быў з намі…

У першы дзень здымак Ромка дазволіў прысутнічаць усім, хоць меліся пачаць адно сцэну купання ў возеры, а далей — паглядзім, атрымаецца — то і я буду задзейнічаны. Ды ж усім цікава было. Ромка адно папярэдзіў-папрасіў: ніякага вэрхалу, смешачак, слухацца яго, як дырэктарку. І каб на дзяўчат у купальніках не вырэчвалі вочы. Ну, і, канечне, ніякіх самастойных здымак тэлефонамі. Хваляваўся ён дарэмна: калі ці не ўвесь наш клас (пятнаццаць чалавек — столькі згадзілася удзельнічаць у фільме або дапамагаць у нейкіх справах) сабраўся ў кватэры, калі мы разам пабачылі падрыхтаваную «сцэну» для здымак, асвятляльныя прыборы, драбінкі з адмысловым сядзеннем для Марго, дык міжволі сцішыліся. А як пачалося… Вось цяпер я мог назіраць ролю Юрася — ён быў памочнікам рэжысёра ці неяк так. Марго здымала, а ён, трымаючы перад сабой поўны сцэнар, камандаваў героямі на сцэне: што каму рабіць, як рабіць.

У кватэры было холадна — ацяпленне яшчэ не ўключылі, а ноччу зубы ляскалі, нават калі пад тоўстую коўдру залезеш. Мы шчыльна (з дазволу Антося Сямёнавіча) занавесілі акно пакоя, каб яшчэ і нікога не пужаць магутнымі лямпамі асвятлення, і ад саміх лямп добра награвалася паветра, то дзяўчаты ў купальніках не павінны былі змерзнуць. Аднак яны, пераапрануўшыся на кухні, выходзілі ў наш здымачны пакой, дрыжачы і абдымаючы сябе за плечы. Гэта было незвычайна хвалюючым для ўсіх хлопцаў, не ведаю, чаму. Дзяўчаты ахвяравалі нечым… дзеля агульнай карысці. І тое адчувалі ўсе.

А потым пачалося! Двое хлопцаў тузалі лёгка палотны шпалераў — хвалі, яшчэ двое трымалі «кусты». Марго мяняла кропкі здымак, ёй дапамагалі пераносіць вялікі і цяжкі штатыў.

— Спалохаліся! Прыселі! — крычаў загадна Юрась — дзяўчаты паслухмяна вылуплівалі вочы, пішчалі і прысядалі. — Кідаем красоўкі! Кастусь! Лаві красоўкі і прынось назад, дзе ты там! Яшчэ кідаем! Па чарзе кожная! Стоп, адпачнём… Другі дубль, другая кропка, цяпер Ганулька і Наста ў цэнтры кадра! Буйны план, максімум шчырасці!

Гэта захапляльна! Нешта чароўнае было ў здымках, мы бачылі на сцэне зусім не тое, што, адчувалася, пазней паглядзім у кадрах. Вось асобна здымаецца, як ляціць красовак, — Кастусь кінуў яго ці не дзесяць разоў, а Марго лавіла палёт аб'ектывам. Вось Марго ляжыць на спіне, усе дзяўчаты над ёй, нахіліліся… па адной знікаюць з кадра, застаецца Ядвіся, якая схіляецца нізка-нізка, валасы кранаюцца аб'ектыва…

— Вочы! Позірк! Мне не падабаецца позірк, — стомлена кажа, лежачы на спіне, Марго. — Ну, Ядзя, ты на чалавека глядзіш, на яго вочы, а потым ён іх расплюшчвае — і ты яму ўсміхаешся. Ну, уяві, калі ласка… Яшчэ дубль!

А потым здымалі першую сцэну са мной. Напачатку хлопцы кідалі ў мяне дзявочыя красоўкі, потым буйным планам — як адзін трапляе ў галаву. Вось я ляжу на спіне, Марго здымае мяне зверху і загадвае-крычыць:

— Лыпай вачыма! Ты бачыш пакуль адно неба. Потым — постаці, ты нічога не разумееш. Над табой нешта нахіляецца, такое цёмнае воблачка, ты разглядваеш-разглядваеш — гоп! Твар дзяўчыны, яе вочы! Пачынай! Неба! Дзе неба? Дайце мне неба асобна!

Марго падала на спіну, над ёй соўгалі блакітныя шпалеры з белымі намаляванымі плямамі. Потым — зноў яна ўставала нада мной і патрабавала ўявіць Ядвісін твар і яе вочы… Дзівачка! Мне не трэба было надта напінацца для гэтага. Я глядзеў у вялікі лупаты аб'ектыў і насамрэч бачыў перад сабой вочы Ядвісі, замілавана ўсміхаўся — мне можна было не саромецца нават самога сябе, бо так патрабуе сцэнар…

Мы не заўважалі, як бяжыць час, — усе так захапіліся. Хацелася яшчэ, хацелася больш, ды Ромка катэгарычна расцяў рукой паветра:

— На сёння — усё! Усім — проста вялізарны дзякуй. Крута, малайцы!

— А піва? — здаецца, Кастусь пакрыўджаным голасам прабляяў з кута.

— Зараз фізік прыйдзе… Ды й, выбачайце, як данясе хто… ну, з суседзяў, маўляў, на кватэры настаўніка яго ж вучні распіваюць спіртныя напоі… яно нам трэба? Па сцэнары будзе, тады абяцаю…

— Аднак адзначаць першы дзень здымак мы будзем! — нечакана рашуча, бы гаспадыня кватэры, заявіла Ядвіся. — Хлопчыкі, часопісны столік на сярэдзіну! Так… Ба-бам! Пірог у студыю!

Во ўжо чаго ніхто з нас, хлопцаў, ніяк не чакаў — чацвёра дзяўчат зніклі на кухні, а зараз выходзілі адтуль з падносамі: на адным быў вялізны румяны пірог, на другім і трэцім — пластыкаўкі, цукар, чайнік…

Ромка стаяў сярод пакоя разгублены і расчулены — ён ніяк не чакаў такой неспадзяванкі, і бачылася — яму прыкра: сам вось не даўмеўся да таго, каб купіць які торт. Дык жа хлопец, мы ўсе такія… Ядвіся ўзяла з падноса вялікі нож, пашукала вачыма, паклікала Алега:

— Нож, як і разразанне пірага на роўныя кавалкі, магу даверыць толькі найбольш дасведчанаму і спакойнаму, ураўнаважанаму чалавеку сярод нас!

Алег, беручы нож за тронкі, усміхнуўся.

Ён па-сапраўднаму ўсміхнуўся — і я бачыў яго ўсмешку мо першы раз за апошнія гады. Бо ў любым іншым выпадку ён хіба што шчэрыўся ці паблажліва пасмейваўся.

Калі ўсе з вясёлым узбуджэннем пачалі частавацца, Ядвіся зноў павысіла голас:

— Спадарства, прашу звярнуць увагу: вы зараз жуяце пірог з вішнёвым сочывам, які прыгатавала, яшчэ раз увага, Настачка Базан! Апладысменты!

І праўда ж, шчыра запляскалі ў ладкі. Больш ад здзіўленага захаплення. Бо Наста — наша шэраяшэрая мышка. Самая маленькая ростам з дзяўчат, дробненькая, ніяк не скажаш, што дзесяцікласніца. Хоць постаць ў яе выявілася зграбненькая — я прыкмеціў, яна была сярод дзяўчат у купальніках. Валасы светла-русыя, доўгія і радкавыя, твар дробненькі і нейкі бы птушыны: нос востры, з гарбінкай, вузкі, а крылы яго тонкія, трапяткія. Вочы вялікія і бесперапынна міргаюць. З ёй сустрэнешся позіркам, а яна ўжо сцялася ўся, у вачах — гатоўнасць прыняць невядомую віну і адначасова просьба: не чапайце… То хто яе чапаў? Так і прасядзела пераляканым верабейчыкам усе дзесяць класаў. А тут бач — і ў купальніку не засаромелася пакрасавацца, і на табе — такая гаспадынька, атрымліваецца. Яе гучна пачалі хваліць, прасілі яшчэ пячы, а яна — вось дзе дзіва — запунсавелася, але ж ніяк не хавала свайго позірку і адказвала хай сабе і стрымана, ціха, аднак упэўнена і такім мяккім, прыемным голасам: «Дзякуй. Я яшчэ спяку! Ешце на здароўе!».

Нешта і праўда адбылося з гэтым нашым кіно…

Елі пірог, запівалі гарбатай, нязлосна жартавалі, а калі ў дзвярах у вітальні зашчоўкаў замок, дык застылі с разяўленымі ратамі — зусім забыліся, дзе мы і ў чыёй кватэры. Фізік, Антось Сямёнавіч, павітаўся з намі ад парога, да яго адразу падбегла Ядвіся, пацягнула ў пакой пачаставаць пірагом. Было відаць, як настаўнік уразіўся, мабыць, ніяк не чакаў сустрэць у сваім пакоі пах печыва, а не піва ці цыгарэт…

Добры быў дзень, і ён прайшоў.

Здаецца, у наступных здымках былі задзейнічаны не больш за восем чалавек з улікам «тэхперсаналу», аднак прыходзілі зазвычай амаль усе. Бо ж цікава было, як Кастусь і Ігнат «угаворвалі» мяне на бойку са скінхедамі, як я атрымаў у лыч ад «гопнікаў» Міхала і Сержука. Не ведаю, што там за прыёмы прымяніў Ромка, але ў нас была нават «нетрадыцыйная сексуальная арыентацыя» — ролю лесбіянак згадзіліся выконваць Ганна Ягутка і Наста Базан. Ганна — валейбалістка, ёй Наста — пад паху, але сыгралі яны… Прыгожа сыгралі, кранальна было. Карацей, на два тыдні кватэра Антося Сямёнавіча ператварылася ў месца нашай тусы, тусы ўсяго класа, і гэта было крута!

Як і чакалася, Віялета закусіла вусны, адмовілася ад удзелу, з ёй і Віктар Марыноўскі. Яшчэ дзве сяброў Віялеты пазадзіралі насы. І цяпер чацвёрка апынулася ў глыбокім вакууме: з астатнімі з класа не было ў іх тэм для размоў. Бо мы ўсе літаральна жылі фільмам. Прыдумлялі новыя сцэнкі на перапынках, узгаднялі з Ромкам, пераконвалі, а потым яшчэ і крэатывілі на здымках.

— Людзі! Людзі! — неяк заломваў рукі перад пачаткам чарговага вечара Ромка. — Мы ж не дакументальны фільм здымаем! У нас ролік ад трох хвілін — і да! А мы ўжо наздымалі на тры серыі!

— Затое будзе цікава манціраваць, — супакоіла яго Марго. — Супакойся, клёва будзе — гэтулькі кадраў удалых… Падумаеш, не выйграем, дык кожны сабе захавае, такое праз дзесяць гадоў паглядзець — за шчасце будзе.

Зазвычай мы былі ў кватэры адны, іншы раз Антось Сямёнавіч прыходзіў раней, гадзіне а пятай, мы не пераймаліся праз яго прысутнасць. Ён прыпыняўся на парозе пакоя, з цікавасцю назіраў за справамі на «здымачнай пляцоўцы», але ніколі не рабіў нейкіх заўваг. Пару разоў ён прыносіў нам пачастунак: адзін раз — вялізны кавун, другі — невялікі кошык яблык. А завяршалі мы кожны вечар ужо традыцыйна гарбатай з тортам, пірагом ці печывам — адзін раз і я папрасіў маці, каб што-небудзь спякла. Яна ведала пра маю ролю ў фільме і дужа прасіла паказаць.

У той дзень Антось Сямёнавіч прыйшоў як заўсёды, каля шостай вечара, мы ўжо амаль скончылі, дапівалі гарбату, удакладнялі дэталі на заўтрашні дзень. Нам заставалася не так і шмат. Стась заўтра абяцаў прынесці гатовую песню, тэкст якой папярэдне ўжо зверылі. Напісаў Стась вельмі файна, пахваліўся нам Ромка.

У кватэры заставаўся Ромка, Марго, Ядвіся, Міхал (ён быў добраахвотным «чорнарабочым» пры Марго, да таго ж нядрэнна шарыў у відэарэдактарах, абяцаў дапамагчы ў мантажы) і я. Юрась і Уладзя пабеглі раней — ім рыхтавацца да алімпіяд. Антось Сямёнавіч павітаўся, Ядвіся запрасіла яго пачаставацца з намі, ад чаго ён зазвычай не адмаўляўся. Згадзіўся і цяпер, пацікавіўся, як ідуць справы. Тут ажыў яго тэлефон, ён выбачыўся, выйшаў на кухню. Адтуль усхваляваны Антось Сямёнавіч таропка вярнуўся

ў вітальню, абуўся, накінуў куртку. Мы не асмельваліся нічога пытаць. Ён неяк ацэньваючы зірнуў на ўсіх нас, пасля кінуў мне:

— Кір, калі можна… мабыць, спатрэбіцца твая дапамога.

— Без пытанняў.

Я стаў нацягваць красоўкі, у вітальню зайшла Ядвіся.

— Нешта здарылася, Антось Сямёнавіч?

Фізік колькі імгненняў маўчаў, а потым, мабыць, прыкінуўшы, калі я буду ведаць, дык будуць ведаць і мае сябры, ціха апавёў:

— У вашай класнай маці… хворая. Здарыўся чарговы прыступ. Яна зачынілася ў кватэры, нікому не адчыняе… Там першы паверх, ды без дапамогі не залезеш. Неабходна адчыніць дзверы.

— Я з вамі!

Антось Сямёнавіч няўцямна паглядзеў на яе, але не запярэчыў.

— Не чакайце нас! — кінула Ядвіся нашым ад парога.

Мы ішлі пешкі, ледзь паспяваючы за фізікам, — ён вёў нас добра знаёмым яму шляхам, нацянькі. Праз хвілін дзесяць былі на месцы — стары пяціпавярховік, такія будаваліся раней спецыяльна ў пяць паверхаў, каб не рабіць ліфтаў. На лаўцы пад кустамі старога чорнага зараз бэзу сядзела жанчына. Ліхтарны слуп быў далёка, сам пад'езд не асвятляўся, таму мы і не адразу пазналі нашу класную. Антось Сямёнавіч скіраваўся проста да яе, мы — следам.

Зіначка ўзнялася нам насустрач, на яе ўпала нязыркае святло з вокнаў кватэр. Яна зрабіла рух наперад, бы хацела прыпасці тварам да грудзей фізіка, але спыніла сябе, пазнаўшы нас, яе вучняў.

— Божачкі, божачкі, я не ведаю, што рабіць, Антось… Не ведаю, зусім не ведаю… — роспачна прашаптала яна.

— Усё будзе нармальна, вунь Кіра зараз падсажу, ён заскочыць…

— Нельга, не заскочыць… Яна зачыніла дзверы на два замкі, зачыніла ўсе форткі, крычала мне з-за дзвярэй, калі раптам нехта палезе ў акно, — падпаліць сябе… Чакай, не перапыняй… Яна знайшла спірт, ды я ж і не хавала асабліва, уколы ёй рабіць штодня, мне ўчора цэлых трыста грамаў перадалі. Я не ведаю, я не ведаю… Добра, няма суседзяў па пляцоўцы, яны ж пагражалі падаць заяву ў міліцыю, маўляў, жывуць у небяспецы…

— Выклічам эмэнэс, яны прыедуць, узламаюць дзверы…

— Нельга, нельга! — Зінаіда Мартынаўна адхілілася, ступіла крок назад. — Калі будзе хоць невялікі вэрхал, пачнецца валтузня перад дзвярыма, — яна чыркне запалкай. Ты ж ведаеш, хворыя не палохаюць, яны папярэджваюць! І я адчула пах спірту, яна дакладна выліла яго на сябе і разліла па пакоях… Божачкі… І дзверы нельга выбіць адначасна, яны ж адчыняюцца вонкі… — тут яна звярнула ўвагу на нас, усміхнулася крыва, выбачліва і папрасіла: — Ідзіце дадому, дзеці, выбачайце…

Ядвіся ж падышла да Зіначкі, кранула яе за рукава:

— Прабачце… Зінаіда Мартынаўна, даўно гэта з вашай мамай? Калі ласка, проста адказвайце, я вас вельмі прашу!

У яе голасе была сапраўды і адчайная просьба, і нешта пераканаўчае, дарослае, нібыта не дзяўчына пыталася, а дасведчаная доктарка, і класная падпарадкавалася ёй.

— Даўно, восем гадоў… Навошта табе гэта? Ды хай… Апошнія пяць гадоў стан да агрэсіўнага, трымаемся на ўколах. Іх раблю ў пэўны час, а сёння нечакана мяне позна затрымалі. Дала напачатку пігулку, ды не пракантралявала. Яна выплюнула яе. Я выйшла ў краму, вярнулася… І не змагла зайсці.

— А чаму яна не адчыняе? Чаго баіцца?

— Яна? Чаго баяцца такія хворыя — адпраўкі яе ў вар'ятню… Неяк было… даўно, з ёй быў першы прыступ, я перапалохалася, выклікала «хуткую». Яны прыехалі, дужыя хлопцы, звязалі яе… Яна помніць. Такі гвалт нельга забыць. І вось цяпер баіцца… — Зінаіда Мартынаўна казала, бы адчуўшы прывідную надзею ў дакладных, зададзеных роўным голасам пытаннях Ядвісі, а, мажліва, яе гэта збянтэжыла і тым вымусіла паверыць у раней немагчымае, умяшанне яе ж вучаніцы ў яе дарослае, раней схаванае ад усіх, жыццё.

— Вы можаце размаўляць з ёй праз дзверы, яна добра чуе?

— Так, чуе яна выключна, — горка ўсміхнулася, мабыць, успомніўшы нешта сваё, Зіначка.

— Можа, варта выклікаць урача? У цябе ж ёсць знаёмы псіхіятр? — умяшаўся ў размову фізік.

— Не трэба доктара, — нечакана цвёрда запярэчыла Ядвіся. — Як імя вашай мамы, Зінаіда Мартынаўна?

— Лідзія… Лідзія Ігнатаўна… А навошта?... — разгубілася Зіначка.

— Хадземце… Але, калі ласка, паклічце яе да дзвярэй, ласкава паклічце, спакойна, без запалохвання.

— Што ты надумала, Ядзя?

— Нічога, паверце, усё будзе добра, проста паверце…— настойліва паўтарала Ядвіся.

І Зіначка паслухмяна пайшла, набрала код, адчыніла дзверы. Мы зайшлі за ёй у паўцёмны пад’езд, нас абдало густым каціным смуродам. Тут былі дзве кватэры на пляцоўку, я чамусьці адразу вызначыў для сябе: вось гэтыя, абабітыя некалі даўным-даўно вішнёвым дэрмацінам дзверы з зялёным пластыкавым дыванком каля іх і ёсць патрэбныя нам. Да іх і падышла класная, нахілілася крышку і нягучна паклікала:

— Мама!

Адразу ж адтуль, з кватэры, у адказ загучаў пагрозлівы старэчы крык:

— Я чую! Я ўсё чую! Прывяла! Прывяла ўжо сваіх гіцляў! А! Паспрабуйце толькі! Толькі шкрабаніцеся! Чыркну адразу запалкай!

І тут да дзвярэй мякка, бязгучна, бы тая котка, падышла Ядвіся, прыгнулася-прыхінулася да вушака, наблізіла свой твар амаль да самай замочнай шчыліны, і мы пачулі яе хуткі, досыць гучны — каб пачулі за дзвярыма, шэпт:

— Ішлі тры пятніцы да Госпада Бога, няслі яны тры нажы, тры свячы. Нажамі заразалі, свячамі зажыгалі і запякалі, з рабы божай Лідзіі нервы выганялі: з белых касцей, з усіх масцей, з жыл, пажылак, з рук, з ног, з буйнае галавы, з чырвонай крыві, з румянага ліца, з рацівага сэрца, з усяго стану і полустану. І урочныя, і прыгаворныя, і мужчынскія, і жаночыя. Па гэту пару, па раннюю зару. Як гэтай зарэ патухаць, так у рабы божай Лідзіі нервам не бываць. Ні сходам, ні маладзіком, ніякай парой. Дай Божа час добры. Амінь.

Яна прамовіла ўсё хутка, мне здалося, на адным уздыху, а потым паўтарыла яшчэ двойчы гэту малітву, ці як яе яшчэ назваць, не ведаю. За дзвярыма было ціха. Ядвіся прыпынілася, уздыхнула глыбока некалькі разоў і пачала зноў гаварыць, павольней, крышачку нараспеў, рыхтык расказваючы дзіцяці цікавую казку:

— Новым разам, лепшым часам на чатыры бакі пакланюся, памалюся, да Дрэва вярнуся… (гэтыя словы Ядвіся паўтарыла тройчы). Як ад таго Дрэва ішлі тры сястры: жалезная, мядзяная ды залатая. Ішлі тры сястры, неслі ў руках: жалезная — здароўе, мядзяная — спакой, залатая — розум. Ішлі тры сястры, сустрэлі Іллю-прарока ля сіняга мора. Мы, Ілля-прарок, да сваёй сястры Лідзіі ідзём, ёй нясём: жалезная — здароўе, мядзяная — спакой, залатая — розум. Ты, Ілля-прарок, загадай мору расступіцца, дай нам да сястры Лідзіі дайсці…

«Казка» была доўгай, мо хвіліны на тры, Ядвіся казала і казала, захліпаючыся ўздыхамі. І нарэшце закончыла:

— Ад Дрэва самага ішлі тры сястры, жалезная, мядзяная ды залатая, ля дзвярэй зачыненых сталі. Ты, сястра наша, Лідзія, адчыні дзверы, упусці ў хату. Мы нясём табе ад самага Дрэва: жалезная сястра — здароўе, мядзяная — спакой, залатая — розум. Адчыні дзверы, прымі падарункі…

Нейкае імгненне была поўная цішыня, потым шчоўкнуў адзін замок, у замочнай шчыліне з’явіўся ключ і мякка павярнуўся.

— Вы не ідзіце! — махнула мне і фізіку Ядвіся, а сама зайшла ў кватэру разам з Зіначкай.

Мы з Антосем Сямёнавічам выйшлі на вуліцу. Пачаў накрапваць дробны дождж.

— Вось такая фізіка, браце, — незразумела сказаў мне настаўнік, але я нічога не адказаў. Што было адказваць? Сам бачыў і чуў… усю фізіку.

Хвілін праз дзесяць выйшла Ядвіся.

— Антось Сямёнавіч, зайдзіце, вас Зінаіда Мартынаўна кліча, — і на наша маўклівае пытанне адказала амаль весела: — Ды ўсё нармальна, спіць ужо Лідзія Ігнатаўна і доўга спаць будзе.

Мы вярталіся дадому пехатою, хоць у паветры і вісела макрэдзь, а я помніў: Ядвіся не любіць шпацыру ў такое надвор’е, ды яна сама так схацела — сказала, ёй варта быць зараз на вольным паветры. Мы маўчалі, я трымаў Ядвісіну руку, адчуваў у адказ зваротны мяккі поціск яе пальцаў. Было цёпла і хораша.

Ля яе пад’езда спыніліся, і я прамармытаў тое, пра што думалася нашай дарогай праз мокры восеньскі вечар:

— Глядзіш на дарослых і думаеш: у іх усё чыкі-пукі, усё наладжана, ніякіх праблем, то ў нас вось траблы розныя, часам наогул жэсць, гемар ды кіпеш з разборкамі. А тут сутыкаешся…

— Ага, ты яшчэ скажы, што у дарослых і кахання няма, і драм розных, і пасля трыццаці не цалуюцца…

— А цалуюцца?

— І ў шэсцьдзясят, сама бачыла… Ведаеш, што прыкра?

— Ведаю… ну, здагадваюся. Ты ж нашу Зіначку зусім мала ведаеш, а мы колькі ёй нерваў паспелі патрапаць. Не ўяўлялася, што ў яе ёсць такая хворая маці, і яна… вось такая праз гэта, вымушаная так жыць…

— І ўяві яшчэ, у яе ёсць каханы чалавек, з кім магла б атрымацца сям’я, ды яна выбрала маці. Страшна… Наша Зіначка насамрэч вельмі прыгожая і добрая жанчына. Яна б дзетак магла нарадзіць… А Сямёнавіч мог бы быць добрым бацькам. Дык жа вось…

Ядвіся пацепнула плячыма, у мяне дрыгануліся рукі — прыабняць яе, бо ж холадна, але я прамарудзіў, а цяпер было ўжо позна. Яна зазірнула мне ў вочы, усміхнулася, быццам здагадалася пра маё імгненнае жаданне і спытала:

— А ты пад дзвярыма вочы не вылупіў, калі я пачала замову казаць?

— Тое менш за ўсё здзівіла, праўда, — адказаў я. — Адно баяўся: каб толькі ўсё атрымалася. І яшчэ, падумаў, як шмат ты ведаеш на памяць…

— Дзякуй табе. Я сама баялася, ці змагу, першы раз. А веданне… бабуля вучыла, але не так, як мы вершы на памяць вучым, па-іншаму. Веданне само прыходзіць цяпер, калі запатрабуецца… Пакуль!

Ядвіся ледзь-ледзь паціснула мае пальцы, вызваліла сваю руку і пайшла.

Мы здымалі наш фільм да самых канікул, бо Марго прасіла паўтарыць асобныя ракурсы, кадры, буйны план нейкіх момантаў… Ды ўсё некалі заканчваецца. Мы — закончылі фільм.

Стала нечага шкада. У першы ж вечар, калі не трэба было збірацца на кватэры Антося Сямёнавіча, я не мог знайсці сабе месца ў кватэры. Бадзяўся са свайго пакоя на кухню, зазіраў у лядоўню… Мне было сумна. Сумна без Ядвісі. За гэтыя два тыдні я так прызвычаіўся: яна побач да самага вечара, мы бачымся па-за сценамі школы, размаўляем, смяёмся, сустракаемся позіркамі, і я ведаў — то для мяне ў яе вачах успыхвалі такія мілыя празрыстыя цёплыя агеньчыкі. «Усё будзе добра», — не аднойчы гучалі яе словы пад гэты бляск, і я верыў, што так і будзе. Але — як павінна быць?

Маці штовечар была дома. Пасля той сваёй паездкі ў Палангу яна паводзіла сябе са мной больш паважліва, здаецца. Ці я раптоўна падрос, ці яна скінула колькі гадоў. Прызналася, што на два-тры тыдні яе мужчына паехаў у камандзіроўку, і… папрасіла усталяваць у яе тэлефоне Вайбер, паказаць, як ім карыстацца. Усталяваў, паказаў, тое ж няцяжка. А яшчэ з Палангі яна прывезла мне кнігу. Таўсценную! Больш за тысячу дзвесце старонак. Стывен Кінг, «Яно». І сказала, усміхаючыся ніякавата, што гэта не ад яе падарунак — ад мужчыны. Я падзякаваў і, папраўдзе, быў задаволены — даўно збіраўся пачытаць гэты раман.

Запрасіць дадому Ядвісю я не мог. Не тое, каб саромеўся маці, не… Мне хацелася, каб было, як раней: наша самотнасць у кватэры, цукеркі, гарбата, музыка і размовы. Мне столькі ўсяго карцелася запытацца ў Ядвісі! Яна ж — разумная, куды больш разумнейшая за мяне, яна — ведзьма, а значыць, ведае… Шмат ведае.

Як і планавалі, заканчэнне здымак фільма вырашылі адзначаць на Уладзевым лецішчы. Дазвол атрымалі, бацька Уладзі яшчэ і дроў падвёз, ды і надвор’е нечакана ўсталявалася ўдзень цёплае, без дажджа. Кажуць на такое — «бабіна лета». Хай сабе і так, насамрэч днямі было па-летняму цёпла.

На перапынку падышоў Алег, кіўнуў мне моўчкі і пайшоў з класа. Я пайшоў за ім заінтрыгаваны. З Алегам мы не пасябравалі, хоць эпізод, дзе ён граў зэка, паўтаралі тройчы, і нармальна ўсё было, ды Алег усё адно аддаліўся, а я навязвацца не люблю. Таму, па шчырасці, было трошкі трывожна: Алег з-за дробязей не стане выклікаць з класа. Мы спыніліся далей ад школьнага вэрхалу.

— Віялета ў суботу арганізуе ўпіску, ведай.

— Дык чакай… мы ж на лецішча валім да Уладзі!

— Таму і кажу.

— А ты дзе будзеш?

Алег толькі цяпер зірнуў мне ў вочы і сказаў цвёрда:

— Я буду там, дзе мне заплацяць.

— Табе Віялета за што плаціць?

— Не твая справа.

— О'кей, прабач. Колькі плаціць? Ну, я не дзеля цікавасці: калі ты там за ахоўніка, дык жа і на лецішчы галава цвярозая спатрэбіцца. Мо хто разыдзецца ды на дах палезе, ці ў самога дах пасунецца. А ты… ты справу ведаеш. Дык колькі за вечар, кажы, мы падумаем.

Алег завагаўся — я бачыў гэта па тым, як ён не спяшаўся пайсці, бо не траціў час на пустыя размовы.

— На ўпісцы я атрымліваю пяць баксаў за вечар, — сказаў ён нарэшце і тут жа пайшоў прэч.

Спачатку я знайшоў Ромку. Ён быў заняты з Марго — нешта крэслілі на паперы, седзячы за сталом. Ну, зразумела — пра фільм спрачаліся. Марго і Міхал паабяцалі зрабіць мантаж за час канікул. Можна б было і хутчэй, аднак Міхал загарэўся, навыдумляў розных фішак, кшталту: ляціць у мяне красовак, трапляе ў галаву — бац — выбух! Ці я дзіўлюся ў вочы Ядвісі — і мае зрэнкі ўспыхваюць сэрцайкамі. І мы ўсе пагадзіліся, навошта гнаць, хай крыятывяць. Я гукнуў Ромку — ён адышоў.

— Віялета арганізуе ўпіску ў суботу.

— Вось жа… Той яшчэ гемар… Што рабіць?

— Нічога, думаю. Не дзеці ж усе. Галоўнае мы зрабілі, а тут ужо… на ўсё воля Божая, як кажа бабуля.

— Здаецца, яна мае рацыю. Галовы ва ўсіх на плячах… Шкада адно, калі мяса прападзе, — мы закупілі на пятнаццаць чалавек.

— Фігня, замарозім, некалі яшчэ з'ямо.

Не ведаю, чаму я не пайшоў да Юрася. Здаецца, мы крышку аддаліліся за гэты час адзін ад аднаго, я пра нас траіх — мяне, Юрася і Уладзю. Хоць не скажаш так, насамрэч у нас, у кожнага паасобку, з'явіліся яшчэ нейкія кантакты. Юрась цесна працаваў з Ромкам і Марго падчас здымак, мне пашчасціла закантачыць з большай часткай класа. Уладзя… Ён іграў ролю, канечне ж, батана, сыгралі з аднаго дубля, без праблем. Пасля быў амаль на ўсіх вечарах, дапамагаў з рэквізітам: цягаў шпалеры, фарбаваў сцяну, вырэзваў, падтрымліваў. А яшчэ яго заўсёды дзяўчаты запрашалі, каб дапамог на кухні, калі яны гатавалі частаванне. Камандавалі ім, як хацелі. Ды тое бясспрэчна Уладзю падабалася, бо твар яго не быў ніколі кіслы, ляцеў стрымгалоў, адно пачуе, што клічуць.

— Хвалюешся? — спытаў я яго, калі выйшлі са школы. Мы ішлі крыху наперадзе, за намі — Юрась і Ядвіся.

— Ты пра суботу? Ага, ёсць трошкі. Ну, хочацца, каб норм было, весела, з такімі прыемнымі сюрпрызамі, як у першы дзень.

— Будзе табе сюрпрыз — Настачка спячэ яшчэ які пірог! І асабіста табе ўручыць!

І тут Уладзя пачырванеў. Мне ажно няёмка зрабілася — няўжо я ўгадаў? Ну, прыкмеціў я пару разоў, як Наста звярталася да Уладзі за дапамогай (а больш ні да каго з хлопцаў), бачыў яго ззяючы твар, як нёсся хутчэй на кухню выконваць яе даручэнне… Стала прыкра з-за сваёй бесцырымоннасці, таму я паспяшаўся закрыць тэму:

— Выбачай, тут справа ёсць… Пяць баксаў шукаю.

Уладзя паправіў акуляры на носе, уздыхнуў:

— Я маці і так раскруціў капітальна. Яна то і яшчэ дасць, рада за мяне, вось, з сябрамі на лецішчы збіраемся… Адно перажывае, каб усё як след было.

— Лічы, што пяць баксаў менавіта на гэтыя мэты. У нас будзе прафесійны ахоўнік парадку. Алег Харужы. Не наймаем яго мы — яго наймае Віялета ў гэты ж дзень. Яна ўпіску арганізоўвае, першую ў годзе. А там не твае шашлыкі, там, сам ведаеш, якія прысмакі. І яшчэ… Я не стаў казаць Ромку пра Алега. Той і так патраціў бабла нямерана на гэты фільм. Я і цябе не стаў бы пытаць — ведаю расходы, ды ў мяне галяк поўны: маці дала на шашлык, а больш — не прасіць. У мяне, калі палічыць… тры баксы кішэнныя.

— Ну, дык на два я спытаю! — бадзёра адказаў Уладзя, азірнуўся, дадаў: — А ім казаць нічога не будзем? — ён меў на ўвазе Юрася і Ядвісю.

— Думаю, няварта… Дамо ж рады?

— А то...

Уладзя назаўтра прынёс грошы, я дастаў з заначкі свае. Адкладваў, хацеў запрасіць Ядвісю на які вечар. Па суботах у новай кавярні сталі праводзіць нядрэнныя дыскатэкі, казалі, прыязджае надта круты дзіджэй, сталічны. Давядзецца пачакаць — у маці хутка аванс, яна абяцала. Грошы аддаў маці і папрасіў, каб купіла пяць долараў. Сказаў — трэба, яна больш не распытвала. У чацвер такім жа кіўком, як мяне раней выклікаў сам Алег, паклікаў яго з класа. Працягнуў яму ў пальцах складзеную у некалькі столак банкноту:

— Пяць баксаў. Ад цябе патрабуецца, як я казаў ужо, прыглядваць за гарачымі галовамі, калі яны з'явяцца. Пачастунак — шашлык, напоі — за наш кошт. Калі пажадаеш піва...

— Я не п'ю алкаголь, — адрэзаў Алег, пасунуў руку, перахапіў пальцамі банкноту. — Калі і дзе?

— Збіраемся ля прыпынку «Славянскі», субота, у дванаццаць гадзін. Там аўтобусам пятнаццаць хвілін. Плануем у сем вечара быць дома, каб бацькоў надта не трывожыць.

— Замётана, буду.

І Алег быў. І былі ўсе пятнаццаць з класа, хто так ці іначай спрычыніўся да фільма. Калі ўсе сабраліся на прыпынку за хвілін дзесяць да назначанага часу, я падышоў да Ромкі, і ён па аднаму руху зразумеў, што я хачу, і мы неўпрыкмет моцна стукнуліся сціснутымі кулакамі, не кажучы больш ні слова.

То быў цудоўны дзень! Першая наша агульная вылазка на прыроду і без адзінага старэйшага! Збіраліся разысціся ў сем, дык ледзьве сабраліся ў дзевяць. Пачыналіся канікулы, воля п'яніла. Мяса з'елі б яшчэ столькі, колькі насмажылі. Смажыць, дарэчы, даручана было мне і Уладзю. Ён умеў, а мне давялося вучыцца. З дзяўчынак дапамагала нам Наста Базан, рабіла ўсё весела і шчыра, і я цішком радаваўся за Уладзю — іх узаемная сімпатыя цяпер была такой відавочнай і адначасова такой кранальна-непасрэднай, што яе не толькі я, а ўсе вакол імкнуліся не заўважаць, каб не напужаць, ці што. І ніхто услых не размаўляў пра іх — Уладзю і Настачку, бы табу наклалі на гэту тэму. Але, бачылася, узніклая сімпатыя неяк асабліва ўспрымалася ўсімі, бы маленькае дзіцятка спала сярод нас, і мы мусілі паводзіць сябе так, каб не абудзіць яго дурным словам ці брыдотным крыкам.

Адно мяне асабіста брала прыкрасць — увесь вечар Юрась не адыходзіў ад Ядвісі, быў з ёй побач…

Мы развітваліся з выдатным настроем, я ішоў дахаты, потым мыўся доўга пад душам (вось жа, пракурадыміўся ўвесь), піў гарбату, глядзеў фільм, чытаў, круціўся… і думаў пра Ядвісю. Не, нічога не фантазіраваў, не прыдумляў, проста думаў пра яе. Думаў — і ўсё. Вось калі галодны, дык увесь час думаеш пра тое, як хочацца есці. І я так думаў пра Ядвісю.

Раніцай мне патэлефанаваў Ромка.

— Ты выбачай… Больш нікому казаць не буду, але ты павінен ведаць, папярэдзь… сам ведаеш каго. Мяне ўчора чакалі каля пад'езда. Твар сіні. Маці хацела міліцыю выклікаць, а толку… Здаецца, нічога не зламана… Крыўдна так, сука! Крыўдна, ажно да слёз, што здачы нельга даць…

Не люблю я сацыяльныя сеткі, не люблю эсэмэскі! Таму патэлефанаваў Ядвісі, сказаў: тэрміновая размова. Яна запрасіла дадому, бо гатавала абед.

Я расказаў усё пачутае ад Ромкі. Ядвіся маўчала, прыкусіўшы вусны, памешвала і памешвала лыжкай сваё варыва. Потым выключыла газ, пабегла ў пакой, пераапранулася, палезла ў глыбіню шафікаў, корпалася, збірала нейкае сушанае зелле.

— Хадзем!

Ромкавы вочы амаль заплылі, ліловая пухліна на шчацэ выродліва скрыўляла твар. Ён хацеў выглядаць бадзёра, але трохі саромеўся Ядвісі. Тая па-гаспадарску прайшла на кухню, нейкі час бавілася там з Ромкавай маці, тады прыйшла да нас са слоікам з вадкасцю светла-рудога колеру.

— Гэта адвар… Зараз маці прынясе ватныя кружэлкі, будзем змочваць і прыкладаць. Як астыне, маці падагрэе… Трымай на твары, пакуль не ахаладае, будзе надта горача напачатку — трывай.

І потым мачыла тыя кружэлкі ў адвары, прыкладвала на Ромкавы вочы, шчаку, нешта ціха нашэптвала пра сябе…

Ромка набраў мяне ўвечары.

— Слухай, цуд нейкі! На твары пухлін няма, адно сінякі трохі свецяць! І боль сышоў. Я Ядвісі тэлю, яна не падымае нешта…

— Дык выдатна, — пастараўся адказаць я весела. — А Ядвісю Юрась запрасіў у кафэшку… там тлумна, яна, мабыць, не чуе. Ці, можа, танчаць…

Я раптам пазайздросціў Ромку — мне хацелася зараз ляжаць збітым невядомымі і адчуваць які сапраўдны фізічны боль, а не трываць унутры скавытанне пачуцця сваёй непатрэбнасці.

## 8

На вялікім экране пабеглі цітры. Так, Марго з Міхалам і цітры зрабілі — нашы невялікія здымкі падчас фільма і ў звычайным, так мовіць, ракурсе, без грыму і пераапранання, побач — імёны, прозвішчы… Гэтак самавіта глядзелася… Мы сядзелі, працятыя ўсе адным магутным электраполем, — і дыхалі ці не ва ўнісон, і цяпер вось у поўнай наэлектрызаванай цішыні елі вачыма завуча, Наталлю Іванаўну. Ромка стрымаў слова — запрасіў яе і Зінаіду Мартынаўну на першы прагляд. І для ўсіх, акрамя яго самога, Марго і Міхала, гэта быў менавіта першы прагляд — як ні ўгаворвалі мы Ромку паказаць фільм раней, ён не згадзіўся:

— Усё вельмі проста. Альбо ты прызвычайваешся трымаць слова і трымаеш яго заўсёдна, альбо ты трапло і распішыся ў гэтым. Не прасіце...

І трэба было бачыць, як яны, трое, хваляваліся. Ромку дык проста трэсла, рукі дрыжалі, нібы ў алкаголіка, калі схапіў мышку — не мог патрапіць на патрэбны значок.

Мы не бачылі твараў Таццяны Іванаўны і Зінаіды Мартынаўны — яны селі за першым сталом. А па спінах хіба адгадаеш?

…Экран стаў чорным, потым пакрысе скрозь чарнату прабівалася барвовае — узыходзіла сонца, і яно сапраўды з'явілася, праявіўся краявід: рэчка, туман і вялізнае, на палову экрана, зусім нязыркае, сонечнае кола, выява якога падрыгвала ў паветраных струменях. І ў гэты час, заціхаючы, ужо без музыкі, гучаў голас Стася, паўтараліся першыя радкі яго вялікага верша:

— Я шукаў твае вочы сярод тысяч пустых вачэй,
Я ведаў, што знайду, бо толькі яны свецяць праз час і прастору.
Сярод шэрых дзён, сярод гэткіх жа шэрых, без зорак, начэй
Твае вочы свяцілі мне, твае вочы мне замянялі зоры.
Я шукаў твае вочы сярод тысяч пустых…
Я шукаў твае вочы…
Я шукаў…

Фільм скончыўся — аніводнага гуку. І не спяшалася Наталля Іванаўна, і не ўставала з месца Зіначка. І маўчалі мы.

Нарэшце завуч паднялася з крэсла, павярнулася да нас, і нельга было не заўважыць яе вільготныя вочы. Яна ўсміхалася і адначасова стрымлівала ўсмешку, стрымлівала сябе.

— Бачу, маю параду адносна таго, як і што абіраць, вы успрынялі ў найпростым сэнсе. Ваша права… Праца вельмі грунтоўная. Увасабленне выдатнае! Ніякіх пытанняў — фільм прымаецца на конкурс! — І дадала пранікнёна: — Вы малайцы, дзякуй за цудоўнае эстэтычнае задавальненне.

І выбухнула! Наўрад ці яшчэ некалі ў класе мы раўлі з такой сілай, не маючы больш магчымасці стрымаць свае эмоцыі, бо ж самі, самі былі не проста ўражаныя, а ашалелыя ад фільма. Абедзве жанчыны —

завуч і класная — затулілі вушы рукамі. Усе кінуліся да Ромкі і Марго з Міхалам, але каго падкідаць угару першым, не паспелі вырашыць, і завуч паспяшалася крышку навесці парадак:

— Не-не, не падкідвайце нікога! Яшчэ забудзеце славіць… Макар, калі ласка, перадасі фільм старшыні аргкамітэта, прыём работ са снежня, і каб, барані Божа, ніякіх копій у сеціве да афіцыйнага падвядзення вынікаў. Я вам зычу перамогі!

На другі дзень да нас з Ядвісяй падышоў Ромка, нахіліўся над сталом:

— Слухайце… Ядзя, у цябе ніякіх траблаў не здарылася? Ну, у сэнсе, кшталту як са мной пасля лецішча?

— Ды не, усё ціха, — паціснула плячыма Ядвіся. — Сама трошкі дзіўлюся, бо чакала нечага падобнага.

— Мо адумаліся, — задумліва сказаў Ромка і працягнуў: — Учора Віялета напісала мне ў «УКантакце» просьбу аб дапамозе. Напрыканцы месяца — гарадскі восеньскі баль для школьнікаў, ну, штогадовы, конкурс прыгажосці «Міс Восень». Віялета будзе удзельнічаць ад нашай школы. Наколькі я ведаю, яна фаварытка, так усе шэпчуцца, бо галоўны спонсар свята — фірма яе бацькі. Патрабуецца невялікі выступ, каб паказаць там талент, бліснуць і ўразіць. Карацей, скрэатывіць па поўнай. Вось і просіць прыдумаць ёй нумар. Дарэчы, абяцала заплаціць.

— Дык зарабляй грошы, — хмыкнуў я. — Раней нас прасіў нешта прыдумаць, бач, сам напрактыкаваўся.

— Ага, адаб'еш хоць колькі, — падтрымала Ядвіся. — Не трымай зла, пагатоў, дакладна ж невядома, хто тых гопнікаў на цябе нацкаваў.

— Ды я вось таксама схільны да таго, — згадзіўся Ромка. — Прыдумаю нешта. Яно і праўда, гэтулькі ідэй пасля ў галаву прыходзіла, як здымалі, зараз думкі скіраваныя, куды трэба…

Ён і прыдумаў: ажно тры невялікія сцэнкі, сапраўды, крэатыўныя. Мы пачыталі — цікава, галоўнае — не зашоранае і не сцягнутае з Камедзі-клаб.

Незразумелая трывога з'явілася назаўтра. Ромка, як заўсёды, у сваім чорным гарнітуры, светлай кашулі пад гальштукам зайшоў у клас, і яго першай галасна прывітала Віялета:

— Ромачка, дарагі, вітаю! Я так чакаю! Ты прынёс мне, пра што мы дамаўляліся?

— Так, мілэдзі, уключы блютуз, я скіну файл, — Ромка падышоў да яе і пачаў корпацца ў сваім тэлефоне.

— О, які ты прыгажунчык! — здаецца, шчыра зарадавалася Віялета і дастала свой тэлефон. — Трымай, як дамаўляліся, — і яна пасунула па стале канверт.

Ромка пачырванеў.

— Я перадумаў, — буркнуў ён, хацеў адысці ад стала, не кранаючыся канверта, але Віялета настойліва паўтарыла:

— Трымай, а то ты мяне пакрыўдзіш! Я ведаю кошт часу, я прывучаная за ўсё плаціць, тут няма нічога крыўднага, калі ласка, вазьмі! За мяне перажываюць мае бацькі, ты ж ведаеш…

І Ромка ўзяў грошы, а што яшчэ магло быць там?

Навошта Віялета так дэманстратыўна разлічылася з Ромкам за паслугу? Пытанне не давала мне спакою ўвесь дзень. І вось, далібог, злавесна прагучалі яе, здавалася б, зусім бяскрыўдныя словы: «Я прывучаная за ўсё плаціць». Падзяліўся трывожным пачуццём з Ядвісяй. Яна паціснула плячыма: хто ведае, што ў галаве гэтай дзеўкі.

— Яся… Хачу паразмаўляць, — няўклюдна прызнаўся я пра жаданне сустрэцца.

— У чым праблемы? Запрашай на каву з малаком! Можна і без цукерак, — пажартавала яна ў адказ.

— Маці дома…

— Не разумею, ты ж, здаецца, навучыўся сустракаць дзяўчат, вызначыўся з месцам і сервіраваннем, нават як і кухня занятая, — працягвала яна блазнаваць.

— Тут трошкі іншае… Разумееш, пра маці і хачу спытаць. А як буду пра яе пытаць, калі яна — у кватэры. Неяк… непрыгожа, — прызнаўся я.

— У цябе з маці пытанні? — пасур'ёзнела Ядвіся. — Хадзем пасля школы па вялікім крузе, праз старыя прысады… Добра?

— Добра.

Я зманіў. Не так ужо і хвалявала пытанне пра маці, хоць, чаго хаваць, мучыла яно маленькім чарвячком, не адпускала. Ніяк не выходзілі з галавы колішнія словы пра яе адналюбства. А цяпер… Яна штовечар звязвалася са сваім мужчынам у Вайберы — я чуў, як яны размаўлялі па відэа (таксама ёй паказаў, бо па тэлефоне не надта паразмаўляеш — ён, мужчына, быў у Расіі), чуў, як іншым разам на кухонным стале ціха пазвоньвае яе тэлефон, паведамляючы пра новае паведамленне ў Вайберы… І аднойчы маці мне дала зразумець: яна рэальна можа выйсці замуж, калі сказала: у мяне можа з'явіцца магчымасць жыць цалкам самастойным жыццём, а яна пойдзе да свайго мужчыны. Апошняе дык і напалохала. Зрэшты, было б страшней, каб яна папярэдзіла пра магчымы прыход чужога ў нашу кватэру. Хай тры пакоі, і мая асабістая прастора наўрад ці будзе парушана, але ж… Як жыць з чужым чалавекам? Ды яшчэ ведаць, што ён спіць з тваёй маці у суседнім пакоі за тонкай сценкай?

Пра ўсё гэта я і расказваў Ядвісе, калі мы выйшлі са школы, выбачыліся перад Юрасём і Уладзем і скіраваліся ў іншы бок. Уладзя ўсміхнуўся на развітанне, падбадзёрыў, а вось Юрась… Не, мы з ім, папраўдзе, усё больш аддаляліся. Я ўжо не пытаў яго пра розныя траблы ў жыцці — мы з Ядвісяй пра многае паспявалі перамовіцца на ўроках і перапынках. Юрась не дзяліўся з намі сваімі новымі матэматычнымі гіпотэзамі, нібыта страціў цікавасць да сваёй улюбёнай матэматыкі. Ідучы ў школу, мы зазвычай маўчалі ці казалі розную лухту, пакуль не падыходзіла Ядвіся, — мы змянілі маршрут і цяпер штораніцы спачатку ішлі да яе дома, а адтуль ўжо ў школу. Не, Юрась не стаў іншым, хутчэй я перастаў бачыць у ім свайго аўтарытэтнага таварыша, якому раней зазіраў у рот пры кожнай нагодзе. Мне было прыкра… Але я ведаў, як спатрэбіцца, то давяду сваё сяброўства. Мабыць, мы трошкі падраслі, і цяпер нам зусім неабавязкова, як дзяўчынкам, трымацца ўвесь час побач, каб ведаць, што мы — сябры? Вунь жа і Уладзя на перапынках, па вечарах больш тусуецца не з намі, а з Настачкай. Ён такі цікавы цяпер. Бы знайшоў нешта такое ж крохкае і дарагое, як Шліман тую вазу траянскую, трымае яе ў руках, нясе асцярожна-асцярожна, каб не выпусціць з рук, але каб і не сціскаць моцна. Мы не пацвельваем з яго, як раней, калі ён быў закаханы ў Віялету. Юрась неяк сказаў, што Уладзя належыць да таго кшталту людзей, якім так важна быць патрэбным некаму тут і цяпер, мець свой аб'ект абажання і клопату. Не люблю я гэтых розных тлумачэнняў, няўжо нельга прыняць пачуцці чалавека як ёсць, без падзелу іх на складнікі, без выяўлення прычын?

Але спачатку я апавёў пра маці. Ядвіся маўчала колькі крокаў. Мы акурат ішлі старымі прысадамі, ёсць у нас у горадзе адны такія — цудоўна там, асабліва восенню. Ну, мне цудоўна, Ядвісю дык, бачна, прысады не надта ўражвалі. Але ж яна — лялька, матылёк вясновы…Тут бярозы з аднаго боку, клёны — з другога. То лісця гэтак насыпае! Як няма дажджу, яно шоргае пад нагамі, узлятае, вось як цяпер. Тратуар тут нечакана шырокі, увесь жоўта-чырвоны.

— Вы, хлопцы, думаеце… думкі ў вас, бы гэтыя прысады, — прамыя і роўныя. Вам каб усё было проста і па пальчыках пералічыць, — нечакана з засмучэннем сказала Ядвіся.

— А як думаць? — шчыра здзівіўся я.

— Як? — дзяўчына пакруціла галавой па баках, здаецца, нешта знайшла для сябе, бо ўсміхнулася, спынілася ля бярозы. — Бачыш бярозу?

— Ну, не сляпы.

— Дык глядзі, колькі суччa тоўстага, колькі галін — і ўсе з аднаго камля! Разумееш, я да чаго? Ад аднаго камля да любой галінкі патрапіць можна, а з кожнай галінкі — да аднаго камля!

— І што? — не разумеў я.

— А тое! У нечым адным можа быць сотня прычын!

— Я і без цябе ведаю, — захацелася пакрыўдзіцца мне: я не дурань, каб такіх простых рэчаў не ведаць.

— А калі так, то скажы: як твая маці казала, што адналюбка, каго мела на ўвазе?

— Дык жа… замужам яна была.

— А ты не думаў пра тое, што цяперашні яе мужчына і ёсць той, каго твая маці кахала ўсё жыццё? А замуж не пайшла за яго — дык сотні прычын бываюць! Ну? Уключы фантазію!

Я разгубіўся, ашаломлена паглядзеў на Ядвісю. І насамрэч маці ж не казала, што яна адналюбка ў дачыненні да бацькі! А чаму тады раней яна не магла быць з гэтым мужчынам? Вунь жа колькі часу прамінула, як бацька прызнаны невядома дзе адсутным?

— Чаму, чаму… А як у яго — сям'я, тваёй маці лезці ды разбіваць яе?

— А цяпер?

— А цяпер ідзі да д'ябла, Кір. Адкуль я ведаю, як насамрэч? Хочаш, дык пытайся, але — яно табе трэба?

— Мабыць, не, — згадзіўся я ў задуменні. — Вось жа, дарослыя людзі, а не могуць уладкаваць свае справы…

— Ну-ну, уладкавальнік, паглядзім, як ты сваім дасі рады, — нязлосна пакпіла Ядвіся.

— Слухай… Помніш, ты казала, даўно, што мяне мой бацька любіць…

— Казала і паўтару! Тое на тваёй руцэ. Што, бацька твой недзе знік? Ты прабач, а калі ён, той, што знік, не твой бацька? А калі той мужчына, які вось стане мужам тваёй маці і, значыць, тваім бацькам, будзе цябе любіць?

Ядвіся літаральна адправіла мяне ў накаўт. І я пераключыўся на іншае, бо ў галаве аж гудзела ад неспадзяваных думак. Потым, пасля…

— Слухай, а вось наш гісторык на цябе зуб не вострыць, не разумею. Іншых бы ён з'еў ужо, а ў цябе — няблага… Нашаптала на яго? — пераскочыў я на іншую тэму.

— Не магу я шаптаць, калі мне тое трэба, а толькі калі іншым, ды пільна, ды неадкладна, — з уздыхам адказала Ядвіся. — А да Швондзера я назаўтра падышла і павінілася.

— Ты павінілася? Прасіла прабачэння? — не паверыў я.

— Прасіла. Бо вінаватая. Сарвалася. Нельга дзецьмі папікаць бацькоў. Ці дзяцей бацькамі. Ведаеш… А ён дзядзька разумны і… верыць ён у тое, што кажа. Вось заўважыла: дарослыя жадаюць аднаго, апавядаюць пра другое, а робяць трэцяе. Ты паназірай — сам пабачыш. Мне мама даўно пра тое казала. Але ж хоць і ведаеш, сарвешся… жыццё такое, Кір…

Прысады былі доўгія, мы апынуліся якраз пасярэдзіне. Лісце з дрэў ужо амаль усё абляцела, але ўсё адно выдавала на тое, як быццам мы стаім усярэдзіне тунэля: голыя галіны бяроз і клёнаў спляталіся над намі ў небе, было бязлюдна і ціха, адно зрэдку па шашы, адгароджанай ад нас слупамі клёнаў, праносіліся машыны. Мы ішлі, зноў, як некалі, ўзяўшыся за рукі, Ядвіся пацепвала плячыма — ёй было няўтульна, але яна трывала, не прыспешвала, я разумеў — дзеля мяне, і перахопліваў пальцы яе рукі, каб уся яе далонька была ў маёй, каб было цёпла яе руцэ…

— А наконт Уладзі, ведаеш, вось як скажу: вы, хлопцы, бездапаможныя слепакі, — казала мне з асуджэннем Ядвіся. — Уладзя, Уладзя… Знайшоў сабе быў аб'ект для кахання, закахаўся, і ўсё — я такі, шкадуйце мяне, я бедны закаханы! Ага! Не закаханы, а самазакаханы. У яго Настачка Базан з першага класа закаханая — ён і не бачыць! Яна яму штогод на дзень народзінаў — паштоўку, на дзень закаханых — паштоўку, пры любой нагодзе, калі можна, — паштоўку, а ён іх проста выкідваў! Хоць бы раз задумаўся, зацікавіўся: хто ж гэтулькі гадоў піша такія цёплыя пажаданні, зычыць шчасця табе, табе, які безнадзейна закаханы ў іншую і свету праз яе не бачыць? Так, я ведаю, мне расказала Настачка. І як пад бальніцай, тады здарылася бяда з Уладзем, прастойвала, як перадавала яму цукеркі… Дык я ёй не проста параіла, а літаральна вымусіла: досыць саромецца! Вазьмі і пакажы яму, што ён табе неабыякавы! І не ў «Кантакціку» напішы, а справай! Проста пабудзь побач! Не дурань жа ён зусім, вочы ж у яго расплюшчыліся, павінен пабачыць. Пабачыў… Дык то Уладзя, ён — разумнічак, ён усё заўважае… А іншыя…

— І я — сляпы? — невядома чаго расхваляваўся я.

— І ты… — сумна кіўнула Ядвіся. — Прабач… Мне вельмі няўтульна. Дом мой вунь… Не праводзь далей, бяжы, табе так бліжэй. Даруй за сёння.

Яна вызваліла сваю далонь і нечакана кранулася пальцамі маёй шчакі.

— Вочы ва ўсіх расплюшчваюцца, не перажывай…

Маці не было дома, яна пакінула цыдулку на лядоўні — затрымаецца. І гэта было добра. А то б мы пасварыліся, ці я б нахаміў без дай прычыны. Унутры мяне віравала незразумелая злосць, мяне раздражняла ўсё вакол сябе і я сам. Упершыню глядзеў свой серыял і раптам як ніколі востра адчуў: на экране не сапраўдныя людзі, то — артысты! Нічога сапраўднага там няма! Нідзе нічога сапраўднага! Жадаем — адно, кажам — другое, робім — трэцяе!

…Праз тыдзень мы зразумелі, чаму Віялета так дэманстрацыйна аплаціла Ромку Макару зробленую на яе замову работу. На вялікім перапынку мы хутка справіліся ў сталоўцы (есці прасяную кашу з рыбнымі катлетамі ні ў каго жадання не ўзнікла, таму абышліся кампотам з булачкай) і стаялі ля акна: Ядвіся, я, Юрась і Ромка. Уладзя падляцеў з такім тварам, ажно Ядвіся спалохалася.

— Тая сцерва хоча скрасці! — усяго і змог выгукнуць ён.

— Уладзя, як на цябе непадобна! — упікнула яго Ядвіся. — Ты самы выхаваны хлопчык з гэтага асяродка аболтусаў! Як можна?

— Якая сцерва? Што скрасці? — перапытаў я хутка, устрывожаны, бо ніяк з галавы не ішлі словы Віялеты пра абавязковы разлік з усімі.

І Уладзя стаў расказваць тое, пра што яму апавяла колькі хвілін таму Настачка. Так супала, яе маці сябруе з жанчынай, а тая працуе прыбіральшчыцай у доме культуры, дзе зараз праводзяць рэпетыцыі будучыя канкурсанткі «Міс Восень». Дык вось, зазірнула яна пазаўчора ўвечары да суседкі і пачала расказваць: а ў доме культуры будуць ставіць тое кіно, якое мы з табой глядзелі, дзе твая дачка гэтак бессаромна абдымаецца з другой дзяўчынай (Ромка даў нам скапіраваць фільм пад самае чэснае слова не выкладаць яго ў сацсеткі). Гамонку пачула Настачка і стала выпытваць падрабязнасці. А цётка як цётка, хіба яна можа толкам патлумачыць? Тады назаўтра Настачка пайшла дапамагаць цётцы прыбірацца ў доме культуры, хадзіла там з анучай і насамрэч пабачыла: там сапраўды ставяць наш фільм! Ну, хай сабе трохі па-іншаму, але ідэя — наша! У галоўнай ролі — Віялета, як жа інакай! Яна сустракае хлопца (Віктара Марыноўскага!), далей — расстанне, усё, як у нас: пошукі, субкультуры, вуліцы. І галоўнае, галоўнае: гучыць рэп Стася! У іх ёсць арыгінальны запіс, яны пракручвалі яго некалькі разоў. Зараз яны падганяюць сцэнкі пад словы песні, а далей запланавана, як зразумела Наста, палову слоў будзе спяваць Віялета, палову — Віктар…

Мы маўчалі, збянтэжаныя пачутым. І тады я сказаў:

— А ўсе бачылі, як Ромка прадаў нешта Віялеце…

На мяне паглядзелі, як на чалавека, ад якога раптоўна засмуродзіла.

— Спакойна, я проста патлумачыў сам сабе тую дэманстрацыйную аплату Віялеты табе, Ромка, за нейкую зробленую работу. Давайце без наездаў, але падумайце самі: так усё выглядала збоку. Ніхто не зазіраў у файл, скінуты Ромкам Віялеце…

— Ты паўдурак! — псіхануў Ромка. — Кожны мог запісаць гук фільма падчас першага прагляду!

— Не псіхуй, Рома, — заўважыў памяркоўна Юрась. — Цябе ніхто не вінаваціць у нейкім… злачынстве. Той рэдкі выпадак, калі Кір кажа слушна: абстаўлена было прыгожа. Віялета зараз закоціць вочкі, як ад яе нешта патрабаваць. І я так разумею, за ідэю нашага фільма там схапіліся вельмі ўчэпіста, бач, аддалі нашай красуне гэтульклі часу.

— Дык што рабіць? — адчайна амаль закрычаў Ромка. — Прыём фільмаў з пачатку снежня! У камісіі будзе палова з тых, хто судзіць конкурс прыгажосці, і сам старшыня. Нас абвінавацяць у плагіяце, на горшы выпадак, а самы лёгкі варыянт — не заўважаць, бо будзе паўтор, не будзе навізны!

— І куды мы гналі?

— Мы проста працавалі! Я сам не чакаў таго азарту, задзёру, з якім мы здымалі фільм. Думаў, расцягнецца на месяцы два, найменш…

— Ісці да арганізатараў гэтых і патрабаваць адмены нумара Віялеты, — рашуча выказаўся Уладзя, нават акуляры зняў.

Мы маўчалі ў адказ, бо разумелі — не выйсце. Канечне, схадзіць можна, мо і трэба… для падтрымання свайго сумлення ў стане чысціні новай бялізны, але ж сэнсу? Бо нас могуць проста паслаць, хай

сабе Ромка і дастане апошні козыр з рукава — пакажа гатовы фільм. Чаго прыперліся, скажуць там. Мы ставім сваё…

— Не ўздымайце кіпеш, — гледзячы некуды ў тунэль калідора, па якім лёталі першакласнікі, загадкава прамовіла Ядвіся. — Кажу на поўным сур'ёзе: не рабіце нічога. І мы нічога не чулі. Уладзя, супакой Настачку, скажы, хай не пераймаецца. Забыліся. Усё зробіцца так, як патрэбна.

— Як зробіцца, Ядзя!? — усклікнуў Ромка, а тая ў адказ узяла яго руку, павярнула ўгару далоняй, правяла па ёй сваімі пальцамі, мякка націскаючы, быццам хацела зацерці нешта нябачнае:

— Усё будзе добра. Павер мне, — і зірнула ў вочы, а пасля звярнулася да нас: — Паўтару: ніякіх разборак, ніякага кіпешу цяпер. Хай рыхтуецца наша прыгажуня. Я вам абяцаю — усё будзе добра. Ну?

Мы маўчалі. Хацелася запярэчыць: што зробіш ты, адна, дзяўчына, тут нас — чацвёра, і мы пакуль разгубленыя? А ты прыдумала? Я паўтарыў пытанне ўголас.

— Кір, не буду казаць. Прыйдзе час — і ты, і ўсе будзеце мець магчымасць упэўніцца. Паверце мне, калі ласка. Ну?

— Веру, Ядзя, — першым ажыў Ромка, стаяў, цёр сваю далонь, якую хвіліну таму пагладжвала Ядвіся, нібы там свярбела ці пякло. — Зрэшты, як ужо будзе. Прынамсі, важна рабіць сваё, рабіць сумленна… А час…

— Час не судзіць, Ромка, судзяць людзі, — перапыніў яго Юрась, усё роўна як ведаў: вось зараз Ромка абавязкова павінен сказаць: «Час пакажа, хто чаго варты». — Час усяго іншы раз паказвае, як людзі памыляюцца.

— Не спрачайцеся, хлопчыкі, — паспрабавала суцішыць іх Ядвіся. — Зірніце, вунь першы снег…

З нашага акна быў відаць наш невялікі школьны сад у два дзясяткі крываватых старых яблынь. Іх ужо які год намерваліся зрэзаць ды пасадзіць новыя, але ці то шкада было (яны квітнелі штогод, увесну велічныя копы белай квецені вабілі позіркі і надавалі святочнасці школе, давалі шмат яблыкаў, кампот з іх мы пілі ўвесь год, і ён быў, бадай, найсмачнейшым з усяго, што мы атрымлівалі ў сталоўцы), ці то грошай не было ў дырэктаркі, каб купіць новыя саджанцы. Ды якіх яшчэ купіць? Здаецца, гады тры ці болей таму нешта садзілі, зараз яны вунь, стаяць асобным шэрагам — рахітычныя недарэкі, і не цвітуць толкам, і яблыкаў з іх — першакласнікам не паласавацца…

Сад стаяў цяпер голы, і было нешта жудаснае ў малюнку зверху: на тле рудой травы купы чорнага павуціння сукоў і галін. І вось на гэту абстракцыю падаў нечакана густы снег — хмара прыпынілася над школай, з яе сыпаліся і ляцелі долу мільярды сняжынак. Ужо дзе-нідзе забялелі выспачкі на рудой паверхні, і сад спакваля святлеў, весялеў.

— Ты ж лелька, хіба табе падабаецца снег і маразы? — з лёгкім здзіўленнем спытаўся я.

— Сняжынкі, як і матылі, жывуць у палёце, у рукі схопіш — гінуць, — не адрываючы позірк ад падаючага снегу, адказала Ядвіся.

У класе пасля здымак фільма было сумна, кожны быў заняты сваімі прусакамі. Мінула два тыдні, набліжаўся той восеньскі баль, Віялета прапускала шмат урокаў — у яе былі рэпетыцыі, яе адпускалі без пытанняў. Мы не загаворвалі болей на тэму скрадзенай ідэі і песні, Ядвіся была заўсёднай, не было відаць, каб яна перажывала за нешта. Гэта пачало раздражняць. Кралі ж не проста нашу ідэю — кралі нашу працу. Мы з Ядвісяй былі першыя, то для мяне пісаў Стась свой верш, то я першым блукаў па горадзе і шукаў яе, Ядвісіны, вочы. І вось зараз Віктар будзе не ў фільме, а на вялікай сцэне хадзіць і спяваць, яму будуць пляскаць у ладкі сотні гледачоў…

Была серада, на пятніцу, мы ўжо ведалі, Віялета і Віктар адпрасіліся з заняткаў — у іх генеральная рэпетыцыя, бо ў суботу — восеньскі баль. І я не стрываў:

— Ядвіся… калі ў цябе нічога не прыдумваецца, дык кажы зараз. Бо будзе позна!

Яна зірнула здзіўлена, уздыхнула:

— Кір… Я ніколі не забываю сваіх абяцанняў. Я думала, ты мне верыш…

— Ды веру я табе! Проста ты маўчыш, маўчыш, нічога не робіш… А праз два дні — фініта ля камедыя! Я шукаў цябе, ты шукала мяне, для нас пісаў Стась! Як падумаю: Віялета будзе там… А Віктар будзе прамаўляць тыя словы, дык…

— Супакойся, халерык! Вось жа не думала, што ты такі гарачы, — Ядвіся са шчырым здзіўленнем узняла бровы. — Мяне таксама сітуацыя ў шал уводзіць. А каб ты не шалеў, ведай: усё ўжо прадумана, заўтра будзь разумнічкам, ты мне спатрэбішся.

— Раскажы!

— Маўчы і будзь хітрым, — спыніла мяне Ядвіся. — Усё будзе добра.

Другім урокам у чацвер была фізкультура. Фізрук (мужчына гадоў за сорак, некалі вядомы ў горадзе валейбаліст) у нас да нельга прынцыповы. Нават ёсць у цябе вызваленне ад заняткаў — прыйдзі ў форме і сядзі сабе на лаўцы. Не прыйшоў — пропуск, а ў канцы чвэрці паспрабуй, атрымай тады адзнаку. Ваяваць з ім было дарэмна, спрабавалі дзяўчаты. «Ваша даведка дае вам вызваленне ад фізічных заняткаў, але не ад урокаў», — катэгарычна абвясціў ён, і дырэктарка, да якой хадзілі дзяўчаты, толькі рукамі развяла: «Анатоль Паўлавіч мае рацыю».

Урок пачаўся, як звычайна: размінка, за ёй — здача нарматыву, скачок праз каня. Хлопцы — асобна, дзяўчаты — асобна. Скокнула Ядвіся. Здаецца, фізрук яе ідэальна падстрахаваў, прытрымаў, але тым не меней яна раптам асунулася на маты, завойкала, схапілася за ступню.

Той перапалохаўся, стаў пытацца: дзе баліць? Мы сабраліся вакол.

— Усё нармальна, нармальна, Анатоль Паўлавіч, — супакойвала Ядвіся фізрука, пагойдваючыся, абхапіўшы левую ступню рукамі. — Часам бывае так, ледзь нязручна станеш — як стрэліць. Каб перабінтаваць туга на які час, неўзабаве пройдзе…

— У медпункт! Зможаш сама ступаць?

— Змагу, зараз… трошкі суцішыцца…

А ў мяне ўнутры ўсё абарвалася. Я адчуў пустэчу паразы — нічога не атрымаецца. Мы прайгралі. І мала таго — на конкурсе прыгажосці будзе група падтрымкі нашага класа, значыць, яны пабачаць нумар Віялеты, яны здагадаюцца, ці сама Віялета падкажа: Ромка Макар прадаў ёй наш фільм, прадаў ідэю, прадаў песню Стася. І Стась прыйдзе ў панядзелак і найперш плюне ці дасць у пысу Ромку…

— Ну, паспрабуйма, — Анатоль Паўлавіч нахіліўся да Ядвісі, каб дапамагчы ёй устаць, а яна раптам спалохана замахала рукамі:

— Не-не, не трэба вам! Я паклічу… Кір!

На нейкі момант я разгубіўся, мне здалося, іншага гукае Ядвіся, а яна ўжо знайшла мяне вачыма, працягнула ў мой бок руку.

Яна ўстала самастойна, абапіраючыся на адну нагу, я падставіў сваё плячо, яна абхапіла мяне рукой, і мы паклыпалі — я ад неспадзявання ледзь перастаўляючы ногі, Ядвіся — скачучы на адной назе. Выйшлі са спартыўнай залы, за намі зачыніліся дзверы, і нечакана я адчуў, як ціск на мяне Ядвісінага цела рэзка зменшыўся. Я няўцямна зірнуў на яе і пабачыў хітрую ўсмешку:

— Ідзі-ідзі, не збочвай нікуды…

Ля жаночай распранальні яна спынілася, азірнулася, зняла руку з майго пляча. Адчыніла дзверы і скамандавала мне: «Цікуй!».

Я стаў у дзвярах, каб бачыць адначасова і Ядвісю, і калідорчык.

Яна хутка выцягнула са свайго заплечніка невялічкі пакецік, здаецца, там і не было нічога, потым упэўнена падышла і зняла з вешалкі сумачку Віялеты, зняла яе, адкрыла і дастала касметычку. Потым з яе — пудраніцу. Адкінула вечка, патрэсла над пудраніцай са свайго пакеціка і хутка ўсё ўладкавала на месца. Мы зноў пайшлі калідорам да медпункта. Там я пачакаў хвілін дзесяць, Ядвіся выйшла з перабінтаванай ступнёй, і мы вярнуліся ў спартыўную залу. Ні пра што не размаўлялі. Фізрук сустрэў нас з заклапочаным тварам, мабыць, ён трохі спалохаўся, траўма на ўроку — рэч не жартоўная.

— Усё добра, усё проста выдатна, Анатоль Паўлавіч, — заспакоіла яго Ядвіся. — Мне ўжо амаль не баліць, ступаць магу, хаджу самастойна. Выбачайце, напужала я вас…

Апошнім урокам была матэматыка. Напачатку мяне выклікала да дошкі Ганна Тодараўна — мусіў рашаць задачу. Пакутаваў доўга, не атрымлівалася, сталі разбіраць рашэнне ўсім класам. Адчуваў, мне свяціцца ля дошкі да сярэдзіны ўрока, засумаваў.

— Вяргейчык, нейкі ты сёння затарможаны, — не ўхваліла маё стаянне ля дошкі матэматычка.

— На яго плячо лягла рука каралевы, — пачуўся з'едлівы голас Віялеты.

Я кінуў на яе позірк і здрыгануўся. Яна з Віктарам сядзела за першым сталом, ля акна, і твар яе быў зараз добра асветлены — вызірнула нязыркае сонца. І гэты твар, які заўсёды быў падпраўлены рознымі там дзявочымі штучкамі да роўнага бледна-ружовага колеру ад высока адкрытага лба да падбародка, быў цяпер пакрыты вялікімі і маленькімі ярка-чырвонымі няроўнымі плямамі. Мабыць, на маім твары адбіўся малюнак пабачанага, бо на Віялету, зняўшы акуляры, паглядзела і Ганна Тодараўна.

— Пятроўская, ты добра сябе адчуваеш? — заклапочана спыталася яна.

— Лепш за ўсіх, — бліснула ўсмешкай Віялета. — Нешта не так? — устрывожылася яна, калі на яе пільна паглядзеў і Віктар Марыноўскі.

— Твой твар… У цябе няма тэмпературы? — працягвала сваю ролю клапатлівай маці Ганна Тодараўна.

Віялета выхапіла з сумкі сваю пудраніцу, тую самую, адкрыла, зірнула ў люстэрка і завішчала. Роспачна, тонка, ажно вушы заклала.

— Ідзі ў медпункт, хутчэй! Марыноўскі, правядзі Віялету, калі ласка! — заспяшалася матэматычка, зірнула на мяне, на імгненне здзівілася — скуль я ля дошкі намаляваўся, кінула разгублена-адчайна: — Сядай на месца, Вяргейчык, сядай…

Прайшло хвілін дзесяць, вярнуўся ў клас Віктар, суха паведаміў:

— Тэмпература ўзнялася.

— А яшчэ праз гадзіну твар апухне, вочы заплывуць, пачнецца сверб… — нахіліўшыся блізка-блізка, ажно кранулася валасамі маёй галавы, ціха пракаментавала гэтую навіну Ядвіся. — Звычайная алергічная рэакцыя на пылок адной кветкі. Нічога страшнага, за дні тры-чатыры пройдзе, слядоў не будзе.

Я ашалела маўчаў. Мне раптоўна стала шкада Віялету. Памятаю, два гады таму ў яе на падбародку з'явіўся быў прышчык, невялічкі, з раніцы. Да апошняга ўрока ён павялічыўся, стаў пунсавец. Не дзіва, у каго іх не было? Але для Віялеты тады была сапраўдная драма. Яе твар быў для яе, мабыць, найдаражэйшы з усяго, што яна мела, бо літаральна здарылася істэрыка: яна плакала, псіхавала, раскідвала са стала падручнікі… І вось цяпер яе твар стаў увогуле выродлівы: распухлы, у чырвоных плямах, ды яшчэ пачне свярбець… Як яна вытрымае? І галоўнае: конкурс прыгажосці! Яна ж толькі цяпер можа ўдзельнічаць, бо летась нельга было — не было шаснаццаці гадоў, наступны — выпускны… Ды як ёй чакаць год? Яна ж, па ёй было відаць, трызніла гэтым конкурсам, яна ўжо бачыла сябе галоўнай Міс Восень, бачыла сябе на сцэне, асляпляльнай і прывабнай! А тыдні падрыхтоўкі, а бальная сукенка, якая, яна хвалілася, каштавала бацькам сотню баксаў? І ўсё раптоўна — кату пад хвост? Як такое перажыць?

— Чаго ты маўчыш? — заўважыла маю разгубленасць Ядвіся.

— Мне… мне шкада Віялету, — прызнаўся я.

Ядвіся доўга глядзела мне ў вочы — я не адводзіў позірк.

— Ты мяне асуджаеш? — спытала яна.

— Не. Але Віялету шкада.

— І мне шкада, Кір… Але кожны павінен плаціць за зробленае — яе словы. Як было спыніць яе інакшай? Такія людзі не разумеюць слоў…

І ўсё адно мне было шкада Віялету. Я не зазнаваў сам ніколі вось такіх праколаў, каб раптоўна абрынулася ўсё, чым ты жыў апошнія месяцы, на што спадзяваўся. Вядома, Віялета — тая яшчэ цаца… А можа, дарэмна мы так з ёй? Можа, каб падышлі да яе па-чалавечы, як нармальныя хлопцы, паразмаўлялі, яшчэ колькі сцэнак накрыятывілі, ну хіба яна б працягвала ўпарціцца, не сцерва ж яна дарэшты, хіба ёй нармальныя адносіны лішнія?..

Ядвіся не чапала мяне, а да панядзелка мне было ніякавата. Хочаш не хочаш, але ж я быў супольнікам. І было крыўдна… было яшчэ крыўдна, бо Ядвіся нічога не сказала пра сваю задуму! Яна проста… проста скарыстала мяне! Хіба так можна? Я б згадзіўся тады, не ведаючы яшчэ, як будзе выглядаць насамрэч твар Віялеты пасля таго пылку, — згадзіўся б! Але ж можна было сказаць…

Карацей, субота і нядзеля прайшлі адзіным рытмам — ляжаннем на канапе і чытаннем. Добра, што Кінг напісаў такі вялікі раман... Маці ажно затурбавалася, ці не захварэў. Цеплілася спадзяванне: Ядвіся патэлефануе, нешта патлумачыць… Дарэмна.

Перажываў: ці прыйдзе ў школу Віялета?

Так, мы ведалі — яна не ўдзельнічала ў конкурсе, усё адбылося без яе. Яна прыйшла. І была такой, што я збянтэжана застыў на нейкі час ля стала. Віялета была ранейшай. Не, нават не так. Твар быў настолькі пагардлівы, што ўдаваў з сябе застылую антычную маску. Яна сустрэла мяне, як сустракала літаральна кожнага, хто заходзіў у клас, халодным ненавісным позіркам.

Я сеў на месца, збіты з панталыку.

— А ты збіраўся выціраць ёй слёзкі? — сказала з'едліва Ядвіся і, мабыць, зразумеўшы, які я разгублены і як прыкра мне робіцца, мякка дадала: — Мы глядзім на людзей і міжволі раўняем іх учынкі, іх сумленне са сваім. Табе здаецца, як ты здольны перажываць за чалавека, як табе за нешта баліць, дык і іншы будзе за тое ж перажываць, і яму будзе за тое ж балець. А ў рэале зусім не так…

Яна пяшчотна кранулася маёй рукі, супакойваючы і нібыта просячы прабачэння, — за тое, што не патлумачыла ўсё адразу.

Словы Ядвісі зайгралі ўсімі колерамі, зрабіліся выпуклымі, і не дайшлі, а выцялі па мазгах, бы абухам, адразу пасля заняткаў. Мы апрануліся ў гардэробе, як звычайна, выйшлі, і тут Уладзя захліпнуўся ад непрыемнага здзіўлення. Я бачыў, куды скіраваны ягоны позірк, паглядзеў і застыў. Шэрая куртка Ядвісі на спіне была тонка парэзаная на вузкія паскі, бы пад лінейку. Мы моўчкі назіралі, як яна зняла апранаху, зірнула на яе і крыва ўсміхнулася. А вочы… вочы сталі вільготнымі.

— Сучка… Маўчыце. Не сатрасайце дарэмна паветра.

Яна прыйшла назаўтра ў такой самай куртцы, новай.

— Маці дамовілася з гандляркай, у якой першы раз бралі… Аддамо грошы праз месяц, у нас туга цяпер…

Я чакаў суботу. Маці папярэдзіла: на выхадныя яе не будзе дома. Нічога не тлумачыла, але ж навошта мне былі тыя тлумачэнні? Немаленькі, разумею. Яна ўсё адно дадала, што едуць некуды за горад, там будуць шашлыкі… таму мне нагатуе таксама смачнага. І пакіне грошай. Дзіўная… Мне хацелася ёй прызнацца ў сваім намеры запрасіць Ядвісю ў госці. Але я яшчэ не ведаў, якую прыдумаць нагоду, пра што такое важнае спытаць, каб яна прыйшла, каб не адмовіла. І нічога не знаходзіў. Сам вінаваты: як нешта стрэліць ў галаву, дык адразу і пытаюся, і мы на занятках паспяваем перамовіцца: чаму дзяўчаты разумнейшыя за хлопцаў у класе, чаму шаптух не прызнаюць за лекараў афіцыйна, чаму б Зіначцы не аддаць маці насамрэч у лякарню, і чым заняцца пасля школы, куды пайсці, каб скончыць вучобу і не душыла цябе вечная нястача грошай, якая зараз душыць нашых мацярок…

Юрась прытрымаў мяне за локаць, калі скончыўся апошні ўрок:

— Кір, трэба перацерці адну тэму… Пасядзім на нашым месцы?

Наша месца — маленькая лаўка на дзіцячай пляцоўцы. Колькі гадоў мы збіраліся там утрох, марылі-прыдумлялі! Як субота ды нядзеля — мы заўсёды былі там, чакалі адзін аднаго, каб знайсці цікавы занятак, і дзень свой заканчвалі на той лаўцы, разыходзячыся па сваіх кватэрах, калі пачыналі запальвацца жоўтым святлом вокны шматпавярховікаў. Даўно мы там не сядзелі, і трохі здзівіла прапанова Юрася, але я пагадзіўся без пытанняў. Трэба дык трэба.

Мы правялі да дому Ядвісю, паклыпаў да свайго пад'езда Уладзя, а мы з Юрасём скіравалі ў бок дзіцячай пляцоўкі. Юрась не стаў круціць, сказаў, ледзь мы прыселі:

— Мне падабаецца Ядвіся. Разумееш, падабаецца, як дзяўчына.

— Мне гэтаксама падабаецца, — хрыпата прашамкаў я ў адказ, імгненна ўсхваляваны, адчуўшы невядомую небяспеку ў размове.

— Слухай, мы з ёй двойчы на тыдзень ходзім у кавярню… А ты з ёй сядзіш…

— У кавярню і я яе магу запрасіць…

— Можаш. І вось што ёй тады рабіць, га? Не, ты адзін запросіш — адна справа, а як мы абодва запросім? Нейкая гульня дзіцячая атрымліваецца. Давай вырашаць па-нармальнаму…

— Чаму раптам вырашаць? — разгубіўся я.

— Таму! Ёй мы аднолькава падабаемся. Мне яна сама казала, што не бачыць між намі розніцы, мы для яе — абодва сябры. І так будзе, пакуль мы ля яе двое будзем. Пакуль адзін не сыдзе.

— Ну, і хто той лішні? Ты ўжо вырашыў?

Не зразумеў напачатку, чаму пачала разбіраць злосць. Што я такое пачуў? А словы, важныя, самыя важкія, самі пачалі набрыньваць у памяці тлустымі агіднымі пухірамі: «Не бачыць між намі розніцы». Вось як?

— Я не вырашыў, — без эмоцый адказаў Юрась. — Не ўмею, як ты, імгненна пракручваць сітуацыю.

— Чаму ты рашыў, што я ўмею?

— Ну, як чаму? Ты ў нас — зорка цяпер, самы крэатыўны хлопец, дык вось: думай. Я ж думаць не ўмею, я — матэматык, у мяне не мазгі, а лічыльная машына, так?

Юрась пад'юджваў, я адчуваў. Чаму ён нагаворвае? Хіба я насамрэч лічу сябе зоркай? Хіба я калі пасмяяўся з яго?

— У мяне хапае крэатыву хіба на жэрабя.

— Жэрабя дык жэрабя, — адразу спакойна і нават з нейкай прыхаванай радасцю, быццам чакаў менавіта такіх слоў (зараз усё вырашыцца, знікне нявызначанасць), сказаў Юрась, паляпаў па кішэнях, залез у заплечнік, пашамацеў там і дастаў запалкавы карабок. Вось жа, ніколі не думаў, што ён у яго ёсць. На халеру? А Юрась дастаў дзве запалкі, адламаў у адной галоўку:

— Той выпадак, калі я згаджаюся з тваёй прапановай адразу. Бо іншага нічога сам не прыдумаю.

Ён трымаў запалкі трыма пальцамі правай рукі, левай падпраўляў іх, каб вызіралі роўна, каб былі на адлегласці адна ад адной.

— Цяпер адвярніся, я памяняю запалкі месцамі.

Я адвярнуўся. Было холадна, туга́ запаўняла знутры, засмоктвала звонку. Раптам падумалася, як усё мінаецца: не будзе больш нашага шчырага сяброўства, разваліцца наша кола — трое хлопцаў-сяброў і Ядвіся. Што ж, як яна не бачыць розніцы…

— Ды паварочвайся ўжо і цягні запалку.

— Сам цягні!

— Не, дружа, твая прапанова — ты і цягні!

Са злосцю хапнуў адну з запалак, пабачыў яе абламаны канец, устаў і хутка пайшоў.

— Каб без крыўд і наездаў, — закрычаў у спіну Юрась. — І будзь пацаном: заўтра перасядзь да Уладзі…

Я не адказаў.

Ядвіся патэлефанавала каля дзесятай гадзіны вечара. Я алёкнуў і пачуў яе голас:

— Дык я для цябе — рэч, Кір? Ты мяне прапанаваў па жэрабю разыграць? Ты… ты… Ты не толькі сляпы, аказваецца, ты яшчэ і здраднік! Не дарую!

Цяпер я дакладна зразумеў, што адчувала Віялета, калі пабачыла свой скажоны чырвонымі плямамі твар у маленькім люстэрку.

Усё раптоўна абрынулася. І я ведаў — назад не складзецца.

## 9

У клас я заходзіў перад самым настаўнікам. А куды спяшацца? Мне не трэба было некуды перасаджвацца — на месцы Ядвісі сядзеў і сустракаў мяне вінаватымі сабачымі вачыма Уладзя. Чаго я ніяк не чакаў, дык тых позіркаў усіх астатніх. Усё адно, як я захварэў на галаву і прыйшоў у клас у адной бялізне: гэткія спачувальныя, маўляў, мы тут усе ўсё разумеем. І цішыня… Як цяжка ў такой цішыні ісці на сваё месца! Я кінуў, як заўжды, ад парога: «Усім прывітанне», прайшоў на сваё месца і сеў. Юрась і Ядвіся ззаду пра нешта размаўлялі, я гэтага не мог не пабачыць, блізка, галава да галавы, нахіліўшыся.

Усё лухта…

Уладзя ні пра што не пытаўся. У сталоўку я не пайшоў. Ён прынёс мне катлету і булку, дзівак, хоць яго не прасілі. Я падзякаваў і з'еў, бо прывыкаеш жа есці ў пэўны час, дык ужо смокча ў жываце…

Час цягнуўся смаўжом па шапцы грыба, пакідаючы за сабой белую баразну новай рэальнасці. Усё цяпер будзе па-новаму.

Апошняй была класная гадзіна, як звычайна, разам з інфармацыйнай. У той момант, калі ў клас зайшла Зінаіда Мартынаўна, я ўспомніў: мне патрэбна было падрыхтаваць якое-небудзь важнае паведамленне з міжнароднага жыцця, бо мая чарга… Гугліць было позна. Ат, скажу як ёсць: забыўся. Не паставіць жа «пару». Ды ўсё адно было няёмка — падвёў класную. І вось жа заходзіла яна пасля першага ўрока, віталася з усімі, пыталася, як прамінулі выхадныя, размаўляла пра нешта з Ромкам і старастай класа Светай Шурко… Дык жа ні халеры не варухнулася ў галаве пра навіны. Зусім дэбіл…

Але класная, падалося, забылася на свой абавязак палітычна нас падкоўваць. Яна сёння была трошкі дзіўнаватая: сумнавата-задуменная, паклала асцярожна, бы шкляны, класны журнал на стол, павольным позіркам абвяла ўсіх нас. Усе сядзелі ціха. А яна пачала:

— Маім самым улюбёным мультфільмам у дзяцінстве быў «Маўглі». О, там шмат серый, як мы чакалі новую! Вы ж ведаеце гісторыю Маўглі? У вашым дзяцінстве былі ў модзе іншыя мультфільмы... А Маўглі — гісторыя пра чалавечае дзіця, хлопчыка, які трапіў у логава ваўкоў. Яны выгадавалі яго… там было шмат прыгод, ды аднойчы ён вярнуўся да людзей. Дарослым і мужным юнаком. А яшчэ ў мой час была неверагодна папулярнай кніга Эдгара Берроуза пра Тарзана. Ведаеце такога? Не-не, не сённяшняя медыйная персона, муж другой медыйнай персоны. Наколькі я ведаю, было напісана мноства кніг пра прыгоды Тарзана, а фільмаў знята каля сотні. Бо надта ж быў папулярны герой…

— Дык мульцік ёсць дыснееўскі, з тым Тарзанам, — удакладніў нехта.

— Не бачыла, шчыра кажу, — працягнула Зінаіда Мартынаўна. — Ды сутнасць не ў гэтым. Дзея адбываецца у Афрыцы. Тарзан, паводле версіі пісьменніка, — маленькі хлопчык, маці якога памерла, а бацька быў забіты малпамі. Адна з малп, у якой якраз сканала дзіця, забірае хлопчыка і даглядае яго, выхоўвае. Хлопчык расце, але аднойчы вяртаецца ў сваё колішняе жытло, дзе знаходзіць мноства рэчаў, у тым ліку кніжкі. Яго дапытлівы розум дазваляе яму даўмецца: ён — іншы, не малпа, ён — чалавек. Тарзан нават навучыўся самастойна чытаць, там, здаецца, была такая кніжка, кшталту нашага буквара… Быў намаляваны рот чалавека пры вымаўленні кожнага гука. Вось ён імітаваннем і навучыўся нават размаўляць на чалавечай мове. І стаў чалавекам — там было многа розных кніг, з якіх ён даведаўся пра свет… А потым ў джунглях з'яўляецца экспедыцыя навукоўцаў, там ёсць адна дзяўчына, якая трапляе ў небяспечнае становішча, ён яе ратуе… Да ўсяго, выяўляецца, што ён сын лорда, а ў роднай Англіі яго чакае багацце… Такі хэпі-энд, такая казка… Што агульнага ў Тарзана і Маўглі? Тое, што яны былі выхаваныя звярамі. Ведаеце, навукоўцам вядома колькі сапраўдных фактаў, калі дзеці жылі сярод ваўкоў, гадаваліся малпамі. Але… яны не станавіліся людзьмі, хоць і былі знойдзены і вернуты ў чалавечы асяродак. Вы ж ведаеце, вам ужо казалі пра гэта: чалавек — сацыяльная жывёла. Яго розум, яго асоба можа развіцца толькі ў соцыуме. Розум развіваецца адно сярод падобнага. Калі ў пэўны перыяд гэтага развіцця не адбываецца, надыходзіць крытычны момант, ірвуцца ў мазгу незапатрабаваныя сувязі, і… чалавек ужо ніколі не стане чалавекам.

— І гэта даведзена? — спытаўся нехта з месца.

— Так, давялі. Як каму цікава — пагугліце, пачытайце пра выпадкі, пра якія я казала. Дык вось… мы — сацыяльныя, нас людзьмі робіць соцыум. І значыць, наш характар, нас, як асобу, робяць абставіны. О, так-так, я ведаю пра гены, імі я сама вам галаву затлуміла на сваіх уроках… Безумоўна, спадчыннасць грае велізарную ролю, але менавіта для яе поўнага раскрыцця патрабуюцца пэўныя абставіны. Чалавек можа мець усе неабходныя задаткі музыкі ці спартсмена, ды так і не выявіць іх… Абставіны. Умоўна кажучы, і наша выхаванне ў сям'і, нашу вучобу ў школах і ўніверсітэтах гэтаксама можна назваць абставінамі. Чаму ўсё ж у аднолькавых абставінах, ці амаль аднолькавых, вырастаюць розныя людзі, фарміруюцца розныя характары, выспяваюць пачаткі розных лёсаў? Цяжка сказаць. Мяркую, ёсць нешта яшчэ. Гены адказваюць за нашы фізічныя даныя, за той самы тэмперамент, за пэўныя ўменні. А што адказвае за такія рэчы, як здольнасць бачыць? «Бачыць» у дадзеным выпадку — разумець. Пад «бачыць» будзем мець на ўвазе ўсю сукупнасць магчымасцей атрымання інфармацыі: праз слых, зрок, тактыльнасць… Вось я

думаю, менавіта здольнасць бачыць і тлумачыць тое, чаму людзі розныя… Што бачыць? Ды тыя самыя абставіны. Па сутнасці, абставіны ёсць ні што іншае, як інфармацыя.

Класная на хвілінку прыпынілася, і Віктар Марыноўскі падняў руку. Зінаіда Мартынаўна кіўнула яму, дазваляючы, і ён спытаў з месца:

— Прабачце, а вам не здаецца, што чалавек фарміруецца менавіта ў сям'і? Чым мацней уздзеянне сям'і, тым слабей іншыя ўздзеянні. Нас фарміруе прыклад, найбольш блізкі і зразумелы…

— Безумоўна, Віктар, дзякуй, — згадзілася класная. — На жаль, практыка дае вялікую колькасць выпадкаў, калі ў адной і той самай сям'і выраслі самыя розныя не толькі ў сваіх здольнасцях, але і ў маральным плане людзі. Так што нешта ўсё ж ёсць яшчэ, пакуль невядомае нам… Нехта называе гэта душой… Але пра інфармацыю далей. Мы сёння, кожны з нас, атрымлівае столькі інфармацыі за дзень, колькі чалавек XVIII стагоддзя і за ўсё жыццё б не атрымаў. Вось уявіце: недзе малады граф у сваім фальварку піша ліст да дзяўчыны, апавядае, як яму і тлумна, і сумна, як хоча яе пабачыць і гэтак далей. Аддаў свой ліст… І паехала пошта конікам ад адной паштовай станцыі да другой. Дзённы пераход — ноч паспаць, наступны дзённы, там коней змяніць… Два тыдні мінае — атрымала дзяўчына ліст ад графа. Сядзела цэлых пяць вечароў у сваім пакоі перад адчыненым у цёплую летнюю ноч акном, пісала ліст, змочвала яго сваімі слёзкамі, цалавала, пакідаючы на паперы пах сваёй парфумы… І вось зноў конная пошта — ад станцыі да станцыі. Добра, як жылі нашы героі блізка ля цэнтральных дарог, а як у глыбінцы хто? Пакуль перададуць… Вось і месяц праходзіць, атрымлівае малады граф той ліст са слядамі дзявочых слёз і пахам парфумы... І ўявіце: тэлефонаў не ведалі. Так ішло атрыманне інфармацыі, з такой хуткасцю…

— Як яны вытрымлівалі? — не стрымаў свайго ўражання нехта з дзяўчат.

— Ды таму вытрымлівалі, што не ведалі іншага, хуткага спосабу, — патлумачыла з усмешкай класная, працягнула: — А сёння — самі ведаеце, як сёння. Цяперашні інфармацыйны шквал мае свае наступствы — мы, я кажу не пра вас адных, пра чалавека ўвогуле, не паспяваем яе аналізаваць. Мы часам робім недаравальнае, тое, што рабіць нельга: мы прымаем інфармацыю адзін раз з адной крыніцы — і кіруемся менавіта ёй далей у сваіх учынках. Як бы суддзя адно заслухаў пакрыўджанага — і судзіў абвінавачанага. Прыняць інфармацыю з адной крыніцы за праўду — значыць, прыняць нейкія пакуль неіснуючыя акалічнасці за сапраўдны факт. Мы не ведаем, як насамрэч нешта было, і прымаем рашэнне, зыходзячы з аднаго інфармацыйнага патоку… Пра тое, як важна атрымліваць інфармацыю з усіх магчымых крыніц, ёсць вельмі даўняя прыпавесць. Знойдзеце яе ў сеціве, мажліва, і «баян», як вы кажаце, ды раскажу. Чацвёра мудрацоў з завязанымі вачыма падвялі да слана, якога яны раней ніколі не бачылі, і папрасілі сказаць: да чаго падобны слон? Адзін крануўся слановага жывата, другі памацаў яго нагу, трэцяму дастаўся ў рукі хобат, а чацвёрты злавіў хвост. Уяўляеце, што намалявала ўяўленне кожнага з мудрацоў? У прыпавесці мог бы быць працяг: мудрацам можна было б з'яднацца, і тады б інфармацыя была куды дакладней, тады слон ні ў якім разе не стаў бы змяёй, якім яго пабачыў, да прыкладу, адзін з іх… Але мы не паспяваем сёння шукаць крыніцы, бо паток — магутны. Не паспелі хоць крышачку прааналізаваць адно, а ўжо прыляцела нешта, здаецца, важнейшае за папярэдняе, і нам некалі, мы спяшаемся… А куды спяшаемся?

Як ніколі ў класе было ціха. Зінаіду Мартынаўну слухалі, ловячы кожнае яе слова, бо гэтым разам яна нас не вучыла, не дыктавала ўмовы паводзін, яна нават не столькі пра нас і нам казала, колькі, падобна да таго, і пра сябе, і для сябе. Мне было няўтульна. Здавалася, класная зусім нездарма вырашыла сёння гутарыць з намі на такую тэму. Яна казала ўсім — і казала кожнаму з нас паасобку. Мне казала. Каб я праверыў? Што мне правяраць? Ядвісі казала? Каб яна запытала? У каго? І пра што запытала? Тым часам Зінаіда Мартынаўна яшчэ больш сцішана распавядала далей:

— Мы забываемся на сваё ўменне бачыць. Нам бракуе часу, нам няма ахвоты думаць і разважаць, аналізаваць. Ды і цяжка шукаць самому. Таму ўсё часцей у нас не думкі, а ўзятыя з сацыяльных сетак статусы і выразы, замест свайго стаўлення да жыцця — меркаванне нейкай папулярнай персоны, замест сумлення — гатовыя штампы паводзін. Час ідзе, мы пачынаем разумець: такое жыццё — паход

у тупік, бо наперадзе — расчараванне. Расчараванне ад няўмення думаць самастойна, ад няўмення зразумець іншага чалавека, ад няўмення жыць сярод людзей і самому не спатыкацца аб іх, і каб аб цябе не спатыкаліся людзі… — яна замаўчала, нейкі час аглядала нас, быццам бачыла ўпершыню, ці… (вось жа недарэчная думка!) у апошні раз, нібы заўтра нам развітвацца. — Вось такіх сёння страхаў я вам нагаварыла, — нечакана заўсміхалася яна трошкі сарамліва. — Мяркую, вы зразумелі… Усе разам і кожны паасобку. А цяпер хачу расказаць вам яшчэ адну прыпавесць. Вось такую. Былі ў аднаго гаспадара дзве бяды: стары, лядашчы асёл і стары калодзеж, у якім не было вады. Гаспадар выкапаў новы калодзеж, а вось як пазбавіцца старога асла? Забіць — дык крыху шкада, нямала ж папрацавала жывёлінка… Аднойчы асёл бадзяўся па двары і зваліўся ў стары калодзеж. Пабачыў гаспадар — зарадаваўся: цяпер можна і стары калодзеж закідаць, і старога асла ў ім пахаваць. Хапіўся за рыдлёўку ды зашчыраваў! Стаіць асёл на дне старога калодзежа, калоціцца ад страху — вось, смерць блізка. Сыплецца на яго пясок ды смецце, дрыжыць асёл... а тое смецце яму пад ногі. Сыпне зверху гаспадар, задрыжыць асёл, пераступіць нагамі. Шчыраваў-шчыраваў гаспадар, вось, мяркуе, і справа завершаная. Ажно глядзіць — вытыркаюцца з амаль засыпанага калодзежа асліныя вушы! Тут скокнуў радасны асёл, страсянуўся ды пабег з двара… Вось так. Калі на вас сыплюць бруд і смецце — не дазваляйце яму затрымлівацца на сабе. І не забывайце пра ногі — пераступайце, ідзіце сваёй дарогай. Калі пройдзеце яе — тады будзеце ведаць сабе цану… Прагучыць некалькі пафасна і непераканаўча такі выраз: «Няма дарогі да шчасця, бо шчасце і ёсць дарога». Гэта і хацела я вам сёння сказаць. А зараз паглядзім, традыцыйна, хто ў нас паспеў напрапускаць заняткаў і з якой нагоды ладзіў сабе дадатковыя выхадныя, — і класная стала той самай Зіначкай, якую мы прызвычаіліся бачыць раней. Яна разгарнула журнал, дастала загадзя падрыхтаваны лісток з выпісанымі пропускамі.

Не пакідала адчуванне невядомага канца невядома чаго. Я не слухаў разборкі класнай з прагульшчыкамі і тымі, хто паспеў адхапіць «пары». Словы яе выклікалі нядобры адгалосак. Хацелася, каб хутчэй празвінеў званок, бо за ім, мне падавалася, павінна была надысці пэўнасць. Ён і празвінеў, класная развіталася, як заўсёды, адно засталася стаяць ля стала, праводзячы позіркамі ўсіх, хто ішоў да дзвярэй. Калі я ўзняўся, дачакаўшыся выхаду з класа Ядвісі і Юрася, нечакана пачуў:

— Вяргейчык, падыдзі, калі ласка.

Я падышоў, Зінаіда Мартынаўна трошкі вінавата ўсміхнулася і папрасіла:

— У мяне дзве цяжкія торбы… Ці можна патурбаваць цябе — паднесці іх да прыпынку аўтобуса?

— Ды вядома ж, якія праблемы! — ад нечаканасці я застыў на месцы, чакаў, усё адно як тыя торбы мне ўручаць тут і цяпер.

— Тады апранайся і падыдзі да настаўніцкага пакоя…

У гардэробе чакаў Уладзя.

— Улад, ідзі сам… Зіначка папрасіла ёй паднесці там нешта…

— Дык мо ўдвух? Я таксама магу!

На хвіліну я задумаўся і адмоўна пакруціў галавой.

— То яна б і спытала нас двух, шарыш?

— Ага, мабыць, нешта табе сказаць хоча, — схапіўся Уладзя, і ў яго голасе я адчуў ноткі радасці — нібыта мне ўручаць зараз якую грамату.

Ды ўручыла мне класная, як і казала, дзве торбы — з папкамі, паперамі, брашурамі. Важкія. Мы выйшлі са школы, а мяне, пагатоў пасля слоў Уладзі, пачало разбіраць: чаму я? Хіба мала хто з нашых змог бы дапамагчы? І чаму адзін насамрэч? Ісці з дзвюма занятымі рукамі і заплечнікам неяк і не вельмі звыкла…

— Няцяжка? — турботліва пацікавілася Зінаіда Мартынаўна.

— Ды не, — супакоіў я яе. — Дужкі поліэтыленавыя трымаюць, то хіба ж тут цяжар?

Мы ішлі ад школы да прыпынку аўтобуса. Дрэвы стаялі цалкам голыя, тратуар быў чысцютка падмецены. І ад таго падаваўся нейкім пустым і бясконцым. І яшчэ — халодным. Хоць на самай справе холадна не было — бязветрана, і сонца свяціла, ды, пэўна, не лета.

— Мы некалі ў юнацтве, студэнтамі, любілі такую гульню ці не гульню: пыталіся іншы раз у якой сваёй сяброўкі: «Я цябе папрашу, абяцай, што зробіш», — пачала апавядаць класная, пабачыла маё маўклівае здзіўленне ў позірку, патлумачыла: — Ага, рызыкоўна, затое той, хто абяцаў і рабіў, меў права на такое самае штукарства. Зазвычай прасілі дробязі: збегаць у краму па хлеб, памыць падлогу, заварыць гарбату, прыбраць на стале… Дык вось, пагуляйма з табой у такую гульню, га? Ты мне паабяцаеш зрабіць тое, пра што я цябе папрашу?

— Я? — ажно прыпыніўся я ад нечаканасці. — Не разумею…

— А ты паабяцай, — усміхнулася класная. — Праўда, нічога страшнага…

— Ну… Добра, абяцаю зрабіць, — хмыкнуў я, трохі заінтрыгаваны.

— Выдатна… Ведаеш, Кір… Ага, буду зваць цябе так, як сябры, дык вось… Я цябе папрашу, каб ты больш ніколі ў школу не апранаў саколку ці балахон з выявай знака «Анархія».

— Ды, Зінаіда Мартынаўна, колькі можна! Каму так мазоліць вока тая літара А? — раззлаваўся я, бо столькі ўжо наслухаўся гэтых вымоў з-за сваіх цішотак! Здаецца ж, скончыліся нармальна ўсе размовы, — я не прапагандую непаслухмянства, я спакойна адгукаюся на нейкія патрэбныя школе ці класу даручэнні ад яе ж, класнай. Дык чаго яшчэ?

— Не злуйся, Кір, паслухай… То ўчора і сёння цябе не чапалі. А заўтра могуць зачапіць. Ці пазней. А я ведаю твой характар, ты ўмееш закусіць цуглі. І тады закончыцца непрыемнасцю. А я не хачу, каб такі, як ты, меў непрыемнасці, ды яшчэ праз нейкую выяву на саколцы, — памяркоўна даводзіла мне Зінаіда Мартынаўна.

— Я не разумею! Я не разумею, чаму ўчора і сёння — можна, а заўтра раптам будзе нельга! Заўтра прымаецца дзяржаўны закон аб забароне літары А? — распсіхаваўся я.

Класная нейкі час маўчала. Мы падышлі да прыпынку, я хацеў паставіць пакеты на лаўку, але яна папрасіла адысці далей, мабыць, хацела яшчэ нешта давесці. Мы адышліся, я паставіў ношку ў сівую траву ля тратуара.

— Ты і сапраўды такі гарачы, — ласкава ўсміхнулася Зінаіда Мартынаўна.

— Хай так, — насупіўся я. — Дрэнна?

— Так, дрэнна, — пасур'ёзнела яна. — І таму дрэнна, бо той, хто ведае, які ты, лёгка можа табой маніпуляваць. Ты і не здагадаешся, як будзеш рабіць патрэбнае яму. Ці ўжо зрабіў, — скончыла яна нечакана, і я ўздрыгнуў — пра што яна ведае? Адкуль? Было прыкра асэнсоўваць, ды я цяпер не мог прагнаць ад сябе адчуванне, што апошняя наша размова з Юрасём была сапраўды штучнай, загадзя запланаванай, бы Юрась дакладна ведаў, што я скажу, зраблю, як адрэагую… І вось цяпер пачуццё, што я павёўся, як лох, узмацнілася.

— Нармальна… Які ёсць, — буркнуў я.

— А чаму заўтра нельга? — класная вярнулася да тэмы саколак з анархіяй. — Ды таму, дарагі Кір, з заўтрашняга дня цябе некаму будзе бараніць перад дырэктарам. З заўтрашняга дня я не буду ў школе…

Я маўчаў. Значыць, не падалося. Значыць, апошняя незвычайная класная гадзіна з прыпавесцямі — зусім не выпадковасць. Яна насамрэч глядзела на кожнага з нас, развітваючыся.

— З-за вашай маці? — нарэшце ціха спытаўся я.

— Так… Ёй горш, наняць некага нельга — яна застаецца ў адносным спакоі, калі з ёй толькі я. Пакідаць яе адну на цэлы дзень небяспечна. Хоць і газ, і вада даўно перакрываюцца ў адмысловых месцах, пра якія яна не ведае. Ды ад усяго не ўберажэшся… Так, Кір. Больш я не настаўніца, я — даглядаю маці.

— Прабачце, Зінаіда Мартынаўна… Маці ваша такая хворая, дык чаму…

— Чаму яна дома, а не ў лякарні? — сама скончыла маё непрыемнае пытанне класная. — Бо маці… У яе бываюць і гадзіны, і нават дні прасвятленняў, няхай сабе ўсё радзей і радзей. І тады яна цешыцца жыццю, сонцу, мне, як дачцэ. І плача… І просіць, каб я здала яе ў вар'ятню, каб наладжвала сваё асабістае жыццё. Прабач, што расказваю табе гэта, але ж ты так шмат даведаўся… неспадзявана. Не, мама будзе са мной. Пакуль я ёй патрэбная.

— А каго нам прызначаць на ваша месца?

— Як нічога не зменіцца, дык Антося Сямёнавіча.

— Тады нармальна, — кіўнуў я. — Яго ўвесь клас запаважаў…

— Вось і добра… Неўзабаве мой аўтобус. Дык ты абяцаеш?

— Не змагу, Зінаіда Мартынаўна, — насамрэч з сумам уздыхнуў я. Кашулі насіць ніяк не прывыкну, адно саколкі. А на ўсіх саколках выява «А». Набіў праз трафарэт. Вось…

— А я ведала, — раптам усміхнулася пераможна класная. — І таму…

Яна пакапалася ў адной з торбаў і выцягнула пакунак.

— Вазьмі, калі ласка. Твой колер і твой памер. Вазьмі… як падзяку і на памяць.

Я аслупянеў, узнікла адно жаданне — бегчы адсюль.

— Ды я… Я не вазьму! Навошта? Якая падзяка?

— За той вечар.

— А я прычым? То Ядвіся!

— Яна сказала, што без цябе нічога ў яе не атрымалася б. Ты — яе каталізатар.

— Які яшчэ каталізатар? Вы выдумляеце рознае! — разгубіўся я, наважваючыся вось зараз жа пайсці.

— Чакай, Кір… — класная кранулася маёй рукі. — Калі ласка… Не крыўдзі мяне. Гэта толькі наша з табой справа. А я… я буду ведаць, што і аддзячыла табе, дарэчы, і за тваю ролю ў фільме, за твае прыдумкі. Так, мне ўсё апавялі, як было. Вы зрабілі не проста фільм, вы з'ядналі клас… Вазьмі, Кір, я буду упэўнена, што я зрабіла ўсё, каб ты быў у бяспецы… хоць некалькі першых дзён без мяне.

І я ўзяў пакунак з нечым шэрым. Саколка…

— Вось… Дзякуй табе за ўсё яшчэ раз. І скажу на развітанне, ты ўжо выбачай: за сваё трэба змагацца. За ўсё сваё — за цацкі, за рэчы, і пагатоў — за пачуцці. Маўчы, маўчы… я ўсё, ці амаль усё, ведаю, бо бачу і чую. Гарачым быць не так і страшна, ды варта памятаць, Кір: хлеб нельга рэзаць гарачым нажом. Аб адным хачу перасцерагчы: каханню не патрабуюцца тлумачэнні, каханне патрабуе ўчынкаў і спраў. Усё, не крыўдуй, калі ласка. Вунь аўтобус… Хай будзе ў цябе ўсё добра…

Ніколі яшчэ горад не падаваўся мне такім варожым… такой пачварай, якой напляваць на людзей, на іх лёсы! Яна, гэтая пачвара, хапае жыхароў сотнямі сваімі пашчамі-вуліцамі, яна малоціць іх ва ўстановах, у школах, на прадпрыемствах, а далей яны, сжаваныя і пацёртыя, брыдуць у свае норы, несучы на сабе адчай і прыкрасць дня, лезуць пад душ, думаюць, спадзяюцца, гарачая вада змые іх, і лічаць, так адбываецца, гатуюць есці, садзяцца перад тэлевізарам, а адтуль тая ж пачвара пачынае нагружаць іх мазгі лёгкім наркотыкам уласнай бяспекі, паказваючы жахі ды злыбеды ў іншых краінах, у іншых гарадах, у іншых, далёкіх людзей, закалыхваючы свядомасць і выключаючы цалкам жаданне бачыць — бачыць так, як казала Зінаіда Мартынаўна: аналізаваць, параўноўваць, шукаць. Абы яны, людзі, не западозрылі ў ім, горадзе, той пачвары…

Вечарам пачаліся тэлефанаванні. Спачатку Ромка — пачаў так бадзёра, маўляў, я — крэатыўна мыслю, а ў яго ёсць яшчэ адна задумка — алея выпускнікоў ля школы! Акурат ёсць пустое месца, дык от няблага было б прыдумаць які сцэнар, рытуал… Я мякка запярэчыў: ёсць ідэя алеі — навошта сцэнар? Дырэктарка ўсё патлумачыць і інструктаж па тэхніцы бяспецы прачытае перад тым, як выдасць па рыдлёўцы… Ромка не адставаў, я спыніў яго і сказаў, што мне лянота. І адключыўся. Потым патэлефанаваў Ігнат. Сказаў, што яны знайшлі цудоўную пляцоўку для паркура — зачынілі нейкі завод невялікі, яны з сябрамі адшукалі ход. Там неверагодна цікава! Калі я згодзен — то можна заўтра паспрабаваць. Падзякаваў Ігнату, але паркур — не маё. Так, і цікава, і захапляльна, калі хлопцы паказвалі відэазапісы, ды ахвоты самому вось так паскакаць па лесвіцах і пераходах ніколі не ўзнікала… Яшчэ — Міхал Вакульчык. Я ўжо не здзівіўся і адразу спытаў: якія ў яго прапановы? Міхал стаў распавядаць, як захапіўся відэа падчас працы над фільмам, загарэўся яшчэ нешта стварыць, мо ёсць ідэя якога фільма? Стась гатовы напісаць тэкст, але ж каб тэму... І Міхал паабяцаў паказаць, як крута працаваць у відэарэдактары, якія клёвыя сцэны можна рабіць, і калі я згодны — ён можа навучыць. Не было ніякай ідэі. Я быў не згодны.

Ядвіся не патэлефанавала.

На першы ўрок разам з матэматычкай Ганнай Тодараўнай зайшла завуч Наталля Іванаўна. Па ўсім, не ў гуморы. Бо прывіталася суха і адразу ж пачала казаць па справе:

— Ваш былы класны кіраўнік Зінаіда Мартынаўна па сямейных абставінах нейкі час не можа працаваць у школе, і, зразумела, выконваць абавязкі класнага кіраўніка. Пакуль будзе прынята канчатковае рашэнне аб прызначэнні новага класнага кіраўніка, гэтыя абавязкі буду выконваць я.

— А як жа Антось Сямёнавіч? — неспадзявана спытаў я.

— Вяргейчык, пакуль дэмакратыя ў школе не дайшла да таго ўзроўню, каб вучні самі абіралі класных кіраўнікоў, гэта застаецца прэрагатывай дырэкцыі. Ты маеш жаданне аспрэчыць нормы?

— Ды мне амаль пофіг, — ціха агрызнуўся я і выправіўся, разумеючы, што завуч не даруе такіх слоў. — Прабачце, мне ўсё адно, ахвоты спрачацца з дырэкцыяй я не маю.

— Дзякуй, — холадна адказала завуч, пільна зірнула мне на грудзі.

Было зразумела: цікуе за «Анархіяй». Не старайся… няма. Я сёння ў саколцы Зіначкі…

На перапынку падышоў Ромка, адвёў убок:

— Ты ведаў?

— Учора Зіначка казала… Я праводзіў яе да прыпынку.

— І мне казала…

— І каб ты мне тэлефанаваў, казала?

— А я сам не магу? На цябе ж глядзець… ажно сумна робіцца. Ды казала, калі табе так важна… Усё будзе добра! Твае ж словы.

— Ромка… — з незадавальненнем перасцярог я.

— Усё, маўчу… Слухай, і ты павінен ведаць. Мне тут пад сакрэтам сказалі… На нашага фізіка быў данос у міністэрства. Што ён арганізоўвае п'янкі для вучняў на сваёй кватэры. П'юць там піва. І здымаюць нават на відэа. А доказ — наш фільм.

Дзіўна, зусім не ўразіла гэтая навіна. Я глядзеў у сумныя Ромкавы вочы і разумеў: так мусіла быць, усё павінна быць зруйнавана, бо я выцягнуў тую запалку, шмаргануў, як чаку баявой гранаты, — і мой сусвет не захістаўся — выбухнуў, абрынуўся, а ў маім сусвеце не адна Ядвіся, у ім — Зінаіда Мартынаўна, фізік, Ромка і наш фільм…

— Трэба нешта рабіць, — нясмела азваўся Ромка, нагадваючы пра сябе.

— Трэба? Ты ўпэўнены? — абыякава спытаў я. — Сэнс? Ці ты лічыш, твае словы нешта значаць у школе?

Ромка пакрыўджана засоп.

— Я разлічваў на цябе.

— У сэнсе?

— Ты нешта прыдумаеш…

— Ды ідзіце вы ўсе, знайшлі крэатыўнага прыдумшчыка! Адчапіцеся! — крутнуўся я і пайшоў прэч.

Да канца тыдня мяне ніхто не чапаў. Зрэшты, ніхто нікога не чапаў — у класе было не тое што сумна, а як пасля хаўтур: голасна не размаўлялі, смех сцішваўся, абрываўся, не паспеўшы выбухнуць. На ўроках не шумелі, з настаўнікамі не спрачаліся. І нават Віялета са сваімі сяброўкамі паводзіліся стрымана, для нейкіх сваіх размоў яны купкай выходзілі з класа, але вярталіся не як раней, з застылым хіхіканнем на тварах, а нечым нават засяроджаныя. На вуліцы холадна — ужо добра падмарожвала, малыя раніцай дарогаю ў школу шукалі зацягнутыя белым льдом лужыны, тупацелі, слізгалі. А снегу не было, наўкола панавалі шэрыя і чорныя колеры. Неяк ішоў і нечакана стаў лічыць (магчыма, згадалася, як Юрась штораніцы нешта падлічваў) колькасць людзей у чорнай і шэрай вопратцы і іншай, чырвонай там, сіняй… Налічыў шэсцьдзясят сем чорна-шэрага колеру і восем блакітнага, зялёнага, чырвонага. У школу і са школы я хадзіў адзін, нікога не чакаў, хутка апранаўся і ішоў па вялікім коле — праз старыя прысады, якія цяпер выглядалі нават трошачкі жудасна, — шэрая стужка тратуара ў атачэнні чорных ствалоў клёнаў з аднаго боку і квола-нясмелых белых бяроз з другой. Падобна, табе прапаноўваецца выбар: станавіся па любы бок. Ідзі, разважай, а напрыканцы збочвай ці да чорных клёнаў, ці да светлых бяроз… Я не згадваў у гэтых прысадах Ядвісю. Згадваць жа можна тады, калі забываеш, так? Я ішоў штораз з ёй тут і адчуваў цяпло яе пальцаў у сваёй руцэ.

Выйшаў са школы, хутка дайшоў да плота і ля веснічак пабачыў цётку Жэню — маці Уладзі. Прайсці паўз яе не атрымлівалася: яна пазнала, заўсміхалася насустрач. Я павітаўся.

— Дзень добры табе, Кірыла! А дзе ж мой Уладзя?

— Ды зараз хутка ідзе…

Было памкненне выбачыцца, сказаць, маўляў, тэрміновыя справы, таму я так спяшаюся, ды згадалася некалі абяцанае цётцы: ніколі не кідаць Уладзю. І я прыпыніўся ля веснічак, бы мы з Уладзем дамаўляліся тут сустрэцца, каб не таўчыся ў тлумным школьным фае.

Уладзя выйшаў гэтаксама адзін, спусціўся з прыступак, і потым з дзвярэй паказаліся Ядвіся і Юрась. Ядвіся зірнула наперад — і прыпынілася, таргануламза рукаў Юрася. Яны спыніліся, адышлі ўбок і засталіся стаяць на пляцоўцы ля дзвярэй пад бетонным паддашкам.

— А што здарылася? — сустрэў Уладзя маці пытаннем.

— Сынок, бабуля Таццяна захварэла, едзем во зараз з бацькам, — пачала тлумачыць цётка Жэня. — Вернемся ў нядзелю, як усё будзе добра, бо шлях няблізкі — трыста кіламетраў у адзін бок. А збіраліся назаўтра перавезці з лецішча бульбу ды ўсё іншае са склепа, бо маразы ж пачаліся. І на выхадныя абяцаюць моцнае пахаладанне. Дык мы цябе просім, сынок: мо б вы разам з Кірылам з'ездзілі на лецішча, напалілі там печку добра, каб жа не памерзла, шкада ж будзе вельмі… Мы і грошай табе пакінулі дома, на тваім стале, купіце чаго смачнага, там жа нядоўга…

— Ну, вы задаяце мне работу, — незадаволена буркнуў Уладзя. — У мяне і свае планы на суботу былі.

— Дык жа памерзне ўсё…

— Ды з'ездзім, цёць Жэнь, — нечакана вырвалася ў мяне. — Напалім, чаго там…

— Дроў там зусім мала засталося… — з асцярожнай скрухай, за якой ўгадвалася палёгка і радасць, уздыхнуў Уладзя.

— То ўжо, сынок, назбіраеце сучча хваёвага ў ляску, там жа яго хапае, недалёка, дажджоў не было моцных апошнія дні, яно сухое… сякеры там дзве ёсць… Бацька выбачаецца вельмі…

— Ды добра, назбіраем.

— Тады мы паедзем, бацька ледзь прыпаркаваўся на колькі хвілін. Усё, глядзіце там, хлопчыкі, асцярожна каб… Будзьце там гаспадарамі, вы разумныя і дарослыя ўжо…

— Ды паглядзім, паглядзім. Добрай дарогі. Бабулі прывітанне, — развітаўся Уладзя з маці, яна подбегам падалася ў бок прыпынку, дзе, мабыць, чакаў у аўто бацька. Баба Таццяна, я ведаў, жыла насамрэч вельмі далёка адсюль, Уладзя апавядаў раней.

Дарогаю коратка дамовіліся з Уладзем пра час выезду. Ён ажывіўся, прапанаваў застацца нанач і захапіць падручнікі, каб там і дамашку зрабіць. Я адмовіўся, бо марыў усю нядзелю праваляцца на канапе, — спампаваў сабе новыя сезоны «Падмані мяне» і «Менталіста». І Кінг не дачытаны. Ды і што рабіць у такое надвор'е на лецішчы, у дамку, які стаіць ля невялікага ўзлеска, у бязлюддзі? Адно ў печцы паліць?

Мы прыехалі на лецішча назаўтра каля адзінаццатай гадзіны. Уладзя цягнуў напакаваны заплечнік, мне яшчэ ў рукі даў торбу, з якой вытыркаўся доўгі батон. Пакуль дайшлі ад прыпынку аўтобуса да лецішча, нас наскрозь прадзьмуў жорсткі марозны вецер. Было вельмі холадна, па чорнай раллі агародаў перацякалі языкі белага пылу — уначы, здаецца, ішоў невялікі снег. Дайшлі да лецішча, Уладзя дастаў ключы, каб адамкнуць веранду, і тут мы разам пабачылі ў куце вялікай цяпліцы нешта невыразнае, купу старога рыззя.

— Што за дрэнь? — здзівіўся і крыху спалохаўся Уладзя, мы разам падышлі да цяпліцы. Яе дзверцы нечакана былі прыхопленыя на вяроўчыну знутры. Уладзя шмаргануў раз, і другі, вяроўчына аслабла, спала, і тут купа зашавялілася, і мы ўбачылі твар бамжа, які зацкавана зіркаў на нас. Дзіўна, на ягоным твары, парэзаным глыбокімі зморшчынамі, акрамя невялікай барады і вусоў, сівых, але акуратна падрэзаных, не было расліннасці. Ён быў паголены, бы ўчора. На галаве — вязаная шапка, брудных валасоў з-пад яе не было відаць. Ён падхапіўся, скінуў з сябе шматкі поліэтыленавай плёнкі, якія зацягнуў сюды, паказваючы сваё лежбішча, — вялікія палосы кардону. Стаяў, невялікага росту, перапалоханы. Ён выглядаў гадоў на шэсцьдзясят. Лёгкая куртка-вятроўка і кашуля, вялікія, не па росце, шэрыя джынсы, стаптаныя, і відавочна з чужой нагі, некалі чырвоныя красоўкі. Ля ног ляжаў стары заплечнік, амаль пусты.

— Давай вымятайся, знайшоў прытулак, — без злосці загадаў Уладзя. — І каб болей тут не швэндаўся, а то міліцыю выклічу.

— Даруйце, даруйце, шаноўныя, я імгненна, і ўсё прыбяру, прыбяру, — азваўся бомж, і голас яго, прасякнуты вінаватасцю, прагучаў неяк незвычайна інтэлігентна. Ён нахіліўся, стаў мітусліва збіраць кардон, шматкі плёнкі, згортваць усё ў адзін камок, каб можна было абхапіць рукой. Сабраў, стаяў і чакаў — калі мы дамо яму магчымасць выйсці. Мы адступіліся, ён прайшоў паўз нас, яшчэ раз выбачыўся: — Вельмі перапрашаю, вельмі перапрашаю… Не-не, я болей ніколі… Холадна надта, а тут зацішна, прабачце, прабачце…

А сам глядзеў у зямлю. Не, трошкі вышэй… на маю торбу. Мабыць, ён адчуў мой позірк, бо ўзняў вочы, — і я пабачыў там голад, невыноснае жаданне нешта з'есці. Аж скаланула, бо я ўпершыню сустракаў такі позірк, але нельга было яго не зразумець. Бомж глядзеў не на маю торбу — на той доўгі батон, які вытыркаўся з яе.

— Пачакай… пачакайце, — неспадзявана для сябе выправіўся я, выцягнуў батон, стаў ламаць яго, а ён быў у поліэтыленавай плёнцы, і ніяк нельга было аддзяліць кавалак без нажа ці чаго вострага.

— Зараз адамкну дзверы, там нож ёсць, адрэжам, — спыніў мяне Уладзя, зразумеўшы маё жаданне.

Наляцеў моцны парыў ветру са снежна-пясчаным пылам, секануў калючымі крупамі па нагах, нават дастаў твары. Бомж затросся — вятроўка, безумоўна, не грэла яго ніяк. Уладзя адчыніў дзверы, павярнуўся да бамжа і запрасіў-загадаў, звярнуўшыся да яго, як і я, пачціва на вы:

— Зайдзіце, пачакайце… тут недзе швэдры старыя былі, яшчэ цэлыя, і куртка бацькава зімовая заставалася… Яно нам без патрэбы, будзеце насіць…

Невялікі дамок настыў, хоць тут было зацішна, ды выдавала яшчэ халадней праз няўтульнасць, якая стваралася несуадноснасцю жывога жытла і холаду ў ім. Я пашукаў у стальніцы нож, Уладзя тым часам адчыніў адну, другую шафку, выцягнуў вялікую зімовую куртку з балонні, таўсматы швэдар, яшчэ нешта шукаў.

— Дзякуй, дзякуй вам, хлопчыкі, — зачасціў бомж, схіляючы нізка-нізка галаву. Ён узяў працягнуты мной кавалак батона і не проста панюхаў, а удыхнуў пах белага хлеба, глыбока-глыбока, гучна. Засаромеўся, зіркнуў на нас з-пад ілба вінавата, не стрымаўся, адламаў невялікі кавалачак і пачаў жаваць павольна, ды каўтнуў вельмі хутка.

— Чакайце, зараз у печцы распалім, дамо паесці па-людску…

Я выйшаў на веранду (бомж пры гэтым прыціснуўся да вушака, быццам хацеў стаць зусім плоскім), прынёс дровы, якія заставаліся, — чатыры вялікія палены, то бацька Уладзі быў прывёз два бярэмі. Каб іх распальваць, мы, калі адзначалі тут заканчэнне здымак фільма, бегалі ў пералесак за тонкім сушняком. Я ўголас агучыў сваю праблему распалу.

Бомж нечакана кашлянуў, заспяшаўся:

— Дазвольце мне дапамагчы, маладыя людзі, я маю вопыт, маю вопыт…

Я прамарудзіў трохі, потым працягнуў яму моўчкі нож, сам пайшоў адчыняць юшку. Ён апусціўся на калені перад печкай, спрактыкаванымі упэўненымі рухамі стаў шчапаць адно палена. Пакуль я схадзіў па ваду да студні, якая была на ўчастку, бомж ужо распальваў трэскі. Акуратна паклаў усе чатыры палены, прычыніў дзверцы, і полымя загуло.

— Па дровы ісці… — нагадаў Уладзя, і бомж як чакаў гэтага — падхапіўся на ногі.

— Зараз, зараз я прынясу, хуценька ўпраўлюся…

— А шукаць мы не будзем вас з сякерай? — хмыкнуў Уладзя.

— Я без сякеры, навошта? Лёгка наламаць, а таўсцейшыя я прыцягну, тут пасяку… Я ўмею, усё ўмею, маладыя людзі…

— Апраніцеся цяплей, — заўважыў я.

Бомж паслухаўся, скінуў вятроўку, нацягнуў на сябе швэдар. На хаду апранаючы куртку, знік за дзвярыма.

— Вось такое жыццё яшчэ бывае, — задумліва прамовіў Уладзя, раскладаючы на стале хлеб, халодныя катлеты, палову смажанай курыцы…

— Пайду і я па дровы, — вырашыў я, калі пачуў, як бомж вярнуўся і на верандзе пачуўся нягучны стук — ён вывальваў назбіранае. — Не, ты будзь тут… на ўсякі выпадак, — запярэчыў я, бачачы, як Уладзя памкнуўся быў ад стала. — Стаўляй чайнік на пліту…

Вялікая чыгунная пліта ўжо нагрэлася.

Пакуль закіпела вада, мы з бамжом зрабілі яшчэ чатыры ходкі — цяпер на верандзе хапіла б дроў, каб паліць у печцы разы тры ці больш. У дамку стала ўтульней — ад чыгуннай пліты, якая месцамі была ўжо крышачку барвовай, ішло цяпло. Уладзя падкінуў дроў, расчыніў дзверцы. Паставіў перад імі табурэткі, на адну згрувасціў ежу, яшчэ тры — нам сядзець.

— Давайце паямо крыху… гарбата заварваецца.

Бомж таптаўся ля парога, не асмельваючыся зрабіць крок.

— Сядайце, не пагонім ужо. У цяпле паешце…

— Ды… каб рукі памыць…

— Зараз усе памыем, — Уладзя зачарпнуў у вялікую конаўку вады, прыхапіў ручнік: — Хадзем…

Памылі рукі, вярнуліся — і нас так прыемна абдало цяплом, на падлозе танчылі чырвоныя водбліскі полымя з грубкі.

— І як вы тут апынуліся? — пасля некалькіх хвілін маўклівага жавання спытаў я бамжа. — Як вас зваць, дарэчы?

— Сяргей Міхайлавіч… Прабачце, як вам будзе зручна… Сяргей… дзядзька Сяргей… дзед… А апынуўся… У кожнага бамжа свая гісторыя, нічога цікавага, — адказаў ён, беручы кубак з гарбатай дзвюма рукамі. Ён з самага пачатку крыху пасунуўся са сваёй табурэткай далей ад нас і бліжэй да печкі, а еў вельмі ахайна, не спяшаючыся, з закрытым ротам. Я на гэта звярнуў увагу, бо раздражняе, калі нехта чмякае і цмокае. А ён маленькімі кавалкамі адломваў хлеб, курынае мяса і катлеты парэзаў на такія самыя кавалачкі, браў двума пальцамі (елі мы без відэльцаў, канечне). Інтэлігентны бомж, што ні кажы.

— Ні фіга сабе, нічога цікавага, — хмыкнуў Уладзя. — Як людзі са звычайнага жыцця раптам застаюцца без нічога і нідзе? Праз гарэлку?

— Нехта і праз гарэлку, — смялей пачаў бомж. — І часцяком яна — спадарожнік такіх прыгод.

— А вы?

— А я… Вам, маладыя людзі, праўда, цікава?

Ён угрэўся, перастаў горбіцца, сядзеў амаль нязмушана, і ў яго паставе праявілася ўжо не хвілінная, на патрэбу, а сапраўдная сціпласць.

— Мне дык вельмі, — упэўніў яго я. — Пагатоў, відаць жа, вы — не просты рабочы ў мінулым, так?

Ён ледзь усміхнуўся ў адказ.

— Гэта хутка праміне… такі лад жыцця адвучвае ад звычайных чалавечых звычак, бо на іх бракуе сродкаў і часу. Галюся, бо знайшоў нечае лязо, а як не стане, дык… і іншае…

— Кім вы працавалі? Дзе?

— Працаваў… А можна, маладыя людзі, я пачну здалёк?

— Можна, — кіўнуў згодліва Уладзя. — Нам тут сядзець доўга, неабходна печку напаліць як след, сагрэць дамок.

— Так, добра… Тады слухайце… — бомж сербануў гарбаты, многа адразу, зрабіў яшчэ колькі глыткоў. — Самая згубная звычка для бамжа — курыць. Бо між цыгарэтамі і ежай за грошы, якія выручыў за здадзеную паперу ці шкло, абярэш, канечне, ежу. А курыць хочаш — збірай недапалкі. Вельмі брыдка выглядае збоку. Натуральна, не нясеш той знойдзены недапалак прама ў рот, збіраеш, падсушваеш, вытрусваеш тытунь, круціш цыгарку… Але — агідна на прыпынках, ля ўстаноў збіраць тыя «бычкі». І я кінуў курыць. Колькі разоў у тым жыцці збіраўся, не змог. А тут кінуў за месяц. От кажуць, каб ва ўсім шукалі добрае, ёсць яно і ў мяне, — са скрухай усміхнуўся ён, дапіў гарбату, пацягнуўся і падкінуў колькі паламанага сучча ў печку. — У юнацтве я разрываўся між двума заняткамі: любіў маляваць, ажно мне смылела, усе вокладкі кніжак змалёўваў на ўроках, у кожным сшытку апошнія старонкі, хоць і пападала вельмі. І хімія! Так, як пачалася хімія, я чакаў урокаў, як свята. Хадзіў у хімічны гуртом, у Дом піянераў — у гурток выяўленчага мастацтва. І нічога больш не цікавіла. Людзей зазвычай не маляваў, так, краявіды

незвычайныя, мора, горы… Па тым, што бачыў у кіно, сам прыдумляў. А тут неяк быў на возеры з бацькамі, пабачыў сваю аднакласніцу. Яна… трошкі незвычайная была, ад усіх адрозная. Летуценная крышку і адначасова нібы сталей за ўсіх нас, разважлівая такая. І дзікаватая, трымалася звычайна ў баку ад агульнай класнай мітусні. Але ўмела быць і вясёлай, непасрэднай. Ёй нехта дастаў белы гарлачык, яна яго ўваткнула ў валасы — яны ў яе былі доўгія, густыя — і так сядзела ля берага задуменная. А над галавой — вярба свае косы зялёныя апускае. І вада ў возеры — з белымі аблокамі. І ўва мне нешта такое варухнулася… Перадужаў сваю сарамлівасць, папрасіў: каб яна дазволіла мне яе намаляваць, ну, і пасядзела крыху нерухома. Яна ўсміхнулася згодліва, цёпла, доўга сядзела, пазіравала старанна, яе бацькі колькі разоў клікалі паесці — адмахвалася. А я рабіў эскізы. Зазвычай я маляваў адно алоўкамі ды ручкай, гуашшу плакатнае нешта, акварэллю. А тут — алеем рашыў напісаць. Мучыўся доўга, ды так атрымалася — і сам здзівіўся. Тая карціна фурору нарабіла ў Доме мастацтваў. Яна, Юлечка, пабачыла, гэтак расхвалявалася… Лета сваё апошняе школьнае мы з ёй разам былі: хадзілі па ўзлесках, па берагах возера і нашай плыткай рачулкі, шукалі цікавыя мясціны. І я маляваў яе, маляваў… Толькі маляваў, і больш нічога. Аднойчы… мы далёка ад людзей адышліся. Яна ў купальніку была, сядзела на пяску, ногі ў вадзе, задуменная ўся, і такое было ў яе позірку, столькі ў ім было пачуццяў! І хутка я пачаў рабіць эскізы: твару, вуснаў, вачэй, рук і ног, хваль… А яна ўстала і зняла з сябе… усё зняла. І папрасіла так намаляваць. У горле ўсё захрасла, але я маляваў… Потым падышла, пацалавала ў вусны, апранулася і пайшла. Назаўсёды пайшла — бацька яе быў вайсковец, яго пераводзілі ў іншы горад. Той малюнак застаўся ў эскізах…

Ён маўчаў, пакусваў вусны, я не ўцярпеў, спытаў:

— І што, не спрабавалі шукаць, пісаць?

— Дык як шукаць, малады чалавек? То вам зараз праз сеціва можна, а тады… Куды пісаць, на які адрас? Чакаў ад яе ліста. Не напісала… ды я вінаваты — у апошні вечар не да яе дома пайшоў, а чытаў «Займальную хімію»…

— А чаму не намалявалі партрэт? — нагадаў пра яго аповед Уладзя.

— Не ведаю нават… Пазней мая жонка тыя эскізы спаліла разам з усімі іншымі. Ды я памятаў той момант да кожнай хвалькі на паверхні вады, да кожнай жылачкі на яе тонкіх руках. І ўсё чакаў, чакаў — прыйдзе той час, я змагу намаляваць вялікае і шчырае палатно. Вось дзе бяда: толькі праз шмат гадоў я зразумеў, што час не можа прыйсці, час ніколі не прыходзіць. Час можа толькі прайсці і адысці назаўсёды. Дык вось… Яна паехала, а я больш не змог нічога маляваць. Праз год паступіў на хімічны факультэт, скончыў з чырвоным дыпломам, запрасілі ў інстытуце застацца. Стаў аспірантам. Дзяўчына адна сустрэлася. У кіно разам хадзілі, абдымаліся, цалаваліся, здалося — каханне. Ажаніўся. Жылі ў інтэрнаце. Працаваў… Наша група распрацоўвала новыя пластыкі, цікава было вельмі, часта заседжваліся дапазна. Якія там заробкі ў аспіранта? Пілавала жонка штодзень, перавёўся на завод, на вытворчасць, хоць вельмі прасіў кіраўнік не кідаць навуковую працу. Ды на заводзе удвая болей заробак. Будавалі кватэру, гадавалі дачку. А ўсё марыў пра той час, калі намалюю тую сваю дзяўчыну з юнацтва. Лецішча ў нас з'явілася, во такі дамок я там пабудаваў, як вясна, то марыў: ужо гэтым летам намалюю… Не атрымалася… Усё грады, гной, капай, палі, апырсквай… І грошы, грошы, грошы… Перавёўся ў простыя рабочыя, яны ж больш атрымлівалі тады, чым нейкі там тэхнолаг. Чытаў начамі навуковыя часопісы, шукаў, дзе якую рацпрапанову зрабіць, — за такое капейчыну атрымаць можна было добрую. І не заўважыў, як адзіная дачка вырасла, як стаў я ў сям'і і кватэры чужы. Адно і згадвала дачка, адзінае, што пытала — грошы. Умела выпрошваць. Даваў, думаў: вось, будзе паважаць, цаніць. Тут крызіс за крызісам, усё абрынулася, грошай — вобмаль. Вытурыла мяне жонка ў Маскву ялавічныя ногі з капытамі прадаваць. І няблага прадаў, ды ў цягніку скралі кашалёк… сыпанулі нечага ў гарбату, пасля зразумеў. Падказалі потым: грошы трэба на адмысловым поясе насіць, а той пояс на сябе чапляць і хаваць пад адзенне. Наступным разам паехаў, жонка праз некага тварагу набрала. Дык у Маскве міліцыя затрымала, бо ж нельга гандляваць на вуліцах. Іншыя тым міліцыянтам па дзясятцы-дзве сунулі — дый вольныя, а я не змог даць, не ўмеў — усё канфіскавалі, аштрафавалі. От такі няздара. То сталі на мяне дома глядзець, як на дармаеда, кавалкам хлеба патыкалі. Бацькі мае памерлі, родных не было — ні ад каго дапамогі

чакаць не даводзілася. На заводзе скарачэнні, зарплату затрымліваюць. А жонка, наадварот, дужа здатнай да гандлярскай справы выявілася. Двойчы некуды ажно пад кітайскую мяжу з'ездзіла гэтак удала… Дачка ўжо замужам была, з'ехала за мяжу, муж паляк. І тады задумаўся я: які сэнс далей жыць разам, бо мы ж — чужыя людзі. Хоць з той кватэры мне і няма куды ісці: бацькоўскі дом даўно прададзены — на пасаг грошы дачцэ збіралі, лецішча гэтаксама прадалі — хто там тыя грады палоць будзе, як жонка два шапікі гандлёвыя трымае? Напачатку ля сябе трымала, ды з мяне ніякі гандляр. Аўтамабіль набылі, і вадзіцель я ніякі атрымаўся… Пачаў я па заробках ездзіць… Аднойчы з сябрамі вось тут недалёка працавалі — лецішча рамантавалі. І пабачыў я на суседнім участку жанчыну. Як перуном ударыла — то ж Юлечка мая з юнацтва… Сустрэліся мы з ёй, паразмаўлялі. І тады зразумеў я, якім дурным быў, якім баязліўцам, якім слепаком! Яна мяне ці не ад садка кахала, чакала і чакала, а я… І цяпер яна кахала. Замужам пабыла, развялася, двое дзяцей сама ўзгадавала. Цяпер у яе ўсё ёсць: кватэра, дзеці вывучыліся, лецішча, аўтамабіль. Але ж… «Я так стамілася быць адна… Так стамілася быць моцнай. Чакала цябе…». І здарылася ў нас, маладыя людзі, каханне. Ці вы думаеце, толькі ў вашым узросце такія пачуцці могуць успыхваць з магутнасцю выбуху?

Ён прыпыніўся і насамрэч глядзеў на нас з жаданнем пачуць адказ на сваё пытанне. Азваўся я:

— Як хто, а я дакладна ведаю, што бывае.

— Дзякуй, дзякуй вам… Дык вось… Я паабяцаў Юлечцы: прыеду да яе. Хутка прыеду. Вярнуўся дадому з цвёрдым намерам развесціся. А тут навіна: у дачкі сынок нарадзіўся. І непрыемнасць разам: муж дачкі ў аферу трапіў, арыштаваны, то пакуль прыедзе дачка да нас. І неяк на другі план адышла мая Юлечка і маё каханне. І вінаватым сябе адчуў: пра якое каханне мне думаць, калі ў сям'і праблемы? Дачка прыехала, паўгода пражыла, і пачалі яны з маці меркаваць: як нашу кватэру трохпакаёвую прадаць, а купіць дзве — каб асобна дачушцы жыць, ёй жа і асабістае жыццё наладжваць, наперад глядзець — з тым палякам, мабыць, талковага жыцця не атрымаецца. Пачалі жонка з дачкой шукаць варыянты, мне даводзілі: як купляць, дык хай дачка абедзве кватэры, бо жонка — прадпрымальнік, нейкія дадатковыя праблемы могуць быць з падатковай. Мне ўсё адно было. На цэлы месяц паехаў у заробкі, вярнуўся ўжо ў аднапакаёўку — усё паспелі зрабіць мае жанчыны. Закруцілася: рамонт у кватэры дачкі зрабіць, мэблю ёй новую, у сваёй рамонт, мэблю… Працую і адчуваю сябе простым наймітам. Нават унука ад дзеда далей трымаюць. І усё болей выспявае маё рашэнне развесціся ды паехаць да Юлечкі. Год цэлы мінуў. Ды падумаў: прыеду з пустымі рукамі? Каб неяк крадком назбіраць грошай. Жонка ўладкавала на працу да свайго знаёмага прадпрымальніка — у таго вялікая крама, грузчыкам. А які з мяне грузчык? Я ж падсобным рабочым увесь час быў: прынесці, падаць, патрымаць, абеды-вячэры гатаваць. То і надарваў спіну. У бальніцы ляжаў, дома, хадзіў, нагу цягаў… Наслухаўся тады ўсяго: і які я нягеглы, і які бездапаможны, і жыццё маё нікчэмнае, і ні муж я, ні гаспадар, ні работнік… Заікнуўся я тады пра развод. А жонка ажно ўзрадавалася. І сама заяву падала. Праз тры месяцы нас развялі. Жонка рэчы мае спакавала і паставіла ля парога: кватэра, як выявілася, не наша, а падораная дачушкай ёй, маці. То няма тут і аднаго майго метра квадратнага. Пацягнуўся з двума пакункамі на вакзал, грошай трохі было. І першы раз напіўся ў кафэ, заснуў без памяці на вакзальнай лаўцы. Міліцыянер растаўхаў, зірнуў я — няма маіх пакункаў. Добра хоць, дакументы і грошы, прыхаваныя на сабе, засталіся. Паехаў я да Юлечкі. Вясна была… летась. На лецішча яе прыйшоў, стаю, назіраю незаўважна. А яна на градах корпаецца. І побач з ёй мужчына, мажны такі, вясёлы. І яна вясёлая. Усміхаецца яму, капаюць зямлю рыдлёўкамі разам… Пабег я адтуль, бы злодзей, якога ледзь не схапілі за каўнер. Вось так. Надта позна я прыехаў. Абяцаў хутка, а прайшло тры гады. І жыццё прамінула. Усё і цалкам. Прабачце, маладыя людзі, за такі доўгі аповед. Першы раз сам шчыра і без прыхарошванняў і апраўданняў зірнуў на сябе. Тое дрэнна, што напрыканцы жыцця разумееш нарэшце галоўную ісціну: казаць і рабіць трэба тады, калі ты хочаш тое казаць і тое рабіць, а не тады, калі з'явіцца магчымасць. А інакш — усё пад адхон…

Мы маўчалі. Я глядзеў на бамжа і з цяжкасцю, але змог уявіць, якім ён можа быць, каханы і побач з каханай: у чысцюткім адзенні, з кветкамі… У яго ж добрыя вочы, без злосці на донцы. Бы дзіцячыя. Такі не пакрыўдзіць.

— І як вы зараз? — запытаўся Уладзя.

— Ат, пра тое навошта, маладыя людзі, — ухіліўся ад адказу бомж. — Страшна, і сорамна, і холадна, і пакутліва… ды з цягам часу прызвычайваешся… Чалавек — страшная жывёліна. Вельмі хутка апускаецца, забываецца на цэлы шэраг абавязковых раней традыцый і звычак, маральныя нормы, калі яны незапатрабаваныя ці становяцца перашкодай для здабывання ежы. Ранкам чысціць зубы? Навошта? Сярод такіх самых, як я, многія перастаюць мыцца, асабліва ўзімку, і потым ўсё далей і ніжэй… Голад — страшнае пачуццё. Вясну, лета і пачатак восені я на лецішчах — дапамагаю гаспадыням, кормяць, з сабой даюць. У падлеску буданчык свой быў. Мінулай зімой у закінутым дамку жыў, змог дзверы адчыніць, паліў печку ўначы, каб не заўважыў ніхто, харчаваўся бульбай, буракамі, морквай, якую раней давалі людзі, а больш, прызнаюся, крадком навыкопваў. Ды я не адзін тут такі ўлетку, канкурэнцыя нават. Бойкі бываюць, і мяне былі збілі, бо я ж адзін, не кампанейскі. Пашпарт адабралі…

— Вам бы ў вёску ехаць якую, — упэўнена загаварыў Уладзя. — Там гэтулькі адзінокіх жанчын, ім без дапамогі цяжка…

— Канечне, канечне… — заківаў, пагаджаючыся, бомж. — Але ж які я работнік? Спіна хворая, зямлю капаць — самая цяжкая работа, якую магу зрабіць.

Я зазірнуў у печку, вырашыў падкінуць колькі дроў. У рукі трапіўся сукаваты кавалак, хвіліну я няўцямна глядзеў на яго, у галаве круціўся нейкі вобраз… І згадаліся прысады, Ядвіся, яе прыклад з адным камлём і мноствам галін.

— Слухайце, дзядзька, — пачаў я ўпэўнена, — мне адзін разумны чалавек нядаўна давёў простую рэч. Ва ўсім можа быць мноства прычын, пра якія мы не ведаем. А нядаўна класная нам казала, што нельга прымаць інфармацыю з адной крыніцы як адзіна беспамылковую. Так?

— Так, дужа цікава, малады чалавек, — пагадзіўся бомж, вочы яго ажывіліся.

— Цікавага тут якраз няшмат, — паблажліва ўсміхнуўся я, ужо верачы, ды што верачы — я быў пераkананы ў сваёй слушнасці! — Дык вось… Вы збеглі ад сваёй жанчыны… Збеглі, адно паспелі пабачыць на яе лецішчы мужчыну, які ёй дапамагаў. А як то быў яе родны брат? Ці стрыечны? Ці муж сястры? Ці сусед, якога яна запрасіла дапамагчы? Ці калега з працы, муж сяброўкі, а сяброўка недзе там ежу гатавала на ўсіх? Глядзіце, колькі варыянтаў: пяць! А вы вырашылі, што ён — яе мужчына, і збеглі. Вы пабаяліся…

Ён з хвіліну сядзеў, апусціўшы галаву, пасля падняўся.

— Бязмерна ўдзячны вам за такі прыём, мне час…

— І куды? — здзівіўся Уладзя. — Хоць ваша справа. Забірайце вунь: там яшчэ швэдар, кашуля мультановая, шкарпэтак пара чыстых… Зараз мы паесці яшчэ збяром.

Мы чакалі, пакуль бомж пакаваў свой заплечнік, акуратна складваючы рэчы і ежу. Цяпер было асабліва шкада яго: куды ён пойдзе? Тут — цёплы дамок, на вуліцы — марозны вецер, а неўзабаве вечар і ноч. Дзе ён будзе начаваць? Але ўголас пытанняў не задавалі.

Ён прыпыніўся ля дзвярэй, сцягнуў з галавы (першы раз) сваю вязаную шапачку, скамячыў яе ў руцэ. У яго былі сіваватыя, неахайна коратка падстрыжаныя валасы.

— Пайду… Так, малады чалавек, я — збег. Я заўсёды збягаў: у дзяцінстве і юнацтве ад боек, унікаў канфліктных сітуацый, збягаў ад няпростых пытанняў, меркаваў — само неяк вырашыцца. Я баязлівец. Усё жыццё я баяўся зрабіць нешта не так, пайсці не туды, некага пакрыўдзіць, некаму не дагадзіць. Баяўся самога сябе, баяўся прымаць рашэнні. І от такі вынік. То… паглядзіце на мяне і згадвайце, як раптам будзе страшна. У баязліўца адзін шлях — на ўзбочыну.

Ён так і выйшаў, з заплечнікам за спінай і скамечанай шапачкай у руцэ. Праз акно мы бачылі, як на вуліцы ён насунуў шапачку і пайшоў, крыху згорбіўшыся, уцягнуўшы галаву ў плечы, супраць ветру.

— Думаеш, накіруецца да той жанчыны? — ціха спытаў Уладзя.

— Хто ведае… Яго жыццё. У нас свае траблы. Слухай… тая сцэнка з гопнікамі, дзе яны сядзяць з півам. Бутэлек было дзве, у руках трымалі хлопцы. І пілі з бутэлек. Там жа не відаць, што менавіта піва?

Уладзя прыплюснуў вочы — згадваў кадры, упэўнена матлянуў галавой:

— Нельга адназначна сцвярджаць пра піва. А навошта?

— Заўтра паклічам Ромку, складзём ліст… Да дырэкцыі школы, у аддзел адукацыі, міністру, д'яблу, Богу і ўсім святым разам: мы не распівалі піва ў кватэры фізіка, падпішуцца ўсе.

Уладзя глядзеў уважліва колькі секунд і ўпэўнена кіўнуў галавой:

— Згода. Я ўвечары знайду ўсе патрэбныя адрасы. Але для пачатку… Ромка пагодзіцца са мной, трэба дырэктарцы напісаць. А ўжо пасля — далей, ну, калі нас пашлюць у школе.

— Цяпер не пашлюць! Пайшлі яшчэ па дровы… Хай будуць.

Мы схадзілі двойчы, нанеслі добрую купу, крыху папрацавалі сякерамі — атрымаўся хай кара́вы, ды ёмкі штабель уздоўж усёй сцяны веранды. Потым зноў гатавалі гарбату.

— Ты не раскажаш… пра Ядвісю? — без папярэджання раптам спытаў Уладзя.

Я маўчаў. Думаў: апавесці ці не. З іншага боку, Уладзя ж ніколі не хаваў ад мяне нічога. Шчыра ўсім дзяліўся. І вось як з Настачкай ён… І чаго мне хаваць тое, што адбылося? Юрась, як бачна, не стаў таіць ад Ядвісі. І я расказаў. Усё, ад пачатку і дарэшты. Як паклікаў Юрась на размову, як атрымалася, што я прапанаваў тое жэрабя, як цягнуў запалку… І нечакана адчуў палёгку. Бы нейкі цяжар спаў, захацелася выпрастаць плечы. Нават устаў і прайшоўся па пакоі. Уладзя нервова цёр насовачкаю, якую заўсёды носіць з сабой, шкельцы акуляраў, доўга маўчаў.

— Мы мяняемся… Ці нас закаханасць мяняе. От на сабе паспытаў, як можна аслепнуць і аглухнуць… Але тут… Кір, я чуў, як Ядвіся казала, што ты і Юрась ёй аднолькавыя. Ды яна казала інача: вы абое — яе сябры, а з сяброў яна не выбірае горшых і лепшых. Дык тут… перакручванне. Рэальная падстава. Калі падумаць, ты насамрэч нічога не прапаноўваў, адбылася маніпуляцыя, прыём тролінгу. Ты павёўся, факт. І слухай, мы столькі сябравалі, непрыемна казаць… Платон мне сябар, а ісціна даражэй. Чаму раптам у Юрася запалкі ў заплечніку? Каб разабрацца… Нешта ў галаве круціцца з запалкамі гэтымі… І яшчэ той момант, самы непрыемны… ты ж адвярнуўся. А навошта? І так можна было запалкі ператасаваць. І вось цяпер ты ўпэўнены, што абедзве запалкі не былі зламаныя?

— Хіба цяпер гэта мае значэнне? Жэрабя было… Я згадзіўся. Ядвіся не даруе. І праўда на яе баку.

— Пабачым, — устаў і Уладзя, падышоў да акна. — Гэты бомж сказаў добрыя словы, варта запомніць.

— Ты пра якія?

— Пра тыя, дзе баяцца нельга. Што трэба рабіць тады, калі хочаш, а не чакаць магчымасць. Брыдка: ён цябе накруціў да жэрабя і пасля даклаў Ядвісі!

— Калі ты мне сябар сапраўдны, дык ты да Ядвісі не падыдзеш наконт нас, — цвёрда папярэдзіў я Уладзю. — Ніякіх разборак…

## 10

У нядзелю Ромка і Уладзя прыйшлі да мяне, і мы разам гадзіны тры складалі ліст. Спрачаліся: ці варта пісаць, што піва было сапраўднае, бо ж хіба гэта крамола: мы здымалі фільм, зараз пераглядалі — там адно Сяржук Мігно падносіць рыльца да рота, і то не відаць, што каўтае, а так хлопцы адно размахваюць бутэлькамі. Уладзя даводзіў: пісаць рэальна, каб не блытацца, як прыцісНуць пытаннямі: дзе бралі пустыя бутэлькі? Што налівалі? Ды і добрая справа не будуецца на хлусні. Пагадзіліся. Дапісалі, што піва цалкам пакінулі ў кватэры фізіка, і тое было праўдай — ніхто на яго не пакваліўся. Далей я прапанаваў уставіць інфармацыю пра пэўную колькасць незадаволеных асоб, якія пакрыўдзіліся на прапанову ім другасных, а не галоўных роляў. І верагодна (мы не сцвярджаем, а ўсяго падазраём), што ліст напісаны дзеля таго, каб нам дапячы, каб мы адчулі сябе вінаватымі перад настаўнікам. Ромка з Уладзем падумалі і падтрымалі.

Маці гатавала нам гарбату, папыталася, што за справа такая важная, бо надта ж мы сур'ёзныя. Ромка вырашыў ёй коратка апісаць сітуацыю. Маці слухала ўважліва, потым сказала тое, пра што раней даводзіў Уладзя: няварта скакаць праз галовы дырэктара і аддзела адукацыі. Мае сэнс пачынаць знізу… І запэўніла нас, што людзі разумныя ёсць паўсюдна, разбяруцца.

Мы падрыхтавалі адразу тры лісты, каб лішні раз не збіраць подпісы. Да дырэктаркі рушылі ўтрох.

Рэгіна Казіміраўна сустрэла нас без здзіўлення, мабыць, здагадвалася, з чым мы ідзём. Прапанаваўшы сесці на крэслы ля сцяны, сама не села, чытала, засяродзіўшыся, пададзены ёй ліст.

З дырэктаркаю мы сутыкаліся, прынамсі, я, толькі праз пытанні па школьнай форме, ніякіх прадметаў яна ў нас не вяла. Ромку яна ведала болей, як ніяк ён у школьным актыве, Уладзя таксама ёй быў вядомы — адзін з галоўных гульцоў каманды «Што? Дзе? Калі?» — як такога не ведаць? І таму я здзівіўся, калі дырэктарка, усё яшчэ трымаючы ў руках аркуш, найперш звярнулася да мяне:

— Вяргейчык, мне тут апавядалі, што ты вельмі артыстычны, і фільм такім цікавым атрымаўся дзякуючы найперш тваёй фантазіі. Што ж ты гэтульні гадоў хаваў свой талент?

— Ды… Неяк нагоды добрай не было, Рэгіна Казіміраўна, — знайшоўся я. — А пра мае здольнасці перабольшваюць…

— Бач, ты яшчэ і сціплы, добра…Макар, у цябе, я так разумею, яшчэ такія ж лісты?

Ромка замяўся на хвіліну, падхапіўся з крэсла (дырэктарка працягвала стаяць), адказаў са шкадобай у голасе:

— Так, Рэгіна Казіміраўна, не будзем маніць. Мы падрыхтавалі лісты да вас, у аддзел адукацыі, у міністэрства. Але адпраўляць пакуль нікуды не збіраемся, спадзяёмся…

— Спадзеяцеся, але ж не давяраеце, так?

Я сцяўся. Мы чакалі такога пытання, прадумвалі на яго адказы, да пэўнасці цалкам не дайшлі. Ромку выкручвацца…

— Не ў даверы справа, Рэгіна Алегаўна, — пачаў Ромка нечакана ўпэўнена. — Мы, збіраючыся да вас, падумалі: а раптам вы нам падкажаце менавіта самім звярнуцца вышэй? Мы ж не ведаем, як вырашаюцца такія справы…

— Дыпламат… сядай, не стой.

Дырэктарка сама села за стол, нейкі час маўчала, потым роўным голасам сказала:

— Не трэба больш ніякіх папер. Вы зрабілі дастаткова. Не будзем цяпер браць тлумачальную ад кожнага, хто там быў, на здымках. Пытанне фактычна вырашана на нашым, мясцовым узроўні. Канечне, факт таго звароту ў міністэрства дужа непрыемны для нас, не буду хаваць. Надалей, калі ласка, улічвайце такія моманты з напоямі. Вы задаволеныя адказам?

— Дык… Антося Сямёнавіча не паставяць нашым класным кіраўніком? — задаў пытанне Ромка.

— Можаце мне паверыць, класнае кіраўніцтва вашым класам не звязана з тым пасквілем. У Антося Сямёнавіча з’явіліся пэўныя сямейныя праблемы. Паўгода пабудзеце з Наталляй Іванаўнай. Яшчэ ёсць пытанні?

Мы выйшлі з кабінета з няўцямнымі пачуццямі. З аднаго боку, здаецца, дасягнулі свайго, з іншага — а што змянілася? Але хай будзе, як ёсць, абы горш не было…

Мы стаялі каля «свайго» акна, калі да нас падышоў Юрась. Ці мне падалося, ці насамрэч у яго быў трохі зацкаваны выгляд. І нешта яшчэ непрыемнае ў позірку. Магчыма, і крыўда — вось, не ўзялі з сабой, а мог бы дапамагчы, і адначасова — палёгка, маўляў, добра, што без мяне абышлося, увязвацца ў вашы разборкі — яшчэ дадуцца ў знакі.

— Што выхадзілі, хадакі? — спытаў ён у Ромкі бадзёрым такім голасам.

— Усё норм, — няпэўна адказаў Ромка і дадаў: — Усё будзе добра.

— Як яны вырашаць, так і будзе, — хмыкнуў Юрась і звярнуўся да Уладзі: — Слухай, юны Васерман, скажы мне па-сяброўску: колькі ў нашым горадзе народу і колькі было ў пачатку гэтага стагоддзя?

Уладзя раптам гучна і цяжка задыхаў. Ён зняў акуляры, зноў надзеў і нечакана выдаў:

— Я табе больш не сябра!

На твары Юрася застыла ўсмешка, ён з вышыні свайго росту глядзеў на маленькага Уладзю, а ўсмешка расцягвалася ў грэблівую грымасу.

— Ты што, з’еў дрэнь нейкую? Ці ад чытання энцыклапедый дах паехаў? Не ведаеш, так і скажы, вікіпедык…

*працяг у наступным нумары...*



## Сакі (Гектар Х'ю Манро)

Кароткія гісторыі

# Лаўра

— Ты ж не сапраўды паміраеш? — запыталася Аманда.

— Я атрымала ад доктара дазвол пажыць яшчэ да аўторка, — адказала Лаўра.

— Але сёння субота. Гэта сур'ёзна! — ахнула Аманда.

— Не ведаю, наколькі гэта сур'ёзна, але, сапраўды, сёння субота, — прамовіла Лаўра.

— Смерць — гэта заўсёды сур'ёзна, — заўважыла Аманда.

— Я не казала, што збіраюся паміраць. Мяркую, я проста перастану быць Лаўрай, а стану нечым іншым. Якой-небудзь жывёлай, мне здаецца. Разумееш, калі істота не была вельмі добрай у мінулым жыцці, яна пераўвасабляецца ў ніжэйшы арганізм. Калі паглядзець, я не была надта ўжо добрай. Я была дробязнай, несумленнай і помслівай ў пэўных абставінах.

— Але абставіны ніколі не апраўдваюць такія паводзіны, — уставіла Аманда.

— Дазволь мне заўважыць, — пачала Лаўра, — што Эгберт якраз адносіцца да такіх абставін. Ты замужам за ім — гэта іншае. Ты паклялася кахаць, паважаць і цярпець яго. Я — не.

— Не разумею, што не так з Эгбертам, — запярэчыла Аманда.

— О, мяркую, што праблема ўва мне, — спакойна прызнала Лаўра. — Ён усяго толькі апраўданне маім учынкам. Напрыклад, на днях ён крыху раздражніўся, калі я вывела на прагулку шчанюкоў колі з фермы.

— Яны пагналіся за яго выводкам стракатых сусэкскіх курэй і сагналі дзвюх з седала, не кажучы пра тое, што яны прабеглі па клумбах. Ты ведаеш, як ён любіць свойскіх птушак і свой сад.

— У любым выпадку, нявартa яму было размаўляць на гэту тэму ўвесь вечар, а пасля проста сказаць: «Не будзем больш пра гэта», калі я толькі пачала атрымліваць асалоду ад размовы. Менавіта тады мне ў галаву прыйшла ідэя чарговай дробязнай помсты, — засмяялася Лаўра без кроплі каяння ў голасе. — На наступны дзень пасля гісторыі са шчанятамі я запусціла ўвесь выводак стракатых сусэкскіх у яго свіран з насеннем.

— Як ты магла? — выгукнула Аманда.

— Даволі проста. Дзве курыцы намагаліся зрабіць выгляд, што нясуцца, але я была непахісная.

— А мы думалі, гэта была выпадковасць!

— Разумееш, — працягнула Лаўра, — у мяне ёсць пэўныя падставы меркаваць, што ў наступным жыцці я буду нейкай ніжэйшай істотай. Якой-небудзь жывёлай. З іншага боку, я была не надта дрэнным чалавекам, таму магу разлічваць на пераўтварэнне ў мілую, зграбную, спрытную жывёлу, якая любіць павесяліцца. Магчыма, у выдру.

— Не магу ўявіць цябе выдрай, — сказала Аманда.

— Я мяркую, ты і анёлам не можаш мяне ўявіць, калі на тое пайшло, — заўважыла Лаўра.

Аманда моўчкі пагадзілася.

— Насамрэч я думаю, жыццё выдры будзе дастаткова прыемнае, — працягнула Лаўра. — Ясі ласося ўвесь год, з прыемнасцю выцягваеш фарэль з хованак, не чакаючы гадзінамі, пакуль яна зробіць ласку і трапіць на вуду. І, канешне, зграбная фігура...

— Але падумай пра паляўнічых сабак, — перапыніла яе Аманда. — Як жудасна, калі за табой гоняцца, нападаюць і разрываюць насмерць!

— Даволі весела, асабліва калі за гэтым назірае палова суседзяў. У любым выпадку не горш за гэта маруднае паміранне з суботы да аўторка. А пасля я ператваруся ў каго-небудзь яшчэ. Калі я буду дастаткова добрай выдрай, мне здаецца, я вярнуся ў нейкае чалавечае аблічча. Верагодна, у кагосьці даволі прымітыўнага... Я думаю, у маленькага смуглага босага хлопчыка-нубійца.

— Я б хацела, каб ты была менш легкадумнай, — уздыхнула Аманда. — Трэба быць сур'ёзнейшай, калі збіраешся дажыць толькі да аўторка.

Уласна кажучы, Лаўра памерла ў панядзелак.

— Неверагодна сумна, — паскардзілася Аманда дзядзьку свайго мужа сэру Лулворту Куэйну. — Я столькі людзей запрасіла на гольф і рыбалку, ды і рададэндраны выглядаюць проста цудоўна.

— Лаўра заўсёды была неразважлівай, — заўважыў сэр Лулворт. — Яна нарадзілася ў тыдзень конных скачак Гудвуд, калі ў нас гасцяваў пасол, які ненавідзеў дзяцей.

— Лаўра была несусветнай дзівачкай, — сказала Аманда. — Вы не ведаеце, ці былі ў яе сям'і выпадкі вар'яцтва?

— Вар'яцтва? Не, ніколі не чуў. Яе бацька жыве ў Вест-Кенсінгтане, але, нягледзячы на гэта, з галавой у яго нібыта ўсё добра.

— Яна верыла, што перародзіцца ў выдру, — прамовіла Аманда.

— Ідэі рэінкарнацыі можна сустрэць так часта, нават на захадзе, — адзначыў сэр Лулворт, — што іх ужо не лічаць вар'яцкімі. Лаўра была такім дзіўным чалавекам у гэтым жыцці, што я б не стаў казаць з упэўненасцю, чым яна можа займацца пасля смерці.

— Вы думаеце, яна сапраўды магла ператварыцца ў нейкую жывёлу? — запыталася Аманда. Яна была з тых, хто даволі хутка мяняе свае погляды ў адпаведнасці з поглядамі людзей навокал.

Менавіта тады ў сталовую ўвайшоў Эгберт. Увесь яго выгляд адлюстроўваў цяжар невыноснай страты, які не магло выклікаць адно толькі скананне Лаўры.

— Чатыры стракатыя сусэкскія забітыя! — усклікнуў ён. — Менавіта тыя чатыры, якіх я планаваў адвезці на выставу ў пятніцу. Адну адцягнулі і з'елі роўна пасярэдзіне новай клумбы гваздзікоў, на якія я змарнаваў столькі сіл і грошай. Мая лепшая клумба і мае лепшыя птушкі як назнарок абраныя на пагібель, быццам шэльма, якая гэта зрабіла, ведала, як зруйнаваць як мага больш за кароткі прамежак часу.

— Думаеш, гэта была ліса? — спыталася Аманда.

— Больш падобна — тхор, — зазначыў сэр Лулворт.

— Не, — адказаў Эгберт, — усюды былі сляды перапончатых лап, і мы дайшлі па іх да ручая на краі саду. Відавочна, выдра.

Аманда цішком кінула позірк на сэра Лулворта.

Эгберт быў занадта ўзбуджаны і не стаў снедаць, таму ён пайшоў праверыць, ці добра ўзмацняюць ахову птушніка.

— Магла б і пачакаць, пакуль не пройдзе пахаванне, — абурылася Аманда.

— Але гэта ж яе пахаванне, — адказаў сэр Лулворт. — Дастаткова цікава, у якой ступені, згодна з этыкетам, вы павінны выказваць павагу да сваіх тленных астанкаў.

Знявага да пахавальных традыцый на наступны дзень адчувалася яшчэ больш. Пакуль сям'я была на пахаванні, астатніх стракатых сусэксіх знішчылі з асаблівай жорсткасцю. Шлях

адступлення забойцы праходзіў праз большасць клумб на лужку, але таксама пацярпелі градкі з клубніцамі ў дальняй частцы саду.

— Трэба як мага хутчэй прывесці сюды паляўнічых сабак, — гнеўна вымавіў Эгберт.

— Ні ў якім разе! Як ты мог нават падумаць пра такое! — усклікнула Аманда. — Я пра тое, што не трэба, так хутка пасля пахавання ў хаце.

— Гэта неабходнасць. Калі выдра завялася, то яе ўжо не адвадзіш.

— Але птушак больш не засталося, можа, яна пойдзе кудысьці ў іншае месца? — выказала думку Аманда.

— Такое адчуванне, што ты яе абараняеш.

— Апошнім часам у ручаі было так мала вады, — запярэчыла яна. — Ці гэта паляванне, забіваць жывёлу, калі ёй няма дзе схавацца?

— Божа міласцівы! — зазлаваў Эгберт. — Я і не думаю пра паляванне. Я хачу пазбавіцца ад гэтай жывёліны як мага хутчэй.

Але ў наступную нядзелю нават Аманда кінула пярэчыць: пакуль яны былі ў царкве, выдра прабралася ў дом, вынесла палову ласося з клеці і разадрала яго на маленькія кавалачкі на персідскім кіліме ў кабінеце Эгберта.

— Хутка яна пачне хавацца пад нашым ложкам і адкусваць нам ступні, — сказаў Эгберт. І з таго, што Аманда ведала пра менавіта гэтую выдру, яна разумела, што такая магчымасць была цалкам верагоднай.

Напярэдадні палявання Аманда нейкі час гуляла адна ўздоўж ручая, імітуючы, як ёй здавалася, гукі паляўнічых сабак. Усе, хто яе чуў, спагадліва лічылі, што яна рыхтуецца паказваць сельскіх жывёл на бліжэйшых мястэчковых гуляннях.

Навіны пра паляванне прынесла яе суседка і сяброўка Аўрора Бурэт.

— Шкада, што цябе там не было. Мы добра правялі дзень. Адразу знайшлі яе — у сажалцы каля вашага саду.

— І вы — забілі? — спыталася Аманда.

— Вядома. Такая гожая самка выдры. Яна моцна ўкусіла твайго мужа, калі ён намагаўся схапіць яе за хвост. Бедная жывёла, мне яе нават шкада. У яе быў такі чалавечы выраз у вачах, калі яе забівалі. Можаш назваць гэта глупствам, але ведаеш, каго ён мне нагадаў? Мая дарагая, што з табой?

Калі Аманда крыху акрыяла ад нервовага зрыву, Эгберт павёз яе ў лог Ніла, каб яна аднавіла свае сілы. Змена мясцін паспрыяла хуткаму вяртанню здароўя і псіхічнай раўнавагі. Выбрыкі выдры-прыгодніцы ў пошуках больш разнастайнага пажыву былі як след перагледжаныя. Звычайны лагодны характар вярнуўся да Аманды. Калі аднойчы вечарам яна павольна апраналася ў атэлі Каіра, нават лаянка мужа з гардэробнай — голас быў яго, а вось выразы не вельмі — не патурбавала яе спакой.

— Што такое? Што здарылася? — зацікаўлена запыталася яна.

— Маленькі д'ябал кінуў усе мае чыстыя кашулі ў ванну! Ну, чакай, я да цябе дабяруся, маленькі...

— Які маленькі д'ябал? — спыталася Аманда, стрымліваючы смех.

Мова Эгберта не была здольная перадаць яго гнеўныя пачуцці.

— Маленькі д'ябал — гэты босы смуглы нубійскі хлопчык, — скрозь зубы сказаў Эгберт.

І на гэты раз Аманда сапраўды цяжка захварэла.

*Крыніца:* http://haytom.us/laura/
*Пераклад з англійскай Ганны Бялко, Кацярыны Балаш.*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай.*

# Ваўкі роду Цэрнаграц

— Ці ёсць легенды, звязаныя з гэтым замкам? — спытаў Конрад у сваёй сястры. Конрад быў выбітным буйным гандляром з Гамбурга, адзіным прадстаўніком сваёй сям'і, які меў цягу да рамантыкі.

Баранеса паціснула пухлымі плячыма.

— Легенды заўжды лунаалі вакол гэтых старых мясцін. Ды нічога не каштуе стварыць яшчэ адну. Калі ў замку нехта памірае, усе сабакі ў вёсцы ды звяры ў лесе выюць цэлую ноч. Непрыемна было б пачуць такое, згадзіцеся?

— Было б надзвычайна і рамантычна, — адказаў гандляр.

— Але, усё ж такі, гэта няпраўда, — самаздаволена сказала Баранеса. — З той пары, як мы тут жывем, мы пераканаліся, што нічога такога не адбываецца. Калі ў мінулую вясну памерла старая свякроўка, усе мы прыслухоўваліся, але ляманту было не чуваць. Гэта толькі казка, якая надае месцу годнасці, але няварта ставіцца да яе сур'ёзна.

— Але вы недакладна распявалі гісторыю, — заўважыла Амалія, сівая старэнькая гувернантка. Усе азірнуліся і здзіўлена паглядзелі на яе. Зазвычай яна моўчкі, нібы статуя, сядзела за сталом, няшмат хто ўдастойваў яе размовай. Але сёння яна была надзвычай шматслоўная: яна працягвала гаварыць, шпарка і ўзбуджана, і глядзела проста перад сабой, быццам ні да каго не звяртаючыся.

— Лямант можна пачуць толькі, калі тут памірае хтосьці з сям'і Цэрнаграц. Тады ваўкі збіраюцца адусюль на ўзлеску і перад самай гадзінай скону пачынаюць выць. Звычайна няшмат ваўкоў жыве у гэтай частцы лесу, але ў былыя часы, па словах старажылаў, іх было безліч. Яны крадуцца ў цемры і выюць хорам, а сабакі з замка, вёскі ды ўсіх навакольных фальваркаў брэшуць і скуголяць з-за страху ды злосці ад воўчага хору. А як толькі душа пакіне цела, у парку валіцца дрэва. Але гэта здараецца толькі, калі памірае нехта з сям'і Цэрнаграц і ў радавым замку. Калі памрэ хтосьці іншы, ні адзін воўк не завые, а дрэва не ўпадзе. О, не!

Апошнія словы яна вымавіла трошкі з выклікам, ледзь не з пагардай. Укормленая, занадта добра апранутая Баранеса са злосцю ўтаропілася ў сціплую старую жанчыну, якая выйшла за межы сваёй звычайнай самазнявагі і асмелілася выказацца так непачціва.

— Вы шмат ведаеце пра легенды сям'і фон Цэрнаграц, спадарыня Шміт, — рэзка сказала Баранеса. — Я і не ведала, што вы эксперт па сямейных паданнях.

Але адказ на яе колкасць быў яшчэ больш нечаканы.

— Я сама з роду фон Цэрнаграц, — заявіла старая. — Вось чаму я ведаю гісторыю гэтай сям'і.

— Вы — фон Цэрнаграц? Вы? — скептычна спыталі ўсе хорам.

— Калі мы збяднелі, — патлумачыла гувернантка, — я была вымушана з'ехаць і зарабляць на жыццё выкладаннем, тады і змяніла імя, меркавала, так будзе лепш. Але мой дзед вырас у гэтым замку, а бацька шмат распавядаў пра яго, таму, натуральна, я ведаю ўсе яго легенды і паданні. Калі застаюцца адно ўспаміны, іх захоўваеш з асаблівай руплівасцю. Калі я ішла служыць да вас, я і падумаць не магла, што аднойчы вярнуся з вамі ў стары радавы замак. Куды заўгодна, але не сюды.

Калі яна скончыла свой аповед, павісла цішыня, а Баранеса перайшла да іншай тэмы, менш няёмкай, чым сямейныя паданні. Але напрыканцы, калі гувернатка ціхенька вярнулася да сваіх абавязкаў, падняўся гоман насмешак і недаверу.

— Якая дзёрзкасць! — раз'юшыўся Барон, яго вырачаныя вочы палалі злосцю. — Як наважылася яна казаць так за нашым сталом! Яна ледзь не назвала нас нікчэмнымі, я не веру ніводнаму яе слову. Яна — Шміт, не болей. Гэта толькі паданні, якія ёй распавялі сяляне.

— Яна хоча сабе лепшай долі, — сказала Баранеса. — Яна ведае, што неўзабаве застанецца без працы, і хоча нашага спачування. Дзед тут яе жыў, ды няўжо!

Баранеса таксама мела адпаведную колькасць дзядоў, але яна ніколі не выхвалялася імі.

— Выкажу здагадку, што яе дзед дапамагаў кухарцы ці каму іншаму з прыслугі, — гігікнуў Барон, — у гэтым можа быць доля праўды.

Гандляр з Гамбурга прамаўчаў, бо бачыў слёзы ў вачах старой гувернанткі, калі яна казала пра ўспаміны. Ці яму проста падалося, што бачыў.

— Я звольню яе, як толькі скончацца навагоднія святы, — сказала Баранеса. — Цяпер я занадта занятая, каб абысціся без яе.

Але ёй усё ж такі прыйшлося абысціся без яе, бо пасля Каляд у моцныя маразы старая гувернантка захварэла і праводзіла ўвесь час у сваім пакоі.

— Прыкра тое, — сказала Баранеса, калі яе госці расселіся ля каміна ў адзін з вечароў сыходзячага года, — што за ўвесь час, што яна ў нас, я не магу згадаць, каб яна калісьці сур'ёзна хварэла. Я маю на ўвазе настолькі, каб не выходзіць на працу. А цяпер, калі народу поўная хата і яе дапамога была б як мага дарэчы, яна захварэла. Вядома, ёй можна паспачуваць, але усё роўна гэта непамысна.

— Зусім непамысна, — пагадзілася жонка банкіра. — Мяркую, гэта жудасны холад так уплывае на пажылых людзей. Надзвычай халоднае надвор'е ў гэтым годзе.

— Даўно ўжо не было такіх моцных маразоў у снежні, — заўважыў Барон.

— Да таго ж яна даволі старая, — дадала Баранеса. — Шкада, што я не звольніла яе раней, тады б гэта быў не наш клопат. Уаппі, што сталася з табой?

Маленькі пакаёвы сабачка раптам ускочыў з падушкі і, дрыжучы, забіўся пад канапу. У тое ж імгненне пачуўся брэх сабак з замкавага панадворка ды ваколіц.

— Што так напалохала жывёл? — спытаў Барон.

Тады ўсе ўважліва прыслухаліся і пачулі той гук, што так узрушыў сабак: працяглы скогат, які то ўзмацняўся, то слабеў, то спачатку нібы даносіўся здалёк, то ўжо ляцеў над снегам і, здавалася, уздымаўся ад падножжа замкавых муроў. Быццам уся галодная сцюдзёная галеча ільдоў, бязлітасная прагная лютасць дзікай прыроды разам з занядбанымі ды зманлівымі мелодыямі, для якіх не існуе назвы, зліліся ў адзіны жалобны плач.

— Ваўкі! — закрычаў Барон.

Здавалася, іх ладны люты спеў даносіўся адусюль.

— Сотні ваўкоў, — заўважыў гандляр з Гамбурга.

Паддаўшыся нейкаму імпэту, Баранеса пакінула гасцей і рушыла ў цесны пакойчык, дзе дажывала апошнія гадзіны старая гувернантка. Нягледзячы на холад зімовай ночы, акно было расчынена. Збянтэжаная Баранеса кінулася зачыняць яго.

— Не чапайце! — загадала старая слабым, але годным голасам, чаго Баранесе не даводзілася чуць раней.

— Холад заб'е вас! — запярэчыла Баранеса.

— Я памру ў любым выпадку, — адказала старая, — і я хачу пачуць іх спеў. Яны прыйшлі здалёк, каб спяваць рэквіем па маёй сям'і. Цудоўна, што яны прыйшлі. Я — апошняя з роду Цэрнаграц, я паміраю ў нашым старым замку, і яны прыйшлі спяваць для мяне. Паслухайце, як гучна яны клічуць мяне!

Воўчы лямант узняўся ў нерухомае зімовае паветра, і замкавыя муры патанулі ў працяглым пранізлівым стогне. Старая ляжала на канапе са шчаслівым выразам на твары.

— Пакіньце мяне, — звярнулася яна да Баранесы. — Мне больш не самотна. Я — частка вялікага старажытнага роду…

— Напэўна, яна памірае, — сказала Баранеса, калі зноў далучылася да гасцей. — Можа, трэба паслаць па лекара. А той жудасны лямант! Ні за якія грошы не хацела б я чуць такі рэквіем.

— Такую музыку і нельга набыць, нават за грошы, — адказаў Конрад.

— Паслухайце! А гэта яшчэ што? — спытаў Барон, калі пачуўся хруст і трэск.

Гэта паваліласяся дрэва ў парку.

Пасля напружанай цішыні загаварыла жонка банкіра.

— Гэта дрэвы ад марозу трашчаць. З-за яго і столькі ваўкоў назбіралася. Даўно ўжо не было такой марознай зімы!

Баранеса ахвотна пагадзілася, што менавіта мароз з'яўляецца прычынай усіх здарэнняў. Нават спыненне сэрца ў старой гувернанткі выклікаў мароз з расчыненага акна, дапамога лекара не спатрэбілася. Але некралог у газеце быў красамоўны:

«29 снежня ў замку Цэрнаграц сканала Амалія фон Цэрнаграц, якая шмат гадоў была блізкім сябрам барона і баранесы Грубель».

*Крыніца:* http://haytom.us/the-wolves-of-cernogratz/
*Пераклад з англійскай Ганны Скалабан.*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай.*

## Шчаслівая прымета

Напярэдадні вялікай гонкі амаль ніхто з вечарынкі спадарыні С'юзан не зрабіў ставак. Той год быў няўдалы: адзін конь трымаў лідзіруючую пазіцыю не таму, што ўсе верылі ў яго перавагу, але таму, што было вельмі цяжка выбраць іншага каня, каб ускласці на яго свае надзеі. Выпадак II быў любімцам не таму, што ён вылучаўся сярод астатніх, а таму, што астатнія нічым не вылучаліся. Хоць такія людзі, як госці спадарыні С'юзан, прывыклі знаходзіць дадатковыя якасці нават там, дзе іх на першы погляд не было, хаця рашучасці ў іх было не больш, чым у астатніх.

— Трэба паставіць на таго, хто пераможа, — сказаў Берці ван Тан.

— Безумоўна. Але на каго? — запытаў Кловіс ужо ў дваццаты раз.

Жанчыны на вечарынцы былі таксама вельмі зацікаўленыя, але ў той жа час не менш разгубленыя; нават маці Кловіса, якая атрымлівала ад краўца надзейныя звесткі, нічым не магла дапамагчы. Палкоўнік Дрэйк, выкладчык ваеннай гісторыі на падрыхтоўчых курсах, быў адзіны, хто меў фаварыта, але ён змяняўся кожныя тры гадзіны, што таксама не дапамагала. Да таго ж нешта абмеркаваць можна было толькі ўпотайкі. Спадарыня С'юзан была супраць скачак. Яна была супраць шмат чаго; казалі нават, што супраць усяго. Ёй падабалася быць супраць чаго-небудзь таксама, як некаторым жанчынам вышываць, а іншым скандаліць. Яна не была задаволеная гарбатай раніцай і гульнёй у брыдж, катаннем і хадзьбой на лыжах, рускім балетам і балем мастацкага клуба ў Чэлсі, французскай палітыкай у Марока і брытанскай палітыкай наогул. Не тое каб яе погляд на жыццё быў такім абмежаваным, але яна была старэйшая з сясцёр у сям'і, дзе ўсе дзеці рабілі, што хацелі, а яна хацела крытыкаваць іншых. На жаль, расла яна, і раслі яе капрызы. Яна была багатай, уплывовай і настолькі добрай, што многія людзі пад яе ўплывам адмаўляліся піць гарбату раніцай. Але ў такія моманты як цяпер, калі час ляцеў і ўсе думалі толькі пра стаўкі, ніхто не наважваўся абмяркоўваць галоўнае ў яе прысутнасці.

Пасля дастаткова цяжкай і напружанай размовы за абедам Кловіс сабраў большасць гасцей ў дальнім канцы саду, каб нібыта пацешыцца з гімалайскіх фазанаў. Ён зрабіў важнае адкрыццё. Моткін, дварэцкі, які (як казаў Кловіс) занадта рана пасівеў на службе ў спадарыні С'юзан, у дадатак да сваіх цудоўных якасцей цікавіўся скачкамі. Ён нічога не гаварыў пра скачкі, што маюць адбыцца, але ён падзяліўся сваімі сумненнямі наконт перамогі Выпадку II. Ён перасягнуў усіх гасцей тым, што меў звесткі ад свайго траюраднага брата — галоўнага конюха на бліжэйшай стайні. Толькі таму, што спадарыня С'юзан вырашыла запрасіць усіх да сябе на апошні тыдзень мая, спадар Моткін не змог паехаць да свайго сваяка, каб параіцца наконт скачак; ён яшчэ мог паспець гэта зрабіць, калі прыдумаць якую-небудзь верагодную прычыну яго адсутнасці.

— Давайце спадзявацца, што ён паспее, — сказаў Берці ван Тан, — у такіх абставінах мець траюраднага брата амаль так жа карысна, як дар прадбачання.

— Калі дзе і ведаюць, дык у гэтай стайні, — з надзеяй прамовіла спадарыня Пэклтайд.

— Спадзяюся, высветліцца, што я нездарма хачу паставіць на Матора, — адказаў палкоўнік Дрэйк.

І тут яны вымушаныя былі спыніцца. Пад руку з маці Кловіса выйшла спадарыня С'юзан, расказваючы, як ёй не падабаецца мода на кітайскіх мопсаў. Пасля абеду гэта было ўжо трэцяе, што ёй не падабалася, не лічачы прычоску маці Кловіса, якая гаспадыні таксама не падабалася, але пра гэта яна маўчала.

— Мы цешымся з гімалайскіх фазанаў, — ветліва сказала спадарыня Пэклтайд.

— Іх забралі сёння раніцай на птушыную выставу ў Ноцінгеме, — сказала спадарыня С'юзан, відавочна незадаволеная неабдуманай хлуснёй.

— Я мела на ўвазе іх вальер, такі ўтульны і чысты, — з энтузіязмам адказала спадарыня Пэклтайд. Было чуваць, як агідны Берці ван Тан маліўся, каб яна кінула хлусіць.

— Я спадзяюся, ніхто не супраць, што вячэра будзе на пятнаццаць хвілін пазней, — сказала спадарыня С'юзан, — Моткіна сёння паклікалі да хворага сваяка, ён хацеў паехаць на ровары, але я адправіла яго на машыне.

— Як міла з вашага боку! Вядома, мы не супраць, — шчыра запэўнілі госці.

За вячэрай усе крадком сачылі за Моткінам. Некаторыя з гасцей нават спадзяваліся знайсці ў сурвэтках паперку з імем фаварыта на думку яго траюраднага брата. Але чакаць доўга не давялося. Дварэцкі абыходзіў гасцей, ціха пытаўся «Шэрры?» і яшчэ цішэй дадаваў: «Лепш не трэба». Спадарыня Пэклтайд нервова адмовілася ад напояў: словы дварэцкага гучалі так, быццам спадарыня С'юзан раптам стала адной з Борджыа[1]. Але амаль адразу яна зразумела: Лепшне — так звалі аднаго з коней на скачках. Кловіс ужо запісваў мянушку на манжэце, а палкоўнік Дрэйк хрыплым шэптам і жэстамі паказваў, што Лепшне заўсёды быў яго фаварытам.

Раніцай у горад адправілі кіпу тэлеграм, у якіх былі запісаныя стаўкі гасцей і прыслугі.

Вечар быў дажджлівы, і большасць гасцей спадарыні С'юзан сядзела ў зале і чакала, калі пададуць гарбату, хоць было яшчэ зусім рана. Усе ажывіліся, калі прынеслі тэлеграмы. Хлопчык, які падаў тэлеграму Кловісу, чакаў са шчырай цікаўнасцю, ці не будзе адказу.

Кловіс прачытаў тэлеграму і з раздражненнем кінуў яе на стол.

— Спадзяюся, навіны добрыя, — сказала спадарыня С'юзан. Астатнія бачылі, што не.

— Вынікі скачак, — кінуў Кловіс. — Садава перамагла.

— Садава! — усклікнула спадарыня С'юзан. — Што вы кажаце! Вось дзіва! Першы раз я паставіла на каня, нягледзячы на тое, што я супраць іпадромаў, першы раз паставіла і так удала!

---

[1] Борджыа (італ.: Borgia) — іспанскі дваранскі род з Арагона, кіраўнікі горада Гандзіа. Яго назва стала сінонімам разбэшчанасці і вераломства.

— Ці магу я запытацца, — пачала спадарыня Пэклтайд у поўнай цішыні, — чаму вы паставілі грошы менавіта на Садаву? Ніхто не верыў у яе перамогу, ніхто нават падумаць не мог!

— Ну, — сказала спадарыня С'юзан, — вы можаце з мяне смяяцца, але мяне прыцягнула мянушка. Разумееце, мяне ўсё жыццё праследуе Франка-германская вайна. Я выйшла замуж у дзень, калі яна была абвешчана, і маё старэйшае дзіця нарадзілася, калі быў падпісаны мір. Таму ўсё, што звязана з гэтай вайной, заўсёды мяне цікавіла. І калі я ўбачыла, што ёсць конь з мянушкай у гонар бітвы ў Франка-германскай вайне, я падумала, што абавязкова трэба паставіць на яго, проста ў якасці выключэння, нягледзячы на тое, што я супраць скачак.Неверагодна!

Усе цяжка уздыхнулі. Выкладчык ваеннай гісторыі ўздыхнуў цяжэй за ўсіх.

*Крыніца:* http://haytom.us/a-matter-of-sentiment/
*Пераклад з англійскай Таццяны Васілеўскай.*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай.*

# Ахвяра патрэбе

Алісія Певенлі сядзела ў крэсле ў ружовым садзе ў Чопхенгеры і цешылася развітальнай мяккасцю цёплай кастрычніцкай раніцы. Яна сядзела і цешылася з адчуваннем унутранага задавальнення, бо яна добра паснедала, была прыгожа апранутая і з асалодай пражыла сорак два гады. Каля дзесяці гадоў таму яна страціла мужа, і гэта наклала тонкі адбітак спагады на малюнак яе жыцця, але ў большасці сваёй яна глядзела на свет і рэчаіснасць з маўклівай добразычлівасцю. Грошай, на якія яна жыла разам са сваёй сямнаццацігадовай дачкой, было няшмат, але, калі траціць асцярожна і прадбачліва, іх было якраз, каб выглядаць прыстойна. Эканомія і планаванне нават набывалі асаблівы смак, бо ёй прыходзілася быць вынаходлівай.

— Паміж беднасцю і неабходнасцю траціць разважліва вялікая розніца, — гаварыла сабе місіс Певенлі.

Такім чынам, да сваіх асабістых спраў яна ставілася з пэўнай стрыманасцю, але і больш значным падзеям свету не дазваляла парушаць спакой сваёй душы. Шлюб прынца Артура Канауцкага выклікаў у яе шчырую, але адчужаную цікаўнасць, чым яна паказала сябе як абазнаную ў праявах свецкага жыцця жанчыну, сапраўды далучаную да грамадства і дасведчаную ў тым, што адбываецца ў яе час. З другога боку, яе не вельмі турбавала, ці патрэбна Ірландыі права на самакіраванне, таксама, як і дзе павінна праходзіць паўднёвая мяжа Албаніі і наогул якія межы Албанія мае ўвогуле. Калі ў яе характары і была нейкая ваяўнічая рыса, то яна заставалася незаўважанай.

А палове на дзясятую місіс Певенлі скончыла снедаць, але яе дачка яшчэ не выходзіла. Сама гаспадыня і большая частка гасцей маёнтка яшчэ таксама спалі, таму маруднасць Берыл нельга было назваць вялікай заганай, але маці лічыла, што шкада марнаваць такую прыемную восеньскую раніцу. Нехта сказаў, што Берыл Певенлі — «увасабленне легкадумнасці», і гэта азначэнне дакладна ёй пасавала. Місіс Певенлі ўжо заўважыла, што дачка — сама сабе ўказ, але яшчэ не зразумела, што Берыл стане ўказам і кожнаму слабейшаму за яе характарам чалавеку.

— Яна яшчэ зусім дзіця, — сказала сабе місіс Певенлі, забываючыся на тое, што людзі найбольш дэспатычна паводзяць сябе менавіта ў сямнаццаць і семдзесят гадоў.

— Нарэшце паснедала! — з прытворным дакорам усклікнула яна, калі дачка таксама выйшла ў ружовы сад. — Калі б ты клалася спаць раней у апошні час, разам са мной, тады б раніцай адчувала сябе лепш. У такое цудоўнае надвор'е глупствам было б заставацца ў ложку, як ты і твае сябры. Спадзяюся, што ты не рабіла высокіх ставак у брыджы! — устрывожана дадала місіс Певенлі, калі заўважыла нейкі выклік у зморaных вачах Берыл.

— У брыджы? Не. Пазаўчора мы згулялі ў робер толькі адну ці дзве партыі, а потым перайшлі да бакара. Для некаторых з нас гэта стала памылкай.

— Берыл, няўжо ты прайграла? — спыталася місіс Певенлі яшчэ больш занепакоеным голасам.

— У першы вечар даволі шмат, — адказала Берыл. — І праз тое, што я не магла заплаціць па рахунку, наступным вечарам я проста паспрабавала адыграцца. Я прыйшла да высновы, што бакар — гульня не для мяне. За другі вечар я прайграла яшчэ больш, чым за першы.

— Берыл, які жах! Я вельмі злуюся на цябе. Зараз жа кажы, колькі ты прайграла!

Берыл зірнула на паперку, якую трымала ў руках.

— Трыста дзесяць за першы вечар, сямсот шаснаццаць за другі, — паведаміла яна.

— Трыста чаго?

— Фунтаў.

— Фунтаў? — закрычала маці. — Берыл, я не магу паверыць! Тысячу фунтаў!

— Тысячу дваццаць шэсць, калі дакладна, — адказала Берыл.

Місіс Певенлі апанаваў такі жах, што яна не магла нават заплакаць.

— Дзе, па-твойму, нам узяць цэлую тысячу фунтаў? — спыталася яна. — Нам і так ледзь хапае на жыццё, мы эканомім, як можам. Калі мы адымем тысячу фунтаў ад таго сціплага капіталу, што маем, у нас увогуле нічога не застанецца. Нам канец.

— Яшчэ горш будзе, калі людзі даведаюцца, што мы робім у гульнях стаўкі, па якіх не можам ці, мабыць, не хочам заплаціць. Ніхто нас больш нікуды не запросіць.

— Аб чым ты толькі думала? — загаласіла маці.

— Давай не будзем пра гэта, — вымавіла Берыл. — Што зроблена, тое зроблена. Магчыма, я пераняла схільнасць да азартных гульняў ад некага з вас.

— Дакладна не, — горача запярэчыла маці. — Бацька твой ніколі нават не дакранаўся да карт і зусім не цікавіўся коннымі скачкамі, а я наогул не адрозню адну картачную гульню ад другой.

— Часам гэта прамінае пакаленне, але ў наступным праяўляецца нават мацней, — вымавіла Берыл. — Памятаеце, ваш дзядзька кожны раз ішоў у заклад, з якой кнігі Бібліі святар будзе чытаць нядзельную службу? Ці ж гэта не азартная гульня?

— Давай не будзем спрачацца, — няўпэўнена адказала маці. — Трэба падумаць, што зараз рабіць. Якой колькасці людзей ты вінаватая грошы?

— На шчасце, толькі аднаму — Эшкамбу Гвэнту, — адказала Берыл. — Мінулыя два вечары шанцавала амаль што толькі яму аднаму. Ён добры чалавек, але, на жаль, не вельмі багаты, таму нам не выпадае чакаць, каб ён забыўся на тое, што нехта вінаваты яму грошы. Напэўна, ён такі ж рызыкант, як мы.

— Але мы не рызыканты! — запярэчыла місіс Певенлі.

— Рызыканты — гэта якраз тыя людзі, што бавяць час у маёнтках і гуляюць на грошы, якія ніколі не здолеюць выплаціць, — сказала Берыл. Відавочна, яна была ўпэўненая, што маці падзеліць з ёй віну.

— А ты казала яму што-небудзь пра наша цяжкае становішча?

— Так. Таму я і прыйшла цяпер да вас. Раніцай, пасля сняданка, у нас адбылася размова ў більярдным пакоі. Здаецца, існуе толькі адзінае выйсце. Ён вымагае любоўных пачуццяў.

— Любоўных пачуццяў! — усклікнула маці.

— Са шлюбным намерам, — удакладніла дачка. — Высветлілася, ён меў няшчасце горача закахацца, а мы нават і не ведалі.

— Вядома, ён ветлівы і ўважлівы, — прамовіла місіс Певенлі. — Ён не з тых, хто шмат кажа, але ён умее слухаць іншых. І ты лічыш, што ён сапраўды хоча ажаніцца?

— Так, менавіта гэтага ён і хоча, — адказала Берыл. — Я не ведаю, ці той ён муж, які выклікае найбольшае захапленне, але, калі я правільна разумею, грошай яму на жыццё хапае — прынамсі, на такое жыццё, да якога мы прывыклі. Акрамя таго, ён дастаткова прывабны. У іншым выпадку нам давядзецца прадаць большую частку нашай маёмасці, і тады мне прыйдзецца пайсці працаваць гувернанткай ці машыністкай, а вам — займацца шытвом. Цяпер наша становішча неблагое, мы нават робім візіты — іншымі словамі, атрымліваем асалоду ад жыцця, але можам раптам апынуцца ў стане даведзенага да галечы дваранства. Не ведаю, як лічыце вы, але я думаю, што прыняць прапанову шлюбу было б разумна.

Місіс Певенлі дастала насоўку.

— Ён стары? — спыталася яна.

— Яму трыццаць сем ці трыццаць восем. Ці трошкі больш.

— Ён табе падабаецца?

Берыл засмяялася:

— Не, такія мужчыны мне не падабаюцца зусім, — адказала яна.

Місіс Певенлі пачала плакаць.

— Так горасна! — усхліпвала яна. — Такая ахвяра з-за мізэрнай сумы грошай і становішча ў грамадстве! Падумаць толькі, што такая трагедыя магла здарыцца ў нашай сям'і. Я чытала, як дзяўчына, каб пазбегчы беднаты, вымушана была выйсці замуж за чалавека, да якога не мае ніякіх пачуццяў...

— Навошта чытаць такія кепскія кнігі? — запыталася Берыл.

— Але зараз так і адбываецца! — усклікнула маці. — Жыццё ўласнага дзіцяці прыйдзецца прынесці ў ахвяру, пагадзіцца на шлюб з мужчынам, які значна старэйшы за яе і якога яна зусім не кахае, і ўсё таму, што…

— Паслухайце, — перапыніла Берыл. — Здаецца, я не вельмі добра ўсё растлумачыла. Ён хоча ажаніцца не са мной. Сказаў мне, што «легкадумнасць» яму не падабаецца. Яго захапляюць больш сталыя жанчыны. Ён закаханы ў вас.

— У мяне?!

Ужо другі раз за гэтую раніцу місіс Певенлі перайшла на крык.

— Так, ён сцвярджаў, што вы — яго ідэал, спелы, нагрэты сонцам персік, смачны і жаданы. Мусіць, ён пазычыў гэтыя і іншыя метафары ў Суінбёрна ці Эдмунда Джонса. Я сказала яму, што пры іншых абставінах яму няма чаго было б разлічваць на вашу прыхільнасць, але мы вінаватыя яму тысячу дваццаць шэсць фунтаў, таму, магчыма, вы вырашыце, што шлюб — гэта найзручнейшы спосаб выканаць абавязак. Праз некалькі хвілін ён прыйдзе сам, каб пагутарыць з вамі, але я палічыла, што лепш спачатку вас папярэджу.

— Але, мая дарагая…

— Вядома, вы яго амаль што не ведаеце, але я лічу, што гэта не так важна. Разумееце, вы ўжо былі замужам раней, другі раз гэта заўсёды празаічна. А вось і Эшкамб. Напэўна, лепш я пакіну вас удваіх. Вам шмат што трэба сказаць адно аднаму.

Сціплае вяселле адбылося праз два месяцы. Падарункі былі вельмі дарагія, хоць іх было і няшмат. Галоўнае, што жаніх падарыў дачцэ нявесты пагашаную пазыковую распіску.

*The Bystander, 15 кастрычніка 1913*

*Крыніца:* http://haytom.us/a-sacrifice-to-necessity/
*Пераклад з англійскай Маргарыты Цішуцінай і Марыі Марозавай.*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай.*

**Андрусь Апалонік**

# Дзіцячы маніфест

Смерць — гэта адзіная рэальнасць.

Калі доўга вешацца, то можна страціць сувязь галавы з целам. Калі моцна любіць сябе, можна і залюбіцца. Калі аддаваць ад сябе па кавалачку, можна аддацца. Калі пагрузіцца ў псіхічныя захворванні з галавой, сам разумееш, што цябе чакае.

Смерць — гэта адзіная рэальнасць.

Кніга Кірылы Стаселькі «Дзіцячы маніфест» складаецца з адной аповесці і адзінаццаці твораў малых форм. Аповесць «У пошуках сябе» праз назву перадае тое, што адбываецца на працягу ўсёй кнігі. Спроба самаідэнтыфікацыі. Спроба вычлянення сябе з грамадства. Спроба быць назіральнікам. Спроба анатаміраваць сябе яшчэ жывым. Раздзяліць сябе на я — я і я — ён.

Смерць — гэта адзіная рэальнасць.

Мая ацэнка дадзенай кнігі суб'ектыўная. Бо гэта добрая кніга. Яна пераліваецца сэнсамі, і немагчыма быць упэўненым, што цалкам разумееш пазіцыю самога аўтара. Бо гэта добрая кніга. Аўтар хапае чытача за шкірку і кідае ў лабірынт чалавечага мозга. Дзесьці паміж сном і свядомасцю. Дзесьці паміж сутнасцю і эга. Дзесьці паміж дзяцінствам і экстрымам.

Смерць — гэта адзіная рэальнасць.

Аповесць «У пошуках сябе» пасля прачытання ўспрымаецца так, быццам аўтар пачаў яе пісаць і кінуў. То бок, палову твора чытача знаёмяць з сітуацыяй. Затым —з другаснымі героямі. Затым — канцоўка. Здаецца, штосьці тут не так. Але ёсць у мяне такое правіла: адразу спрабаваць паверыць, што ўсё так. Паспрабаваць не лічыць тое, што так старанна кідаецца ў вочы, памылкай. Карацей кажучы, не лічыць аўтара зусім ужо дурнем. Тады атрымоўваецца, што такое першаснае ўспрыманне чытача з'яўляецца мэтай твора. Спробай даць магчымасць глыбей успрыняць гэтыя пошукі. Спробай паказаць, наколькі нявартае часам тое, што навокал. Нявартае знаёмства. Нявартае разумення. Нявартае таго, каб пускаць гэта ў душу, каб чакаць штонебудзь ад гэтага. Бо, магчыма, заўтра будзе канец аповесці.

Смерць — гэта адзіная рэальнасць.

Вам не надакучыла гэта фраза? Мне надакучыла. У кнізе. «Дзіцячы маніфест». Можна паспрабаваць прыцягнуць за вушы якіянебудзь тлумачэнні. Чаму менавіта гэтыя словы з'яўляюцца ў зборніку з такой назвай? І чаму менавіта такая назва ў зборніка? Можна, напрыклад, сказаць, што аўтар падае нам скразнога лірычнага героя, які не можа знайсці сябе. Які не можа знайсці сэнс. Які бачыць толькі дзве крайнасці. Першая — дзяцінства, наіўнае і шчырае. Другая — смерць. Тады б лепш назваць кнігу «Недарослы маніфест», але «дзіцячы» дык «дзіцячы». А «маніфест», то і бачна нават з гэтага водгуку, бо смерць — адзіная рэальнасць.

Пра малую прозу казаць буду не па чарзе, а пра ўсё і адразу. Яскравых, новых, свежых думак не відно. Нічога не шкодзіць таму, каб адарвацца ад кнігі і пайсці што-небудзь рабіць: пасадзіць бульбу, патэлефанаваць маці, павесіцца (патрэбнае падкрэсліць). Няма такога радка, старонкі, апавядання, якое б высвяціла ў галаве новую планету свядомасці. Ёсць толькі вось гэтыя гіпертрафіраваныя пошукі. Гратэскавыя корпанні ў левай ноздры. Мона Ліза, якая робіцца то тым, то гэтым. Але нагадаю, што ў кнігі ёсць пэўная мэта. Яна з'яўляецца разам з назвай, выразна афармляе сябе ў аповесць, а затым дадаецца ў фарбах, адценнях, дробязях апавяданне за апавяданнем. Мэта — ідэя. Аўтар дакладна дэманструе згубленага чалавека. Аднаго з тых, што ствараюць новыя вучэнні, суполкі, псеўдаінтэлектуальную літаратуру. Аўтар усе сто восемдзесят восем старонак выкрывае гэту псеўдаінтэлектуальнасць. Ён не баіцца, што яго аб'яднаюць у адно з лірычным героем. Не баіцца, што яму павераць. У гэтым і ёсць сутнасць сарказму.

Адзіная рэальнасць — гэта смерць.

А мой водгук — нерэальны. Ён толькі ўспрыманне.

**Святлана Воцінава**

# Памяць сэрца

*Другі артыкул пішу пад такой назвай. І што? Так можна. Я сабе, прынамсі, дазваляю. Гэта не гультайства ўяўлення, а прачытанне таго, што нехта называе знакамі лёсу, і падыгрыванне ім дзеля ўтульнасці ўласнай душы. Ёй так святлей.*

***

28 лістапада 1989 года ў кнігарні на вуліцы Каржанеўскага ў Мінску я купіла кніжачку з такой назвай — «Память сердца». Напісаная Уладзімірам Кованавым і надрукаваная ў выдавецтве «Советская Россия», яна складаецца з успамінаў хірурга-акадэміка пра яго студэнцтва, з нарысаў-прысвячэнняў людзям, якіх яму давялося сустрэць на самым пачатку свайго прафесійнага шляху.

Чаму я так дакладна ведаю дзень, калі купіла гэтую кніжку? Таму што мне ў той дзень было вельмі сумна… Ды проста між старонак знайшоўся квіточак з кнігарні, на ім назва кнігі і дата пакупкі. І час — вечаровы. Відаць, сапраўды было сумна…

Той восенню мне ўвесь час было сумна. Чалавек, які летам ля крамы чытаў мне па памяці вершы Высоцкага, паехаў вучыцца ажно ў Ленінград (тады яшчэ Ленінград), а я — не паступіла ў інстытут. І пайшла вучыцца ў медвучылішча — каб хоць недзе вучыцца. І сумна было, і цяжка неверагодна… Вы б паспрабавалі вывучыць усе лекі з раздзела «Сродкі для стымуляцыі дофамінэргічных сінапсаў» з падручніка фармакалогіі спадара Майскага, механізмы іх дзеяння, дазіроўкі і лацінскія назвы. Да заўтрашняй раніцы. І адказваць строгай Лідзіі Пракопаўне Ягоравай як па напісанаму: «Леводопа, левовращающий изомер ДОФА, путем активного транспорта проникает через гемато-энцефалический барьер, под влиянием ДОФА-декарбоксилазы превращается в дофамин…» Брыла, напэўна, мармычучы гэта сабе пад нос, па вулках Курасоўшчыны, пад нагамі шамацела лістота, спатрэбіўся антыдот кнізе Майскага, на вочы патрапіла кнігарня, а ў ёй, пад белай вокладкай з вензелем, — «Память сердца» — кніга, якую я буду перачытваць шмат разоў і з-за якой у рэшце рэшт сама захачу напісаць нешта цёплае пра сваё навучанне прафесіі. Зрэшты, было яно не толькі медыцынскім, але і мела досыць выразны літаратурны ўхіл. Прынамсі, дастаткова выразны, каб цалкам апраўдваць частыя візіты ў кнігарню на вуліцы Каржанеўскага і пакупку там не толькі такіх вось хірургічных мемуараў, але і самай рознай іншай літаратуры.

Куратар групы Віктар Канстанцінавіч Пінчук выкладаў нам тэрапію і псіхіятрыю, але гэта толькі з аднаго боку. З другога — забягаў на перапынках, каб паміж іншым распавесці пра «Гісторыю архітэктуры Беларусі» Уладзіміра Чантурыі або якія-небудзь іншыя грунтоўныя працы па нашай гісторыі. Або раптам прапанаваць на бліжэйшай куратарскай гадзіне правесці паэтычныя чытанні. За адно з такіх чытанняў, прысвечаных жыццю і творчасці Уладзіміра Высоцкага, я атрымала ў падарунак ад Віктара Канстанцінавіча выдатнейшы зборнік класічнай паэзіі, пакладзенай на музыку. Гэты зялёненькі том і сёння стаіць сярод іншых падораных мне кніжак, дарагіх успамінамі аб тых, хто трымаў іх у руках да мяне. Ну, трэба разумець, што таго самага Высоцкага, які дэкламаваўся мне летам ля крамы, я сама праз колькі месяцаў тужлівай адзіноты магла чытаць па памяці цэлымі дзясяткамі вершаў.

***

Нават тым, хто не валодае гісторыяй медыцыны, прозвішчы герояў гэтай кнігі — я зноў пра «Память сердца» — добра вядомыя: Вішнеўскі, Сперанскі, Бурдэнка, Паўлаў, Герцэн… Апошні — не той, які напісаў «Падарожжа з Пецярбурга ў Маскву», не рэвалюцыянер, а яго ўнук — доктар медыцыны Пётр Аляксандравіч Герцэн, які любіў, чытаючы студэнтам лекцыі, узнімаць указальны палец і прамаўляць: «Вотьинно!» замест «Вот именно!»

Я чытала гэтую кнігу — і вышуквала ў аповедах аўтара тое, што атаясамлівала мяне з ім. Вось ён піша, як трапіў на практыку да акадэміка Паўлава, «старэйшыны фізіёлагаў свету», стваральніка вучэння пра рэфлексы, першага рускага набеліста. «Вам, молодые люди, лучше пойти на Невский или куда-нибудь еще, мало ли в Питере интересных мест!» — першае, што чуюць практыканты ад строгага Паўлава. «Хотите маникюр — иди-

те учиться на продавцов, а здесь медицина!» — чулі мы на занятках па педыятрыі, на якія не дазвалялася прыходзіць, калі пазногці хаця б на чвэрць міліметра выступалі за межы пальца, а з-пад медыцынскай шапачкі выбіваўся хаця б адзін валасок. «Как возьму сейчас гипсовые ножницы…», — прамаўляла наша выкладчыца, і, не ведаю як хто, а я ў такія хвіліны ўяўляла сябе выхаванкай пансіёна пры манастыры сясцёр-… Нейкіх сясцёр.

Мы ж і былі сёстрамі, медыцынскімі сёстрамі, няхай сабе і ў будучыні, якая надыходзіла праз менш чым два гады. Між іншым, выкладчыца анатоміі Юлія Барысаўна Прохарава прыходзіла да нас з пазногцямі, пафарбаванымі (нам на зайздрасць) лакам зялёнага колеру. А яна ж была старэнькая жанчына, спускалася да нас у аўдыторыю з выкладчыцкай на другім паверсе так доўга, што можна было паспець «успомніць усё».

Успамінаць было што: на перапынку перад парамі па анатоміі лабарантка прыносіла косткі, самыя розныя, з розных частак чалавечага шкілета. Некаторыя былі штучныя, некаторыя… Сапраўдныя косткі адрозніваліся ад муляжоў колерам — нешматлікія, яны былі жаўтаватыя ў адрозненне ад шэрай большасці. І варта было прысвячаць перабіранню костак час чакання выкладчыцы, бо якой бы ні была тэма занятку — сістэма стрававання, мышцы ніжніх канечнасцей, будова скуры ці чэрапа — кожнай з нас пасля асноўнага апытання прапаноўвалася назваць тую ці іншую костку. Юлія Барысаўна старэнькімі інтэлігентнымі пальчыкамі з зялёнымі пазногцікамі выцягвала з груды касцей адну і пыталася: «Што гэта?» Думаеце, калі яна выцягвала пазванок, гэта быў падарунак лёсу? Яна пыталася, які гэта пазванок, з якога аддзела — шыйнага, груднога, паяснічнага? Вы ведаеце, як адрозніць трэці шыйны ад сёмага?

Ёсць рэчы, якія, калі трэба, вельмі доўга не запамінаюцца, а як запомняцца, то згадваюцца нават і тады, калі ўжо зусім непатрэбныя. Як памераць глыбіню ўвядзення зонда для кармлення нованароджанага? «Ад казялка вуха да пераносіцы і да мечападобнага адростка грудзіны», — адкажу я цяпер, нават калі сярод ночы пабудзяць, каб папытаць. Навошта памятаю? Быццам насамрэч калі-небудзь пабудзяць.

***

— А паказанне да гэтай маніпуляцыі?

— Адсутнасць сасальнага і глытальнага рэфлексаў.

— Добра, ведаеш. Не забудзь пасля кармлення ўзяць дзіця на рукі і патрымаць вертыкальна. Што яшчэ трэба зрабіць?

— Даць яму кісларод, каб не было асфіксіі.

Дыялог выкладчыцы і навучэнкі. «Яму» — гэта мяккай лялькі, якой можна націснуць на шчочкі, каб яна адкрыла раток.

— Накрый дзіця пялюшкай, бо застудзіцца! — дае заўвагу Вікторыя Канстанцінаўна Урбан, выкладчыца педыятрыі.

Тая самая, з нажніцамі для гіпса.

І нікому не смешна: медсястра не мае права застудзіць немаўля, нават калі яно толькі лялька. На занятках усё па-сапраўднаму: ад спавівальнага століка да пінцэтаў, катэтараў, шпрыцаў і зондаў. І пальчаткі ў медсястры абавязкова стэрыльныя. Толькі пацыенты пакуль яшчэ лялечныя. Тым не менш ніхто іх лялькамі не называе — яны дзеці, маленькія пацыенты, і догляд за імі не цацачны. Паспрабуй вазьмі «накормленае дзіця» тварам да сябе — выкладчыца зробіць заўвагу і знізіць адзнаку: трэба тварам ад сябе, каб твар відаць быў, інакш як ведаць, што ўсё ў парадку?

— Дзяўчаткі, хто спавіў дзіця, — паказвайце. Спавіў хто-небудзь? Лангету на вобласць сэрца не накладаць, я ж прасіла!

Вікторыя Канстанцінаўна і сёння працуе ў маім медвучылішчы, якое змяніла назву на Беларускі дзяржаўны медыцынскі каледж. Мы сустрэліся на практычных занятках яе цяперашніх выхаванак. Тэма — «Паўтарэнне маніпуляцый», вось і паўтараюць: хто — кармленне праз зонд, хто — правілы спавівання … Я зайздрошчу: нас вучылі складаць пялюшкі ў памперсы, а вось касыначкай — не, я не ўмею.

***

Машына часу — не існуе! Праўда-праўда. Знайшоўшы на сайце каледжа знаёмае прозвішча, уяўляеш яго ўладальніка такім самым, якім яго давялося ведаць раней, чвэрць стагоддзя таму. І табе ніяк не можа прыйсці ў галаву, што з гэтым выкладчыкам лёгка звязацца праз звычайны мабільнік.

Табе здаецца, што калі ён з таго часу, то і ўсё, што з ім звязана, — з таго часу. Які мабільнік, калі ты ўжо па самае сэрца ў 1989-м… Але не, у прыёмнай каледжа табе дыктуюць нумар тэлефона. Мабільнага. Як нешта самае звычайнае, як… не ведаю што. Калі б мне сказалі, што гэты момант уразіць больш за іншыя, я б не паверыла. Паводле папярэдніх меркаванняў уразіць павінна было не гэта.

Калі табе сямнаццаць, выкладчыкі для цябе ўсе «старыя». Таму калі табе за сорак, сваіх былых выкладчыкаў ты не можаш уявіць зусім. Але пры сустрэчы з імі працуе тое, што нівелявала дыктаванне мабільнага. Ты збіраешся сустрэцца з некім старэнькім, нямоглым, бяспамятным, а сустракаешся… з такім самым, як і чвэрць стагоддзя таму, і пазнаеш адразу, і, што яшчэ больш дзіўна, выкладчык таксама цябе пазнае. І ты бярэш свае словы назад: машына часу ўсё ж існуе. Ну, або яны, выкладчыкі, ніколі не робяцца нямоглымі і бяспамятнымі — гэткая асаблівая катэгорыя чалавекаў. Пытанне «Чаму яны не мяняюцца?» застаецца пытаннем, на якое мо і не будзе адказу. Усё астатняе — увесь час мяняецца. Мабыць, проста час мяняецца, а яны, выкладчыкі, па-за часам? Час мяняецца і ўсё мяняе, а яны — па-за часам. Прынамсі, Вікторыя Канстанцінаўна Урбан сустрэла мяне ў калідоры 3-й гарадской дзіцячай паліклінікі Мінска такой самай, як сустракала яна нас некалі (яшчэ ў Савецкім Саюзе!) у фае дзіцячага хірургічнага цэнтра або радзільнага дома на вуліцы Бельскага.

…Не сказаць, каб у мяне да яе было шмат пытанняў. Проста яны, так бы мовіць, глабальныя. Кшталту такога:

— А як прыходзяць выкладчыкі ў медыцынскі каледж?

Гэта пытанне яшчэ тады мяне хвалявала. Думалася: як можа здарыцца, што вопытны практык (а яе мы бачылі найвопытнейшым практыкам, выдатнейшым урачом) раптам кіне сваіх пацыентаў і пойдзе вучыць медсясцёр? Але ж каму-небудзь нявопытнаму — хіба можна вучыць нас? Дылема.

— Знайсці выкладчыка для медкаледжа неверагодна цяжка, — адказвае мая былая выкладчыца без ніякага здзіўлення на пытанне, якога я, прызнацца, саромелася, у падаплёцы якога мне ўвесь час бачылася нешта правакацыйнае. — Гэта сапраўды павінен быць урач, і з немалой практыкай, іншыя для выкладання клінічных дысцыплін



На занятках па педыятрыі. Фота Яўгенія Крэча, «МВ».

не падыходзяць. Тым, хто толькі атрымаў дыплом і не хоча ехаць працаваць ў вёску або раённую бальніцу, можа быць прапанавана месца выкладчыка ў медыцынскім каледжы, але даверацьяму там хіба што агульныя прадметы — анатомію, латынь, фармакалогію. Іншая катэгорыя выкладчыкаў медкаледжа — участковыя ўрачы на парозе пенсіі, вельмі вопытныя і вельмі разумныя, але дарэшты стомленыя бясконцымі візітамі і патокамі пацыентаў. А проста так, без дай прычыны, сем гадоў адвучыўшыся на ўрача, ісці не людзей лячыць, а ў выкладчыкі — гэта, на маю думку, нонсэнс.

Віторыя Канстанцінаўна адпрацавала ў клініцы пятнаццаць гадоў і з вялікім шкадаваннем сышла адтуль выкладаць. Калі б не сямейныя акалічнасці, не сышла б ні за якія пернікі. Бо калі ты ўрач, такая змена працы ў любым выпадку ўшчымляе твае амбіцыі, б'е па самалюбству, моцна б'е. А вось калі ўзнікае праз гады напружанай практыкі ўнутранае адчуванне, што і веды твае, і праца рук, і прафесійная інтуіцыя ўжо добра паслужылі хворым людзям, тады ўсё гэта можна аддаць і будучым медсёстрам. Тым больш што адарванасць ад практыкі, жывой медыцыны тут, у каледжы, даволі ўмоўная: выкладчыкі чытаюць тэматычныя манаграфіі, сочаць за тэхналогіямі і тэндэнцыямі, а наведванне курсаў удасканалення, клінічных і спецыяльных псіхалагічных, — абавязковая рэч. Трымаць марку — гэта проста справа гонару для сапраўднага ўрача, які не перастае ім быць і за выкладчыцкай кафедрай. Педагогіка і медыцына здаўна ж парodнены грамадскай думкай — як самыя паважаныя заняткі.

***

Вось Віка, з якой я сустрэлася, каб пагаварыць пра наша агульнае месца вучобы і агульную любімую выкладчыцу, якая некалі здавалася гэткай вучыцелькай-мучыцелькай…

— І вам яна такой здавалася?

— Як інакш! Прыйшла да нас на першую лекцыю і пачала: «Мяне завуць Вікторыя Канстанцінаўна, мне столькі-та гадоў, муж такі-та, ёсць дачка, у кватэры ўсталяваны тэлефон з вызначальнікам нумара, і калі нехта будзе жартаваць, адразу знайду». Строгая была. Мы з-за гэтай строгасці ведалі яе прадмет назубок, але яна і выдатнікам не ставіла вышэй «васьмёркі». А на экзамене, уявіце,



Вікторыя Канстанцінаўна УРБАН. Фота Яўгенія Крэча, «МВ».

паставіла «дзясяткі». Калі спыталі, чаму, адказала, што яе «васьмёркі» не толькі эквівалентныя «дзясяткам», але і даюць поўнае права ісці вучыцца далей тым, хто гэтага заслугоўвае. Яна вельмі ганарыцца сваімі выпускнікамі, і нездарма. Бо дала ім столькі ведаў, колькі мо ні ў якога іншага выкладчыка атрымаць было немагчыма.

Віка Сяўкоўская — выпускніца 2004 года. Значыцца, ад мяне, выпускніцы 1991-га года, яшчэ савецкага часу, яе аддзяляе трынаццаць гадоў. То бок, трынаццаць выпускаў, шэсць з паловай пакаленняў навучэнцаў. Яна таксама вучылася на аддзяленні «Сястрынская справа». Усё жыццё марыла быць урачом, медыцынай захопленая з дзяцінства, скончыла дзве ВНУ ў Маскве, валодае ведамі па нутрыцыялогіі і крымінальнаму праву ў медыцыне. Віка збіраецца



Вікторыя СЯЎКОЎСКАЯ, выпускніца 2004 года.

адкрыць цэнтр для дзяцей і дарослых, дзе будзе весці курсы для цяжарных і кормячых мам. І да гэтага часу ў працы з людзьмі (а праца медыкаў — праца толькі з людзьмі) карыстаецца тым, чаму яе настаўляла Вікторыя Канстанцінаўна: «Трэба навучыцца размаўляць з сабой: як бы ты зрабіла для сябе?» Вельмі мудра.

— Вікторыя Канстанцінаўна любіць людзей за веды і трапяткое стаўленне да справы, неабыякавасць, уменне думаць, — разважае мая суразмоўца.

Ну, як абгаворваем… Ну так, абгаворваем. Ёсць за што. Хто з нас не бачыў, як малады ўрач спісвае лацінскую назву лякарства ў рэцэптурны бланк з нататнічка-«склератычкі», правяраючы кожную літарку?

— І яны не саромеюцца свайго няведання. На трэцім курсе вешаюць на шыі стэтаскопы — і ўжо ўрачы. А ўкол зрабіць не ўмеюць. Іншая справа — студэнты-медыкі, якія або медкаледж папярэдне скончылі, або хаця б санітарыць у вольны ад вучобы час. З іх урачы атрымаюцца іншыя, зусім іншыя, з веданнем справы знутры.

Памятаю, як задзірыстая фізручка чаплялася да тых, хто прыйшоў у медвучылішча, бо не паступіў у інстытут: якія вы, маўляў, медсёстры? А хто пра сябе наперад што ведае — мо самыя сапраўдныя медсёстры? Я, прынамсі, была медсястрой шчаслівыя чатырнаццаць гадоў. Цяпер, праз чвэрць стагоддзя, пытаюся пра такіх, як я, у нашай з Вікай агульнай любімай выкладчыцы і атрымліваю тыя ж словы.

— Вучоба ў каледжы можа стаць праверкай на правільнасць выбару ўніверсітэта, — адказвае Вікторыя Канстанцінаўна. — Здараюцца выпадкі, калі навучэнцы пачынаюць разумець, што медыцына — справа не іх жыцця, і спрабуюць пасля паступаць у іншыя ВНУ. А хто ідзе ў медыцыну мэтанакіравана, той атрымае тут толькі плюсы. Бо ўрач, які авалодаў сястрынскімі маніпуляцыямі, — гэта ўрач на парадак вышэй.

***

Мы абедзьве рады, што сустрэліся, абедзьве лічым медыцыну нечым чароўным, нечым такім, што захоплівае і не адпускае.

— Ведаеце, калі доўга працуеш галавой, вельмі хочацца папрацаваць рукамі, — кажа Віка. — Я і цяпер хачу працаваць медсястрой, хаця б раз на тыдзень. Пастаяць на працэдурах, на перавязках...

Як я яе разумею… Таксама ж часта ўяўляю сябе медсястрой і невядома навошта дагэтуль памятаю ўсе інструменты і пламбіравальныя сродкі. Пастаўце мяне сёння на стаматалагічны прыём — і не здагадаецеся, што яшчэ ўчора я штопфер ці шпатэль у руках не трымала.

…Сядзім, успамінаем, як былі медыцынскімі сёстрамі, а здаецца, што марым, як імі будзем. Робім выснову, што сярэдняя медыцынская адукацыя — магутная рэч. Для ўрача — неабходная. Абгаворваем тых урачоў, якія яе перад універсітэтам не атрымалі.

***

Мы з Вікай пакрысе пераходзім да ўспамінаў пра тое, якім разнастайным было жыццё ў каледжы па-за межамі асноўнай адукацыйнай дзейнасці.

— Па завяршэнні заняткаў, калі не чакала рэпетыцыя канцэрта ці спектакля, беглі ў бальніцу хуткай дапамогі і там працавалі літаральна да ночы, — успамінае Віка. — Ноччу рыхтаваліся да заняткаў, ранкам — зноў на вучобу, і так жылі цэлымі тыднямі. Тыя, канечне, хто такога жыцця хацеў. Дзейнасць па-за вучобай была вельмі цікавай. Мы і вершы пісалі — на тэмы гігіены і здароўя, і ў конкурсе «Лепшы па прафесіі» бралі ўдзел… Конкурсы, самыя розныя, з усіх нас нешта зляпілі. Сказаць, што?.. — Віка задумваецца перад тым, як абвясціць ледзь не самае важнае: — Упэўненасць ў сабе далі. Думаць навучылі. Прымаць самастойныя рашэнні. Гэта вельмі важна медыку і проста чалавеку. Творчае жыццё ў каледжы — вось, аказ-

ваецца, тое, што, як ні дзіўна, развівае медыцынскі пачатак. Мо нашы тамтэйшыя педагогі, музычныя кіраўнікі і харэографы думаць не думалі, што такія заняткі дапамогуць прафесіі, мо кіраваліся толькі натхненнем, але вынік — ён вось такі.

Я зноў успамінаю незабыўнае — тадышнія тамтэйшыя літчытанні. 1989 год, у часопісе «Новый мир» толькі-толькі пачалі друкаваць «Архіпелаг ГУЛАГ». Выкладчыца Нэлі Томасаўна Астрэйка дзеліць пары рускай мовы напалову: першая частка заняткаў прысвячаецца вывучэнню тэрміналогіі, напісанню пад дыктоўку сіндромаў-сімптомаў, назваў лекаў, дыягназаў, сігнатур, другая — чытанню ўголас. Нехта з групы сядае на яе выкладчыцкае месца — і ўсе акунаюцца ў «Новый мир». На занятках па медыцынскай псіхалогіі займаемся тым жа. Бо што такое медыцынская псіхалогія? Гэта занадта эфемерна, каб укласці яе ў рамкі заняткаў, таму частка іх таксама прысвячаецца чытанням.

Галоўным чынам чыталі менавіта часопісы. Цяпер часцяком разважаю пра сэнсы гэтага простага слова. Не такое яно звычайнае, як можа падавацца напачатку. Не такое звычайнае, як можа падавацца ўсё жыццё. «Вопіс часу» — вось што такое часопіс. Той час быў асаблівы: ён сам сябе актуалізаваў. Самаактуалізоўваліся і людзі. З літаратурай адбывалася тое самае. Зрэшты, вялікая цікавасць да новага слова і вялікая крывадушнасць назіраліся тады адн籌часова. Чаму я ўсё ж не ўмею спакойна слухаць словы пра «раней чыталі больш» — таму што ведаю, бачыла, назірала: не толькі чыталі, не заўсёды больш. Мая кватэрная гаспадыня ўзяла мяне неяк з сабой у кнігарню. Я думала, мы будзем купляць кнігі, аказалася — карашкі ад кніг: яна пытала ў мяне, што, на маю думку, лепш будзе глядзецца ў сценцы і спалучацца з новымі шпалерамі. Калі ўражлівыя наіўцы натхнёна расказваюць мне пра тое, якія доўгія чэргі выстройваліся ў кнігарні ў іх час, я не магу не прасачыць паасобна, хто ў тых чэргах стаяў. Там дакладна стаяла мая суседка, якая доўга пасля ў двары высвятляла, як правільна паставіць кнігі на паліцу: спачатку «Плач перапёлкі» ці «Апраўданне крыві»? Калі нехта сённяшняга чытача ўспрымае як нешматлікага, то я ўспрымаю яго як шчырага перад сабой. Ну, і нешматлікага, канечне, таксама.

А ў медкаледж на змену нашым літаратурным чытанням прыйшлі цяпер паэтычныя конкурсы, у адным з якіх «Маладосць» выступае ў якасці журы і спонсара ўзнагарод і намінацый.

***

Дырэктар Беларускага дзяржаўнага медыцынскага каледжа Уладзімір Крупенчанкаў, аддаючы вершы выхаванцаў на суд рэдакцыі, распавёў пра сённяшнія традыцыі ўстановы.

Заняткаў па рускай мове з мэтай навучання правільнаму напісанню медыцынскіх тэрмінаў цяпер, як аказалася, няма. Задачу навучыць пісаць правільна словы «агглютинация», «бактериемия», «вентральный», «гангрена», «ирригоскопия», «контраппертура» , «гидраденит» узялі на сябе выкладчыкі адпаведных спецыяльных дысцыплін. Затое цяпер тут вывучаецца англійская мова.



Уладзімір КРУПЕНЧАНКАЎ, дырэктар Беларускага дзяржаўнага медыцынскага каледжа.
Фота Яўгенія Крэча, «МВ».

— Факультатыўна вывучаецца медыцынская англійская мова і прафесійная лексіка, — удакладняе дырэктар. І дадае: — Галоўная стратэгія каледжа — рыхтаваць спецыялістаў, канкурэнтных на рынку працы, у ідэале — самых запатрабаваных.

Калі гэта амбіцыі, то іх дыягназ: «Здаровыя». Яны праяўляюцца ў сценах самай буйной у краіне ўстановы сярэдняй спецыяльнай адукацыі медыцынскага профілю.

— 30—40 працэнтаў нашых навучэнцаў — мінчане, астатнія прыязджаюць з іншых месцаў, часта з гарадоў, якія маюць свае медыцынскія навучальныя ўстановы, і выбар, зроблены на карысць БДМК, дэманструе як яго ўласны вялікі прэстыж, так і прэстыж навучання ў Мінску — не толькі сталіцы, але і месцы канцэнтравання самых перадавых медыцынскіх тэхналогій рэспублікі.

Уладзімір Аляксандравіч расказвае пра тэатральны гурток і вакальную студыю, вечары пасвячэння ў студэнты з канцэртамі першакурснікаў і «прэзентацыямі» куратараў.

— Юнакі самі прэзентуюць свайго куратара такім, якім яны паспелі яго пазнаць: рыхтуюць разам з ім творчы нумар і выступаюць на сцэне. Гэта штогадовая традыцыя.

— А ці скардзяцца цяперашнія навучэнцы на строгасць і залішнюю прынцыповасць куратараў і ўвогуле выкладчыкаў?

— Як і шмат гадоў таму. Але менавіта да тых яны маюць такія прэтэнзіі, хто пасля будзе ўспамінацца імі з удзячнасцю і любоўю. «Пачакай, ты яшчэ скажаш дзякуй», — самы часты адказ старэйшых калег малодшым у сацсетках. Напэўна, павінен прамінуць пэўны час, каб ты змог ацаніць і зразумець тыя строгасць і прынцыповасць, бо ў іх насамрэч прачытваецца жаданне паказаць, што медыцына не церпіць раўнадушша ў спасціжэнні яе асноў і прамудрасцей, што медыцыне трэба аддавацца цалкам, а для гэтага неабходна ўпарта працаваць над сабой. І тады пры выпуску з каледжа будзе назірацца той дасканалы вынік, які нашы педагогі ставяць сабе за мэту, але пра які ніводзін першакурснік не здагадваецца.

Уладзімір Аляксандравіч кажа, што каледж мяняе светапогляд, хоць прыходзяць у яго вучыцца, лічы, дарослыя людзі, светапогляд якіх быццам ужо сфарміраваны. Не, погляды на жыццё адназначна тут перакройваюцца.



Дзмітрый Савасцей, старшыня пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі навучэнцаў БДМК.

***

Яго завуць Дзмітрый Савасцей, ён старшыня пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі навучэнцаў каледжа, але мне здаецца, што ён мажардом у версіі «старэйшы саноўнік палаца часоў меравінгаў», не менш. Я ўжо пісала, што маё медвучылішча нагадвала мне пансіён пры манастыры. Цяпер вось мяняю фармуліроўку пра медыцынскі каледж. І без іроніі.

Тутэйшая прафсаюзная арганізацыя мае правы юрыдычнай асобы, а яе членамі з'яўляюцца 99,9 працэнтаў навучэнцаў. Гэта сур'ёзны паказчык, калі ўлічыць, што ў каледжы навучаецца 1624 будучыя медыкі.

Дзейнасць прафкама мае шэраг такіх накірункаў, якія гарантуюць прыцягненне да сябе кожнага, хто сюды паступіў. Найперш гэта сацыяльна-прававая абарона.

— Любы член прафсаюза мае магчымасць атрымаць юрыдычную кансультацыю ў бліжэйшы час і абсалютна бясплатна. Мы кансультуем юнакоў пры паступленні ў каледж, па пытаннях запазычанасцей і адлічэння, засялення ў інтэрнат і афармлення бальнічных лістоў. Другі накірунак дзейнасці — матэрыяльная дапамога. Згодна з Палажэннем аб матэрыяльнай дапамозе мы аказваем яе малазабяспечаным навучэнцам, у выпадках нараджэння дзіцяці або смерці роднага чалавека, навучэнцам-інвалідам, навучэнцам, якія маюць траіх і болей дзяцей, у іншых выпадках. Мы маем магчымасць аказваць і розныя іншыя віды дапамогі — ад сацыяльных стыпендый малазабяспечаным навучэнцам да аднаразовых выплат за актыўны ўдзел у жыцці прафкама.

Дыпломамі часопіса «Маладосць» за лепшыя творы паэзіі узнагароджаныя:

**Уладзіслаў КАВАЛЕЎСКІ** —
«*За стварэнне яскравага вобразу* (верш «*Шут*»)»;
**Ганна ДАЛГУНІЧАВА** —
«*За творчую шматграннасць*»;
**Крысціна КАРПЕНКА —**
«*За пачуццёвасць інтымнай лірыкі*»;
**Іван МАЦВЕЕЎ —**
«За вернасць абранаму стылю»;
**Алена АРЦЮШЭЎСКАЯ** —
«*За пазітыўны погляд на свет*»;
**Наталля АСЯНЕНКА —**
«*За сусветную магію, увасобленую ў адным вершы* (верш «**Не называй меня Богиней...**»)»;
**Казімір ТАТАРЫНОВІЧ** —
«*За тонкасць пачуццяў і вастрыню пяра*»;
**Вікторыя ТУЛЬКО** —
«*За паэтычную эмацыйнасць*»;
**Марыя ПІНЧУК** —
«*За творчую праніклівасць*».

Больш чым актыўны, калі браць пад увагу сур’ёзнасць той адукацыі, якая тут павінна быць атрымана і на якую патрабуецца ой як нямала часу! Тым не менш тут па-ранейшаму вельмі развіта валанцёрства і дзейнічае безліч самых розных акцый. Штогод навучэнцы каледжа пад кіраўніцтвам прафкама прыбіраюць вайсковыя могілкі на вуліцы Казлова, збіраюць падарункі на Новы год і запрашаюць артыстаў для маленькіх падшэфных гледачоў. Конкурс на лепшы пакой у інтэрнаце, турнір па боўлінгу і брэндавыя мерапрыемствы — “Містэр БДМК” і “Міс БДМК” — маленькі пералік таго, што ладзіцца прафкамам навучэнцаў. Дзмітрый Савасцей сам піша палажэнні аб конкурсах і сцэнарыі фінальных шоу, праводзіць адборы ўдзельнікаў, рэпетыцыі дэфіле і іншыя прэзентацыі. Ён жа выступае як вядучы. І клапоціцца пра тое, каб удзельнікі не толькі адчулі радасць спаборніцтва і перамогі, але і атрымалі прызы ад прэстыжных спонсараў.

— Здаю мерапрыемствы пад ключ, — усміхаецца Дзмітрый.

Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Лагойску ён вучыўся ў педагагічным каледжы імя Максіма Танка, які стаў пасля філіялам аднайменнага ўніверсітэта. Прафесія, атрыманая ім, — настаўнік беларускай мовы і літаратуры базавай школы, спецыялізацыя — кіраўнік дзіцячай тэатральнай студыі. Працуючы ў медыцынскім каледжы арганізатарам і вядучым культурных мерапрыемстваў, ён зразумеў, што гэта — справа яго жыцця. Дадаткова, не адрываючыся ад працы, скончыў Універсітэт культуры і мастацтваў як рэжысёр спектакляў і свят. Пасля працаваў у БРСМ — першым сакратаром райкама, у адміністрацыі Ленінскага раёна і Цэнтры дзіцячай творчасці, але дзе б ні працаваў, не перарываў стасункаў з каледжам: яго па-ранейшаму запрашалі ладзіць мерапрыемствы. Цяпер ён тут лідар прафкама.

## Казимир Татаринович

***

Ты меня позови,
Когда буду я нужен.
Мои плечи — твои,
Коль тебе нужно встать.
И не важно: здоров иль немного простужен —
Просто имя скажи,
Просто нужно позвать…

Ты меня позови,
Если в сердце нуждаешься,
Чтобы выплакать грусть
И открыться душой,
Не узнает никто, что кому-то ты каешься,
Я поэт — знаю жизни утомляющий зной.

Я не смею судить
И смеяться не стану:
Ты же знаешь, что медик —
Значит, горю открыт,
За собою тоску я влачу неустанно,
Но другого — приму,
Как бы ни был я «сыт»…

Ты меня позови...
На закате, рассвете,
Просто имя скажи —
Я на помощь приду,
Даже если один
Ты остался на свете,
Значит, вспомни меня —
И тебя найду.

## Наталия Осененко

***

Не называй меня Богиней.
Я не Та,
Кто создаёт Звезды
И танцует в их холодном свете.
Не Та,
Кто творит планеты
И толкает их навстречу солнцу.
Не Та, кто порождает горы
И разрывает ими плоть планеты.
И даже не Та,
Кому зажигают костры
На этих никогда не заживающих ранах.
Но я Та,
Кто слепнет от света Звёзд
На своей маленькой планете,
Летящей в вечность,
С рубцами-ранами
Показного величия
Равнодушных богов.

## Анна Долгуничева

***

Жизнь моя не станет прежней,
Знаю: нет пути иного.
Ты так крепко руку держишь,
Что не надо мне другого.

Мне и страшно, и надежно…
Душу в омут окунуло.
Я была неосторожной —
Я с тобою утонула.

Наша жизнь пока не сказка,
Но ведь сказку можем сами
Написать — и былью станет
Всё, что в снах случалось с нами.

— Лепшым выпускнікам традыцыйна ўручаюцца не толькі дыпломы з адзнакай, але і сертыфікаты ўдзельнікаў сумеснага мэтавага моладзевага праекта Моладзевых саветаў Мінскага гарвыканкама і Мінскага абласнога камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў аховы здароўя «Актыўнасць — наша перспектыва».

Гэты праект дапамагае выявіць прафсаюзных лідараў. Выпускнікі з такімі задаткамі атрымліваюць спецыяльныя сертыфікаты для прад’яўлення на першыя месцы працы — каб іх актыўнасць заставалася запатрабаванай у тых паліклініках і бальніцах, куды яны трапяць па размеркаванні. Мы клапоцімся пра сваіх валанцёраў, артыстаў, спартсменаў і хочам, каб і далей пра іх здольнасці ведалі, каб яны не згубіліся ў новых працоўных буднях.

Дзмітрый уваходзіць у Савет каледжа і прымае ўдзел у працы ўсіх магчымых камісій — і па прэміраванні, і па матэрыяльнай падтрымцы, і па прафілактыцы правапарушэнняў, і па прасоўванні лепшых вучняў на дошку гонару, і па прадастаўленні жыллёвай, і харчовай зніжак, а таксама зніжак на навучанне. Паўсюль, дзе толькі ёсць магчымасць прадстаўляць інтарэсы навучэнцаў, гэта робіць прафсаюз. І адміністрацыя каледжа вельмі лаяльна і з вялікім разуменнем ставіцца да гэтага ўмяшання.

— Добры такі тандэм, — кажа Дзмітрый.

***

— А хто ў вас вёў філасофію? — пытаю я ў Вікі.

— … Бабкоў, Уладзімір Уладзіміравіч. Ён такі…

— Ён ставіў кропачкі насупраць прозвішчаў за кожны каментарый да тэмы з месца, так?

— Так.

— Назбірае патрэбную колькасць кропачак — і выводзіць з кропачак адзнакі.

— А на канцэртах ён заўсёды сядзеў у другім радзе, — працягвае Віка. — І калі назіраў выступленне выдатніцы, абавязкова казаў: «І вучыцца на «выдатна», і філасофію ведае, і прыгажуня». Калі я выступала ў станоўчым вобразе, ён пра мяне так казаў. Але аднойчы я іграла Бабу Ягу. На наступны дзень ён паставіў мне нізкую адзнаку. Яшчэ і пракаменціраваў: «Не тваё гэта, ты не такая». Вось не мог ён зразумець, што не ўсё ж прыгожым дзяўчаткам іграць Снягурак.

— Прыхільнік адзінства формы і зместу, іншымі словамі. Выкладчык філасофіі таму што.

Да 950-годдзя Мінска

**Вітаўт Чаропка**

# Старадаўні і былы
***Старонкі мінскай гісторыі***

**Паважаны юбілей — цудоўная падстава перагарнуць старонкі гісторыі Мінска, каб не забывацца, што было ў гэтым горадзе і як гэта было.**



Менеск

## Княжацкі горад

Нейкай таямнічай сілай вабіў да сябе Менск. Вабіў падарожнікаў, паэтаў, мастакоў, каранаваных асоб. Магчыма, таму, што стаяў на шляху з Усходу на Захад. Хто ні ехаў, абавязкова заглядваў у горад, спыняўся ў ім — і зноў у дарогу, несучы ў памяці вобраз Мінска. А магчыма, і сама гісторыя горада мела сваю чароўную прывабнасць, якая гублялася ў такой сівой мінуўшчыне, што вытокі яе згубіліся канчаткова.

Хто не ведае пра славутага волата — чараўніка Менеска, які нібыта жыў на паўночным усходзе ад Замчышча на беразе ракі Пярэспа! Ён пабудаваў на Свіслачы каменны млын на сямі колах і малоў там хлеб з камення. Казалі, што апоўначы раз'язджаў ён на сваім млыне па дарогах і збіраў дружыну з дужых людзей. З іх потым утварыўся цэлы народ, які пачаў сяліцца побач з млынам чараўніка. Паселішча, якое ўзнікла там, назвалі імем волата — Менескам. Прыгожае паданне! Гэтак менскія месцічы тлумачылі назву свайго горада і гісторыю яго ўзнікнення. Нават існавала выслоўе: «Не пайду я да Менска ад шляху Віленска, а калі ж пайду па шляху Віленскім, спаткаюся з Менескам». А вось, што сведчыць гісторыя.

Упершыню Менск (Менеск) згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 год, калі дружыны Ізяслава, Святаслава і Усевалада Яраславічаў, кіеўскага, чарнігаўскага і пераяслаўскага князёў, захапілі горад, спалілі яго, мужчын перабілі, а жанчын і дзяцей узялі ў палон. Такая жорсткая расправа была помстай полацкаму князю Усяславу Брачаславічу за ўзяцце ім Ноўгарада. Князь з дружынай 3 сакавіка 1067 года на рацэ Няміга ўступіў у бітву са сваімі ворагамі, пра якую яскрава піша аўтар «Слова пра паход Ігаравы»:

На Нямізе галовы сцелюць снапамі,
Харалужнымі малоцяць цапамі,
Жыццё кладуць на таку злюцела,
Веюць душу ад цела.
Нямігі крывавыя берагі
Не збожжам былі засеяны зноў —
Засеяны косцьмі рускіх сыноў.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

Даследчыкі даўно знаходзяцца ў пошуках разгадкі назвы Менск. Відавочна, што яна ўтварылася ад назвы ракі з дапамогай суфікса -ск, як ад Віцьбы — Віцебск, ад Піны — Пінск, ад Палаты — Полтэск (Полацк) і г. д. Але Менск узнік на месцы ўпадзення Нямігі ў Свіслач. Гэтую супярэчнасць паспрабаваў вырашыць адзін з лепшых знаўцаў мінскай мінуўшчыны археолаг Эдуард Загарульскі. Ён прыводзіць даныя з менскіх актавых дакументаў аб наяўнасці рачулкі Верхмень непадалёк ад Замчышча ў раёне сучасных вуліц Грыбаедава і Заслаўскай. Гідронім Верхмень азначае вярхоўе Мені. Значыць, у межах сучаснага Мінска была рэчка Мень ці блізкая па назве з коранем «мен». Як лічыць Загарульскі, яна агінала Замчышча з поўдня, і рэшткі яе вусця пазначаныя на гістарычных планах XVIII—XIX стагоддзяў. З цягам часу рэчка, верагодна, перасохла ці, магчыма, згубілася ў забалочанай нізіне на поўдні ад Замчышча. Магчыма, яна была перайменавана ў Нямігу па назве Нямігскай дарогі, што праходзіла побач з ёю або па вуліцы з такой назвай.

Гісторыя ўзнікнення назвы старажытнага Менска застаецца загадкай. Аднак разгадку даследчыкі ўсё ж знайшлі за межамі сучаснага Мінска.

Ёсць пераканаўчыя доказы, што згаданы Менск знаходзіўся на рэчцы Менка (адсюль і назва горада), у 16 км ад цэнтра сённяшняга Мінска. Тут каля сучаснай вёскі Гарадзішча на правым беразе Менкі ў V—VII стагоддзях існавала буйное паселішча, якое ў IX—XI стагоддзі стала гарадзішчам. І саму назву рэчкі Менкі, і паўсталую ад яе назву горада Менска, верагодна, трэба тлумачыць не ад назвы рыбы «мень», «мянтуз», як робяць даследчыкі, а ад «мены». Раней тут адбывалася «мена» (абмен тавараў) — своеасаблівыя старажытныя кірмашы. Гарадзішча з'яўлялася значным гандлёвым цэнтрам славяна-балцкага памежжа і было добра ўмацавана высокімі, да 16 метраў, валамі. Лічыцца, што яно служыла адміністрацыйным і ваенным цэнтрам дрыгавіцкіх паселішч (каля ста вёсак), якія знаходзіліся на правым беразе вярхоўяў Свіслачы, Ушы і Пцічы. Спаленае Менскае гарадзішча было адбудавана нанава, а каменка і выбрукоўка вонкавага вала сведчаць пра прускі метад будаўніцтва.

Княжацкія знакі-трызубцы Рурыкавічаў на днішчах ганчарнага посуду, знойдзенага на Менскім гарадзішчы і ў суседніх пасяленнях, паказваюць на тое, што даніну з Менскай воласці бралі кіеўскія князі, прадстаўнікі якіх жылі ў так званым Малым гарадзішчы, якое прымыкала да Вялікага гарадзішча і выконвала ролю ўмацаванага вакольнага горада.

Невядома, калі полацкія князі падначалілі сабе Менскую воласць. Гэта магло адбыцца ў часы княжання Брачыслава Ізяславіча, верагодна, у 1024 годзе, калі кіеўскаму князю Яраславу Мудраму патрэбны быў саюз з Полацкам супраць тмутараканскага князя Мсціслава. Вось тады Яраслаў Мудры і мог перадаць Брачыславу Ізяславічу Менскую воласць, як раней, у 1021 годзе перадаў яму Віцебск і Усвяты. А магчыма, падначаліў менскіх дрыгавічоў князь Усяслаў Брачыслaвіч у першы перыяд свайго княжання ў 1044—1066 гады. Напрыклад, як плату Яраславічаў за ўдзел Усяслава ў паходзе супраць торкаў у 1060 годзе.

Менскае гарадзішча і прылеглае да яго паселішча займалі плошчу ў 30—40 га і, паводле археалагічных даных, тут у пачатку першай паловы XI стагоддзя магло існаваць каля 600—700 дамоў і адпаведна жыць 2400—3750 чалавек. На той час гэта было даволі вялікае паселішча.

Адначасова Менск, знаходзячыся ў цэнтры Мінскага ўзвышша, з'яўляўся галоўным перавалачным пунктам Нёманска-Дняпроўскага гандлёвага шляху, аб чым сведчаць археалагічныя знаходкі ў пасяленнях X—XI стагоддзяў у вярхоўях Пцічы і Лошыцы — тры скарбы куфічных манет X—XI стагоддзяў. Значыць, мясцовае насельніцтва абслугоўвала волак ад Менска на Менцы да рэчак Свіслач і Пціч.

З гэтай нагоды варта згадаць грунтоўную версію Сяргея Віцязя, згодна з якой Менск на Менцы пасля разбурэння гандлёвага і адміністрацыйнага цэнтра Каўпа ў вусці Нёмана ў 1016 годзе пераняў яго функцыі кіравання ўсім нёманскім адрэзкам шляху «з варагаў у грэкі». Менавіта на Менскім гарадзішчы аселі пруска-скандынаўскія (дацкія) дружыннікі, што ахоўвалі і даглядалі шлях. Патрэба ў людзях для абслугоўвання волакаў з Нёмана да Пцічы і Свіслачы абумовіла і шматлікасць паселішч вакол гарадзішча.

Відавочна, што не толькі помстай кіраваліся паўднёва-рускія князі, напаўшы менавіта на Менск на Менцы, а і жаданнем нанесці адчувальны ўдар па эканоміцы Полацкага княства, падарваць яго гандлёвую моц. Верагодна, Усяслаў Полацкі пераарыентаваў Менск на абслугоўванне Нёманскага шляху не праз падуладныя Кіеву дрыгавіцкія землі па Пцічы да Прыпяці, а праз полацкія па Свіслачы і Бярэзіне да Дняпра, што адбілася на эканамічным становішчы такога важнага для Кіева прыгарада, як Тураў (З тых часоў у Менску захавалася назва мясцовасці Валокі полацкія, па якой праходзіла вуліца Валоцкая, цяпер Інтэрнацыянальная).

Яраславічы хацелі знішчыць аплот полацкай улады на Нёманскім шляху. Паводле летапісу, яны рушылі да Нямігі. Дагэтуль даследчыкі спрачаюцца, куды дакладна накіраваліся Яраславічы: да рэчкі Нямігі ці да горада Няміга, які згадваецца побач з Менскам у «Спісе рускіх гарадоў» напрыканцы XIV стагоддзя. Тое, што бітва адбылася на рэчцы, сведчыць летапіс і «Слова пра паход Ігаравы» («Нямігі крывавыя берагі»). Супярэчнасць можна вырашыць, калі прыняць за горад Нямігу аднайменнае паселішча, якое існавала ў старажытнасці ў раёне ад вуліцы Койданаўскай (сучасная Рэвалюцыйная) да вуліцы Старамясніцкай (цяпер не існуе) і ад ракі Свіслачы да вуліцы Раманаўскай (сучасная Раманаўская Слабада) — гэты раён вядомы як Няміга з красамоўнымі назвамі вуліц Няміга, Няміга-Ракаўская, Няміга-Школьная. Вось сюды, да Нямігі, і накіраваліся Яраславічы з разбуранага Менска на Менцы, ішлі

пасярод вярхоўяў рэк Нямігі і Лошыцы, што яшчэ на пачатку XX стагоддзя называлася Ніжняй Нямігай, дзе знаходзілася больш за дзесятак вёсак. На адной з гэтых рэчак і адбылася славутая бітва. Магчыма, на Ніжняй Нямізе, якая была больш шырокай і глыбокай за Нямігу, а таму не прамярзала да дна і не была занесеная снегам.

Вынікі бітвы, трэба прызнаць, не адпавядалі летапіснаму паведамленню пра перамогу Яраславічаў і ўцёкі Усяслава. Логіка падзей паказвае іншае. «Пераможцы» Яраславічы не праследавалі Усяслава і не пайшлі на Полацк, а неўзабаве сышлі з Полацкай зямлі. Зразумела, што абодва панеслі цяжкія страты, асабліва Яраславічы (паводле «Слова пра паход Ігаравы», «крывавыя берагі Нямігі былі засеяны косцьмі рускіх сыноў»), і не мелі ўжо сіл працягваць вайну.

У другой палове XI стагоддзя жыццё на гарадзішчы спыняецца. Верагодна, гэта вынік яго паўторнага разбурэння ў 1084 годзе. Тады чарнігаўскі князь Уладзімір Манамах напаў на Полацкае княства. З вялікім войскам ён захапіў Менск і не пакінуў у ім, па яго словах, «ни челядина, ни скотины». І Менск на Менцы ўжо не адрадзіўся. Таму ёсць усе падставы лічыць, што князь Усяслаў Полацкі пабудаваў на рацэ Свіслачы пры ўпадзенні ў яе рачулкі Нямігі крэпасць, названую Менскам. Пэўна, мясцовае насельніцтва, якое абслугоўвала волакі з Нёмана да Свіслачы, назвала новы цэнтр Нёманскага шляху па назве старога цэнтра на Менцы, бо гэтая назва ўжо была вядомая ва ўсім рэгіёне. Гэтая назва адрознівала новую цвержу ад суседняга пасялення Нямігі, якое таксама знаходзілася на берагах аднайменнай ракі. Для таго часу Менская цвержа ўяўлялася моцнай і значнай. Яна займала плошчу ў 3 гектары і была абкружана 8-мятровым валам, шырынёй у 14 метраў і дыяметрам 900 метраў. Раскопкі на Высокім рынку ў раёне былога бернардзінскага кляштара выявілі наяўнасць тут у XII—XIII стагоддзях гандлёва-рамесніцкага пасада. Шматлікія археалагічныя знаходкі сведчаць пра яго інтэнсіўнае жыццё. Не выключана існаванне тут пагранічнай заставы ці гандлёвых складоў, на што ўказвае значная колькасць алавяных пломб, якімі апячатвалі скрыні з таварам. Гэтыя важныя знаходкі прымушаюць па-новаму зірнуць на старажытны Менск не толькі як на фарпост Полацкага княства, але і як на важны гандлёвы цэнтр у гэтым



Няміга



рэгіёне. Толькі на пабудову вала спатрэбілася каля 400 тысяч бярвенняў. Не меней спатрэбілася для ўзвядзення сцен і вежаў, гарадскіх пабудоў. Гэта была вялікая будоўля, на якой працавалі тысячы людзей і для ажыццяўлення якой выкарысталі ўсе наяўныя рэсурсы Полацкага княства.

Перанос Менска на Менцы на новае месца — на бераг Свіслачы — садзейнічаў узнікненню гарадзішчаў Свіслач, Паліцкае, Ялізава. Так Менск у значнай ступені садзейнічаў развіццю і асваенню зямель у Свіслацкім басейне. Хоць сам ён, як лічаць дагэтуль даследчыкі, даволі доўгі час заставаўся добраўмацаванай цвержай без гарадскіх пасадаў на паўднёвай мяжы Полацкага княства. Гэта самы высокі вал на старажытнабеларускіх землях. Жыхары Менска на Свіслачы памяталі ранейшую «радзіму» свайго горада (дакладней, яго назвы), і дарога да ранейшага Менска, што пачыналася на Койданаўскай вуліцы, называлася Стараменскай.

Неўзабаве горад чакалі цяжкія выпрабаванні. У 1104 годзе вялікае войска паўночна-рускіх князёў безвынікова асадзіла Менск. Тут княжыў тады сын Усяслава Полацкага Глеб. Дзейсны і рашучы, ён жадаў узвышэння Менска і захапіў Оршу і Копысь у Смаленскага княства. Тым самым Глеб авалодаў часткай гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі» па Дняпру. Ён жа пачаў будаваць у горадзе каменны храм, чым хацеў паказаць сваю роўнасць са стольным Полацкам. А ў 1116 годзе Глеб захапіў Слуцк, спаліў яго, а жыхароў вывеў да сябе, тым самым знішчыўшы канкурэнтны цэнтр гандлю па шляху да Прыпяці. Гэтыя свядомыя дзеянні полацкіх князёў па арыентацыі Нёманскага шляху праз свае землі ў рэшце рэшт прывялі да заняпаду Турава. У адказ вялікі князь Уладзімір Манамах узначаліў паход на Менск. У 1117 годзе дружыны яго князёў захапілі Оршу, Копысь і Друцк, а Уладзімір Манамах асадзіў Менск.

Два месяцы стаяла войска Манамаха перад горадам. Набліжалася вясна, і раставанне снягоў адрэзала дарогі да Кіева. Каб з гонарам выйсці са складанага становішча, Манамах пачаў перамовы з Глебам. На вачах князёў-саюзнікаў ён пагрозліва пужаў Глебавых паслоў і патрабаваў здачы Менска. Але Манамах хітрыў. Пасля ад'езду паслоў ён адправіў у Менск даверанparam людзей, каб яны падвучылі Глеба прыйсці да яго і прасіць літасці, і абяцаў за гэта зняць аблогу Менска. Глеб прыняў прапанову. Ён разам з жонкай Анастасіяй, дачкой тураўскага князя Яраполка Ізяславіча, і дзецьмі прыйшоў да Манамаха і «прыніжана» прасіў злітавацца. Уладзімір Манамах узяў ад менскага князя клятву не парушаць мір і адпусціў яго. Кіеўскае войска адступіла ад Менска. На гэты раз горад уцалеў, дзякуючы «прыніжэнню» князя Глеба. Аднак ён не змірыўся са стратай сваіх уладанняў і працягваў ваяваць за іх, што выклікала гнеў у Манамаха. Уладзімір у 1119 годзе зноў пайшоў на Менск і захапіў яго. На гэты раз Глеб не ведаў літасці. Манамах паланіў яго і вывеў у Кіеў, дзе той неўзабаве памёр. А ў Менску сеў унук Манамаха Ізяслаў Мсціславіч. Так горад апынуўся пад уладай Кіева. Гэтая залежнасць ад Кіева працягвалася доўга. Сыны Глеба вярнулі Менск пасля 1135 года, калі Ізяслаў Мсціславіч атрымаў княжанне ва Уладзіміры Валынскім.

Мірныя гады спрыялі развіццю Менска: ён стаў другім пасля Полацка горадам у Полацкім княстве. Палачане ў 1144 годзе выбралі сваім князем менавіта менскага князя Расціслава Глебавіча. З менскімі князямі парадніліся праз шлюбы польскі і дацкі каралі. Гэтак у 1157 годзе дачка менскага князя Валадара Глебавіча пабралася шлюбам з дацкім каралём Вальдэмарам.

Менск ужо ведалі далёка ў свеце. На карце, створанай у 1154 годзе ў Палерма, пазначаны таксама і Менск. Заканамерна, што ён прэтэндаваў на першынства ў Полацкай зямлі, у выніку чаго паміж Менскам і Полацкам у 1159—1161 гадах адбылася міжусобная вайна.

*Працяг будзе...*

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

праект

# «ВАРШТАТ»

**Стагоддзі: XVI, XVII**

**Асобы:** Пётр Бластус Кміта, Цыпрыян Базылік, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі

**Акалічнасці:** камерцыйныя інтарэсы і прапагандысцкія акцыі друкарняў у Нясвіжы і Любчы; скарбы сатырычнай паэзіі эпохі Барока

## У выпуску:

- **Аляксей Пяткевіч.** Пратэстанцкая друкарня ў наднёманским мястэчку
- **Людміла Іванова.** Цыпрыян Базылік
- **Ігар Клімаў.** Наталенне вучонасцю.Здабыткі Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага
- **Ксенія Тарасевіч.** Тытульны аркуш — «фасад» кнігі (*артыкул-ілюстрацыя з працягам*)
- Банкет, або Гісторыя, як Адам банкетаваў са сваімі трыма сынамі (*урыўкі ў перакладзе са старапольскай*)



фц хфтфцкгххб аыцфвзд піае пафы

**Аляксей Пяткевіч**

# Пратэстанцкая друкарня ў наднёманскім мястэчку

Ціхім летнім надвячоркам прыемна стаяць на высокім крутым беразе Нёмана ля сцен Любчанскага замка. Унізе плаўна выгінаецца шырокая рачная плынь. А за ёю далёка, як вокам кінуць, разгарнулася панарама прырэчных лугоў, завершаная тонкай палоскай лесу на гарызонце. У такую часіну міжволі прыходзяць думкі пра вечнае і няблізкае, пра тутэйшую мінуўшчыну. Любча (Навагрудскі раён) шмат зведала, пачаўшы сваю гісторыю ў сярэдзіне XIII стагоддзя. Гэта не абы што. Нямногія дробныя селішчы Беларусі могуць пахваліцца такім доўгім лёсам. Што да Любчы, то сярод яе немалых інтэлектуальна-творчых цікавостак найперш успамінаецца мясцовая друкарская справа, якая даволі гучна заявіла пра сябе ў першай палове XVII стагоддзя. К гэтаму часу паселішча над Нёманам ужо было ўласнасцю Радзівілаў. І ўплывовыя магнаты (біржанскай лініі), прыхільнікі кальвінісцкіх поглядаў, надзейна падтрымлівалі любчанскую друкарню на яе прагрэсіўных, гуманістычна-асветніцкіх пазіцыях. Хаця на беларускія землі ўжо ва ўсю наступала Контррэфармацыя. І дзейнасць друкарні красамоўна засведчыла тое, што ў першай палове XVII стагоддзя Контррэфармацыя і Рэнесанс у Беларусі парадаксальна сумяшчаліся.

Можна меркаваць, што арганізацыйна стварыла друкарню мясцовая кальвінісцкая суполка, якую падтрымаў маральна і матэрыяльна Крыштоф Радзівіл.

Друкарскі двор у Любчы дзейнічаў у 1612—1656 гады і выпускаў, акрамя прапаведніцкіх і літургічных твораў, шматлікую свецкую літаратуру, што садзейнічала пашырэнню прыкладных ведаў і развіццю культуры. У прыватнасці, выходзілі кнігі па медыцыне, хіміі, ветэрынарыі, геаграфіі, гісторыі, педагогіцы, фальклору, літаратурна-мастацкія творы, розныя інфармацыйна-даведачныя і школьныя дапаможнікі, пераклады класікаў старажытнасці, зборнікі хрэстаматыйных тэкстаў, песеннікі з нотамі, календары і інш. Уся прадукцыя была на лацінскай і польскай мовах, што адпавядала пратэстанцкай выдавецкай традыцыі. Калі ўлічыць, што ў тагачасных школах-калегіях вывучалі не толькі беларускую (старабеларускую) і польскую мовы, а таксама нямецкую, французскую і класічныя мовы — лацінскую і старагрэцкую, то відавочна: любчанскія выданні былі разлічаны на досыць шырокага чытача.

Найбольш паспяховым быў пачатковы перыяд дзейнасці друкарні — 1612—1629 гады, калі вытворча-выдавецкай справай тут кіраваў Пётр Бластус Кміта. Пры ім наднёманская друкарская пляцоўка абышла ўсе іншыя ў беларускіх землях па выдавецкай актыўнасці, актуальнасці і значнасці зместу сваіх кнігадрукаў. Пётр Кміта вёў сваю радаслоўную з асяродка найбольш радыкальных прыхільнікаў пратэстантызму — арыянаў. Уплыў на яго духоўнае фарміраванне мелі Сымон Будны і Ян Намыслоўскі. З'яўляўся ён перадавым чалавекам свайго часу і праявіў сябе як мысляр-асветнік, паэт, перакладчык, складальнік кніг, рэдактар, публіцыст.

Нязвыклае двайное прозвішча друкара мае сваю гісторыю. Першая частка прозвішча (Бласт) родавая, ад бацькоў. Яны, відаць, рана пайшлі з жыцця. Бо будучага друкара ўсынавіла сям'я Кмітаў, што жыла ў Лідскім павеце. І вядомы любчанскі асветнік бярог абодва прозвішчы, ставячы родавае наперадзе. Хаця часам падпісваўся толькі адным прозвішчам — Кміта.

Працу на друкарскай ніве Пётр Кміта пачаў у 1606 годзе ў Вільні, у слыннага Яна Карцана, якога не стала ў 1611 годзе. Палова яго друкарні перайшла да Кміты — яе атрымала ў спадчыну дачка Яна Карцана — жонка Пятра Кміты. Апошні перамясціў друкарскі варштат у ціхую наднёманскую мясціну, далей ад вылазак езуітаў і іншых апанентаў пратэстантызму.

Дэбютаваў Пятро Кміта ў Любчы 14 кастрычніка 1612 года з каталіцкім творам «Шэсць крылаў

Адным з першых значных выданняў любчанскага друкара з'яўляецца кніга «Кароткія і дасціпныя аповесці, якія па-грэцку называюцца Апафегматы», двойчы выпушчаная ў 1614 годзе

серафімавых…» святога Банавантуры з дадаткам «шасцідзесяці духоўных сентэнцый». Не павінна здзіўляць тое, што выдатны беларускі асветнік пачаў працу на новым месцы з рэлігійнай кнігі. Яго выдавецкая палітыка была даволі гнуткай і ва ўмовах наступу каталіцкай рэакцыі вымушала не раз ісці на кампрамісы. У прынцыпе, Пётр Кміта захоўваў пэўную раўнавагу паміж рэлігійнымі і свецкімі выданнямі. Акцэнт жа рабіўся на апошніх. Зацвярджаліся здабыткі айчыннай і еўрапейскай культуры, неабходнасць інтэлектуальнага развіцця асобы, патрэба ў практычных ведах.

Адным з першых значных выданняў любчанскага друкара з'яўляецца кніга «Кароткія і дасціпныя аповесці, якія па-грэцку называюцца Апафегматы», двойчы выпушчаная ў 1614 годзе. Гэта зборнік займальных і павучальных твораў пра вядомых дзяржаўных і ваенных дзеячаў, вучоных, жанчын мудрых старажытнай Грэцыі, Рыма, Егіпта, Індыі, Персіі, сярэднявечнай Еўропы. Кніга адкрывала цікавы свет выдатных людзей мінулага. Яе склаў беларускі гуманіст Беняш Будны (яго лічаць сынам Сымона Буднага) і выдаў упершыню ў 1599 годзе ў віленскай друкарні Яна Карцана. Зборнік тады змяшчаў «Кароткія аповесці» пра 123 асобы. Пётр Кміта значна пашырыў гэтую своеасаблівую анталогію гістарычных персанажаў, дадаўшы да яе каля 30-ці новых жыццяпісаў, матэрыял для якіх збіраў з самых розных пісьмовых крыніц. Ён уключыў сюды яшчэ адно з апавяданняў Бакачыа ва ўласным перакладзе. Пазней «Апафегматы» шмат разоў перавыдаваліся ў розных краінах.

У 1618 годзе Пётр Кміта выпусціў каштоўнае ў многіх адносінах выданне — збор мясцовых прыказак і прымавак, складзены Саламонам Рысінскім. Гэта вельмі прыкметная постаць сярод аўтараў, што друкаваліся ў Любчы. Фалькларыст, паэт, перакладчык, педагог, ён доўгі час жыў тут, дзе памёр і быў пахаваны. Саламон Рысінскі выдаў у Любчы «Некаторыя Давыдавы псалмы» (1614), заказаныя яму віленскай пратэстанцкай супольнасцю і выкладзеныя вершам, «Кароткі пераказ спраў, здзейсненых святлейшым князем Крыштофам Радзівілам» (1614), «Помнікі, пастаўленыя розным асобам» (1615), дзе сабраныя яго напышліва-квяцістыя паводле стылю надмагільныя казанні, прысвечаныя асобам з кальвінісцкага асяроддзя, і згаданы збор народных устойлівых выразаў «Выслоўі». Сюды ўвайшло каля 1800 беларускіх народных прыказак, афарызмаў, якія складальнік збіраў усё сваё жыццё. Істотна, што ён суправаджаў іх шматлікімі паэтычнымі аналагамі, якія выбіраў з твораў Арыстоцеля, Эўрыпіда, Дэмасфена, Плаўта, Вяргілія, Авідзія, Эзопа і інш. Даўнія ўзоры красамоўства беларусаў Саламон Рысінскі ўключаў такім чынам у сусветны мастацкі кантэкст, дэманструючы іх высокі моўна-эстэтычны ранг. Кніга, што засведчыла шырокую філалагічную эрудыцыю аўтара, з'яўляецца ўнікальным выданнем такога тыпу ў славяназнаўстве. Выдадзеная на польскай мове, яна тым не менш паказала багацце беларускай маўленчай культуры: аўтар перакладаў беларускія прыказкі і прымаўкі часцей літаральна, і арыгінальны тэкст іх лёгка аднаўляецца. Напрыклад: «Да пары збан ваду носіць», «Што галава, то і розум», «Жыве як гарох пры дарозе», «Не тое золата, што блішчыць», «На адным месцы і камень мохам абрастае», «Дурняў не сеюць — яны самі родзяцца», «Не мела баба клопату — купіла парася» , «Не так страшны чорт, як яго малююць», «Рада бы душа ў рай, ды грахі не пускаюць», «Трымаецца, як п'яны плота» і інш.

У 1626 годзе Пётр Кміта выпусціў фрагменты твораў выдатнага гісторыка-храніста Мацея Стрыйкоўскага, перапрацаваныя паэтам Самуэлем Доўгірдам — «Генеалогія, або сціслае апісанне вялікіх князёў Літоўскіх»

Пётр Кміта ўмеў улічваць практычныя патрэбы шырокага чытача, а таксама камерцыйныя інтарэсы свайго прадпрыемства. Пра гэта сведчаць такія выданні, як «Хатнія лекі, сабраныя з розных аўтараў» (1616, 1622), «Дараднік па хіміі, або апісанне карыснага дзеяння лекаў» Р. Швертнера (1624), «Адбор і навучанне коней, пры гэтым лекі на многія выпадкі і хваробы конскія» (1617, 1627), «Астралагічныя прагнозы» (1621). На масавага чытача былі разлічаны і маралізатарскія творы Адама Уладзіслаўскага, у прыватнасці, яго «Прыгоды і смешныя справы людзей розных саслоўяў» (1613). Добра чыталіся прасякнутыя духам пратэстантызму творы паплечніка Сымона Буднага Іосіфа Даманеўскага «Побыт

Сярод кніжнай прадукцыі Пятра Кміты неабходна вылучыць статут, метадычныя патрабаванні і навучальную праграму вядомай сваёй даўгавечнасцю Слуцкай кальвінісцкай гімназіі, падрыхтаваныя яе рэктарам Арнольдам Адамі і выдадзеныя адзіным зборнікам у 1628 годзе

землеўласнікаў і гараджанаў», «Прытчы Саламона» ў вольнай аўтарскай інтэрпрэтацыі, «Некаторыя эмблемы», дзе апісаныя розныя сігналы і знакі, па якіх здаўна арыентаваліся мараплаўцы. Гэтыя і іншыя кнігі Іосіфа Даманеўскага — своеасаблівы збор яго твораў — былі выдадзеныя ў 1620—1623 гадах.

Любчанскі выдавец стараўся папулярызаваць гістарычныя веды. У 1617 годзе выйшла вядомая раней у рукапісах «Гісторыя Іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія. У 1625 годзе — «Кампендзіум, або кароткае апісанне польскіх князёў і каралёў» Пятра Дземітровіча. У 1626 годзе Пётр Кміта выпусціў фрагменты твораў выдатнага гісторыка-храніста Мацея Стрыйкоўскага, перапрацаваныя паэтам Самуэлем Доўгірдам — «Генеалогія, або сціслае апісанне вялікіх князёў Літоўскіх». Той жа Самуэль Доўгірд падрыхтаваў дзве вершаваныя аповесці на біблейскія тэмы — «Сюзана» (1624) і «Іосіф, запрададзены ў Егіпет» (1625). Багата геаграфічных звестак змяшчалася ў кнізе Анзельма Паляка «Хараграфія, або апісанне святой зямлі» (1617).

Даверам любчанскага друкара карыстаўся і рэктар Віленскай пратэстанцкай калегіі Пётр Сестранцэвіч, які выдаў у яго друкарні пахавальныя казанні і вельмі важную ў ідэалагічных адносінах «Навуку пра таінствы» Кальвіна

Сярод кніжнай прадукцыі Пятра Кміты неабходна вылучыць статут, метадычныя патрабаванні і навучальную праграму вядомай сваёй даўгавечнасцю Слуцкай кальвінісцкай гімназіі, падрыхтаваныя яе рэктарам Арнольдам Адамі і выдадзеныя адзіным зборнікам у 1628 годзе.

Вядома, Любчанская друкарня часоў Пятра Кміты спраўна выконвала свае абавязкі перад кальвінісцкай царквой, друкуючы пратэстанцкую літаратуру такіх знатных аўтараў, як Ян Зыгроўскі, Пётр Сестранцэвіч, Балтазар Лабецкі, Андрэй Вянгерскі, Даніла Набароўскі. Яны нястомна змагаліся супраць догмаў і схаластыкі артадаксальнага каталіцызму, рэлігійнага прымусу, выступалі за развіццё асветы. У сваёй творчасці шырока выкарыстоўвалі жанр надмагільных казанняў, якія друкаваліся з нагоды смерці выдатных грамадска-культурных дзеячаў, што належалі да пратэстантызму. Яны праслаўлялі іх патрыятычныя заслугі, высокія маральныя якасці. Асабліва актыўна дзейнічаў на гэтай ніве Ян Зыгроўскі, які выдаў у 1616—1621 гадах сем казанняў. Ён узвышаў грамадскія справы Фёдара Еўлашоўскага, Мацея Кавячынскага, Януша Радзівіла. Значнымі для прапаганды пратэстантызму былі такія работы Яна Зыгроўскага, як «Дэкларацыя» (1617) і асабліва два выданні навучальна-падручнага «Катэхізіса» (1618, 1621). Ён падрыхтаваў і брашуру «Навагрудскі дыспут…» (1616), дзе адлюстраваны публічны паядынак з езуітамі, што адбыўся 9 студзеня 1616 года. Даверам любчанскага друкара карыстаўся і рэктар Віленскай пратэстанцкай калегіі Пётр Сестранцэвіч, які выдаў у яго друкарні пахавальныя казанні і вельмі важную ў ідэалагічных адносінах «Навуку пра таінствы Кальвіна (1626).

Апошні раз Пётр Кміта пакінуў сваё прозвішча на кнізе 1629 года. Праўда, пазней, у 1631 годзе, на адным з кніжных тытулаў чытаецца тэкст: «Друкарня Кмітаў». Напэўна, гэтая назва сведчыць, што прадпрыемствам кіравалі ўжо бацька і сын — Пётр і Ян Кміты.

Пакуль Кміта працаваў у любчанскім друкарскім двары, была выпушчана 51 кніга (12 друкаў — на лацінскай мове і 39 — на польскай) агульным аб'ёмам 256 аркушаў. Час Пятра Кміты быў у жыцці друкарні вельмі плённым, пра што гаворыць не толькі колькасць выдадзеных кніг і іх змястоўная значнасць, але і высокія тэхнічныя якасці.

Што тычыцца паэтычнай творчасці любчанскага асветніка, яна варушыла яго душу даўно, яшчэ з часоў працы ў Яна Карцана, калі з'явіліся ў друку яго ўласныя вершаваныя радкі. У любчанскі перыяд Пётр Кміта публікаваў пераважна вершы-прысвячэнні на гербы вядомых грамадска-культурных дзеячаў (Радзівілаў, Храптовічаў). Яны друкаваліся як устаўкі-прадмовы да розных кніг наднёманскай выдавецкай пляцоўкі.

Сын Пятра Кміты Ян стаў наступнікам бацькі на любчанскай друкарскай ніве, працаваў тут у 1632—1646 гадах. Выдавецкая палітыка друкарні прыкметна змянілася. Значна аслабіўся яе гуманістычна-асветніцкі напрамак. Друкаваліся пераважна казанні і літургічныя творы, што тлумачыцца ўзмацненнем пазіцый каталіцкага касцёла, агрэсіўнасцю езуітаў. Друкарня, хоць і бараніла інтарэсы пратэстантызму, рабіла гэта памяркоўна, непаслядоўна.

Актыўным аўтарам быў цяпер Балтазар Лабецкі, які надрукаваў шмат казанняў. Найбольш значнае з іх мае назву «Анатомія ведаў, або разбор і разгадка чалавечых сумненняў…» (1638). Твор выходзіць за межы жанру і набывае характар эмацыйна ўзвышанага філасофскага трактата, у якім культывуецца розум, яго невымерныя магчымасці. Па грунтоўнасці зместу і аб'ёму (цыкл з 23 казанняў, 425 старонак) гэта самы важкі здабытак друкарні Яна Кміты. Нямала друкаваўся тут і прапаведнік Віленскага лютэранскага збору Андрэй Шанфліскі. Гэты факт сведчыць пра тое, што лютэране і кальвіністы як два крылы пратэстанцкага лагера шукалі цяпер паразумення, каб быць мацнейшымі ў барацьбе з езуітамі. Андрэй Шанфліскі выдаў у Любчы ў 1632—1633 гадах пяць казанняў, цікавых рознасцю стылю — і драматычна-жалобных, і ўзвышана-светлых. Найбольшае месца ў «рэпертуары» занялі цяпер віленскія кальвіністы Пётр Сестранцэвіч, Самуіл Тамашэўскі, Ян Астроўскі.

Не ўсе выданні другога любчанскага друкара вядомыя: некаторыя тады ж былі знішчаныя, некаторыя выйшлі ананімна. Выдавецкі спіс Яна Кміты складае 23 кнігі (4 — на лацінскай мове, 19 — на польскай) агульным аб'ёмам 202 аркушы.

Мала захавалася звестак пра трэцяга любчанскага друкара Яна Ланге. Мяркуецца, што ён кіраваў друкарняй у 1646—1656 гадах і выпусціў

Апошні раз Пётр Кміта пакінуў сваё прозвішча на кнізе 1629 года. Праўда, пазней, у 1631 годзе, на адным з кніжных тытулаў чытаецца тэкст: «Друкарня Кмітаў». Напэўна, гэтая назва сведчыць, што прадпрыемствам кіравалі ўжо бацька і сын — Пётр і Ян Кміты

14 выданняў. Ян Ланге належаў да лютэран і друкаваў вершы на лацінскай мове. Зразумела, што асноўным аўтарам кніг становіцца цяпер згаданы вышэй Андрэй Шанфліскі. Ужо ў яго зборніку казанняў 1646 года змешчаныя вершы Яна Ланге. Публікуюцца яны і ў другой кнізе Шанфліскага «Малітвы Давыда…» (1648). Цікавым выдавецкім праектам Ланге трэба прызнаць каляндар-гадавік («Стары і новы каляндар гадавых святаў»). Складальнік Стафан Фурман падрыхтаваў яго 4 выпускі (1653—1656 гг.). Але прозвішча кіраўніка друкарні ёсць толькі на першым выпуску гадавіка ды яшчэ на адной кнізе — «Гадзіннік» (1653), падрыхтаванай кальвіністам М. Гляскоўскім.

У сярэдзіне 50-х гадоў эпідэмія нейкай цяжкай хваробы ды яшчэ разбуральны наезд войск Маскоўскай дзяржавы прывялі да спустошэння жыцця ў мястэчку. Перастала дзейнічаць і друкарня. Але засталася яе прадукцыя, якая працягвала творча жыць праз гады і стагоддзі. Разам са шматлікімі тагачаснымі друкамі Вільні, Магілёва, Еўя, Куцейны, Бялыніч, Слуцка яна склала грунтоўны фонд нашай культуры часоў спаду Рэнесанса. Што да любчанскіх выданняў, то можна з упэўненасцю гаварыць: многія з іх пазней перапісвался, перакладаліся, перавыдаваліся і за межамі Беларусі. Адзін толькі прыклад. Рускі кнігазнавец А. Радоскі ў сваім «Апісанні 432-х рукапісаў» (СПБ, 1894) рэгіструе рукапісную кнігу «Лекарства домовыя» на 162 аркушах, спісаную ў 1719 годзе ў Расіі з любчанскага выдання. Ён цытуе з гэтага рукапісу спасылку на арыгінал, які ствараўся «во граде, нареченном Любчю на печатном дворе Петра Блястуса Кмиты слуги сіятельнейшаго князя его милости господина Христофора Радзивила, гетмана полнаго великого Княжества Литовскаго».

**Людміла Іванова**

# Цыпрыян Базылік

Перакладчык, паэт, кампазітар і кнігавыдавец. Пра яго захавалася няшмат біяграфічных звестак. Ён нарадзіўся каля 1535 года ў горадзе Серадзь (Польшча) у мяшчанскай сям'і, памёр у 1591 годзе.

Вядома імя яго бацькі — Мацей. Вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, у матрыкулах 1550—1551 года быў запісаны як Цыпрыян з Серадзі. У гэты час ён ужо быў кальвіністам.

З сярэдзіны 1550-х гадоў Базылік, магчыма, выконваў абавязкі каралеўскага сакратара ў вялікакняжацкай канцылярыі Жыгімонта Аўгуста ў Вільні. Пры двары вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы Цыпрыян пазнаёміўся з Якабам Базылікам Гераклідасам Дэспатам, вядомым у гісторыі авантурыстам, які пазней нядоўгі час быў нават малдаўскім гаспадаром. Яго біяграфія — гэта асобная гісторыя. Грэк па паходжанні, ён называў сябе спадкаемным уладальнікам грэчаскіх астравоў Парас і Самас, якія на той час былі захопленыя Асманамі. Таленавіты, адукаваны, прыняты пры каралеўскіх дварах Еўропы, ён вёў перапіску з дзеячамі Рэфармацыі, у тым ліку з Філіпам Меланхтонам. Складаныя шляхі прывялі Якаба Базыліка Гераклідаса ў 1557 годзе ў Вільню, куды ён з'явіўся з рэкамендацыйнымі лістамі да Мікалая Радзівіла Чорнага і Жыгімонта Аўгуста і быў імі гасцінна сустрэты. Магчыма, Цыпрыян аказваў нейкую дапамогу Гераклідасу, бо падзяка апошняга была надзвычай каштоўная. Уражаны здольнасцямі «…Цыпрыяна з Серадзі, юнака, аздобленага высокімі годнасцямі, выдатна адукаванага ў вольных навуках, а асабліва ў паэзіі і музыцы…» Гераклідас правам, дадзеным яму імператарам Карлам V, дараваў яму тытул «паэта увенчанага» («poeta laureatus»), шляхецтва, уласны герб і другое імя — Базылік. Жыгімонт Аўгуст пацвердзіў набілітацыю прывілеем ад 1 верасня 1557 года. З гэтага часу Цыпрыян з Серадзі стаў звацца Цыпрыянам Базылікам.

З 1558 года Цыпрыян Базылік працаваў у прыдворнай музычнай капэле Мікалая Радзівіла Чорнага. Песні і псалмы шырока выкарыстоўваліся ў пратэстанцкім набажэнстве, але найбольшае распаўсюджанне атрымалі шматгалосныя спевы. Верагодна, Базылік з'яўляўся аўтарам музыкі 4-галосных пратэстанцкіх песень, выдадзеных у 1556 годзе ў Кракаве. У 1558 годзе з рэфармацыйнай друкарні ў Берасці выйшаў «Берасцейскі канцыянал» Яна Зарэмбы («Песні хвал боскіх») — першы друкаваны нотны зборнік у Беларусі. Музыку да яго напісалі Цыпрыян Базылік і другі выдатны кампазітар XVI стагоддзя — Вацлаў з Шаматул. У 1560 годзе, каб атрымаць падтрымку прускага князя Альбрэхта Гогенцолерна, Базылік паслаў яму ў Крулявец рукапіс з некаторымі сваімі песнямі. Невядома, дзе Цыпрыян атрымаў музычную адукацыю, але яго музычныя творы напісаныя на дастаткова высокім мастацкім і прафесійным узроўні. У некаторыя песні ён уводзіў складаны кантрапункт. У Польшчы выйшла плыта з музычнымі творамі Цыпрыяна Базыліка, якая уключае 15 песень на словы Якуба Любельчыка, Андрэя Тшэцэскага, Сымона Зацыуса і інш.

З 1560-х гадоў пачынаецца росквіт літаратурнай творчасці Базыліка, у асноўным — як перакладчыка. З гэтага часу яго дзейнасць звязаная з Берасцейскай друкарняй. Першы вядомы нам паэтычны твор Базыліка — верш на смерць жонкі яго патрона Радзівіла Чорнага, Альжбеты з Шыдлаўца (Берасце, 1562 год). Можна таксама меркаваць, што ён прымаў удзел у падрыхтоўцы славутай Берасцейскай Бібліі 1563 года. Некаторыя даследчыкі прыпісваюць яму аўтарства антыкаталіцкай сатыры «Пратэй, або Пярэварацень» (Берасце, 1564 год, выйшла ананімна, без выхадных дадзеных) і багатага фальклорнымі матывамі ананімнага твора «Працэс чарцей супраць людскога роду» (1570 год, Берасце).

Неўзабаве пасля смерці Радзівіла Чорнага ў 1565 годзе Базылік стаў кіраўніком, а, магчыма, і ўладальнікам Берасцейскай друкарні. У 1567 годзе ў яго перакладзе і з яго прадмовай выйшаў кампілятыўны твор «Гісторыя жорсткіх ганенняў царквы Божай, у якой апісаны справы тых пакутнікаў, якія, пачынаючы ад Віклефа і Гуса аж да нашага веку, у Нямецкай зямлі, ва Францыі, Англіі, Фландрыі, Італіі, Гіспаніі і іншых землях праўду Святога Евангелля крывёй сваёй замацавалі». Гэта выданне Базылік прысвяціў свайму новаму патрону, серадзскаму ваяводзе Альбрэхту Ласкаму, які неўзабаве перайшоў у каталіцтва. У прадмове Цыпрыян пісаў, што ён падрыхтаваў гэты твор па даручэнню людзей вы-

сокага стану і па просьбе людзей набожных. Па яго словах, праследаванні і забойствы хрысціян пачаліся яшчэ ў старажытным Рыме і былі адпомшчаны Богам, які дапусціў разбурэнне Вялікага горада варварскімі народамі. Тыя хрысціяне, што адступалі ад канонаў, цярпелі жорсткія пакаранні і ад Папы Рымскага. Пэўную долю віны за праліццё крыві нявінных людзей Базылік ускладае і на свецкія ўлады: «Бачыла гэта высакародная карона англійская… Бачыла гэта моцнае каралеўства французскае». Яго прадмова змяшчае рэзкую крытыку інстытута папства, рэлігійнай нецярпімасці і ўхваленне мужнасці пакутнікаў, якія «не толькі аздобілі і надалі высакароднасці праўдзе Евангелля, але і праліццём сваёй крыві, як цырографам, пацвердзілі і замацавалі».

У 1569 годзе ў Берасці ў перакладзе Базыліка (часткова і Андрэя Волана) выйшаў твор Марына Барлетыуса «Гісторыя пра жыццё і слаўныя справы Георгія Кастрыёта, звычайна званага Скандэбергам», прысвечаны гераічнай барацьбе албанскага народа з турэцкім султанам Амуратам і яго сынам Магаметам. Барацьбу узначальваў народны герой Албаніі, сын албанскага князя Георгій Кастрыёт (1404—1467), які правёў дзяцінства пры двары султана Амурата ў якасці заложніка. У прысвячэнні Альбрэхту Ласкаму Базылік адзначае, што пераклаў гэты твор для шляхты «рыцарскага стану», каб яна брала прыклад са Скандэберга. У прадмове ён апявае шляхецкія вольнасці ў Рэчы Паспалітай, параўноўваючы іх з вартасцямі іншых еўрапейскіх народаў: «Хай пахваляецца вучоны італьянец навукамі, якія даўно там квітнеюць, і багатымі зборамі тых пладоў, якія тут не растуць; хай пахваляецца ганарлівы немец і ўмелы фландр рознымі вытанчанымі рамёствамі, хай пахваляецца багаты француз незлічонымі скарбамі і даходамі, хай пахваляецца доблесны венгр і імклівы ў сваёй мужнасці іспанец — усім тым, што ўзвышае іх над іншымі народамі. Не могуць яны пахваліцца тымі вольнасцямі, якімі ганарыцца Польшча». Аўтар адзначае, што трагізм лёсу славянскіх народаў Балкан, што страцілі сваю вольнасць пад турэцкай тыраніяй, адлюстроўваецца нават у музыцы: «Прыслухайцеся да іх песняў, поўных жалоснай мелодыі, якая амаль разрывае сэрца, да музыкі, якая сумнай жалобе падобна».

«Гісторыя Кастрыёта» была першым выданнем, якое Базылік адзначыў сваім фірменным знакам (сігнетам) і імем — «у друкарні Цыпрыяна Базыліка»

«Гісторыя Кастрыёта» была першым выданнем, якое Базылік адзначыў сваім фірменным знакам (сігнетам) і імем — «у друкарні Цыпрыяна Базыліка». Да выдання быў далучаны твор таго ж аўтара, М. Барлетыуса, — «Пра аблогу і ўзяцце горада Шкодры турэцкім султанам Магаметам». Базылік у прадмове адзначаў, што адной з прычын, якая прымусіла яго перакласці гэтую кнігу, была яе выключная рэдкасць — толькі ў бібліятэцы аднаго вучонага італьянца ён змог яе знайсці і не хацеў, каб «такая шляхетная каштоўнасць згінула». Выданне таксама змяшчала тэкст каралеўскага прывілея ад 27 сакавіка 1568 года, які гарантаваў Базыліку выключнае права на прадукцыю друкарні тэрмінам на пятнаццаць гадоў пры ўмове, што ён не будзе друкаваць антыкаталіцкія творы. Ёсць таксама звесткі, што ў 1570 годзе Цыпрыян меў поўны пераклад на польскую мову «Хронікі» М. Кромера, аднак не выдаў яго. Пасля 1570 года Берасцейская друкарня, відаць, перастала існаваць, і наступныя пераклады Базыліка выходзілі ў іншых месцах.

У 1574 годзе ў Кракаве быў выдадзены пераклад Базылікам гістарычнай аповесці вянгерскага арцыбіскупа і гістарыёграфа Міклаша Олаха «Гісторыя пра Атылу, караля ўгорскага» аб ваенных паходах гунаў і іх правадыру Атыле. Вядомы твор Андрэя Фрыча Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» упершыню быў перакладзены таксама менавіта ім на польскую мову і выйшаў у 1577 годзе ў Лоску. Польскі даследчык Станіслаў Кот назваў Цыпрыяна Базыліка лепшым перакладчыкам XVI стагоддзя з латыні, маючы на ўвазе чысціню і выразнасць мовы, трапнасць выразаў і яснасць стылю. Менавіта яго пераклад «Гісторыі пра Атылу» паслужыў асновай для перакладу гэтага твора на старабеларускую мову ў канцы XVI стагоддзя, а пераклад «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» — для перакладу на рускую мову.

Ігар Клімаў

# Наталенне вучонасцю: Здабыткі Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага

Адметнымі і цікавымі постацямі Рэфармацыі ў Беларусі сталі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Сярод сваіх паплечнікаў па пратэстанцкім руху яны вылучаліся добрым веданнем моў, філалагічнай кампетэнтнасцю і глыбокім досведам у сакральнай тэксталогіі, а Будны — яшчэ і выдатнай тэалагічнай падрыхтоўкай. Іх праца з рэлігійнымі тэкстамі стала вяршыняй біблейнай філалогіі Беларусі, застаючыся ў асобных аспектах непераўзыйдзенай аж да XX стагоддзя.

## 1

Рэфармацыя стала адметнай з'явай у Рэчы Паспалітай, дасягнуўшы тут у другой палове XVI стагоддзя апагея свайго развіцця. Важную ролю ў рэфармацыйным руху адыгрывала Беларусь, дзе новымі рэлігійнымі ідэямі была захоплена прыкметная частка вядучых пластоў — магнатэрыі, панства, шляхты, мяшчанства. Тут месціліся буйныя цэнтры пратэстанцкай асветы і прапаганды, знакамітыя на ўсю Рэч Паспалітую, знаходзілі сабе прытулак многія эмігранты, што ўцякалі з Польшчы ці Заходняй Еўропы, якіх праследавалі за іх надта смелыя ідэі. Дзякуючы пратэкцыі заможных магнатаў тут узнікалі пратэстанцкія грамады, працавалі друкарні і адкрываліся школы, плённа дзейнічалі знакамітыя «міністры» (пратэстанцкія святары) і казнадзеі (прамоўцы). У беларускіх асяродках Рэфармацыі вяліся гарачыя тэалагічныя дыскусіі і ствараліся радыкальныя дактрыны і творы, якія, ва ўмовах таго часу, патрабавалі звяртання да Бібліі як галоўнай крыніцы самых разнастайных аргументаў, тэзісаў і ідэй. Таму асабліва актуальным для пратэстантаў (не толькі Рэчы Паспалітай) стаў пераклад біблейных тэкстаў на зразумелую мову, а таксама іх правільнае, адэкватнае разуменне і карэктная інтэрпрэтацыя.

Напісаная на старажытных мовах Усходняга Міжземнамор'я Біблія з ранніх часоў распаўсюджання хрысціянства перакладалася на мовы многіх народаў Азіі і Еўропы. Такія пераклады рабіліся з рознымі мэтамі, мелі розную вартасць і ахоплівалі розныя часткі Бібліі (часам нават толькі фрагменты). Аднак у эпоху Сярэднявечча ў Заходняй Еўропе, а затым і ва Усходняй Святое Пісанне замацавалася толькі ў пэўным перакладзе на сакральную мову, якую мала хто разумеў на належным узроўні, апрача духавенства. У дадатак царкоўнікі часта забаранялі ляікам тлумачэнне Бібліі, а то і яе самастойнае чытанне. Праўда, біблейныя пераклады на новыя мовы еўрапейскіх народаў працягвалі стварацца і ў такіх умовах, але яны часта не мелі ні пашырэння, ні афіцыйнага прызнання і былі прымітыўныя ў філалагічных адносінах. Рэфармацыя паклала канец такой сітуацыі, абвясціўшы прынцыповую важнасць самастойнага разумення вернікам тэкстаў Бібліі, дзеля чаго неабходным стаў яе пераклад з максімальнай дакладнасцю на народную мову. І пераклады Святога Пісання зрабіліся найбольш істотнай праявай і адметным паказчыкам пратэстанцкага руху ва ўсёй Еўропе.

Хаця Рэфармацыя была з'явай заходняй (каталіцкай) царквы і заходняй культуры, у сваім распаўсюджанні па Усходняй Еўропе (а таксама на Балканах) яна пранікла ў вобласці, населеныя праваслаўнымі. Мясцовыя пратэстанцкія грамады Беларусі не былі ізаляваныя ад навакольнага праваслаўнага насельніцтва і цікавіліся мясцовай біблейнай традыцыяй праваслаўных славян. Найбольш выразна гэта праявілася ў дзейнасці менавіта Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага, што і забяспечыла ім адметнае месца не толькі ў гісторыі беларускай культуры, але і рэфармацыйнага руху.

## 2

Паходжанне Сымона Буднага дагэтуль застаецца нявысветленым і спрэчным пытаннем. Адзін з пратэстанцкіх гісторыкаў XVII стагоддзя, што жыў у Галандыі, меркаваў (але не ведаў гэтага напэўна), што Будны паходзіў з Мазовіі, дзе даследчыкі пазней адшукалі вёску Буда, вядомую з XV стагоддзя. Але гэта не можа мець пераканаўчага значэння, паколькі на Беларусі, Беласточчыне і нават Літве вядома нямала вёсак з назвай Буда. Важным аргументам супраць мазурскага паходжання Буднага з'яўляецца поўная адсутнасць мазурскіх рыс (саміх па сабе — вельмі адметных і ўстойлівых) у мове яго польскіх твораў. У тую данарматыўную эпоху пісьменнікі не маглі пракантраляваць сваё маўленне і заўжды адлюстроўвалі на пісьме ўласныя дыялектныя рысы. Не такім істотным выглядае і іншы аргумент наконт польскага

паходжання Буднага: актыўнае выкарыстанне ім польскай мовы. Сапраўды, пасля 1562 года ён піша і перакладае толькі па-польску, больш таго, у сваіх польскіх творах называе польскую мову «нашай» і яднае сябе з палякамі. Але падобныя заявы маглі мець рытарычны ці кан'юнктурны характар (выклікаць прыхільнасць аўдыторыі, да якой звяртаецца аўтар).

Будны практычна ўсё жыццё правёў у Беларусі і толькі некалькі разоў выязджаў у Польшчу на сіноды (пратэстанцкія з'езды) – у Падляшша і Малую Польшчу. Сваю літаратурна-тэалагічную дзейнасць ён пачаў творам Катэхізіс (Нясвіж, 1562) на старабеларускай мове, напісаным кірыліцай, кампетэнцыю ў якіх цяжка набыць паляку (нагэтульк цяжка, што за ўсю гісторыю беларуска-польскіх зносін нельга згадаць іншага такога прыкладу да XIX стагоддзя). Больш таго, Будны добра ведаў царкоўнаславянскую мову і актыўна выкарыстоўваў яе не толькі пры напісанні свайго Нясвіжскага катэхізіса, але і ў сваіх польскіх перакладах Біблії, смела ўводзячы царкоўнаславянізмы ў іх мову. Такое стаўленне да царкоўнаславянскай традыцыі кантрастуе з абыякавасцю да яе астатніх пратэстанцкіх лідараў Беларусі, у масе сваёй — былых польскіх ксяндзоў, шляхціцаў або мяшчан, што прыбылі з Польшчы і, як правіла, не валодалі мясцовай гаворкай і не выяўлялі цікавасці да мясцовай пісьмовай традыцыі. Цікава, што адзіны дыялектны матэрыял, які знаходзяць даследчыкі ва ўсіх польскіх тэкстах Буднага, — гэта рутэнізмы (усходнеславянскія (пераважна беларускія) элементы), прычым з часам, на працягу дзейнасці Буднага, іх доля толькі павялічваецца.

Усё гэта дае падставы бачыць у Будным выхадца са змешанай польска-беларускай сям'і (такія асобы вядомыя ў XVI стагоддзі), верагодна, з Заходняй Беларусі ці Беласточчыны (г. зн. польска-беларускага памежжа). Таксама нельга выключаць, што хто-небудзь з яго бацькоў або родзічаў меў дачыненне да праваслаўнай царкоўнай традыцыі — гэта дазваляе растлумачыць добрае веданне Будным царкоўнаславянскай мовы і праваслаўнай дагматыкі, а таксама нейкія яго сувязі з праваслаўным Супрасльскім манастыром (на Беласточчыне). Паказальна, што калі ў Нясвіжы вырашылі выпусціць Катэхізіс на старабеларускай мове, то не знайшлі іншага пісьменніка, апрача «паляка» Буднага. Трэба думаць, што фундатары нясвіжскіх друкаў добра разбіраліся, хто перад імі, і наўрад ці сталі б рызыкаваць такой важнай (і далёка нятаннай) прапагандысцкай акцыяй, як Нясвіжскі катэхізіс, даверыўшы яе этнічнаму паляку, які ў тагачасных умовах толькі павярхоўна мог быць знаёмы з кірыліцай, старабеларускай і царкоўнаславянскай мовамі.

Паказальна, што калі ў Нясвіжы вырашылі выпусціць Катэхізіс на старабеларускай мове, то не знайшлі іншага пісьменніка, апрача «паляка» Буднага. Трэба думаць, што фундатары нясвіжскіх друкаў добра разбіраліся, хто перад імі

Але пасля таго, як далейшае выданне старабеларускіх твораў у Нясвіжскай друкарні спынілася (вядомы яшчэ адзін кірылічны друк Буднага з Нясвіжа, які не захаваўся, але яго бачылі ў пачатку XIX стагоддзя), Будны перайшоў на польскую мову (ён пісаў таксама па-лацінску). Відаць, гэта абяцала яму большыя перспектывы для ўздыму ў пратэстанцкай супольнасці Беларусі. Не выключаны і сацыяльны матыў: польская мова ў яго свядомасці магла быць звязана са шляхетнасцю, тады як Будны наўрад ці быў шляхціцам паводле паходжання (пра сваё шляхецкае паходжанне не паведамляе ні ён сам, ні хто-небудзь з яго паплечнікаў або наступнікаў). Калі так, то гэта канчаткова разрывае яго сувязь з вёскай Буда ў Мазовіі, паколькі то быў шляхецкі маёнтак.

Праўда, паводле дакументальных крыніц было вызначана, што прадстаўнік мазурскай Буды вучыўся ў 1544 годзе ў Кракаўскім універсітэце. Але калі гэта іншая асоба, а не пратэстанцкі перакладчык, што дзейнічаў у Беларусі, тады ўзнікае пытанне, дзе і як Будны мог добра зведаць біблейныя мовы, а таксама набыць грунтоўную філалагічную падрыхтоўку, уласцівую яго перакладам.

## 3

Відаць, Будны меў гарачы тэмперамент і няўрымслівы імпэт. Гэта бачна ўжо па стылістыцы Нясвіжскага катэхізіса, дзе ўжываецца шмат адметных дыскурсіўных сродкаў: пералікі, паўторы, сінанімізацыі і сінанімічныя пары, рытарычныя пытанні, выгукі і інш. Але падобная стылістыка ўласцівая і яго пазнейшым палемічным творам на польскай мове. З біяграфіі Буднага вядома, што

ён імкнуўся (часта з уласнай ініцыятывы) брацца за складныя працы ў галіне біблеістыкі і філалогіі. Галоўнай яго справай стаў пераклад Святога Пісання на польскую мову, што на працягу 1570-х гадоў выдаваўся ў выглядзе крыху адменных версій у розных мястэчках Беларусі (Нясвіж, Лоск). Значэнне гэтых выданняў тым большае, што яны з'яўляліся не толькі перакладамі, але і давалі філалагічную крытыку тэксту і эксплікацыю перакладчыцкай працы — у выглядзе каментараў (маргіналій, г. зн. заўваг на палях, ці «прыпісак», г. зн. заўваг напрыканцы твора). Але Будны часам дапускаў радыкальныя і адвольныя змены ў сакральным тэксце, каб абгрунтаваць свае ўласныя погляды. Гэта выклікала нараканні і абурэнні з боку яго паплечнікаў і адзінаверцаў, змусіўшы іх да цэнзуры перакладаў ці нават санкцый супраць самога перакладчыка.

У сваёй працы Будны шырока выкарыстоўваў розныя пераклады і нават варыянты арыгінальных крыніц, што рабілася як з мэтай паляпшэння перакладу, так і крытыкі біблейнага тэксту (што вяло да змен і інтэрпрэтацый, не заўжды аб'ектыўных). Такі метад адпавядаў вымогам тагачаснай біблеістыкі. Мэта гэтых аперацый была высакародная: аднавіць тэкст Святога Пісання ў яго былой чысціні, страчанай за стагоддзі няўважлівай перапіскай і памылковымі тлумачэннямі. На практыцы ж дасягнуць гэтага не заўсёды ўдавалася.

Паказальна, што нават пры стварэнні сваіх польскіх біблейных перакладаў Будны звяртаўся да царкоўнаславянскай Бібліі, запазычваючы адтуль сінтаксічныя канструкцыі і лексіку, а часам нават парадак слоў. Гэта схіляе да думкі, што ён перакладаў не столькі паводле арыгінальных крыніц, колькі паводле царкоўнаславянскага перакладу (які сам быў вельмі падобны да гэтых крыніц). Сімптаматычна, што гэта не заўважалася яго польскамоўнымі чытачамі, якія прыпісвалі каструбаваты стыль перакладаў Буднага яго літаралізму, памкненню перакладчыка наблізіцца да арыгіналаў Святога Пісання. Згодна з духам сваёй эпохі Будны паведамляў, што яго пераклад выкананы з біблейных моў, але такімі дэкларацыямі суправаджалася кожнае пратэстанцкае выданне таго часу. На самай справе перакладчыкі, нават рэфармацыйныя, нярэдка выкарыстоўвалі дасяжныя ім іншыя пераклады.

Можна таксама звярнуць увагу на некаторыя асаблівасці афармлення сакральнага тэксту ў Буднага. Так, ён адзіны з усіх пратэстантаў Рэчы Паспалітай асмеліўся змяніць парадак евангелляў, змясціўшы пасля Евангелля паводле Мацвея і Марка адразу Іаана і толькі потым Луку, што выглядала надта радыкальна, але ніякага прынцыповага значэння не мела. У старажытнасці ў розных частках хрысціянскага свету існавалі розныя парадкі размяшчэння чатырох евангельскіх кніг (Тэтраевангелля) — яны выступалі ў самых разнастайных камбінацыях. Іншай істотнай навацыяй Буднага стала ўвядзенне падзелу новазапаветнага тэксту на «славянскія раздзелы», г. зн. зачалы (перыкопы) паводле царкоўнаславянскай версіі, што не было ўласціва заходняй традыцыі (якая аддавала перавагу іншаму падзелу — на «главы»). Гэта было зроблена «на жаданне браці мілай з народу руськага» і пасля Буднага набыло папулярнасць у многіх польскіх біблейных выданнях канца XVI — пачатку XVII стагоддзя. Невядома, ці сапраўды тое дапамагала чытачам «з народу руськага», але відавочна надавала публікацыі выгляд грунтоўнасці.

Цікава, што многія асаблівасці афармлення сакральнага тэксту ў выданнях Буднага прысутнічаюць і ў выданні Цяпінскага, што можна тлумачыць арыентацыяй апошняга на першага, але можна разглядаць і наадварот, як запазычанне Будным ў Цяпінскага. Напрыклад, падзел на зачалы складае агульную традыцыю для царкоўнаславянскіх новазапаветных тэкстаў, з якімі актыўна працаваў Цяпінскі.

Відаць, Будны меў гарачы тэмперамент і няўрымслівы імпэт. Гэта бачна ўжо па стылістыцы Нясвіжскага катэхізіса, дзе ўжываецца шмат адметных дыскурсіўных сродкаў: пералікі, паўторы, сінанімізацыі і сінанімічныя пары, рытарычныя пытанні, выгукі і інш.

## 4

Пра жыццё Васіля Цяпінскага, паплечніка і сучасніка Буднага, вядома зараз ужо нямала (захавалася шмат розных актавых звестак XVI стагоддзя пра шляхціцаў Цяпінскіх), хаця ў яго біяграфіі ўсё яшчэ застаюцца белыя плямы. Толькі адносна нядаўна было высветлена, што адначасова ў адным рэгіёне жылі два Васілі — стрыечныя браты Цяпінскія: адзін з іх валодаў маёнткам Цяпіна пад Чашнікамі, а другі —

маёнткам Амельяновічы (ці Амельяноўшчына) пад Маладзечнам, ён жа быў жанаты на Соф'і Жыжэмскай, пляменніцы Астафея Валовіча. Менавіта гэтага Васіля даводзіцца лічыць перакладчыкам Евангелля на старабеларускую мову.

Да цяперашняга дня захаваліся толькі два паасобнікі друкаванага перакладу, выдадзенага Цяпінскім, аднак яны не зусім поўныя: ахопліваюць толькі цалкам Евангелле паводле Мацвея і большую частку Марка. Вядома таксама рукапісная прадмова самога Цяпінскага да гэтага перакладу, у якой паведамляецца, што выйшлі першыя два Евангеллі і пачатак Лукі, г. зн., прыкладна палова Тэтраевангелля. Паводле ж тытульнага ліста выдання становіцца зразумела, што Цяпінскі збіраўся апублікаваць усё Тэтраевангелле ў якасці першай часткі і затым рэшту Новага Запавету ў якасці другой часткі. Што яму перашкодзіла гэта зрабіць — застаецца толькі меркаваць. Дарэчы, і сама яго прадмова, хутчэй за ўсё, таксама была надрукаваная, аднак захавалася толькі ў рукапісе — верагодна з-за таго, што друкаваная версія (яна была большая за рукапісную) змяшчала непажаданыя для праваслаўнага перапісчыка (у Супрасльскім манастыры) выказванні. Між іншым, таксама вядомы партрэт Цяпінскага — ён нібыта быў знойдзены ў пачатку XX стагоддзя, але зараз гэта знаходка страчаная, засталася толькі копія партрэта, якая цяпер паўсюдна і рэпрадукуецца.

Невядома, дзе і кім быў надрукаваны пераклад Цяпінскага: верагодна, гэта адбылося недзе ў паўночна-заходняй Беларусі каля 1574 года; малаверагодна, што друкаром быў сам Цяпінскі, — тагачаснаму шляхціцу-землеўладальніку такі занятак наўрад ці пасаваў. Ва ўсялякім выпадку, Евангелле не маглі надрукаваць у Цяпіне, паколькі гэты маёнтак тады знаходзіўся на мяжы з маскоўскімі ўладаннямі і ў любы момант мог стаць аб'ектам рабаўніцтва (Полаччына на той час была захопленая маскавітамі). Цікава: у наборы перакладу маюцца адрозненні, што сведчыць пра нейкія спыненні набору ці змены наборшчыка. Безумоўна, друкарня Цяпінскага была незаможная.

Як вынікае з прадмовы, друкарня была заснавана самім Васілём Цяпінскім з уласнай маёмасці і працавала за яго сродкі, якіх яму не хапала на выданне свайго перакладу. Верагодна, пэўную падтрымку ў гэтай справе яму аказвала пратэстанцкая грамада, у якой Цяпінскі мог займаць пэўны пост, магчыма, «міністра» (святара) ці казнадзея (прамоўцы). Звычайна ў пратэстантаў такія пасады займалі найбольш адукаваныя і дасведчаныя асобы. У сувязі з гэтым незразумела, дзе і як Цяпінскі атрымаў адукацыю, паколькі яго пераклад выкананы на высокім узроўні, не горшым за Буднавы.

Аналіз паказаў, што Цяпінскі хаця і заснаваў свой пераклад на царкоўнаславянскім тэксце, аднак кансультаваўся з грэчаскімі і лацінскімі выданнямі Святога Пісання, што здзейснілі ў XVI стагоддзі заходнееўрапейскія гуманісты. Для сваёй працы ён вельмі шырока выкарыстоўваў польскі пераклад Сымона Буднага і пераклад Брэсцкай, ці Радзівілаўскай Бібліі 1563 года, спарадычна звяртаўся і да ўсіх астатніх тагачасных польскіх перакладаў і нават да нямецкага перакладу Марціна Лютэра. Пры гэтым пераклад Цяпінскага выкананы вельмі паслядоўна: ён імкнуўся па магчымасці перадаць усе элементы свайго царкоўнаславянскага арыгінала, нават тыя, што здаюцца дастаткова зразумелымі: творити ў яго перакладзена як *чинити, погубити — як згубити, убити — забити, требовати — потребовати, бежство — утеканье, девица — девка, человеки — люди, пагуба — погибель, злый — лихий, сей — тот, той — тот, в гору — на гору, при корени — подле кореня* і інш. Разам з тым нямала элементаў яго арыгінала, як правіла, агульнаславянскіх, было захавана ў перакладзе. Падобны падыход не часта сустракаўся ў старабеларускіх перакладчыкаў. Напрыклад, у Нясвіжскім катэхізісе Будны пакінуў большасць біблейных цытат на царкоўнаславянскай мове, без перакладу. Гэта было зроблена яўна ў разліку на праваслаўных чытачоў — прадстаўнікоў духавенства. Верагодна, і евангельскі пераклад Цяпінскага прызначаўся гэтай аўдыторыі.

## 5

Евангельскі пераклад быў выдадзены Цяпінскім у выглядзе дыглоты (публікацыі на дзвюх мовах), калі на старонцы змешчаныя два слупкі на розных мовах: адзін — на старабеларускай, другі — на царкоўнаславянскай. Такія выданні былі распаўсюджаныя на Захадзе і прызначаліся вучоным. Пасля Цяпінскага на Беларусі і Украіне свет пабачыла яшчэ некалькі кірылічных дыглот, аднак іх выданне на ўсходнеславянскіх землях спыняецца ў першай палове XVII стагоддзя. Друк Цяпінскага адметны яшчэ і тым, што мае маргіналіі, у якіх беларускі пратэстант прыводзіў варыянты перакладу з іншых крыніц (у асноўным польскіх), выкарыстаных ім для

працы, а таксама розначытанні з царкоўнаславянскай версіі Тэтраевангелля. Якраз гэтыя апошнія розначытанні найбольш цікавыя. Справа ў тым, што царкоўнаславянская версія, якая ўпершыню ўзнікла ў IX стагоддзі дзякуючы перакладчыцкай дзейнасці славянскіх першаасветнікаў Кірылы і Мяфодзія, у XVI стагоддзі мела ўжо шмат перакладаў і рэдакцый. Навука даведалася пра гэта толькі ў XIX стагоддзі, а вызначыць канкрэтны набор розначытанняў змагла толькі ў XX стагоддзі. Цікава, што Цяпінскі ведаў пра іх існаванне яшчэ ў другой палове XVI стагоддзя, прычым яго набор такіх паказальных розначытанняў блізкі ці супадае з наборам сучасных даследчыкаў. Ён прывёў розначытанні гэтых царкоўнаславянскіх рэдакцый і перакладаў у маргіналіях свайго выдання. Гэтыя рэдакцыі ці пераклады ён назваў «перакладам тэтра» і «перакладам апракаса» (яго чытанні Цяпінскі цытаваў найбольш, паколькі гэтаму перакладу ўласцівая вельмі адметная лексіка), а таксама некаторыя іншыя пераклады. Аналіз твора сведчыць, што Цяпінскі сапраўды працаваў з апракасамі (даўні зборнік евангельскіх і/ці апостальскіх фрагментаў, прызначаны толькі для набажэнства), якія ва ўсходніх славян перасталі функцыянаваць пасля XIV стагоддзя. Незразумела, ці сам Цяпінскі высветліў існаванне гэтых рэдакцый, ці ён толькі скарыстаў звесткі на гэты конт, што існавалі на той час у праваслаўных колах, — некаторыя моманты дазваляюць схіляцца да апошняй гіпотэзы.

Паказальна, што вылучэнне (і эксплікацыя ў сваім выданні, у маргіналіях) розных царкоўнаславянскіх рэдакцый было набыткам толькі Цяпінскага, Сымон Будны пра гэта не ведаў. У лепшым выпадку ён мог карыстацца сучаснымі яму рукапісамі, а таксама выданнямі, што на той момант выйшлі ў Маскве. Так, у сваёй прадмове 1574 года Будны крытыкуе выданні Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, як выкананыя з недасканалых узораў, а таксама згадвае маскоўскія Евангеллі, што выйшлі да 1564 года (яны цяпер вядомыя як ананімныя). Менавіта адно з гэтых маскоўскіх ананімных выданняў і паслужыла Цяпінскаму арыгіналам для перакладу і крыніцай для публікацыі ў яго дыглоце.

Невядома, наколькі шырока выкарыстоўвалі нашчадкі здабыткі Цяпінскага ў галіне тэксталогіі царкоўнаславянскага Евангелля. Маюцца ўскосныя доказы, што да іх звяртаўся Мялецій Сматрыцкі. Апрача таго, адзін паасобнік друкаванага Евангелля пэўны час захоўваўся ў Супрасльскім манастыры, а другі мог знаходзіцца ў стараабрадцаў на рускай Поўначы да XIX стагоддзя. Верагодна, у гэтым выпадку іх увагу прыцягвалі маргіналіі Цяпінскага.

На жаль, лёс не спрыяў працы Цяпінскага. Яго пераклад як даробак пратэстанта быў, здаецца, у асноўным праігнараваны бліжэйшымі нашчадкамі, перш за ўсё ў праваслаўных колах. Пратэстанцкія супольнасці ў Беларусі з XVII стагоддзя канчаткова перайшлі на польскую мову, а таму не маглі мець цікавасці да старабеларускага здабытку аднаго са сваіх папярэднікаў. Таму не дзіва, што помнік зберогся ўсяго ў двух дэфектных паасобніках. Больш пашчасціла Нясвіжскаму катэхізісу Буднага, ад якога захавалася больш за дзясятак паасобнікаў. Паводле сведчанняў пачатку XVII стагоддзя яго праца была вельмі папулярная сярод праваслаўнага і ўніяцкага духавенства, асабліва ніжэйшага, якія, відаць, чэрпалі з яе тыя ці іншыя дактрынальныя палажэнні і тэалагічныя аргументы. Паказальна, што для іх не быў перашкодай іншаканфесійны характар Катэхізіса, тое ж справядліва і для Евангелля ў перакладзе Цяпінскага. Паасобнік гэтага друку быў уплецены ў рукапісны зборнік антыкаталіцкіх і палемічных твораў, створаны ў 1580 годзе ў Супрасльскім манастыры. У сваю чаргу і Будны, і Цяпінскі ў сваёй працы звярталіся да самых розных крыніц, незалежна ад іх дактрынальнага кірунку. Гэта сведчыць, што на Беларусі існавалі ўмовы і магчымасці для дастаткова бесканфліктнага суіснавання і спалучэння розных моўных, культурных і рэлігійных традыцый, іх плённага ўзаемадзеяння і ўзаемапранікнення.

Даследчыкі справядліва лічаць працы Буднага і Цяпінскага, незалежна ад ступені іх успрымання і распаўсюджання, выдатнымі з'явамі сярод іншых помнікаў той эпохі на народных мовах. Руплівая праца з рознымі арыгінальнымі і старажытнымі крыніцамі складае галоўную рысу дзейнасці двух беларускіх біблеістаў, адрозніваючы іх ад большасці перакладчыкаў таго часу. Знамянальна, што гэтыя пераклады ўзніклі тады, калі біблейныя доследы на Захадзе дасягнулі свайго апагею. Відаць, мела месца шчыльнае засваенне і творчае выкарыстанне здабыткаў заходніх гуманістаў беларуска-польскімі пратэстантамі. Аднак біблеісты Беларусі пайшлі далей. Яны звярнуліся да царкоўнаславянскай спадчыны, дадаўшы да яе гуманістычныя распрацоўкі заходніх вучоных. Гэта сведчыць пра высокі навуковы ўзровень беларускіх філолагаў той эпохі, пра самастойнасць і смеласць іх думкі, іх навуковага пошуку.

# Са скарбніцы сатырычнай паэзіі эпохі Барока

Эпоха Барока, што змяніла на нашых землях амаль стогадовую эпоху Рэнесансу, разам са спецыфічнымі рысамі мастацкай культуры гэтага часу вярнула да жыцця, як гэта непарадаксальна, сярэднявечны тып суадносін паміж адрасатам і адрасантам. З'яўляецца пісьменнік, процілеглы паводле сваёй самаацэнкі пісьменніку Адраджэння, які з гонарам занатоўваў сваё імя і становішча ў грамадстве: творца Барока — «наихудший», «недостойный», ён хавае сваё імя пад абагульненымі псеўданімамі, кшталту Тэафіл ('багалюб'), Арталог ('праўдаслоў'), Хрыстафор ('носьбіт Хрыста'), Філалет ('аматар ісціны'). Аднаўляецца сярэднявечная маркіраванасць вобраза пісьменніка, які толькі ў сваім цырыманіяльным азначэнні падобны да свайго калегі-прашчура. Насамрэч перад намі — высокаадукаваная, высокаінтэлектуальная асоба, арыентаваная на дасягненне поспеху ў сферы духоўнай дзейнасці. Пісьменнік Барока — найперш змагар за ідэю, яго звычайна абсалютна не цікавіць думка апанента-сучасніка. Ва ўсіх праявах чалавечага жыцця ён імкнецца бачыць вечнасны пачатак, вечнаснае азначэнне дзей і велічнае іх завяршэнне, занатаванае ў чалавечай памяці. На змену сярэднявечнаму ідэалу выратавання душы прыходзіць не толькі імкненне да славы зямной, але і імкненне занатаваць яе ў выглядзе велічных архітэктурных помнікаў, партрэтаў ці кніг.

Такім надзвычай паказальным артэфактам сваёй эпохі з'яўляецца кніга «Банкет, або Гісторыя, як Адам банкетаваў са сваімі трыма сынамі», напісаная на польскай мове. Гэты твор толькі зрэдку ўпамінаецца ў спецыяльных бібліяграфічных працах, аднак дагэтуль ён не зрабіўся аб'ектам даследавання беларускіх літаратуразнаўцаў і быў выдадзены «з дазволу старшых» у Віленскай езуіцкай акадэміі ў 1650 годзе. Подпіс аўтара — даволі інтрыгуючы: «*przez ia iestem, ktory iestem*» (праз я, (які) ёсць той, хто ёсць), а ніжэй — адсылка да Кнігі «Выхад». Гэта падказка, якая дае толькі тлумачэнне, праз каго падаецца кніга. Вось адпаведныя вершы з кнігі «Выхад»: «Сказаў Бог Майсею: «Я — Той, хто ёсць». Сказаў: "Так скажаш сынам Ізраэля: Той, хто ёсць, паслаў мяне да вас». Змест наступных (15-га і 16-га вершаў) кнігі «Выхад» сведчыць пра з'яўленне Госпада Маісею, прычым Госпад сказаў яму, што ведае пра ўсе тыя падзеі, якія напаткалі сыноў Ізраэля ў Егіпце. Чалавеку сярэдзіны 17 стагоддзя даволі празрыстай бачылася наступная аналогія: Рэч Паспалітая абедзвюх дзяржаў, акрываўленая «патопам», рэлігійнымі і грамадзянскімі войнамі, шукала паратунку, выхаду з крызісу.

Дык кім мог быць аўтар гэтага твора? Зразумела, патрыётам сваёй Айчыны, які клапаціўся пра яе лёс і шукаў выйсця з трагічнай сітуацыі, якая склалася ў той час. У звароце да Езуса ён называе сябе «самым нягодным жабраком». Пад прысвячэннямі кнігі слонімскаму маршалку Пятру Тышкевічу і яго жонцы Ганне Кандзяжаўскай-Тышкевіч стаіць подпіс: «пакорны багамолец, нягодны манах ордэна Святога Васілія, апошні сярод найменшых». Цырыманіяльнае напаўненне гэтага подпісу сведчыць толькі пра тое, што аўтар «Банкета» быў чалавекам духоўным і належаў да Ордэна Святога Васілія. Несумненна, перад намі — яшчэ адзін таленавіты пісьменнік-базыльянін, сучаснік базыльяніна Сімяона Полацкага, які, магчыма, разам з ім вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі (1650—1653). Акрамя гэтага, на тытульным лісце «Банкета» пасля слоў «праз я, (які) ёсць той, хто ёсць» рукою надпісана: «J. Podgorskiego». Магчыма, аўтарам гэтай кнігі мог быць пакуль невядомы нам пісьменнік [Ян] Падгорскі, продкі якога атрымалі шляхецкі герб у адпаведнасці з набілітацыяй.

Прысвячэнні Тышкевічам аўтар «Банкета» пачынае з разгорнутага параўнання. Спачатку ён узгадвае святую Кацярыну Сіенскую (1340—1380) з ордэна тэрцыярыяў-дамініканцаў, аўтарку трактата «Пра Боскае прадбачанне», у якім святая адзначае заганы тагачаснага грамадства і прапануе свае містычныя разважанні. Святая Кацярына, вяртаючыся дадому, убачыла прыгожы палац, у якім знаходзіўся Езус Хрыстус са сваімі апосталамі і іншымі святымі. Менавіта з таго часу яна адкрыла ў сваёй душы вялікую таямніцу, якая вяла да Бога. Падобна святой Кацярыне, аўтар «Банкета», калі быў у маёнтку Тышкевічаў у Гольшчы (цяпер — невялікая вёска ў Івянецкім раёне, у 16—17 стст. знаходзілася ў Слонімскім павеце), убачыў дзівосную з'яву, якую апісвае так: «(Я ўбачыў) нейкі цудоўны палац, а таксама Хрыста, які панаваў на стальцы крыжовым пасярод гэтага дома і ўсклікаў да мяне гучным

голасам: «Прагну!». Чаго ж прагнуў Хрыстос? Аўтар лічыць, што Ён патрабаваў кнігу «Банкет», якая ўжо была падрыхтаваная аўтарам. Пісьменнік заўважае: «Я, маючы пры сабе на руках мой гатовы ўбогі «Банкет», ахвотна прысвяціў і ахвяраваў Яму (гэтую кнігу) для спаталення невымоўнай прагі, дзеля выратавання душ нашых». У прадмове-дэдыкацыі да Езуса Хрыста аўтар звяртаецца па дапамогу да святога Яна — вучня, якога любіў Езус, да святога Яна Хрысціцеля, святога Яна Хрызастома, святога Яна Дамаскіна. Тое, што аўтар звяртаецца менавіта да чатырох святых Янаў, можна ўспрымаць як сведчанне на карысць таго, што аўтара звалі таксама Янам (Падгорскім).

Жаданне прысвяціць кнігу Тышкевічам карэлюе з імкненнем Езуса Хрыста, які, па словах аўтара, выказаў наступнае жаданне: «каб я ахвяраваў і дэдыкаваў той самы «Банкет» паводле імкнення і прапановы Вашым Мосцям, маім міласцівым панам і дабрадзеям, чым я ўсцешаны і чыню гэта з радасным сэрцам». Сваю ж «убогую кніжачку» пісьменнік выдае найперш на хвалу Найсвяцейшай Тройцы, у гонар Найблагаслаўлёнай Панны і ўсіх святых, а ўжо потым дзеля бессмяротнай памяці дому Тышкевічаў, «бессмяротная слава якіх вядома ўсёй Айчыне». «Толькі той, хто не бачыць аздобаў неба ў зорках і розных планетах, — піша аўтар, — той не бачыць высакароднасці, славутасці і гераічнасці гэтага выдатнага дома».

Кніга «Банкет» мае даволі складаную архітэктоніку. У ёй прадстаўленыя творы самых розных жанраў: плачы, гімны, гамілетычныя развагі і іншае. У межах гэтага артыкула няма неабходнасці пералічваць усе раздзелы, якія ўваходзяць у твор. Мы прапануем чытачам толькі адзін з іх, які называецца «Да розных ліхадзеяў» і адкрываецца цытатаю з «Выслоўяў Саламона»: «У кожным месцы вочы Пана заўважаць добрае і ліхое». Гэты раздзел уяўляецца нам вельмі цікавым, паколькі менавіта ў гэты час былі створаныя сатырычныя вершы Сімяона Полацкага, якія паводле зместу і тэматыкі нагадваюць паэтычныя сатыры Яна Падгорскага. Усяго ў вышэйназваным раздзеле «Банкета» змешчана сорак восем сатырычных вершаў, большасць якіх мы прапануем чытачам у перакладзе са старапольскай мовы выпускніцы філалагічнага факультэта БДУ Ірыны Зімневай.

*Уладзімір Кароткі*



BANKIET
Albo
HISTORIA
Jáko Adam bankietował
trzech Synow swoich iuż żonátych
z połrcwonemi / y Przyiáćielmi /
Tudźiesz
Iańa młodźiencá pobożnego, y
mądrego, y co zá koniec te-
go Bankietu ták z[illegible]o
y dobry
Rzecz niemniey vćieszna [illegible]o y poż[illegible]eczna
ku czytaniu. osobliwie pr[illegible]y bankietach,
y bieśiadach Przyi[illegible]ćielskich
przez
Ia iestem ktory iestem
Exod. C. 3. v. 14.
Sũ nihil, ex nihilo, in nihilo, nihilũq; reuertar.
Nil ago, nil habeo, nil scio nil mereor
Nil mihi debetur nisi quod mea culpa meretur
Za dozwoleniem Starszych.
Vilnæ Typis Ac[illegible]d. Soc. IE[illegible]. 165[illegible].

Тытульны аркуш кнігі «Банкет». Вільня, 1650

## Да розных ліхадзеяў

*У кожным месцы вочы Пана заўважаць добрае і ліхое.*

**Злодзеям**

Ты, злодзей, крадзеш, каб не бачылі людзі,
Ды Бог усё бачыць — цябе Ён асудзіць.

**Распуснікам**

Распуснік, таемнага месца шукаеш,
Нічога ад Боскіх вачэй не схаваеш.

**Хлусам**

Ілгун, клятвы скрыта ўвесь час парушаеш,
Ад Бога ж душы лжывай ты не схаваеш.

**Лісліўцам**
Лісlівец, ствараеш слоў хлусных спляценне,
Цябе не хвалюе ні Бог, ні сумленне.
Ты хочаш служыць двум Панам. Не дагодзіш
І Богу, і людзям: сабе сам нашкодзіш.

**Тым, што адбіраюць чужое**
Пакаяцца час, адбіральнік чужога,
Прысуду пакуль шчэ не маеш ад Бога.
Бо тою няпраўдай, якую ўчыняеш,
Душу сваю сам ты ў пекла кідаеш.

**Дрэнным кіраўнікам і гаспадарам**
Манарх, чалавек, што з высокай пасадай,
Ураднік, суддзя, што з бязмежнай уладай,
Глядзі, як кіруеш ты Бога сынамі,
Бо сорам згрызе  перад Пана вачамі.

**Дрэнным слугам**
Ты, служка, праўдзіва служы свайму пану,
А не рабі выгляд, што служыш аддана.
Ты любіш ашукваць пана зямнога,
Але ашукаць ты не здолееш Бога.

**Дрэнным вучням**
Цябе хай не страшыць настаўніка вока,
Настаўніка бойся, што ў небе высока.

**Дрэнным купцам**
Купец і гандляр, прысягаючы, грэшыш,
Тавар даеш кепскі, на добры ж ты брэшаш.
Дарэмна не трэба ўжываць імя Пана,
Калі ты ашукваеш сябра ў краме.
Ды Боскіх вачэй ты, купец, не падманеш,
За грошы на пекла душу абмяняеш.

**Дрэнным раменнікам**
Не лашч, не хвалі сваю працу, рамеснік,
Людзей не падманвай ты, д’ябла намеснік.
Нажыўся з няўдач, што былі ў твайго брата,
Ды Бога не ўдасца ашукваць заўзята.

**Гультаям**
Гультай,  не рабі сваю працу нягожа,
Калі ты жадаеш праз Бога мець грошы.

**Крывадушнікам**
Чаму ўсё благое, набожнік хлуслівы,
Ты робіш для Бога, для свету ж — праўдзівы.
Ты ведай, што Бог на цябе пазірае,
І мерай тваёй Ён табе адмярае.

**Помслівым**
Ты, мсцівы, да бліжняга помстай палаеш,
І помсту ад Бога тады атрымаеш.

**П’яніцам**
Да самага дна выпіваеш ты шклянку,
Куфлі ды жбаны праціраеш ад ранку.
Бязмерную меру сам Бог кантралюе,
Табе ў вечнай спёцы Ён смагу рыхтуе.

**Пляткарам**
Пляткар, як лісlівасцю брату дагодзіш,
Тым самым ты цяжка яго ўзнагародзіш.
Калі добра скажаш — ніхто не пачуе,
Бог чуе ўсё і табе не даруе.

**Сварлівым**
Сварлівы, у бліжняга гнеў абуджаеш,
Тым самым ты Бога найперш абражаеш.

**Дрэнным слухачам Божага слова**
Божага слова слухач ты ганебны,
Духоўная ежа табе не патрэбна.
А вушы, што свербяць, пацешыць ты хочаш,
Глядзі ж, як глядзяць на цябе Бога вочы.

**Дрэнным работнікам**
Работнік шалёны, мазгоў нездаровых,
Працуеш для выгад, патрэбаў часовых.
Ў зямлі схаваў сэрца, а Бог назірае,
Зямлю за зямлю, а не неба ўручае.

**Чараўнікам**
Здароўю людзей варажбой не паможаш,
Бо даць нават родным  здароўя не можаш.
За злосцю тваёй Бог усцяж назірае,
Здароўе забраць у цябе абяцае.

**Шутам**

Ты думаеш, шут, што людзей вечна цешыш,
І быццам усіх сваймі жартамі смешыш.
Нясеш ім вяселле, сваёй душы — смутак,
Калі перад Богам грахоў кінеш скрутак.
На жарты твае Бог даўно пазірае
І вечныя слёзы табе абяцае.

**Тым, што паказваюць дрэнны прыклад**

Ты прыкладам кепскім псуеш чалавека
І робіш з дзіцяці ўвесь час недарэку.
А лепш заваліся на дно ты марское
І не абражай сабой вока Святое.

**Несправядлівым мытнікам**

Няправільны мытнік, падаткі і грошы
Ты цягнеш з падданых, каб жыць у раскошы.
Людзей пашкадуй, не мазоль Бога вочы,
Бо чэрці цябе ў пекла сцягнуць ахвочы.

**Дрэнным дэпутатам**

Глядзі, дэпутат, на сваё існаванне,
Ды каб справядлівым было кіраванне.
Ты злога пускаеш, а судзіш не тога,
Ахоўваеш кепскага, крыўдзіш святога.
Ды вечны суддзя гэта ўсё заўважае,
На страшным судзе Ён цябе пакарае.

**Несправядлівым суддзям**

Глядзі ты, суддзя, і судзі ўсіх сумленна,
Тым міласць сваю ты пакажаш імгненна.
Суды свае чынячы, будзь справядлівы,
Тады й да цябе будзе Суд літасцівы.

**Хлуслівым пісарам**

Пісьменнік, ты пішаш пра свету заганы,
Твае Бог учынкі апіша таксама.

**Злодзеям**

Ты, злодзей, на грошы ўсё вока кідаеш,
А потым за грошы ды ў пекла трапляеш.
Бог пеклам за зло цябе ўзнагародзіць,
Хоць гэта, напэўна, табе не пашкодзіць.

**Мытнікам**

Чужыя набыткі ты, мытнік, пільнуеш,
І, быццам салдат, ты чужое вартуеш.
Глядзяць на цябе вочы Боскія з жалем,
Бо ў веры тваёй аднаўлення чакалі.
Праклятая прага! Праклятая хцівасць!
Цябе будуць біць чэрці ў пекле жахліва.

**Дрэнным бацькам**

Як Ірады злыя, і так сапсаваны,
Як быццам бацькі, а ў крыві вы — тыраны.
Дзяцей сваіх губіце прыкладам дрэнным,
А часам вы песціце іх непамерна.
Відаць, вам не ўбачыць вачэй Бога Пана:
Чамусьці не мучаць вас вашы заганы.

**Дрэнным і непакараным дзецям**

Няўдалыя дочкі, сыны-недарэкі
Ад добрых бацькоў нарадзіліся ж неяк.
Калі вы ўвесь час пагарджалі бацькамі,
Прад Богам што скажаце, думайце самі.

**Бессаромным**

Распуснікі, што не саромяцца Бога,
І Езуса Пана, і Духа Святога,
Вачыма страляеце добра і з густам,
І гэтым вы сееце ў свеце распусту.
Маліцеся Богу, шукайце ратунку,
Каб потым не мець толькі ў пекле прытулку.

**Кепскім панам, якія не плацяць чэлядзі**

Плаціць сваім слугам ты, пан, не жадаеш
І грошы чужыя сабе забіраеш.
Тым самым ты вечнасць шчаслівую траціш,
За сквапнасць сваю ты ў пекле заплаціш.
За глупствам тваім я ўвесь час назіраю:
Душу сваю сам не пускаеш да Раю.
Сабе толькі шкоду ты гэтым прыносіш,
Яшчэ й прабачэння у Бога не просіш.
Дарэмна з багацця ты шчасця чакаеш,
Бо вечную згубу ў Пекле спаткаеш.

*Пераклад са старапольскай мовы*
*Ірыны Зімневай.*

# Тытульны аркуш — «фасад» кнігі

**...** Да XIX ст. тытульны аркуш заставаўся традыцыйна сіметрычным з градацыяй буйных і дробных радкоў. Шырокае выкарыстанне ў выдзяленні пэўных частак тэксту атрымалі курсіўныя шрыфты. Гэтая сістэма ўкаранілася ў кнігах разнастайнага зместу, таму розніца паміж паэтычнай, навуковай і тэхнічнай кнігамі была мінімальнай; у той жа час дыферэнцыраваліся фарматы кніг, з’яўляліся малыя па памеры выданні, якія рабілі кантакт чытача з кнігай больш цесным**...**

*Ксенія Тарасевіч*


Статутъ великого кнѧзства литовского
Ѿ наяснѣйшого г҃дра корол҄ѧ его м҃лсти Жикгимонта третего, на коронацыи въ Кракове выданы року ҂а ф п и.
Друковано ...
въ друкарни дому Мамоничовъ.
З ласки и привильѧ корол҄ѧ его м҃лсти.

Трыбунал 1588.

«Песня пра зубра». 1523 год.


CARMEN
NICOLAI HVSSOVIANI
de ſtatura feritate ac uenatione
Biſontis.

# Цытатнік

## *Або Тое, што надрукавана даўно, але варта чытаць сёння*

Прамудры Саламон, цар Ізраіля, напісаў тры кнігі. Першая па-яўрэйску завецца «Масшлоф», па-грэцку — Парабале», па-латыні — «Правербія», а па-руску — «Прыпавесці Саламона». Другая кніга, якую ён напісаў, па-яўрэйску завецца «Коэлэф», па-грэцку — «Эклезіяст», па-латыні — «Канцыянатар», па-руску — «Зборнік». Трэцяя кніга цара Саламона завецца «Сіра-Сірым», па-латыні — «Канцікум-Кантыкорум», а па-руску — «Песня Песняў».

*Прадмова да кнігі прамудрага цара Саламона «Эклезіяст»*

*Чалавечая натура рэгулюецца двума чыннікамі: Госпадам Богам, гэта значыць законамі прыроды, і пісанымі законамі. Выкананне прыроднага закону палягае на тым, каб чыніць людзям тое, што самому прыемна атрымліваць ад іх, і таго не чыніць людзям, чаго сам не жадаеш мець ад іх. На гэтым падмурку, як на яснай раніцы, складзены ўсе напісаныя законы. Паводле слоў збавіцеля нашага Ісуса Хрыста, які кажа: «І вось усё, што хочаце, каб рабілі вам людзі, тое і вы рабіце ім; бо ў гэтым закон і прарокі» (Мацв. 7:12).*

*Сказанне да кнігі Майсея «Другі закон»*

*Госпад Бог рознымі шляхамі дае нам, яго людзям, навуку і законы. Даваў іх ад пачатку свету і дае да сённяшняга дня. Найперш рукою Майсея, раба свайго, даў яўрэям Стары Запавет. Затым нам, хрысціянам, паслаў дабравешчанне. Як кажа апостал Іаан: «Закон дадзены праз Майсея, а ласка — Госпадам нашым Ісусам Хрыстом» (Яна 1:17).*

*Божай воляй і стараннямі людзей пісаліся іншыя законы і статуты, яшчэ да Божага ўвасаблення праз прачыстую дзеву Марыю. Так, цар Фараней напісаў законы для грэкаў; Меркурый Трымеіст — для егіпцян; Салон-філосаф — для афінян; Навум Пампеіус, які стаў царом пасля Ромула, напісаў законы для рымлян. Гэтаксама іншыя цары і мудрыя людзі стваралі для сваіх народаў законы, статуты, правы, навукі і розныя кнігі.*

*Прадмова да «Першай кнігі царстваў»*

*Іякаў — апостал Ісуса Хрыста — напісаў гэта пасланне да ўсіх веруючых у Хрыста, калі служыў епіскапам у Іерусаліме. Рознымі запаветамі ён навучае ўсіх нас, хрысціян. Найперш вучыць, каб дзеля Госпада нашага перамагалі ўсе спакусы, ад Бога чакалі дапамогі, бо ён нікога не спакушае, а зло мы самі спараджаем. Калі нам штосьці добрае дадзена ад Бога, не павінны сябе ўсхваляць, а іншых абражаць. Мусім не толькі словамі, але і справамі даказваць веру хрысціянскую, стрымлівацца ў словах, убогімі не пагарджаць, жабракам міласціну даваць. Вера без добрых спраў — мёртвая.*

*Сказанне да «Саборнага паслання Іякава»*

*Францыск Скарына (канец 80-х гг. XV ст. — каля 1551).*

## Рэгент Марта Янушкевіч:

# «Музыка, сугуччы, спеў, адносіны паміж харыстамі — гэта асаблівае жыццё»



**Марце Янушкевіч — дваццаць тры. Напэўна, яна нічым не адрознівалася б ад астатніх дзяўчат свайго ўзросту, калі б пяты год не кіравала грэка-каталіцкім хорам «Прасфара», не брала б прызы на міжнародных фестывалях і пры гэтым не была б ужо любячай жонкай. Марта паспела скончыць музычны каледж і цяпер працягвае навучанне ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, а таксама ўдасканальвае мастацтва спеву і дырыжыравання. Ці лёгка штодня свяціць гэтаму праменьчыку сонца, як Марту ласкава называюць харысты? І чым кіраванне хорам, які выконвае духоўныя спевы, адрозніваецца ад звычайнага калектыву? Пытанні задавала Багдана Куталоўская.**

**— Ці заўсёды ты бачыла сябе ў музыцы? Калі не, то калі зразумела, што гэта тое, чым хочацца займацца, што будзе дапамагаць адлюстроўваць цябе сапраўдную, а часам і знаходзіць унутраны спакой?**

— У музыцы я бачыла сябе не заўсёды. Калі была малой дзяўчынкай, мне хацелася, каб было больш гульняў з сябрамі ды іншых прыемнасцей, чым заняткаў па музыцы. Але, дзякуючы цвёрдасці бацькоў і вялікім сэрцам маіх настаўнікаў, я з гонарам дайшла да выпускнога класа музычнай школкі. У той час я і зблізілася з настаўніцай па хоры. Яна — «міравая» жанчына, дагэтуль наша другая мама, якая ўкладала ў нас часцінку сябе. І мае выказванні «я ў музыку ніколі» паціху сталі змяняцца на «я хачу, як яна». Хутка я ступіла на гэты няпросты шлях. І хочацца часам сесці на каменьчык, выцягнуць ножкі, апусціць ручкі і забыць усё, як страшны сон, але... Музыка, сугуччы, спеў, адносіны паміж харыстамі — гэта асаблівае жыццё, пачуцці і моц. І хто ўдыхнуў гэта на поўныя грудзі, той ужо не зможа быць ранейшым.

**— Увогуле, як музыкант, ці намагаешся ты ўдасканальваць сябе ў прафесіі?**

— Канечне. Тым больш, што я перажываю важны этап навучання ў акадэміі. З аднаго боку, усё ідзе само сабой, а з другога, мне падаецца, музыкант не можа быць музыкантам, не працягваючы ўвесь час развівацца. Гэта датычыцца ўсяго. Хор не будзе добрым хорам, калі ён не будзе намагацца скочыць вышэй за сваю галаву і зрабіць больш, чым ён можа на самай справе. А так, канечне, і літаратура, і розная музыка — усё гэта мае месца.

Рэгент Марта Янушкевіч

**— Які ў цябе любімы музычны інструмент?**

— Лепш за фартэп’яна хіба што нічога няма (*смяецца*).

**— Ёсць у цябе любімыя музыка і фільмы?**

— Разнастайнасць у музыцы таксама ёсць, таму спектр шырокі: ад класікі да джаза. А з фільмаў для мяне як музыканта была вельмі моцнай кінастужка пад назвай «Бляск», у якой галоўны герой усё сваё жыццё аддаў музыцы. Тата, ад якога ён сышоў, вельмі хацеў, каб ён сыграў трэці канцэрт Рахманінава. І ён гэты канцэрт сыграў, а пасля з’ехаў з глузду. Вельмі моцны музыканцкі фільм: як жыць з гэтым, з нашымі хібамі, з нашымі заскокамі? Таму што ўсе творчыя людзі, мне падаецца, трошкі вар’яты.

**— З якога ўзросту ты ў «Прасфары»?**

— У «Прасфару» я прыйшла ў трынаццаць гадоў. Дзесяць гадоў таму хор сабрала мая сястра Марыся. Яна была рэгентам. Былі розныя людзі, розныя сітуацыі, быў своеасаблівы рознабаковы рост. З гонарам магу сказаць, што я адзін са «старпёраў»! Смешна, як мяне ўспрымаюць некаторыя харысты, таму што яны памятаюць мяне малым дзяўчом, якое прыйшло з дзвюмя коскамі і ў ружовых акулярах. І гэта дзяўчо вось ужо пяты год кіруе хорам, які яе вырасціў.

**— Як ты можаш ахарактарызаваць рэпертуар хору і яго накіраванасць?**

— На дадзены момант, дзякуючы вандроўкам у Італію, рэпертуар пашыраецца ў бок не толькі духоўнай музыкі. Што мне вельмі падабаецца, мы закранаем трошкі іншыя рэаліі: народную музыку, музыку не толькі візантыйскую, але і лацінскую. І гэта цікава. Але хацелася б удасканальваць сябе яшчэ больш. Таму, я думаю, наш накірунак — канечне ж, літургічная музыка, народныя песні — наш канёк, а іншыя стылі — нашы эксперыменты.

**— Хор ужо быў у Польшчы, Італіі, Бельгіі, ва Украіне... Што б хацелася яшчэ зрабіць разам, дзе пабываць, што паказаць?**

— Мне падаецца вельмі файным, што мы спяваем у цэрквах і ездзім за мяжу даваць канцэрты. Але хацелася б паўдзельнічаць яшчэ ў якіх-небудзь фестывалях і конкурсах. Гэта ўсё рэальна, і гэта новы досвед і новы этап станаўлення «Прасфары». Канешне, плануецца праца над дыскамі. Анцідор «Прасфары» ўжо запісаў дыск Літургіі і, я думаю, гэта сапраўды цудоўна. Ёсць шмат ідэй на гэты конт, але пакуль не будзем раскрываць свае карты.







**Айцец Аляксандр Богдан**

# Малітва ў храме

### *Аб праваслаўным богаслужэнні*



У час малітвы мы звяртаем розум, сэрца і душу да Бога. Рабіць гэта можна ў любым месцы: дома, на вуліцы, на могілках, у транспарце… Як казаў свяціцель Іаан Златавуст: «Дзе б ты ні быў, паўсюль можаш паставіць малітоўны ахвярнік». Перavaжае малітва, якая здзяйсняецца ў храме. Незвычайная архітэктура, іконы і агульнае ўбранне храма, безумоўна, спрыяюць малітоўнаму настрою. У святым месцы прасцей адцягнуць увагу ад паўсядзённасці, мітусні і тлуму, каб нішто не перашкаджала звароту да Бога. Аднак галоўнае прызначэнне храма не ў тым, каб кожны вернік мог у цішыні і адзіноце памаліцца, а ў тым, каб усе прыхаджане і святары маглі разам прымаць удзел у богаслужэнні.

Ісус Хрыстос не проста прынёс людзям новае вераву чэнне. Госпад заснаваў Царкву (у перакладзе з грэчаскай — «сход»), унікальную супольнасць, у якой аб'яднаныя ўсе хрысціяне, прычым не толькі жывыя, але і тыя, чыё зямное жыццё скончылася («хрысціяне нябожчыкі»). Таксама да Царквы належаць святыя, анёлы і Божая Маці. Разам з усімі членамі Царквы кожны з нас на богаслужэнні выступае не як пасіўны сузіральнік, а як актыўны удзельнік. З Евангелля нам вядомыя словы Хрыста: «Бо дзе двое ці трое сабраны ў імя Маё, там Я сярод іх» (Мф. 18, 20). У Царкве ў час богаслужэння Госпад з'яўляецца людзям праз таінствы. Як казаў святы Леў Вялікі: «Той, хто быў бачны як наш Збавіцель, зараз перайшоў у таінства». Менавіта на богаслужэннях адбываецца наша прылучэнне да Хрыста, яднанне з Богам.

Калі ў язычніцкіх культах людзі сваімі рытуальнымі дзеяннямі імкнуліся неяк залагодзіць сваіх багоў, то хрысціянскае богаслужэнне носіць іншы характар. Бог, які з'яўляецца самой Дасканаласцю, не мае патрэбы ў чалавечым служэнні. Праваслаўнае богаслужэнне здзяйсняецца для людзей. Можна яшчэ сказаць, што гэта Бог служыць нам, а не мы Яму. Бог дае нам Сваю ласку ці, па-іншаму, энергію. Праз удзел у богаслужэннях і таінствах мы чэрпаем сілы для паўсядзённага жыцця, каб заставацца хрысціянамі не толькі ў нядзелю, але і ў астатнія дні.

Ёсць людзі, упэўненыя ў тым, што дастаткова верыць у Бога «ў душы», а наведванне храма, паводле іх меркавання, ёсць крывадушша. На самай справе, калі ў душы па-сапраўднаму штосьці ёсць, то гэта праяўляецца і ў знешніх формах. Напрыклад, абдымкі, пацалункі, рукапацісканні ці нават проста схіленне галавы пры вітанні з'яўляюцца ўвасабленнем таго, што мы перажываем унутры. Наконт крывадушша можна нагадаць, што недастаткова любіць жонку ў душы і пры гэтым не жадаць жыць з ёй пад адным дахам, размаўляць, бавіць разам час і г. д. Такую ж аналогію можна прывесці і для тых, хто ў храм ідзе толькі тады, калі адчувае «парыванне душы». У сямейнага чалавека заўсёды ёсць імкненне да хатняга агмяню, незалежна ад душэўных парыванняў.

Нехта аддае перавагу паходам у храм толькі ў вялікія святы, але патлумачым, што гэтыя людзі губляюць. Зразумела, прыемна сядзець за святочным сталом з разнастайнымі стравамі, адна

У святым месцы прасцей адцягнуць увагу ад паўсядзённасці, мітусні і тлуму, каб нішто не перашкаджала звароту да Бога. Аднак галоўнае прызначэнне храма не ў тым

смачнейшая за другую. Аднак мы ўжываем ежу не толькі ў святы, але і ў будні, калі на стале звычайны абед. Чалавек — істота не толькі цялесная, але і духоўная, таму патрэбна клапаціцца аб рэгулярным прыёме не толькі цялеснай ежы, але і духоўнай.

Часта тыя, хто ходзіць у царкву рэдка, яшчэ і спазняюцца. Давайце ўявім сабе такую сітуацыю: нам патрэбна сустрэць з цягніка блізкага або любімага чалавека. Напэўна, тут не тое што спазняцца ніхто не будзе, але нават прыйдзе на перон за паўгадзіны да прыбыцця. Але ж на богаслужэнні адбываецца наша сустрэча з самім Богам.

Можна пачуць і такое апраўданне тых, хто не ходзіць у царкву: там, маўляў, штораз адно і тое. Сапраўды, кожную нядзельную раніцу ў храме здзяйсняецца Боская літургія з аднолькавай чынапаслядоўнасцю. Няма ніякай неабходнасці прыўносіць кожны раз нешта новае дзеля яе разнастайнасці. Калі чалавек па-сапраўднаму шчыра паверыць у Бога, то ён захоча пайсці ў храм не за новымі ўражаннямі, а проста дзеля Бога. Гэта можна параўнаць з закаханасцю, калі хочацца зноў і зноў ісці на сустрэчу не для таго, каб наведаць новую кавярню ці новы кінатэатр, а каб проста пабыць з каханай.

Праваслаўнае богаслужэнне вельмі багатае на цырымоніі, суправаджаецца спевамі, і чалавек можа адчуць эстэтычную асалоду. Аднак нагадаем сабе, што храм — не тэатр. Пагоня за эстэтыкай не павінна забіваць духоўную смагу. У храм трэба ісці не для адпачынку душы, а для духоўнай працы.

У храме на богаслужэнні могуць узнікаць эмацыйныя перажыванні. Эфект бывае настолькі моцным, што праяўляецца, напрыклад, крыкам на ўвесь храм. Эмацыйны ўсплеск не трэба блытаць з духоўнымі перажываннямі і зусім не патрэбна яго ўспрымаць як духоўны вопыт. Вернік, які засяроджвае ўвагу на сваіх эмоцыях, рызыкуе трапіць у духоўны самападман — харазство. Чалавек у такім стане ужо не думае пра сваю грахоўнасць і неабходнасць пакаяння. Такому «святому» ужо нават Бог не патрэбны, ён проста замыкаецца ў сваіх гордасці і пыхлівасці.

Праваслаўныя хрысціяне не імкнуцца мадэрнізаваць сваё богаслужэнне, каб падладзіцца пад сучаснасць. У гэтым няма ніякай неабходнасці. Як і ў тэатры ў час оперы і балета не выкарыстоўваюць сучасныя тэхналогіі перадачы гуку — там паранейшаму гучыць жывая музыка з аркестровай ямы.

Праваслаўнае богаслужэнне насычана пышнасцю і ўрачыстасцю. Пазбаўляцца гэтага няма неабходнасці. Мы ж не кажам афіцэрам здымаць аксельбанты ці адмаўляцца ад традыцыі маршыраваць? У Евангеллі Хрыстос параўноўвае Царства Божае з дробным гарчычным зернем, з якога вырастае дрэва (Мф. 13,31-32). Калі нехта лічыць, што праваслаўныя вельмі перагружаюць сваё богаслужэнне абраднасцю і што трэба вярнуцца да пачатковай прастаты, то ён падобны да тых, хто патрабуе ад дрэва зноў стаць зернем, з якога яно вырасла.

Безумоўна, дрэва трэба даглядаць і абразаць асобныя галінкі. Усё, што ёсць на сёння, выверана часам. Ёсць элементы, якія сышлі ў гісторыю. Напрыклад, яшчэ ў апостальскую эпоху ў асобных абласцях можна было ўбачыць, як хрысціяне «гаварыць на мовах». Па сутнасці, гэта было ўваходжанне ў трансавы стан, у якім чалавек вымаўляў розныя словы ці гукі, прычым ніхто побач не мог зразумець сэнс вымаўленага. У Бібліі можна прачытаць, як ужо апостал Павел у сваім пасланні да Карынфянаў негатыўна адзываўся аб такіх практыках. З часам хрысціяне адмовіліся ад іх. Але ў наш час некаторыя сектанты падбіраюць гэтыя «абрэзаныя галінкі» і нават робяць іх кульмінацыяй сваіх малітоўных сходаў. Атрымліваецца, што галінкі расцэньваюцца ў якасці ствала.

Зразумела, усе не могуць быць масцітымі літургістамі, але веды хоць некаторых асноў неабходныя ўсім хрысціянам. З гэтымі ведамі знаходжанне ў храме ўяўляе сабой не «адстойванне службаў», а богазвяртанне, якое асвятляе і асвяшчае, выхоўвае і ўзвышае.

Часта тыя, хто ходзіць у царкву рэдка, яшчэ і спазняюцца. Давайце ўявім сабе такую сітуацыю: нам патрэбна сустрэць з цягніка блізкага або любімага чалавека. Напэўна, тут не тое што спазняцца ніхто не будзе, але нават прыйдзе на перон за паўгадзіны да прыбыцця



**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Гомельская вобласць, Хойніцкі раён, вёска Барысаўшчына.
Бровар сядзібы Эстрымскіх, 1868 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

## Досціны будні #6:
## «П» — значыць «Потым»
















